ISSN 0130 — 8068

5/2008



# ПОЛЫМЯ

Гараць сівой мінуўшчыны агні,
Радзіму нашу як ні называлі...
Тут плытагоны некалі плылі,
— Го-мель, го-мель! — спалохана гукалі.

...І па Сажы сяліўся слаўны род,
І гарадзішча тут жа закладалі...
Радзімічамі зваўся той народ,
А горад потым Гомелем назвалі...

Святаслаў Крупенька



# ПОЛЫМЯ

5

(943)

2008

май

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

Галоўны рэдактар
Мікола МЯТЛІЦКІ



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2008

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# СЕРБСКАЯ ПРАЎДА Ў ЗМЕНЛІВЫМ СВЕЦЕ

Свет, у якім мы сёння жывём, нагадвае з Бібліі вядомае стоўпатварэнне. Пасля Сусветнага патопу людзі імкнуцца ўзвесці Вавілонскую вежу вышынёю да нябёсаў. Дзёрзкасць Гасподзь карае, і будаўніцтва прыносіць непамыслоты. Вынікам дзейнасці ганарыстых жыхароў Вавілона, будаўнікоў глабальнага свету, становяцца бязладдзе, неразбярыха, сумятня, мітусня, эгаізм, непавага адно да аднаго, дапушчальнасць любых сродкаў, абы яны апраўдвалі мэту. І ўсё як бумеранг да іх вяртаецца ва ўзаемазалежным свеце, які ўсё сціскаецца і сціскаецца…

Глабалізацыя аніяк не адпавядае інтарэсам усіх тых, хто пазбаўлены багацця і сілы. Не ўмацоўвае яна і стабільнасці сусветнай эканомікі. Больш таго, глабалізацыя нясе вялікую пагрозу для жыццёвага асяроддзя ўвогуле. А для краін, якія знаходзяцца ў стане пераходнасці (паводле новага азначэння, у «транзіцыі»), яна — не што іншае, як вяртанне да грабежніцкага капіталізму, у той час, калі дэкларуецца шлях да дэмакратыі. Ды хто ж такую дэмакратыю можа лічыць сапраўднай, калі ва ўсіх справах пад яе лозунгамі выяўляецца дзеянне сілы, а не праўды? І відавочна, што сённяшні свет стаў прадаўжэннем, ды яшчэ і ўзмацненнем, зла і несправядлівасці, супраць якіх змагаліся мы і нашы папярэднікі.

Сутнасць працэсаў, якія цяпер адбываюцца, пранікліва мудра азначыў найаўтарытэтнейшы сербскі пісьменнік сучаснасці Добрыца Чосіч: «Глеба глабалізацыі ў нас мае пэўнае падабенства з глебай, на якой сустрэліся, сутыкнуліся і ўзаемадзейнічалі Элінізм і Хрысціянства. Язычніцкія багі адступілі перад хрысціянскім Богам. У выніку сустрэчы Элінізму і Хрысціянства нарадзілася Візантыйская цывілізацыя. Цяпер мы жывём у часе лёсаносных пераўтварэнняў свету і стварэння новай цывілізацыі. Хрысціянскі Бог адсунуты кумірамі цывілізацыі матэрыяльна-тэхнічнай і спажывецкай».

Так ці інакш, глабалізацыя прывяла да вельмі цяжкага і бядотнага стану амаль усе былыя сацыялістычныя краіны на чале з СССР. Калі ж браць агульнаеўрапейскі кантэкст, то ў 90-я гады XX стагоддзя найбольш разбуральнай па ўсіх параметрах яна стала на тэрыторыі былой Югаславіі: прынесла грамадзянскія войны са шматлікімі трагічнымі наступствамі — незлічонымі чалавечымі ахвярамі, бежанцамі, каласальным матэрыяльным уронам, перакройваннем межаў і г. д. Цяпер мы маем падзеленыя на кавалкі Балканы з мноствам дробных краін, колькасць якіх яшчэ не канчатковая. Пры гэтым усе намаганні многіх пакаленняў стварыць мірныя стабільныя і аб'яднаныя Балканы рухнулі ў выніку практыкі дзёрзка-грубага макіявелізму.

Югаславія, створаная ў выніку Першай сусветнай вайны, перажыла ўсе нягоды міжваеннага перыяду, змагалася з «карычневай чумой» у Другую сусветную вайну, адрадзілася пасля жахлівых разбурэнняў і страт, выстаяла падчас «халоднай вайны»... І вось яе разбурылі ў эпоху «дэмакратызацыі», г.зн. глабалізацыйных пераўладкаванняў. Паказальна, што «сусветная супольнасць» стала на бок не тых, хто імкнуўся захаваць Югаславію як вынік папярэдняй інтэграцыі, а на бок сепаратыстаў. Зрэшты, галоўнае — не тое, што цяпер няма Югаславіі, а тое, што разбурэнне гэтай суверэннай федэратыўнай дзяржавы здзяйснялася, пры цяперашнім узроўні цывілізацыйнага развіцця,

насуперак нормам міжнароднага і нацыянальнага права — ваенна-сілавымі сродкамі, у тым ліку праз вайну, развязаную ў 1999 годзе натаўскім «Міласэрным анёлам».

Хачу звярнуць увагу на тое, што вопыт Югаславіі шматаспектны і павучальны для ўсяго глабалізацыі падлеглага свету. Калі ж гаварыць пра наяўныя вынікі працэсаў глабалізацыі, перабудовы свету, дык яны выявіліся перш за ўсё і больш за ўсё на Сербіі, якая вымушана была прыняць на сябе ўвесь цяжар югаслаўскага, рэгіянальнага, еўрапейскага і сусветнага крызісу. А «міжнародная эксперыментальная лабараторыя» не скончыла яшчэ сваёй працы, актыўна дзейнічае ў сербскім косаўска-метохійскім краі.

Косава і Метохія — гэта, можна сказаць, еўрапейскі Бліжні Усход. І так званае Косаўскае пытанне ўзнікла не ў 90-я гады XX стагоддзя, як гэта найчасцей інтэрпрэтуюць, а намнога раней. Між тым яно было яшчэ падкантрольным і неяк цярпімым да часоў сацыялізму, улады Ёсіпа Броза Ціта, калі сутнасна ўскладнілася пасля таго, як дэмаграфічная раўнавага сербскага і албанскага насельніцтва абярнулася поўным дамінаваннем албанцаў. Фактычна албанцы, заняўшы ўсе адказныя пасады, сталі кіраваць краем, стаўшы на шлях сепаратызму, крок за крокам схіляючыся ўсё больш да экстрэмізму і тэрору. Сербаў тады ўсімі сродкамі выціскалі з краю, правакавалі высяленні, якія з часам, пад пагрозаю смерці, сталі масавымі. Спробы ж вырашаць Косаўскую праблему пры сацыялізме былі спрошчана ідэалагізаванымі, непаслядоўнымі ў прынцыпах, супрацьпастаўленымі інтарэсам тэрытарыяльнай цэласнасці Югаславіі, а дакладней — Сербіі, што выявілася з усёй жорсткасцю апошнім часам.

За перыяд, як албанскія сепаратысты сумесна з сіламі НАТА і ААН трымаюць уладу, у краі знішчана больш за паўтары сотні сербскіх цэркваў і манастыроў, больш за тысячу сербаў забіта і паўтары тысячы прапала без вестак; у бежанства падалося звыш двухсот пяцідзесяці тысяч сербаў і іншых неалбанцаў. А каля двухсот тысяч жывуць у нечалавечых умовах — тыя, што засталіся, знаходзяцца фактычна ў канцлагерах: яны не могуць пакідаць свае анклавы і свабодна перамяшчацца па краі без рызыкі для жыцця.

Албанцы ўзяліся ствараць незалежную, этнічна чыстую краіну Косава побач з існуючай ужо Албаніяй, этнічнай радзімай. Але ж Косава і Метохія — калыска сербскай дзяржаўнасці, сербскай Царквы, сербскай духоўнай культуры, што, уласна, не патрабуе спецыяльных доказаў, бо на тэрыторыі Косава і Метохіі (плошчай 10 000 кв. кіламетраў) знаходзіцца амаль дзве тысячы сербскіх святынь. А такія сакральныя аб'екты, як Печская Патрыярхія, манастыры Дэчаны, Грачаніца, Багародзіца Левішка, Дзевіч і інш., унесены ў рэестр ЮНЕСКА як помнікі сусветнай культурнай спадчыны і хрысціянскай цывілізацыі. Гэта матэрыяльныя сведчанні таго, як сербы жылі і тварылі паўтары тысячы гадоў на косаўска-метохійскай зямлі. А мэта албанцаў, адпаведна, — пазбавіцца ад гэтых неабвержных сведчанняў, доказаў, што Косава і Метохія па ўсіх правах належаць сербам. Албанцы знішчаюць не толькі іх, але і ўсе запар сляды такога роду, уключаючы сербскія могілкі! У нашай палітыцы, на жаль, былі сур'ёзныя памылкі ў падыходах да вырашэння Косаўскай праблемы, асабліва да знешнепалітычнага зместу яе. Лічылася, што гэта пытанне толькі ўнутранай палітыкі, і яно замкнёна сямю замкамі. Хоць вакол яго на самай справе рабілася шмат усяго і ўсялякага! А нашы палітыкі былі не ў стане ўспрымаць усе тыя выклікі, што ўзнікалі пры развіцці падзей у Косава і Метохіі. «Міжнародная супольнасць» пры гэтым увесь час рабіла ўсё, каб стварыць яшчэ адну албанскую дзяржаву, нягледзячы на тое, што Сербія забяспечвала максімальна магчымую — большую, чым у іншых краінах свету пры падобных акалічнасцях — аўтаномію албанцам і іх інтэграцыю з серба-

мі. І толькі гэтая палітыка знешніх сіл прывяла да становішча, калі косаўскія албанцы пачалі зацята патрабаваць незалежнасці Косава і Метохіі.

Дарэчы, у час візіту ветлівасці пасол Францыі мадам Мірэй Мюсо мне шчыра сказала, што прызнанне незалежнасці Косава і Метохіі было б паражэннем і прыніжэннем Сербіі. Прычым яна ж адзначыла, што сербскі народ, бадай, ніколі з гэтым не змірыцца і не перастане шукаць спосабу змяніць такое становішча...

Сапраўды, ні сербы, ні дзяржава Сербія ніколі не згодзяцца з такой самаабвешчанай «незалежнасцю», якая азначае вылучэнне (і адчужэнне) сербскага краю ў самастойную краіну. Мы ўсведамляем, што значаць рашэнні, з ліку якіх згаданае — наконт незалежнага Косава, калі атлантысты даводзяць: «Міжнароднае права — зусім не абсалютнае права. Гэта заўжды вынік суадносін палітычных сіл», — як заявіў Эрхард Бусек, шэф Пакта стабільнасці для Усходняй Еўропы, пасля таго, што адбылося 17 лютага 2008 года ў Прыштыне. Аднак усе мы павінны разумець, што на косаўскім прэцэдэнце, калі ён не будзе выпраўлены, міжнародная супольнасць усталёўвае новы прынцып, які можа разбурыць увесь існуючы парадак. Справа датычыцца *касавізацыі,* — а я пра яе гаварыў яшчэ дзесяць гадоў таму ў Балгарыі, — якая ўжо ахапіла Еўропу. Гэта новага пакалення міна запаволенага дзеяння дзеля рэвізіі межаў этнічных, дзяржаўных, рэгіянальных. Яна можа быць выкарыстана ў многіх краінах, спіс якіх пачынаецца Сербіяй з прызнаннем незалежнага Косава. Бо не толькі на Балканах, але і ва ўсёй Еўропе, ва ўсім свеце, бадай, няма такіх дзяржаўных утварэнняў, дзе б адсутнічалі населеныя кампактна этнічныя групы, у якіх пад уплывамі звонку не ўзнікне жаданне атрымаць незалежнасць. О, колькі такіх «Косава» па Еўропе! Не злічыць усе прамыя геапалітычныя аналогіі. Дастаткова згадаць Шатландыю і Ірландыю, Каталонію і Баскію, Корсіку і Бельгію, а таксама Абхазію і Паўднёвую Асецію, ды і пэўныя рэгіёны ўсіх постсавецкіх рэспублік... Звернемся яшчэ раз да меркавання сербскага пісьменніка-класіка Добрыцы Чосіча, выказанага напярэдадні разломных падзей, у 1989 годзе: «Ад распаду Візантыі да сённяшняга часу працягваецца працэс тэрытарыяльна-палітычнага кампанавання і дакампанавання Паўднёвай Еўропы і Балкан... Працэс гэты спыніцца ў якой-небудзь еўрапейскай супольнасці, федэрацыі, канфэдэрацыі тады, калі вялікія сілы адмовяцца ад сваёй імперскай палітыкі на Балканах. Што далёка гэтак жа, як да «светлай будучыні чалавецтва».

Нягледзячы на ўсё згаданае, сербы, як раней, так і цяпер выступаюць за адкрыты дыялог з албанцамі. Калі міжнародная супольнасць захоча, то, мы перакананы, будзе знойдзена такая формула вырашэння косаўскай праблемы, якая ва ўсіх планах — палітычным, дэмакратычным, цывілізацыйным, гістарычным, нацыянальна-дзяржаўным, культурным — можа быць агульнапрымальнай. Наша перакананне грунтуецца на асэнсаванні вялікай колькасці прыкладаў таго, што ёсць ва ўсім свеце. І шлях да такога рашэння нам пракладае Рэзалюцыя 1244 Савета Бяспекі ААН, якая была прынята пасля несанкцыяванай агрэсіі «Міласэрнага анёла» і вяртання Косаўскай праблемы ў рамкі міжнароднага прававога поля. А тое радыкальнае і абсалютна беспадстаўнае рашэнне, якое пры падтрымцы магутнікаў гэтага свету праводзяць албанцы, сербы ніяк прыняць не згодзяцца. На падобнае не могуць пайсці ніякія палітычныя сілы Сербіі. Хто ж згодзіцца прадаваць сваю Радзіму?

Мне асабіста пры маіх дыпламатычных абавязках сотні разоў даводзілася выказвацца вусна і пісьмова на Косаўскую тэму — самую гарачую і самую балючую не толькі для мяне. Ёй я прысвяціў і значную частку сваёй кнігі «Пра незабыўнае», якая выйшла на рускай мове ў Мінску і праз якую я

хацеў растлумачыць беларусам і рускім сапраўдную сутнасць падзей у нашай краіне. І, у прыватнасці, тлумачыў, што значыць Косава для нас у мінулым, цяперашнім і будучым часе. Зноў жа, не толькі для нас.

Натуральна, што сапраўдныя сербскія пісьменнікі балюча перажываюць падзеі, звязанныя з Касаўскім краем, гэтаксама як і ўвесь драматызм гістарычных выпрабаванняў свайго народа. Гэта, ды і быційныя праблемы сербства ўвогуле, знаходзяць глыбокае і шматаспектнае адлюстраванне ў падборцы паэзіі, якая прапанавана чытачам «Полымя», самага аўтарытэтнага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса Беларусі. Хочацца верыць, што гэтая публікацыя паслужыць узаемапазнанню беларускага і сербскага народаў, умацаванню братэрскіх адносін, а галоўнае — сцвярджэнню праўды, дзякуючы якой можам ургатавацца мы і можа ўратавацца наш свет.

З найлепшымі пажаданнямі рэдакцыі «Полымя» і ўсім, хто рыхтаваў публікацыю,

*Доктар Срэчка ДЖУКІЧ,*
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол*
*Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь*

## Дэсанка МАКСІМАВІЧ

### РАЗМОВА З КОСАВАМ

Ніхто, Косава, не аплакаў
тваіх пакут у часіну чорную,
ніхто цябе не ўзяў пад абарону,
Ніхто да неба не азваўся з болем.
Ніхто, апроч тваіх раўнін і гор,
каб ліха не зведала больш ніколі,
ніхто цябе, Косава, не аплакаў,
апроч тваіх рэк і тваіх гор,
апроч тваіх курганоў і туманоў.
Ніхто не пажадаў лепшай долі.
Ніхто цябе, Косава, не аплакаў,
акрамя спадчыннікаў
рэк тваіх, і тваіх гор,
і тваіх туманоў.
Жадаю табе лепшай долі.

*1993*

## Мація БЕЧКАВІЧ

### РАЗМОВА З ГОЙЯМ

«Немагчыма ведаць, чаму», —
Напісаў Францыска Гойя
Пад адным сваім малюнкам
З серыі «Ваенныя непамыслоты»,

На якім паказаў бясконцыя рады дрэў
З павешанымі на іх людзьмі.

Ды як жа, дон Францыска,
Немагчыма ведаць, чаму,
Калі ўсё лёгка прачытваецца
З таго, што намаляваў ты сам?
Трэба толькі паставіць у сувязь
Галлё з вяроўкамі,
Петлі з шыямі —
І на пытанне, нашто,
Адказаць: «Вось таму».

**Слабадан РАКІЦІЧ**

## ГЛУХАЯ ПАРА

Нябёсы закрыліся,
зямля раскрылася.
Святла не відаць анідзе,
ні звонку, ні ўнутры.
Не чуваць спеву
ніводнай птушкі.
Не зацурчыць
і вада ў ручаінах.
Нават кажан не праляціць
па змроку.
Толькі святляк адзінокі
сядае мне на руку
і асвятляе літары,
якія пішу я ў цемры.

**Раша ПЕРЫЧ**

## СЕРБСКІ АРАРАТ

*Размова Бога з ластаўкай*

— Ці гэта неба раскрылася, ластаўка,
а ці ночвы перавярнуліся?

— Гэта не неба раскрылася, Божа,
а сербаў раскрылася вока.

— Дык чаго ж залева такая?
І кроплі — нібыта чарэшні белыя.
Залівае мяне ўжо да барады.

— Гэта не дождж-залева, Божа.
І зусім гэта не чарэшні.
Гэта слёзы-сербіцы-нябесніцы!
А калі Цябе заліло да барады,
то дакуль жа тых, чые яны?

— А што гэта за гара, мая ластаўка?
Хіба Авальская ці Сэнт-Андрэйская?
Або Святая гара Хіландарская,
а ці Фрушка-гара што пад Карлаўцам?

— Госпадзі, тут кожная гара — сербскі Арарат!

## Мілárад ДЖУРЫЧ

### ВОЧЫ СІМАНІДЫ

Няма канца-краю
фрэсцы, песні, народу.

З нябачных вачэй
цяпер інакш цякуць слёзы.

У гэтыя дзве магілы легчы б маглі
усе Сербіі, што былі.

Пачуем адной ночы,
што выдзертыя Сіманіды вочы зноў выдзерлі.

## Радаван КАРАДЖЫЧ

### ЗВОДКА МІРНАЙ ПАРЫ

Перада мною птушка ляціць —
З даху на правады, на дрэва,
Зноў на дах, —
Пры гэтым выпісваючы
Незразумелыя знакі.

«Глядзі, — кажуць адны, —
Якая спраўная птушка,
Глядзі, які чалавек спраўны».

Другія кажуць: «Бач,
Які небяспечны чалавек,
Ды якая птушка небяспечная —
Бач, страшныя знакі выпісвае».

І невядома, як быць мне
З тым, што бачыў я,
Ваш сведка, маючы дачыненне
Да птушкі, дома і знакаў,
Якія выклікаюць радасць і страх.

Я маўчу,
Хоць здарылася ж нешта са мною
І нешта з вамі.

**Адам ПУСЛАІЧ**

## МАЯ ІНКАНТАЦЫЯ

Адзінаццаць нягод я перажыву.
І, калі дажыву да шасцідзесятай, гэта мала.
І, калі не дачакаюся трыццатай, гэта ж многа.

Адзінаццаць нягод я адпакутую.
Дванаццатую ўспрыму смертаносна
З чужых рук, у чужым сэрцы.

Адзінаццаць нягод я перажыву.
І не ўздымайце з-за гэтага пыл.
Не захмарвайце з-за гэтага неба.

Адзінаццаць нягод я перажыву.
Але вы маланак не пускайце
І кроў не праливайце ў пыл.

Ад мяне і зоры ўжо
Адвярнулі свае вочы.
І смерць апусціла рукі.

**Джока СТОІЧЫЧ**

## НЯБАЧНЫЯ ЗЛУ І АГНЮ

Сніцца мне дом. Такі быў у дзяцінстве.
Раптам бачу: даху няма! Сабраўся я
Дах той паставіць. Ды вецер наляцеў
І ўсё зробленае за дзень разбурыў.
А на другі дзень адбудаванае
Знішчыў раптоўны пажар.
Я задумаўся, як ліха падмануць.
І ў мары змясціў свой дом.

Цяпер ён стаіць, пад новым дахам,
На які сядаюць райскія птушкі,
Прыляцеўшы з бязмежнасці,
Нябачныя злу і агню.

*1997*

## Любіца МІЛЕЦІЧ

### БАЧНА ТОЕ, ПРА ШТО СКАЗАЎ СВЯТЫ

З вышыняў кажа Сава святы,
Седзячы за кнігай:
«Мудрасць — лязо,
Таемныя веды нявінных.

Калі паўстаюць дзікія сілы,
Мудрасць — наш надзейны заслон».

А яшчэ кажа ён пра слова хараство
Ды пра зямлю, не заслоненую словамі.

І цяпер, калі мы бліжэй да тлену, чым да сябе,
Мудрасць для нас — адзіная зброя
Перад гэтым неўтаймоўным светам,
Які так жахліва мітусіцца.

Кажа Сава з пяром у руцэ:
«Усё мінучае, апроч святасці».
Кажа ён так, і нездарма.
Цяпер гэта мы добра бачым.

## Манойле ГАЎРЫЛАВІЧ

### ГАЛАВА КНЯЗЯ ЛАЗАРА

з Сітніцы ляціць залатакрылы конь
хвост якога вецер і вясёлка

на кані свеціцца галава Лазара
нібыта тры сонцы запаленыя
галава Лазара ляціць над Сербіяй
ператвораная ў зорку срэбную

залятае ў кожны сербскі дом
і на стале цалуе хлеб ды соль

вось яна зіхаціць на ўсходзе
з божурам-кветкаю замест кароны

## Віта МАРКАВІЧ

### ПАХВАЛА МІНУЧАСЦІ

Па шляху мінучасці
Між двума наканаваннямі —
Нарадзіцца і памерці —
Задыханы момант ляціць:
«Дзе ж тая вечнасць?» — крычыць.

Шэпча яму боль у Існасці:
«Для мяне вечнасць — нішто.
Я прагну мінучасці.
Няма лепшай прыдумкі, чым яна».

## Дабраслаў ТЭПАЎЧАВІЧ

### ЗНОЎ ТОЕ САМАЕ

Прылезлі да нас ілжэмірнікі,
Разварушылі мерзамірнікаў,
Падбухторылі бурымірнікаў,
Далучыліся да смерцемірнікаў —

Міліміру імя абрэзалі,
Градзіміру град разбурылі,
Славаміру — тое і другое,
Радаміра пазбавілі радасці,
Жэліміра — жаданняў,
Велімірава слова закапалі.
Чадамірава чада забралі,
Святамірава ўсё святое здратавалі...

## Ранка ЁВАВІЧ

### БОМБА

Вось, блізка яна, —
Толькі я ведаю
Повязі свае з ёю,
Яна ж не ведае
Нічога такога.

Няўцям ёй нават,
Што яна — бомба.
А я ўсведамляю
Гэта добра.

Яе ж такой і рабілі,
Каб не ведала,
І кінулі на мяне,
Які ведае гэта
І ўсведамляе.

Ды вось,
Мы ўсё бліжэй і бліжэй.

Бомба...

## Прэдраг БАГДАНАВІЧ ЦІ

### КАІНАЎ ЕНК

Чаму не нарадзіў нас,
Ойча, да патопу, —
мы на плячах
зямлю б трымалі.

А так — за яе
змагаемся ўпарта,
міласці Тваёй
не чакаем.

Як бунтаўнік той
з нябеснага воінства,
я зблытаў, дзе святло,
а дзе цемра.

Браце, даруй памылку:
я перамогу праклятую
табе саступлю, каб
ты не жадаў маёй смерці!?

Чаму не нарадзіў нас,
Ойча, да патопу.
Забудзь пра патоп, Ойча —
адным сынам ратуй другога.

## Срба ІГНЯТАВІЧ

### МАЛАЯ МАЛІТВА

Маці, нашу нож,
пярсцёнак і ствол.
У ствале куля.

Пасею вецер,
пажну буру.
Знайдзі мне ратунак,
Багародзіца!

## Любівое РШУМАВІЧ

### ХТО ЗЛАЧЫНСТВУЕ

Тых, хто злачынствуе
І вакол зло сее,
Пасткі плетучы,
Змовы куючы,

Зубзазубячы,
Воказавокуючы;
Тых, хто з д'яблам
Хаўруснічае
І ўладу цяпер мае,
Уімязаконуючы...

Я не прымаю.

**Момір ЛАЗІЧ**

### ЗДРАДА

Калі брат брату
здрадзіць,
камень ад болю колецца,
ікона плача
на покуці,
ваўкі аслеплыя ў завеі густой
сляды свае губляюць.
Калі брат брату здрадзіць,
рык спаленага Сонца
ў зяніцы вока аддаецца.

**Драган ЛАКІЧАВІЧ**

### КОСАЎСКАЯ МАЛІТВА

Госпадзі, дай, прашу, благадаці
Зорку з сэрца Мілаша апяваці.

Няхай словы чыстыя, па Тваёй волі,
Асветляць змрок магіл Косава поля.

## ПАЭЗІЯ БОЛЮ СЕРБАЎ

Дзеля чаго і як усталёўваецца «новы сусветны парадак», мы цяпер асабліва пераканаўча ўсведамляем на прыкладзе сербаў, якія, апынуўшыся ў эпіцэнтры гэтага пераўладкавання, перажываюць неймаверную для «дэмакратычнага свету» трагедыю.

Але трагізм прадвызначае гістарычную свядомасць гэтага народа ўвогуле: пяць стагоддзяў пад турэцкім ігам, кожны трэці серб загінуў у Першую сусветную вайну, кожны чацвёрты — у Другую сусветную; працяглыя ваенныя дзеянні пры развале СФРЮ, агрэсія НАТА ў 1999 годзе, і вось гвалтоўная анексія Косава....

У самасвядомасці сербаў нязменна ўплывовымі, знакавымі сталі паняцці «*гробље і робље*» — «могілкі і рабы». Але такім сама нязменным на многія часы застаўся дэвіз: *«Боље гроб, него роб»* — «Лепш магіла, чым рабства».

Сербскі нацыянальны характар нельга ацаніць і без такой катэгорыі, як *«инат»* (слова гэтае адэкватна перакласці немагчыма, а прыблізна яно азначае «насуперак, наперакор, па-свойму»). У якасці ілюстрацыі возьмем таксама сюжэт з фальклору: слыннаму Каралевічу Марку турэцкі ўладар задае пытанне, у якім выпадку ён бы мог стаць патурчэнцам, а той адказвае, што «*само из ината*», г. зн. «толькі насуперак, наперакор умовам».

Дарэчы, сербы ва ўсе часы праяўлялі бяспрыкладны гераізм у барацьбе за сваю незалежнасць і годнасць. Тым не меней нават баявыя перамогі амаль заўсёды аказваліся не на карысць ім. Каб удакладніць гэта, звернем увагу на тое, што ў большасці народаў нацыянальная ідэя (а найперш — яе фальклорнае і літаратурнае ўвасабленне) засноўваецца і трымаецца на ўсведамленні перамог. Прыклады тут можна прыводзіць розныя, і цікава, бадай, суаднесці з гістарычным вопытам беларусаў. Але спынімся на параўнанні «сербы — рускія» (якое, між іншым, часта навязваецца дзеля таго, каб прасцей абвінавачваць сербаў у гегеманізме і падобным). Ды так ці інакш, рускую ідэю немагчыма ўявіць без свядомасці, сфарміраванай у выніку бітваў на Куліковым полі, Чудскім возеры і Няве, пад Палтавай, на Бярэзіне, пад Сталінградам — г. зн., без перамог над татара-манголамі, нямецкімі крыжакамі, шведамі, французамі і фашыстамі. А ў сербаў інакш: памяць народная больш за ўсё зберагае Солунскі фронт, Кордун, Крагуевацкі расстрэл і падобнае. Асабліва — паражэнне на Косавым полі ў 1389 годзе, пасля якога настала пяцісотгадовая залежнасць ад Асманскай імперыі... Да таго ж, паводле гістарычнага ўсведамлення сербаў, трагедыя не скончылася вызваленнем ад туркаў, і Косаўская бітва працягваецца ад XIV стагоддзя па сённяшні дзень.

Адным словам, Косава — гэта незаменны складнік духоўна-гістарычнай існасці сербаў. Без уліку Косаўскай трагедыі вытлумачыць гісторыю і самасвядомасць сербаў у прынцыпе немагчыма. Каб хоць нешта зразумець, згадаем сусветна вядомы сербскі эпас (які, звернем увагу, дзеліцца на дакосаўскі, косаўскі, паслякосаўскі цыклы). І ў песні *«Цар Лазар се приволева Царству небеском»* («Цар Лазар выбірае Царства Нябеснае») знаходзім важнейшы ключ для тлумачэння. Лазар, галоўны герой Косаўскай бітвы, ад Багародзіцы атрымлівае прапанову выбраць: альбо зямное царства — пры гэтым яму будзе забяспечана перамога, а ўсё турэцкае войска загіне, альбо Царства Нябеснае — пры гэтым загіне яго войска і ён сам. Лёсавызначальны выбар святога мучаніка (Лазар кананізаваны Сербскай Царквою, і мошчы яго захоўваюцца ў манастыры Раваніца) князя Лазара прывяду без перакладу:

*Земаљско је за малено царство,*
*А небеско увек и довека.*

Дзеля ісціны адзначу, што даводзілася чуць і раздражнёныя ацэнкі сучасных сербаў наконт такога выбару... Аднак незалежна ад часовых настрояў і арыентацый гонар усяго народа — тое, што *на тэрыторыі Косава і Метохіі ў дыяметры ста кіламетраў знаходзіцца больш за тысячу дзвеце сербскіх храмаў!*

Косава — гэта сербскі Іерусалім. Не проста частка этнічнай тэрыторыі, не толькі скарбніца культуры, калыска нацыі, цэнтр дзяржаўнасці, ахвярнік свабоды... а сарцавіна, сэрца. І калі гэтае сэрца вырываюць, то ў сербскага нацыянальнага арганізма натуральна выклікаецца неймаверны боль. Але гвалт і здзек з Косава, расправа, якую апантаныя ў беспакаранасці князі свету гэтага чыняць над сербамі, датычыцца і нас. Гэта ўразумленне і суровае папярэджанне ўсім, хто захоплена вітае ўсталяванне новага сусветнага парадку, рэальная сутнасць якога выяўляецца ў праве сілы (чытай: у глабальным тэроры), а не ў сіле праўды.

Наведаўшы сербскі Крагуевац, у якім фашысцкія акупанты ўчынілі масавы расстрэл школьнікаў, некалі Жан Поль Сартр напісаў: «Самае глыбокае ўражанне, якое іншаземец можа вынесці з той ці іншай краіны, гэта боль, які ён адчуў у гэтай краіне. Я такое перажыў у Крагуеўцы».

Укладальнік і перакладчык гэтай нізкі такое перажыў у Косаве і Метохіі, у Сербіі наогул. І праз вершы сербскіх паэтаў хоча данесці яго да сваіх супляменнікаў.

***Пасляслоўе, пераклад прадмовы і вершаў Івана ЧАРОТЫ.***



Алесь КАЖАДУБ

# АПАВЯДАННІ

## Качка па-пекінску

### 1

— Што будзем заказваць? — спытаў Сяргей.

— Качку па-пекінску, — сказаў я.

У гэтым нешта было — з'есці качку па-пекінску ў рэстаране ў цэнтры Пекіна. Мы з Сяргеем апынуліся тут у камандзіроўцы. Сёння ў мяне быў дзень нараджэння, і я прапанаваў адзначыць гэта ў рэстаране.

— Канечне, — згадзіўся Сяргей, — але кітайскую гарэлку піць не будзем.

Мне кітайская гарэлка таксама не падабалася, зрэшты, як і ўся кітайская кухня. Яна была занадта салодкай. Нешта засмажанае ў кляры і залітае салодкім соусам. Няхай гэтае нешта ядуць самі кітайцы і запіваюць яго сваёй гарэлкай.

Мы зайшлі ў магазін і купілі французскае брэндзі. Кітайскія прадаўшчыцы пазіралі на нас і ўсміхаліся. Патроху я да гэтага прызвычайваўся. Няхай сабе пазіраюць, абы не чапалі рукамі. А гэтае страснае жаданне — дакрануцца да цябе хоць пальцам — было напісана на фізіяноміях амаль што ўсіх кітайцаў, з якімі я сустракаўся.

— Дзяўчаткі тут харошыя, — сказаў я.

---

*__Кажадуб Аляксандр Канстанцінавіч__ нарадзіўся 27 верасня 1952 года ў г. Ганцавічы.*

*Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1974) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1985). Працаваў настаўнікам у вёсцы Крайск Лагойскага раёна, навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, у рэдакцыі часопіса «Маладосць». З 1980 года жыве ў Маскве. Працуе галоўным рэдактарам выдавецтва «Советский писатель» і з'яўляецца шэф-рэдактарам дадаткаў «Лад» і «Подмосковье» ў «Литературной газете».*

*Аўтар кніг прозы «Гарадок», «Размова», «Лесавік», «Дарога на замчышча» і інш.*

— Мне кітайцы наогул падабаюцца, — кіўнуў Сяргей. — Добры народ, калі яму не рабіць дрэннага.

— Ты што, бываў тут?

— Разоў пяць ці шэсць.

Я ў Кітаі быў упершыню, і мая думка пра кітайцаў яшчэ не сфармулявалася.

— Надта ж іх шмат, — сказаў я. — А мы для іх горшыя за малпаў.

— Як гэта? — паглядзеў на мяне Сяргей.

— Белы чалавек тут сустракаецца радзей, чым малпы, — растлумачыў я.

— А чорны?

Гэтага я не ведаў. Негры на вуліцах Пекіна, ужо не кажучы пра іншыя гарады Кітая, мне пакуль не трапляліся.

— Затое ведаю цяпер, — паглядзеў я па баках, — як гэта быць марсіянінам. Ні халеры не разумею!

— Гэта справа звычкі, — сказаў Сяргей. — Бяры прыклад з амерыканцаў.

Па пешаходнай вуліцы насустрач нам ішла белая дзяўчына. Мяркуючы па тоўстых руках і ляжках, а таксама неахайным адзенні, гэта была амерыканка. Яна павольна рухалася скрозь натоўп, як авіяносец, што рассякае лодачную флатылію, і калі адна з джонак знікала пад яго кілем, гэтага не заўважаў ніхто.

Амерыканка спынілася каля крамы, у якой ішоў распродаж футболак. Перабіваючы адна адну, крычалі дзяўчаты-зазывалы. Хлопцы заскоквалі на плечы тых, што стаялі наперадзе, стараючыся выхапіць хоць якую футболку. Дзяўчына меланхалічна рассунула натоўп і ўзяла адну з футболак. У яе руках яна пераўтварылася ў распашонку для немаўлят. Дзяўчына ўздыхнула, кінула футболку ў скрыню і, па-ранейшаму не прыкладаючы для гэтага ніякіх намаганняў, выбралася з натоўпу.

— Сімпатычная сланіха, — з лёгкай зайздрасцю сказаў я.

Дзяўчына слізганула па нашых фігурах абыякавым позіркам, і на яе твары нічога не адбілася.

— А рэстаран зачынены, — сказаў Сяргей.

Сапраўды, у ахопленым броўнаўскім рухам горадзе адзіным напаўпустым месцам быў уваход у рэстаран.

— Колькі часу? — спытаў я.

— Восем.

Да нас падскочыў малады кітаец і загаварыў, як мне здалося, на англійскай мове. Сяргей слухаў яго, схіліўшы набок галаву.

— Кажа, зачынена, — сказаў ён. — Але гэта мы і так бачым. Ежа нам патрэбна. Гуд фут.

Кітаец замахаў рукамі яшчэ энергічней.

— Прапануе адвесці ў добры рэстаран, — паглядзеў на мяне Сяргей. — Пойдзем?

— А ён хто?

— Ай менеджэр! — пастукаў сябе ў грудзі кітаец.

— Пойдзем, — уздыхнуў я. — У гэтай краіне я нічога не разумею. Чаму ў восем вечара зачынены рэстаран?

Сяргей усміхнуўся.

Мы павярнулі ў адзін завулак, у другі, прайшлі метраў сто — і апынуліся ў іншым Кітаі. Тут было цёмна і бязлюдна, пад нагамі калдобіны. Я спатыкнуўся некалькі разоў запар. На шчасце, наперадзе засвяціліся агні рэстарана.

Мы ўвайшлі ў пустую залу, адгароджаную ад вуліцы бамбукавымі цыноўкамі, і selі за столік у куце. Усмешлівая дзяўчына-афіцыянтка адразу прынесла меню.

— Ну і што тут напісана? — утаропіўся я ў іерогліфы.

— Не звяртай увагі, — Сяргей паклікаў да сябе афіцыянтку.

Вельмі хутка высветлілася, што ні дзяўчына, ні яе сяброўкі па-англійску не гавораць. Юнак, што завіхаўся за стойкаю бара, злятаў у сутарэнні памяшкання і вярнуўся з гаспадыняю рэстарана, якая разумела па-англійску. Ва ўсякім выпадку, яна ведала, што такое «дак».

— Гарэлка ёсць? — спытаў Сяргей.

Пра гарэлку тут ніхто нічога не чуў.

— А віно? — працягваў распытваць Сяргей.

— Віно ёсць! — заззяла гаспадыня.

— У такім выпадку мы будзем піць гэта, — паставіў на стол бутэльку брэндзі Сяргей.

Гаспадыня, тры афіцыянткі і юнак-бармен у здзіўленні, змяшаным з жахам, утаропіліся на бутэльку «Напалеона».

— Яны тут зусім не п'юць? — спытаў я.

— П'юць, але мала, — адказаў Сяргей. — Што будзем заказваць?

І мы заказалі качку па-пекінску ва ўтульным рэстаранчыку амаль у цэнтры Пекіна. Гэта было зусім няблага для дня, які так няўдала складваўся.

## 2

А пачаўся дзень з сур'ёзнага парушэння пратакола на адным важным мерапрыемстве. У якасці журналіста я суправаджаў афіцыйную расійскую дэлегацыю, якая знаёмілася з ходам алімпійскага будаўніцтва ў Кітаі. Сёння гэтую дэлегацыю прымалі кіраўнікі Кітая рознага ўзроўню, і на апошняй, самай важнай сустрэчы, чорт мяне падаткнуў адбіцца ад журналісцкага статка і сесці побач са сваім знаёмым з сакратарыята Думы. Журналістаў на падобных мерапрыемствах на пяць хвілін запускалі ў зал, яны фатаграфалі і здымалі кінакамерамі, затым іх выправоджвалі за дзверы, і пачыналася тое, што і аддзяляе простых людзей ад выбраных, — палітычныя перамовы.

Гаворачы з сябрам, я празяваў момант, калі зал ачысцілі ад пабочных асоб. Пачалося прадстаўленне ўдзельнікаў дэлегацый. Выйсці з зала я ўжо не мог. Калі б я падняўся і пайшоў да вялізных дзвярэй, усе ўбачылі б, што на мне не толькі няма гальштука, але, што намнога горш, замест прыстойных штаноў надзеты джынсы. Ды і кашуля, мякка кажучы, не белая. Я стаіўся за сталом, як мыш пад венікам. Раптам абыдзецца, думаў я, сядзіць сабе бледнатвары, а яны для кітайцаў усе аднолькавыя.

Але так я думаў дарэмна. Хвілін праз пятнаццаць майго сябра паклікаў да сябе адзін з адказных таварышаў.

— Пратакол! — прашыпела дама, якая сядзела праз два крэслы ад мяне.

Я зрабіў выгляд, што нічога не чую.

Мой таварыш вярнуўся на месца, нахіліўся да майго вуха і сказаў:

— Кітайцы пытаюцца: «Хто такі?»

— І што? — ледзь чутна вымавіў я.

— Нашы сказалі: «Наш!»

— А пратакол? — умяшалася дама.

— Усё нармальна, — сказаў, не гледзячы на яе, сябра.

Перамовы працягваліся далей, а я пачаў меланхалічна думаць пра тое, што больш мяне ў афіцыйную дэлегацыю ніхто не ўключыць. «Так табе і трэба, — каяўся я, — што табе да гэтых шыкоўных габеленаў на сценах і

прыгожанькіх дзяўчат, якія разліваюць па кубках чай? Сядзі на сваёй дачы і вырошчвай гарбузы. Хаця дзяўчаты, канечне…»

Мне пра маё парушэнне ніхто нічога не сказаў, але я ведаў, што яно сур'ёзнае.

…Юнак-бармен прынёс і паставіў на стол дзве маленечкія фарфоравыя чаркі.

— Ну і колькі ў іх уваходзіць? — спытаў Сяргей.

— Грам дзесяць, — крыкнуў я.

Сам Сяргей, дарэчы, на афіцыйнай сустрэчы адсутнічаў. Пабываўшы ў Кітаі не адзін раз, ён ведаў, што тут да чаго.

— Выпіць хочаш? — паглядзеў Сяргей на юнака.

Спытаў ён яго па-руску, але той тым не менш вылупіў вочы, збляднеў і застыў, як саляны слуп. Да яго гурмой з хіхіканнем падскочылі афіцыянткі. Гаспадыня непрыкметна знікла дзесьці ў глыбіні рэстарана. Сяргей капнуў у адну з чарачак.

— Пі, — пасунуў ён яе да бармена.

Юнак ажыў, дрыгатлівай рукой узяў чарку і храбра кульнуў яе. Дзяўчаты запляскалі ў ладкі.

— Цяпер вы, — зноў капнуў у чарку Сяргей.

Афіцыянткі з віскам рассыпаліся па зале.

— Прынясі фужэр для вады, — загадаў бармену Сяргей. — Не, мне ў Кітаі падабаецца. У іх толькі гарэлка кепская.

— І маленькія чаркі, — згадзіўся я.

Мы выпілі з фужэраў за мяне, за Кітай, для якога падзеі французскай рэвалюцыі, не кажучы ўжо аб кастрычніцкім перавароце, уяўляюцца падзеямі найноўшай гісторыі і таму не падлягаюць ацэнцы сучасных людзей. Гадоў гэтак праз пяцьсот…

Афіцыянткі, пырскаючы ў далонь, назіралі за намі з розных куткоў зала. Белыя людзі, якія п'юць з фужэраў, былі для іх сапраўднымі монстрамі. Ці напаўбагамі, што, зрэшты, адно і тое ж.

Самая смелая з афіцыянтак прынесла нам страву, якая складалася з акуратна нарэзаных кавалкаў качынага мяса, кастра рысавых блінцоў, сподка з тонка нарэзанымі гуркамі і соевай падліўкі. Гэта было вельмі смачна.

— А жыць змог бы тут? — спытаў я.

— Жыць трэба дома, — усміхнуўся ён. — Я пабываў больш чым у ста краінах, але лепш за ўсё адчуваю сябе ў Маскве.

Я не бываў у ста краінах, але таксама няблага пачуваўся ў Маскве.

— Відаць, гэта залежыць ад жанчыны, з якой ты жывеш, — сказаў я.

— Ад жанчыны таксама, — згадзіўся Сяргей. — Табе якая з афіцыянтак больш падабаецца?

Я прыгледзеўся да дзяўчат, якія снаўдалі па зале. Яны, нешта адчуўшы, застылі на месцах.

— Вунь тая, лапавухая, — паказаў я. — У яе вочы вялікія.

— Відаць, з-за іх яна тут лічыцца страхоццем, — сказаў Сяргей.

Мы засмяяліся.

Дзяўчаты, шчабечучы, зноў заскакалі паміж сталоў.

Менеджэр, які прывёў нас сюды, даставіў у рэстаран спачатку маладую пару рослых амерыканцаў, затым вялікае сямейства ці то іспанцаў, ці то італьянцаў.

— Дзе ён іх бярэ? — здзівіўся я.

— На вуліцы, дзе ж яшчэ, — хмыкнуў Сяргей. — Мабыць, добра зарабляе. Веданне англійскай мовы ў Кітаі — вялікая рэч.

— Шкада, сланіху не прывёў, — сказаў я.

— Каго?

— Амерыканку з пешаходнай вуліцы. Цікава, што б яна тут піла?

— Віно, — паціснуў плячыма Сяргей. — Гарэлку п'юць толькі рускія. А брэндзі някепскае.

— Калісьці «Напалеон» лічыўся ў нас самым дарагім пітвом, — паглядзеў я на амаль пустую бутэльку. — Я толькі пару разоў піў яго, і то за чужы кошт.

— Чаму?

— Бедны быў.

— Цяпер багаты?

— Цяпер яшчэ бяднейшы. Шкада, з-за гэтага паршывага пратакола больш не возьмуць у паездку. За свае грошы я не тое што ў Кітай — у Балгарыю не з'езджу.

— Кінь, — сказаў Сяргей. — Пасля таго, што адбылося ў Цюйфу, нам ужо нічога не страшна.

### 3

У Цюйфу мы адсталі ад картэжу. Адбылося гэта так.

Картэж прыбыў да храма Канфуцыя ў дакладна прызначаны час. У Кітаі, дарэчы, усе мерапрыемствы пачыналіся і заканчваліся ў час, пазначаны ў праграме.

Па выбрукаванай алеі мы прайшлі да храма. Я з цікавасцю глядзеў на старыя туі, на калоны храма, абвітыя спячымі драконамі, на маладых дзяўчат і хлопцаў, якія віталі нас, махаючы цытатнікамі Канфуцыя. Калі б не суровыя вартавыя, гэтая моладзь лёгка магла б разадраць нашае адзенне на сувеніры. Ва ўсякім выпадку, ад хцівых позіркаў шматлікіх чорных вачэй мне зрабілася нядобра. Асабліва палкімі былі дзявочыя позіркі, а гэтыя, ведаў я, не пашкадуюць.

Каля храма адбылася кароткая цырымонія ўскладання кветак. Кіраўнік дэлегацыі сказаў энергічную прамову пра значэнне вялікага Канфуцыя для Кітая і ўсяго чалавецтва, прывёўшы скажонае выказванне філосафа аб тым, што не трэба рабіць людзям тое, чаго ты не хочаш, каб іншыя рабілі табе.

Я адчуў, як нехта таргануў мяне за крысо пінжака, і сутыкнуўся з вясёлымі вачыма чароўнай асобы.

— Хай! — праспявала яна.

— Хай-хай, — сказаў я, рашуча вызваляючы пінжак з яе ўчэпістых пальцаў.

Пакуль я тузаўся з дзяўчынаю, дэлегацыя прайшла ў храм, і я апынуўся перад зачыненымі ўжо дзвярыма.

— Там няма нічога цікавага, — сказаў мне Сяргей, які таксама не паспеў прайсці ў храм. — Пойдзем да нашых аўтобусаў. Заадно парк агледзім.

Гэта было небяспечнае мерапрыемства, але я тым не менш згадзіўся. «Усё-ткі тут шмат паліцэйскіх, калі што, адаб'юць», — падумаў я.

Мы пайшлі праз парк. Брукаванка пад нагамі была адшліфаваная мільёнамі падэшваў да люстранага бляску. Адзін з храмавых драконаў падміргнуў мне каменным вокам. «Нядобры знак», — падумаў я.

Маладыя людзі з цытатнікамі ў руках пачалі ўжо разыходзіцца, але, убачыўшы нас, павярнулі назад.

— Вельмі шмат дзяўчат, — устрывожана сказаў я.

— Так, па статыстыцы ў Кітаі жанчын больш, чым мужчын, — кіўнуў Сяргей.

Дзіўна, але занадта вялікая колькасць чарнавокіх прыгажунь яго ніколькі не хвалявала.

Вялізныя туі ўзносіліся высока ў неба. Самыя старыя з іх былі агароджаны штыкетнікам і апрацаваны гаючым растворам. Да старасці тут ставіліся з сапраўднай павагаю.

— Кітай заўсёды ішоў сваім шляхам, — сказаў я.

— Не толькі Кітай, — азірнуўся Сяргей.

Я таксама паглядзеў назад. Натоўп, які складаўся пераважна з дзяўчат, паходзіў на навальнічную хмару, гатовую выбергнуць грамы і маланкі. На шчасце, парк скончыўся, і мы выйшлі на плошчу.

— Дзе аўтобусы? — занепакоіўся Сяргей. — Яны павінны былі вось тут стаяць… Здаецца, у храме былі два выхады! Яны выйшлі з другога боку, селі ў аўтобусы і паехалі. Ты ведаеш, што ў нас па праграме далей?

— Не ведаю, — сказаў я.

— За мной!

І мы рыссю паімчалі назад, уносячы замяшанне ў шэрагі ўсходніх прыгажунь. Выгляд белых мужчын-бегуноў зрабіў на іх настолькі моцнае ўражанне, што яны застывалі як укапаныя. А калі ачомваліся, мы ўжо былі далёка.

Каля храма нікога не было, акрамя аховы і двух служкаў.

— Дзе рускія? — цяжка дыхаючы, гаркнуў Сяргей.

Служкі спалохана падаліся ў цёмную глыбіню храма.

— Пачакай, — сказаў я, выціраючы з ілба пот, — у мяне ёсць праграма на кітайскай мове.

Мы па чарзе агледзелі праграму. Яна была добра зроблена паліграфічна, аднак гэта нам не давала абсалютна нічога.

— Як ты думаеш, якім пунктам тут пазначана наведванне храма Канфуцыя? — спытаў Сяргей.

— Першым ці другім, — сказаў я. — А можа, трэцім.

Я злавіў сябе на думцы, што толькі цяпер зразумеў сапраўдны сэнс выразу «кітайская грамата». Роўныя рады іерогліфаў выклікалі свяшчэнны жах. Так, Кітай быў планетай, на якой няма чаго рабіць прыхадням з іншага свету.

— Трэба выходзіць з парку, — сказаў Сяргей.

Гэтая прапанова мне настолькі спадабалася, што я, не кажучы ні слова, кінуўся ў бакавую алею. На вуліцах, няхай і запоўненых кітайцамі, мне было неяк спакайней.

— Рыкша! — закрычаў Сяргей, ледзь паспяваючы за мной. — Давай возьмем рыкшу!

Перад намі павольна ехаў кітаец на ровары з каляскаю, прыстасаванай для перавозкі двух пасажыраў.

Мы ўскочылі ў каляску. Кітаец спалохана азірнуўся і з усяе моцы націснуў на педалі. Каляска затрэслася, аднак хуткасць яе засталася практычна той жа.

— А куды нам ехаць? — спытаў я.

— Туды! — махнуў Сяргей. — Я ўспомніў, нам трэба на магілу Канфуцыя. У праграме гэта другі пункт.

Мы ехалі па вулачцы, запоўненай гандлёвымі радамі, настолькі павольна, што прадаўцы паспявалі не толькі соваць у нос свой тавар, але і хапаць нас за рукі. Мне гэта не спадабалася.

— Вылазь, — сказаў я. — Так мы да вечара не даедзем. Пайшлі да паліцэйскіх.

Мы пакінулі рыкшу і накіраваліся да машыны з паліцэйскімі. Тры з іх сядзелі ў машыне, адзін стаяў побач з ёй. Убачыўшы нас, гэты паліцэйскі памкнуўся ўлезці ў машыну, але яго не пусцілі таварышы.

Сяргей схапіў праграму, паднёс яе да носа паліцэйскага і пачаў тыцкаць пальцам:

— Сюды, нам трэба сюды! Магіла Канфуцыя! Тэрмінова! Адвязіце нас на магілу!

Паліцэйскі кашлянуў, асцярожна ўзяў праграму ў рукі і пачаў чытаць яе, пачынаючы з першага пункта.

— Адвязіце нас вось сюды! — паказаў на патрэбны пункт Сяргей.

Паліцэйскі ўцягнуў галаву ў плечы, як чарапаха. Яго таварышы дружна націснулі на кнопкі, блакіруючы дзверцы аўтамабіля.

— Таксі! — закрычаў я. — Сапраўднае!

Штурхаючы адзін аднаго, мы кінуліся да машыны. Вадзіцель гэтак жа грунтоўна, як і паліцэйскія, вывучыў праграму, паважна кіўнуў і націснуў на газ. Увесь яго выгляд гаварыў, што ён не толькі ведае, куды трэба ехаць, але і з якой хуткасцю.

Мы ехалі хвілін пятнаццаць, і ўвесь гэты час я думаў, колькі б наша падарожжа да магілы Канфуцыя доўжылася на рыкшы. Роскід лічбаў быў каласальны.

— Як ты думаеш… — павярнуўся я да Сяргея.

— Аўтобусы! — закрычаў ён, не слухаючы мяне. — Нашы!

Гэта сапраўды былі нашы аўтобусы. Стоячы ў рад, як на парадзе, яны выклікалі ў мяне адчуванне замілавання. Усё-ткі Кітай быў не зусім прапашчай краінай. Калі аўтобусы, прызначаныя для замежнай дэлегацыі, павінны стаяць на плошчы ва ўказаны час, яны будуць там стаяць, нягледзячы на патоп, землятрус і іншыя дробныя непрыемнасці.

Мы расплаціліся па лічыльніку і паволі вылезлі з таксі. Цяпер можна было нікуды не спяшацца. Я нават купіў сабе бутэльку мінеральнай вады.

Маладая прадаўшчыца, бліскаючы раскосымі вачанятамі, паспрабавала ўперці мне чыпсы, арэхі, марожанае і яшчэ нейкую лухту. Пры гэтым яна не толькі некалькі разоў тарганула мяне за пінжак, але і дакранулася да рукі. Мяркуючы па крыўлянні, перарывістым дыханні і нервоваму смеху, спыняцца яна не збіралася.

— Пойдзем у аўтобус, — прапанаваў я Сяргею.

— Вунь ужо нашы на карах пад'ехалі, — сказаў ён, і асаблівага энтузіязму ў яго голасе я не пачуў.— Мусіць, трэба далажыцца.

Але дакладваць аб сваім вяртанні не давялося. Па чарзе да нас падыходзілі адказныя таварышы і паведамлялі, што, па-першае, змена графіка ў перамяшчэнні картэжу не дазваляецца ні пры якіх абставінах, па-другое, асоба, што адстала ад картэжу, будзе сама дабірацца да консульства, да якога адсюль як да неба, і, па-трэцяе, білеты на самалёт гэтая асоба будзе набываць за ўласны кошт.

— Гэта ж Шаньдунь! — сказаў адзін з начальнікаў.

— Што гэта значыць у перакладзе з кітайскай? — пацікавіўся я.

— Высокая гара.

— Высокая дыра? — недачула Аксана, журналістка, якая нікуды не спазнілася, але тым не менш блізка да сэрца прыняла наш промах.

— Менавіта дыра, — сказаў я ёй. — Дзірка. Ні консульства, ні англійскай мовы, ні белых людзей. Нават магілкі не застанецца.

— Чаму?.. — прашаптала Аксана.

— З'ядуць з трыбухамі.

Мы селі ў аўтобусы і паехалі ў Цзінан, сталіцу правінцыі Шаньдунь.

На ўбраных палях гарэлі вогнішчы з кукурузнага бацвіння. Жамчужна адсвечвала вада шматлікіх сажалак, у якіх, як я ведаў, нагульвалі тлушч кара-

леўскія карпы, кітайцы называлі іх генераламі. На паедзеных часам гарах амаль не было ніякай раслціннасці. З нізкага неба сеяўся дробны дождж.

Гэта быў той самы Кітай, які даў свету непаўторнага Канфуцыя. А таксама ні на што не падобныя пісьменнасць, жывапіс, музыку…

### 4

— Ну і як табе качка? — спытаў Сяргей, са шкадаваннем гледзячы на пустую талерку.

— Цудоўная, — сказаў я. — Вазьмі кавалак.

У мяне на талерцы яшчэ крыху заставалася, і я ў свой дзень нараджэння вырашыў быць шчодрым да канца.

Сяргей трохі пааднекваўся, але ўсё ж узяў.

У рэстаране мы заставаліся адны. Брэндзі было дапіта, качка з'едзеная, можна было расплачвацца і выпраўляцца ў атэль. Стомленыя афіцыянткі сядзелі за суседнімі столікамі і не адрываючыся глядзелі на нас. Не было толькі бармена за стойкаю. Відаць, яго зваліў той самы напарстак брэндзі, які ён глынуў перад нашай трапезай.

— Рахунак! — шчоўкнуў пальцамі Сяргей.

Гэта слова было зразумела нават кітайцам. Мы расплаціліся і падняліся з наседжаных месцаў. Афіцыянткі падняліся таксама. Мяркуючы па іхніх фізіяноміях, яны моцна шкадавалі, што так і не здолелі памацаць нас рукамі. Нічога, можа, пашанцуе ў іншы раз.

Мы выйшлі з рэстарана.

— У іх калі-небудзь зоркі бываюць? — задраў я галаву.

— А як жа! — здзівіўся Сяргей. — Яны ж прыдумалі навігацыю па зорках.

— Ну так, — кіўнуў я, — разам з порахам і паперацю. Але ўсюды, дзе мы былі, вісеў смог.

— Да Алімпіяды разгоняць, — паабяцаў Сяргей.

Пешаходная вуліца апоўначы па-ранейшаму кішэла людзьмі, але цяпер гэта быў іншы кантынгент.

— Дзяўчаты не патрэбныя? — на прыстойнай англійскай звярнулася да нас мілавідная асоба няпэўнага ўзросту.

— Дзяўчаты? — спыніўся Сяргей. — Дзяўчаты нам не патрэбныя. Нам патрэбны вы.

Гаварыў ён зусім сур'ёзна.

— Мі? — тыцнула сябе пальцам у грудзі асоба.

— Вы.

— Мі нельга, — з лёгкім шкадаваннем сказала яна. — Можна дзяўчына.

— Толькі вы, — заўпарціўся Сяргей.

— Пойдзем у атэль, — умяшаўся я ў іхні дыялог. — Нам пасля Канфуцыя толькі дзяўчат не хапае.

— А што Канфуцый? — сказаў Сяргей. — У яго таксама дзеці былі.

— А як жа роля Камуністычнай партыі? — павёў я рукой, паказваючы, наколькі ўсеабдымная гэтая роля.

Сяргей паглядзеў па баках і кіруючай і напраўляючай ролі Камуністычнай партыі на гэтай вуліцы не ўбачыў.

— З прастытуткамі нават кітайскія камуністы не справяцца, — абвясціў ён. — Тым больш, у іх свой шлях.

З гэтым я вымушаны быў згадзіцца.

Пакуль мы тэарэтызавалі, кітайская мамка знікла ў натоўпе.

Мы паспяхова дабраліся да свайго атэля. Ён, дарэчы, таксама называўся «Пекін».

— Зойдзем да мяне, — сказаў Сяргей. — Цяпер я павінен цябе пачаставаць.

Я ведаў, у што яму абыдуцца віскі ці каньяк з міні-бара ў нумары. Але каго гэта турбуе пасля бутэлькі «Напалеона»?

Мы зайшлі ў нумар Сяргея і селі ў крэслы.

— Навошта тут два двухспальныя ложкі? — спытаў я, назіраючы, як Сяргей налівае ў шклянкі віскі.

— Каб было зручна, — паціснуў ён плячыма — Цяпер усюды так. Ну, за цябе!

Гэта была канчатковая кропка ў святкаванні дня нараджэння. Яго не здолелі сапсаваць ні парушэнне пратакола на перамовах, ні адставанне ад картэжу ў Цюйфу, родным горадзе Канфуцыя. А галоўнае, да нас так і не дабраліся тутэйшыя прыгажуні з бліскучымі вачыма, падобныя на звяркоў. Усё-ткі нездарма Гасподзь падзяліў людзей на чорную, белую і жоўтую расы.

З гэтай спрэчнай думкаю я пайшоў да сябе ў нумар.

Кітай па-ранейшаму заставаўся для мяне незразумелым. З іншага боку, калі б чалавеку было дадзена ўсё зразумець дарэшты, ён бы страціў цікаўнасць да жыцця.

А гэтага Гасподзь таксама не дапусціць.

## *Ганна*

У Церабеі я і Мікола, мой сябра яшчэ са студэнцкіх часоў, прыехалі напярэдадні Калядаў.

— Ты Новы год на Палессі сустракаў? — спытаў мяне Мікола.

— Толькі ў дзяцінстве.

— А калі там апошні раз быў?

— Даўно.

— Вось і паедзем. Мне трэба тэрмінова здаць артыкул у фальклорны зборнік. Чартаўшчыны не хапае.

— Чаго-чаго?!

— Гісторый пра чарцей і ведзьмаў. Там іх да халеры.

— Дасюль? — не паверыў я.

— А вось паедзем — даведаешся.

Хаты ў Церабеях па вокны былі заваленыя снегам. Электрычныя правады нізка правісалі паміж слупамі ад наліплага на іх снегу. На вуліцы ўвесь дзень грукатаў трактар, які чысціў дарогу.

— Цэлы тыдзень мяло, — сказаў Сцяпан, гаспадар, у якога мы спыніліся. — У нас такое рэдка здараецца.

— Дык гэта ж мы прыехалі! — засмяяўся Мікола.

— Як бы не затапіла нас, — выйшла з кухні Ганна, ягоная жонка. — Распусціць пад сонцам — і паплывём, як чайкі.

«Чайкамі» тут называліся лодкі.

— Курапатак можна рукамі збіраць, — сказаў Сцяпан. — Сядзяць у снезе пад соснамі, хадзі і збірай.

— Не перашкаджай людзям класціся спаць, — абарвала яго Ганна. — Позна ўжо.

Уначы я прачынаўся некалькі разоў. У хаце відавочна нешта адбывалася, аднак уставаць мне не хацелася. Мой сябра спакойна соп на суседнім ложку. Гадзін у восем мы нарэшце падняліся, выйшлі ў двор — і ўбачылі вялізную свінню, распасцёртую на снезе. Усё стала зразумела.

Сцяпан і яшчэ адзін мужчына заканчвалі смаліць свінню літавальнай лямпай.

— Як думаеце, колькі пудоў яна пацягне? — спытаў Сцяпан.

— Н-ну... — агледзеў я свінню ад лыча да хваста. — Пудоў дзесяць.

— Пятнаццаць, — засмяяўся Сцяпан.

«Ці не да нашага прыезду забілі яе? — падумаў я. — Ды не, да навагодняга стала свежына».

— Цяпер да заўтра будзеце займацца, — сказаў Мікола.

— А як жа, — згадзіўся Сцяпан. — Пасмолім, пачысцім, разбяром, пасолім сала, бабы каўбас наробяць.

Я зрабіў крок па сцежцы, якая вяла ў гарод, і здаравенны чорны сабака з рыкам кінуўся на мяне. Ланцуг ледзь не перакуліў яго на спіну. Учора гэты ж сабака не звяртаў на нас з Міколам ніякай увагі.

— Што гэта ён? — спыніўся я.

— На хлеб зарабляе, — усміхнуўся таварыш Сцяпана. — Не было б тут гаспадара, нават з будкі не вылез бы.

Сабака шалеў на ланцугу. Сцяпан адрэзаў кавалак вуха і падкінуў над галавой сабакі. Той, клацнуўшы зубамі, злавіў яго на ляту.

— Добры вартаўнік, — пахваліў я сабаку.

— Ідзіце за стол! — паказалася ў дзвярах сенцаў Ганна. — Крывянка ўжо падсмажылася.

Гэта царская ежа — крывянка з грэчкаю.

Пасля снедання мы з Міколам пайшлі па хатах, якія нам параілі наведаць у сельсавеце. Аднак дзяды і бабкі, якія жылі ў іх, пра чартаўшчыну нічога не чулі.

— Няма, — паціснуў плячыма дзевяностагадовы дзед Пятро. — І ніколі не було.

— А да вайны? — спытаў Мікола.

— Да вайны, вядома, пападаліся, — закрактаў дзед. — Вы ў каго спыніліся?

— У Сцяпана.

— Гэта які свінню сёння забіў? Вось і шукайце там сваю ведзьму. Ганну бачылі?

— Канечне, — сказаў я. — Крывянкай частавала. Смачная.

Мы вярнуліся ў Сцяпанаву хату. Там на ўсю моц кіпела работа. Тры жанчыны пад кіраўніцтвам Ганны чысцілі кішкі. Я ведаў, што хатнюю каўбасу зрабіць няпроста. Трэба вычысціць, выскрабці і прамыць кішкі, нарэзаць кубікамі сала і мяса, пасаліць, папярчыць, дабавіць кмен — і потым толькі набіваць гэтай масаю кішкі. Якасць каўбасы, дарэчы, вызначалася празрыстасцю кішак. У некаторых месцах сала і мяса прапускалі праз мясарубку, але мне падабалася каўбаса, калі ўсё крышылі нажом, «пханая пальцам». Яна была больш цвёрдая, аднак і смак яе быў першародны.

— Ганна, дзе нам знайсці ведзьму? — спытаў я, зайшоўшы ў кухню.

— Каго?! — перастала яна скрэбці кішку.

— Без ведзьмы ніяк артыкул не напісаць, — растлумачыў я. — Кажуць, на Каляды яны па вёсках гуляюць.

— Ніколі і не было, — прамармытала Ганна. — Адкуль у нас ведзьмы?

— Не! — забажыліся астатнія жанчыны. — Яны ў іншых вёсках! У нас і шаптухі сваёй няма, у Мікітаўку ездзім…

— Калі разабрацца, — сказаў я, — ведзьма ёсць у кожнай хаце. Коля, хіба твая жонка не ведзьма?

— Ведзьма, — кіўнуў Мікола, — але не заўсёды. Між іншым, «ведзьма» паходзіць ад слова «ведаць».

— Ну так, яны пра нас усё ведаюць, — згадзіўся я. — Але нам патрэбна тутэйшая.

— А навошта? — зірнула на мяне Ганна.

У мяне ад яе позірку па целе прабеглі дрыжыкі. У чорных вачах Ганны шугануў зялёны водбліск, які бывае ў кошак. І ў ваўчыц…

— Артыкул трэба напісаць, — сумеўся я.

— Напішаш, — усміхнулася Ганна. — Якраз сёння ўначы.

Увечары мы селі за стол. Сала ўжо расклалі па кублах, каўбасы павесілі пад страхой, кумпяк нашпігавалі прыправамі і таксама прыладзілі там жа.

Сцяпан наліў з трохлітровага слоіка ў шклянкі самагонку.

— Ну, з наступаючым! — прамовіў ён.

— Не трэба б вам сёння піць, — паглядзела на мяне Ганна.

— Чаму?

— Самі ведаеце.

Але я ўсё-ткі выпіў.

Сцяпан пачаў расказваць пра сына, які служыць у войску. Ганна зрэдзь папраўляла яго. Мікола спрабаваў перавесці гаворку на чартаўшчыну, якая часцяком жартуе з людзьмі перад Калядамі, аднак яго не разумелі. Ганна іншы раз паглядала на мяне чорнымі вачыма і ўсміхалася.

«Цікавая жанчына, — думаў я. — А ў маладосці дык зусім была прыгажуняй».

Я падняўся, накінуў на плечы куртку і выйшаў на двор.

На небе ззяў маладзік рагамі ўгору, вакол яго гусціліся дробныя зоркі. «Здаецца, гэта на пагоду», — падумаў я.

Раптам адразу пацямнела, падзьмуў рэзкі вецер, у паветры закружлялі сняжынкі. Сабака, які сёння раніцай кідаўся на мяне, бразнуў ланцугом, заскуголіў, падцяў хвост і палез хавацца ў будку. Я пачуў плач немаўляці, які далятаў аднекуль з-за хаты.

«Адкуль тут дзіця? — здзівіўся я. — І не відаць ні халеры…»

Зазірнуў за вугал. Ля кастра дроў ляжала бервяно, і плач ішоў ад яго. Я няўпэўнена падышоў да бервяна. Плач памацнеў. Я крануў бервяно нагой. Яно быццам чакала майго штуршка і на метр адкацілася ўбок. Плач памацнеў.

— Што ты плачаш? — шэптам спытаў я.

Бервяно здрыганулася і яшчэ крыху адкацілася ад мяне.

— Паважаны! — пачуў я голас за спінаю.

Я рэзка павярнуўся. Перада мной стаяў чалавек у чорным гарнітуры пад гальштукам, на галаве шапка «піражком», пад пахай папка з паперамі. Твар яго ў цемры цяжка было разгледзець, але я чамусьці быў упэўнены, што гэта старшыня пасялковага савета.

— Паважаны, — паўтарыў чалавек, — ну і як вам нашая мясцовасць?

— Добрая мясцовасць, — сказаў я. — Снегу шмат, але ж Каляды на носе.

Чалавеку, відаць, таксама не падабалася, што вакол столькі снегу. Ён пакапыціў нагой сумёт, ад чаго ў паветры паднялася завіруха.

— Ці не хочаце прагуляцца па вёсцы? — даляцеў да мяне глухі голас. — Пакажу ўсё як мае быць. А то і да ўдавіцы зазірнём, у яе, ці ведаеце, цудоўная самагонка.

— Жытнёвая? — пацікавіўся я.

— Яна. А закусім капусткай з гурком. Вельмі добрая ўдавіца, даўно яе ведаю.

Мне захацелася зараз жа прагуляцца па вёсцы, а потым зазірнуць да ўдавіцы. Завіруха, што ўжо зусім шалела, ніколькі не палохала. Старшыня здаваўся мне вельмі прыемным, нават салідным чалавекам, які ніколі не зманіць. Ды і ўдавіца ўяўлялася гэткай вабнай асобай з гнуткім станам, падобнай вачыма да Ганны. Відаць, яна і ёсць сястра Ганны.

— Алесь! — даляцеў да мяне знаёмы голас.

Я неахвотна спыніўся. Так і ёсць, Мікола.

— Ну, што табе? — спытаў я, крыху адвярнуўшыся ад яго.

— Я за табой паўгадзіны назіраю, — сказаў ён. — Што гэта ты казлом скачаш?

— Казлом? — нездаволена паглядзеў я на яго. — Няма тут ніякага казла. З таварышам мы гуляем.

— І чаму сам з сабой размаўляеш? — не слухаў мяне Мікола. — Калі гэта ты паспеў набрацца? Усяго па паўшклянкі выпілі.

— А ці не хочацца табе, шаноўны, удавіцу наведаць? — падміргнуў я яму. — Вось там самагонка не раўня тутэйшай! Ласкавы пан, можа, возьмем з сабой сябрука?

Я паглядзеў па баках, але старшыні нідзе не было.

— Пойдзем дахаты, — узяў мяне пад руку Мікола. — Ніколі б не падумаў, што з паўшклянкі палескай самагонкі можна гэтак акасець.

— А бервяно? — слабым голасам спытаў я. — Яно ж плакала, як дзіця.

Бервяна каля хаты таксама не было.

Мы вярнуліся ў хату. За сталом сядзеў адзін Сцяпан.

— А дзе Ганна? — спытаў я.

— Пайшла спаць.

Я правёў вачыма па кутах — і не знайшоў ніводнага абраза.

— Колькі часу мяне тут не было? — спытаў я Міколу.

— Не менш гадзіны. Я ўжо пачаў непакоіцца.

— А Ганна?

— Яна адразу за табой пайшла.

На наступны дзень мы з Міколам паехалі ў другую вёску. Тут, у Церабеях, пра чартаўшчыну ніхто з намі не хацеў гаварыць.

Ганну я больш не бачыў.

## *Вячэра з кандэлябрамі*

Картка элітнага рэстарана «Голд-палацца» дасталася мне выпадкова. На фуршэце ў Доме акцёра натоўп галодных журналістаў адцясніў мяне ў кут і прыціснуў да мужчыны гадоў сарака.

— Што гэта ў вас у руцэ? — спытаў ён.

— Бутэльку віскі паспеў схапіць.

— А ў мяне талерка з бутэрбродамі. Аб'яднаемся?

Мы выпілі, закусілі.

— Барыс, — прадставіўся мужчына.

Я назваў сябе.

— У нашай краіне хваляванні адбываюцца ад таго, што занадта шмат галодных, — сказаў Барыс.

— Так, журналістаў трэба карміць, — згадзіўся я, аглядаючы натоўп, які складаўся пераважна з нячэсаных дзяўчат. — Чорт ведае што могуць напісаць.

— Яны і так чорт ведае што пішуць, — скрывіўся Барыс. — Я не ў тым сэнсе сказаў.

— А ў якім?

— Карміць — гэта карміць па-сапраўднаму. Як у маім рэстаране.

— Гаспадар?

— Дырэктар, але з пэўным працэнтам. Заходзьце днямі.

І ён даў мне нумарную картку, на якой было напісана, што яе ўладальнік абавязаны асабіста падпісваць рахункі за абслугоўванне ў рэстаране.

— Вось тут трэба свой подпіс намаляваць, — паказаў ён пальцам. — Скідка дзесяць працэнтаў.

— Добрая скідка, — сказаў я.

Абедаць у рэстаране «Голд-палацца» я, вядома, не збіраўся.

Аднак на наступны дзень пазваніў Фёдар Мадэставіч, якому ў свой час я дапамог арганізаваць некалькі інтэрв'ю ў друку.

— Пішаш? — спытаў Фёдар Мадэставіч.

— А як жа, — уздыхнуў я.

— Я вырашыў табе аддзячыць, — сказаў ён.

Гэта была манера Фёдара Мадэставіча — адразу браць быка за рогі.

— Грашыма? — пацікавіўся я.

— Грошы, як ты ведаеш, у мяне ў рабоце, — астудзіў мой запал Фёдар Мадэставіч, — але ў рэстаран запрашаю.

— У які? — дастаў я з кішэні картку Барыса.

— У які хочаш.

— Пойдзем у «Голд-палацца», — прачытаў я назву рэстарана і прадыктаваў адрас. — Там вельмі добра кормяць.

Фёдар Мадэставіч, адчувалася, здзівіўся, але спрачацца не стаў.

— Заўтра ў васемнаццаць нуль-нуль, — сказаў ён. — Не спазняйся.

Спазняцца я не збіраўся.

Фёдар Мадэставіч быў сур'ёзны чалавек. У момант падзелу вялікага пірага, якім гадоў дваццаць назад раптам зрабілася наша краіна, ён займаў ці то чацвёртае, ці то пятае крэсла ў міністэрстве рыбнай гаспадаркі. Ну і пры дзяльбе пакрыўдзіць сябе не дазволіў. Я здагадваўся, што, акрамя ладнай флатыліі, якая перасякала прасторы сусветнага акіяна ў пошуках скумбрыі, траскі і сёмужкі, у яго маецца і пара заводаў, на якіх гэтую самую рыбу перапрацоўвалі. Але ад заводаў Фёдар Мадэставіч чамусьці адмаўляўся.

— Ды прадаём мы рыбку, — сказаў ён, калі я неназойліва пацікавіўся заводамі ў басейне Белага мора.

— Каму прадаяце? — зазірнуў я яму ў вочы.

— Гэтым… шведам прадаём. З датчанамі.

Я зразумеў, што рыбу з ягоных сейнераў прадаюць у Нарвегію.

— Ну і як плацяць?

— Кепска.

Тры дні таму Фёдар Мадэставіч расказваў, што ў мінулым месяцы заплаціў больш за сто тысяч падатку. Яго абурала зусім не сума — правілы, па якіх прымушаюць гуляць.

— Не, ну я ж аддаў каму трэба і колькі трэба, — спрабаваў ён адарваць сярэдні гузік на маім пінжаку, — а яны яшчэ і падатак! У якой краіне мы жывём?

— У нашай, — сказаў я, адбіраючы гузік. — Не заплаціш, яшчэ горш будзе. Не дай Бог пасадзяць.

— Гэта ты праўду кажаш. Ратуй, Госпадзь, ад падаткавай, а ад бандытаў я сам уцяку. Але што ўзяць з заводаў, калі там адны страты?

Заводы, значыць, існавалі.

— А што з кватэрай? — перамяніў я тэму размовы.

— З якой? — падазрона паглядзеў на мяне Фёдар Мадэставіч.

— Ды вось з гэтай, на Ленінскім.

— Не на Ленінскім, а на Кутузаўскім, — паправіў ён мяне. — Што з ёй зробіцца — жыву. Я яшчэ ў Піцеры купіў, і асабняк...

Ён змоўк.

— Цяпер усе ў Сочы купляюць, — сказаў я. — Зямелька, праўда, дарагая, але бяруць. Кабзон з Пугачовай купілі.

— О Сочы! — ажывіўся Фёдар Мадэставіч. — Я там у рэстаране быў... Забыўся назву. Падыходзіш, а табе чарку самагону і лусту хлеба з салам выносяць.

— Аперытыў па-руску, — усміхнуўся я.

— Ну так... Па колькі, кажаш, там зямелька?

— Калі прылягае да мора, дзвесце тысяч долараў сотка.

— М-да, — пачухаў патыліцу Фёдар Мадэставіч. — Можна і кватэраю абысціся. Ты быў у Сочы?

— Бываў. У імператарскім паляўнічым доміку добрую стронгу па-царску падаюць.

Фёдар Мадэставіч у здзіўленні ўтаропіўся на мяне. Калі б пра стронгу загаварыла дрэва, ён не так бы здзівіўся.

Я ведаў, канечне, што Фёдар Мадэставіч акула, якая адгрызла ад вялізнага цела гінучага кіта тлусты кавалак, але сустрэч з ім не пазбягаў. Усё-ткі ён не самая вялікая акула. І не самая агідная. Пачынаў простым рыбаком, плаваў у паўночных марах. Але як з рыбакоў трапляюць у начальнікі, не расказваў. Зрэшты, у кожнага цяперашняга гаспадара свой шлях наверх. Хто гандлянуў кветкамі і скупіў ваўчары. Хто скрынку з-пад ксеракса вынес. А хто ўдала стрэльнуў. Шанцуе, як той казаў, мацнейшым. І таму, хто выжыў.

Я ніколькі не сумняваўся, што Фёдару Мадэставічу зноў нешта спатрэбілася ад мяне, і са спакойнай душой выправіўся ў рэстаран.

Швейцар, які таптаўся ля ўвахода ў рэстаран «Голд-палацца», быў падобны да Пушкіна, якім яго малююць сучасныя мастакі: крылатка, высокі кацялок, бакенбарды.

«Артыстычная ўстанова, — падумаў я. — А калі яшчэ добра накормяць...»

Падкаціў здаравенны джып з таніраваным шклом, з яго павольна выбраўся Фёдар Мадэставіч.

— Гэты самы і ёсць? — блізарука прыжмурыўся ён, разглядаючы пазалочаныя ручкі на дзвярах рэстарана. — Ты што, ходзіш сюды?

— Картка ёсць, — не стаў я ўдавацца ў падрабязнасці.

— Едзь! — махнуў рукой вадзіцелю джыпа Фёдар Мадэставіч. — Потым пазваню.

Джып паехаў. Фёдар Мадэставіч, не заўважаючы швейцара, узяўся за ручку дзвярэй.

— А вы да каго? — спыніў мяне швейцар.

— У мяне картка, — змрочна сказаў я.

Швейцар завагаўся, але ўсё ж адступіў убок.

— Гэты са мной, — кінуў Фёдар Мадэставіч праз плячо. — Не адставай.

І мы пачалі падымацца па шырокай лесвіцы з парэнчамі пад даўніну. Па абодвух баках яе аздаблялі венецыянскія люстры.

— Не могуць чалавеку выгоды зрабіць, — крактаў Фёдар Мадэставіч, падымаючыся. — Нарабілі лесвіц — а навошта?

— Заказвалі? — паўстаў перад намі самавіты метрдатэль у фраку.

— Вунь туды, — паказаў пальцам на столік ля сцяны Фёдар Мадэставіч. — Гаспадар у сябе?

— Хутка будзе, — схіліў галаву метрдатэль.

Мы селі. Падляцеў афіцыянт з двума стосамі тоўстых картаў. Я раскрыў адну з іх.

— Ды не глядзі ты туды, — скрывіўся Фёдар Мадэставіч, — і так раскажуць. Ці тут адны нямыя працуюць?

Я засмяяўся. Мне падабаўся гумар Фёдара Мадэставіча. Нават не гумар — манера паводзін з лакеямі. Ён іх не заўважаў.

— Ходзь сюды, — паклікаў пальцам афіцыянта Фёдар Мадэставіч.

Той паслужліва схіліўся перад ім.

— Падай пакуль джын-тонік. Двайны. Дабл? — паглядзеў ён на мяне.

— Дабл, блін, — кіўнуў я.

Я мяльком паглядзеў карту, але ўсё ж заўважыў чорную ікру з грачанымі блінцамі. Гэта варта было заказаць.

— Ну і што ты тут знайшоў? — азірнуўся па баках Фёдар Мадэставіч. — У «Метраполі» лепш. Ды і ў «Празе».

— А вось паямо, тады даведаецеся, — сказаў я. — Барыс не падвядзе.

— Які Барыс?

— Знаёмы.

— Ну-ну.

Фёдар Мадэставіч адклаў трубачку і залпам выпіў аперытыў да дна.

— Ты лепей скажы: кнігу пра мяне напісаць можаш? — сказаў ён, аддыхаўшыся.

— Кнігу? — паглядзеў я на яго. — Кнігу пра каго заўгодна можна напісаць.

— Не, я сур'ёзна — добрую кнігу старонак на трыста. Я заплачу.

У гэтым была галоўная загвяздка. Фёдар Мадэставіч гатовы быў задушыцца за капейчыну.

— Колькі? — спытаў я.

— Дамовімся.

— Я неяк чуў байку пра графа Тышкевіча. Ён заехаў у карчму, хацеў паесці, але не старгаваўся з карчмаром. У карчме ў той час сядзеў мясцовы пісар, які напісаў вершык: «Ехаў пан Тышка, была ў яго глодна кішка, доўга таргаваўся, на тры капейкі не старгаваўся і паехаў глодны, як пёс».

— Хто такі Тышкевіч?

— Магнат. Цар Мікалай II абазваў яго «залатой свіннёй».

— За што?

— Не даў у пазыку грошай.

— Колькі?

— Мільён.

— Усяго?!

— Дык тое быў мільён золатам.

— Зараз у Абрамовіча гэтых мільёнаў… — махнуў рукой Фёдар Мадэставіч. — Але ты не адказаў. Бярэшся за кнігу?

За кнігу мне брацца не хацелася. Але і Фёдару Мадэставічу сказаць пра гэта было нельга.

— Працы шмат, — уздыхнуў я.

— А ты пасля працы.

Увогуле, я ведаў манеру Фёдара Мадэставіча браць нахрапам, але зараз мне гэта не спадабалася.

На шчасце, падышоў афіцыянт прымаць заказ. Я са стравамі ўжо вызначыўся, але сціпла маўчаў. Фёдар Мадэставіч доўга ганяў афіцыянта па ўсёй карце і спыніўся на цяляціне на ражне.

— А п'ём што? — зірнуў ён на мяне спадылба.

— Гарэлку.

— Можа, каньяк? Ці віскі? Ты не саромся.

Я саромецца не збіраўся.

— Ікра з грачанымі блінцамі, шашлык з асятрыны і гародніна на ваш выбар, — прадыктаваў я афіцыянту.

— Якія такія блінцы? — спахмурнеў Фёдар Мадэставіч і ўзяў у рукі меню. — Дзе ты іх знайшоў?

Я пацiснуў плячыма. Афіцыянт усміхнуўся. Фёдар Мадэставіч пагартаў меню, але блінцоў не знайшоў.

— Карацей, нясі, што хочаш, — кінуў ён карту на стол. — Але цэны тут, я табе скажу…

Сказаць на гэта мне не было чаго. Але дзе яны цяпер нармальныя?

— З маім заробкам па рэстаранах не паходзіш, — сказаў я.

— А што? — скасавурыўся на мяне Фёдар Мадэставіч.

— Бедны.

— Ты не бедны, ты жабрак, — паставіў мяне на месца мільянер. — Пісьменнікі цяпер наогул нікому не патрэбныя. Табе кнігу прапаноўваюць напісаць? Вось і пішы.

Я закрактаў. Можа, і былі часы больш подлыя, чым цяпер, але мне ад гэтага не лягчэй. Пі свой келіх, пі. І заядай ікоркай з блінцамі.

— У Польшчы мне халібут спадабаўся, — памяняў я пласцінку. — Там яго засмажваюць у кіпячым алеі. Можна есці проста з косткамі.

— Што за халібут? — без асаблівай цікавасці спытаў Фёдар Мадэставіч.

— Палтус.

— Гэтага мы таксама бяром, — усміхнуўся рыбны магнат. — З вугром ніяк не наладжу справу. Каштаваў вугра?

— Даводзілася.

— Ходзь сюды, — паклікаў афіцыянта, як праходзіў паўз нас, Фёдар Мадэставіч.

Той падскочыў да стала.

— Забяры ты гэтую лямпу і прынясі свечкі. Я люблю з кандэлябрамі пасядзець.

На адным з суседніх сталоў сапраўды гарэла свечка.

Людзей у вялікім зале рэстарана было няшмат. За трыма столікамі сядзелі парачкі. У адным куце гаманіла юбілейная кампанія. Тапёр за раялем граў нешта з класікі.

— Любіш музыку? — спытаў Фёдар Мадэставіч.

— Шапэна.

— А я Чайкоўскага. І табе раю. Сваё трэба любіць, рускае. Што гэта цябе занесла ў Польшчу?

— У Сопаце на канферэнцыі быў.

— Ну і як яны там, пад амерыканцамі?

— Ды не падобна, каб балявалі.

— Сопат — гэта дзе?

— Пад Гданьскам.

— Курорт?

— Лепшы ў іх. Але палацаў, як у нашым Падмаскоўі, я там не бачыў. І машыны больш танныя.

— А што яны думалі — з гразі ў князі? Яшчэ ўспомняць рускага дурня, які іх карміў на шармачка. Амерыканцы кожны долар прымусяць адрабіць.

— Так, — згадзіўся я, — палі ў іх апрацаваныя. У Расіі пустэчы, а там камбайны ўраджай убіраюць. Таму і жывуць бедна, што працуюць.

— Што-што? — схіліў набок галаву Фёдар Мадэставіч.

— Багата жыве толькі злодзей. У нас хто мільянер? Алігарх. А ў яго адкуль багацце? Нарабаваў ці ўкраў.

Прынеслі кандэлябр са свечкамі, потым падалі і гарэлку з закускамі. Фёдар Мадэставіч кульнуў запар дзве чаркі, закусіў грыбком. Мае грачаныя блінцы, намазаныя ікрой, проста раставалі ў роце.

— Ва ўсім вінаватыя правіцелі, — сказаў Фёдар Мадэставіч. — Можна было і краіну захаваць, і народ не пакрыўдзіць. Адпусці вяровачку — ён бы сабе і пасвіўся. А ім нафтавую трубу захацелася. Цяпер, канечне, трасуць Бога за бараду, але чым гэта скончыцца, невядома.

— У вас шмат параходаў?

Фёдар Мадэставіч пытанне не пачуў.

— Загадаеце падаваць гарачае? — навіс над намі афіцыянт.

— А што гэта ў вас людзей няшмат? — адкінуўся на спінку крэсла магнат.

— Да дзесяці гадзін зал будзе поўны, — панізіўшы голас, сказаў афіцыянт. — У нас часта амерыканскі пасол вячэрае.

— Амерыканскі? — з сумненнем паглядзеў на яго Фёдар Мадэставіч. — І таксама з кандэлябрамі?

Афіцыянт пацiснуў плячыма.

— Добра, нясі гарачае, — дазволіў рыбны кароль. — Хаця не веру я гэтым амерыканцам. Нашыя караблі яны на пушачны выстрал не падпускаюць.

— Не дазваляюць лавіць у сваіх водах?

— Ну так, самі кідаюць тралы дзе хочуць, а нам дулю. Амерыка зараз правіць на сушы і на моры.

— І ў паветры, — сказаў я. — Вяртаючыся з Польшчы, я на тыдзень у Мінску спыніўся.

— З вамі яны таксама разбяруцца, — уласнаручна наліў у чаркі Фёдар Мадэставіч. — Грошы выдзелілі, падыходзячага прэзідэнта падабралі. Нашы і пікнуць не пасмеюць.

Гэта была чыстая праўда — не пасмеюць.

— Усё роўна не здадзімся, — тым не менш запярэчыў я. — У партызаны пойдзем.

— Якія партызаны! — махнуў рукой Фёдар Мадэставіч. — Адно мокрае месца ад вас застанецца.

— У нас і так наўкол адно балота. Амерыканцы нават Ірак адолець не могуць.

— Гэта ты дарэмна, — зноў наліў у чаркі мільянер. — Перамагае той, у каго грошы. А вы жабракі.

Ён біў, што называецца, пад дых. Але гэта была ягоная манера: намацаць слабое месца і дзяўбці.

— А я кнігу пісаць не буду, — сказаў я.

— Але ж ты не дурань! — здзівіўся Фёдар Мадэставіч. — Другія напішуць. Я табе падарунак хачу зрабіць, няўжо не разумееш?

«Не патрэбны мне твае падарункі, — падумаў я. — Усё роўна не заплаціш. А то і ашукаеш».

— Не ашукаю, — паглядзеў мне ў вочы магнат.

У зале раптам пачалася мітусня. Прамчаліся сюды-туды афіцыянты, зайграў нешта бравурнае тапёр, па стойцы «смірна!» застыў ля дзвярэй метрдатэль, з кухні вызірнуў Барыс. Мяне ён, канечне, не заўважыў.

— Пасол? — злавіў я за крысо пінжака афіцыянта.

— Саветнік! — шапнуў той.

— І тут ад іх спакою няма, — скрывіўся Фёдар Мадэставіч. — Навошта ты мяне сюды прывёў?

— Чэснае слова — не ведаў, — пакаяўся я. — Ды я з імі на адным полі не сяду.

На шчасце, з'явілася працэсія, якая несла нашы стравы. Няма слоў, цяляціна, якую заказаў Фёдар Мадэставіч, выглядала апетытна. Але ў параўнанні з тым, што прынеслі мне, яна была нічым. Адзін афіцыянт паставіў перада мной пустую талерку. Другі ўстанавіў на стол талерку з гароднінай. Трэці знайшоў месца для сярэбранай пасудзіны з накрыўкай. Я пацягнуўся да яе, але чацвёрты афіцыянт умольна паглядзеў на мяне: зняць накрыўку павінен ён сам. Я падпарадкаваўся. Афіцыянт набраў у грудзі паветра, зрабіў крок да стала і з выглядам фокусніка, які дастае з пустой скрыні жывога труса, падняў вечка.

Фёдар Мадэставіч крактануў.

Буйныя кавалкі асятрыны былі акуратна ўкладзеныя ў цэнтры пасудзіны. Іх аздаблялі крэветкі, грабеньчыкі і іншая марская дрэнь. Але галоўнае, з усіх бакоў да асятрыны са злавесным выглядам паўзлі ярка-чырвоныя ракі, здавалася, яны нават варушылі вусамі. Гэта было сапраўднае марское пабоішча, а не нейкі там звычайны шашлык.

— Нядрэнна, — сказаў я.

Фёдар Мадэставіч змрочна ўзяўся раздзіраць нажом і відэльцам сваю цяляціну.

Я выпіў чарачку, паклаў у рот крэветку, адрэзаў кавалак асятрыны. Брацца за ракаў мне штосьці не хацелася.

— Напішаш кнігу — я табе карабель падару, — выклаў апошні козыр Фёдар Мадэставіч.

— Вы паэта Мікалая Старшынава ведаеце? — спытаў я.

— Не.

— У яго адна з любімых частушак была якраз пра карабель.

— Ну? — скасавурыўся на мяне Фёдар Мадэставіч.

— «По реке плывет корабль, — напаўголаса заспяваў я, — из города Чугуева. Ну и пусть себе плывет, железяка ...»

— Што, вось так проста ў рыфму?! — здзівіўся магнат.

Здаецца, замест вячэры ў рэстаране з кандэлябрамі ў яго сёння быў вечар сюрпрызаў.

— Канечне, у рыфму, — сказаў я.

— І гэта вось так і надрукавалі?

— Ну так.

— Дакаціліся, — з асуджэннем паківаў ён галавой. — Што хочуць, тое і пішуць! Га? Жалязяка з Чугуева... Гэта мой карабель — жалязяка?

Фёдара Мадэставіча панесла. Я зразумеў, што ён ужо добры.

— Фальклор, — сказаў я. — Народная творчасць.

— Ну і што? — утаропіўся ён у мяне. — Наш народ, ведаеш... Працаваць ніколі не хацелі, хоць пры цары, хоць зараз. Я ўжо даўно каманды з хахлоў набіраю. І вашых там поўна.

— Хутка адныя кітайцы застануцца, — згадзіўся я. — Камандаваць будуць амерыканцы, а працаваць — кітайцы.

— Ды мне адзін хрэн, — няўпэўненай рукой узяў чарку Фёдар Мадэставіч. — Давай вып'ем.

— Можа, не трэба?

— Ведаеш, колькі ў мяне караблёў? — прыжмурыўся ён, гледзячы на мяне. — Як жалязяк у Чугуеве!

У куце, дзе сядзелі амерыканцы, пачуўся выбух рогату. Фёдар Мадэставіч павярнуўся разам з крэслам і з выклікам пачаў глядзець у іх бок. Мне гэта не спадабалася.

— Беларускі прэзідэнт іх не баіцца, — сказаў я.

Фёдар Мадэставіч паспрабаваў вярнуцца ў ранейшае становішча, але крэсла паварочвацца назад не хацела. Фёдар Мадэставіч цяпер сядзеў напаўпаварота да мяне.

— Налі! — загадаў ён.

Я не пасмеў аслухацца.

— Ты што ж думаеш, — аддзяляючы адно слова ад другога, загаварыў Фёдар Мадэставіч, — амерыканцы дурні? Ды яны ніколі не дапусцяць, каб побач з Расіяй была рэспубліка, у якой народ нармальна жыве і працуе. На мітынг яго трэба загнаць. Ці хаця б у піўную. Гэта ж палітыка!

Ён пастукаў сябе костачкамі пальцаў па лбе.

«Што значыць старая школа! — падумаў я. — Выпіў шмат, а разважае зусім разумна».

— Ім галоўнае — прэзідэнта змяніць, — сказаў я.

— Потым яны пра вас забудуць, — згадзіўся магнат. — Слухай, можа, купіць у вас тысяч пятнаццаць гектараў зямлі? Ці яшчэ рана? Дзе ў вас самая лепшая зямля?

— Усюды кепская.

Я ўзяў рака і адарваў кляшню. Мне зрабілася нядобра. Не хапала, каб гэтая акула адхапіла кавалак пушчы і адгарадзіла яго плотам. Адзінае, што ў нас засталося, — лес ды рэчка, яшчэ возера. Мне ўсё часцей пачала ўспамінацца рэчка, на якой некалі я лавіў ліпеня. Раніцай я выйшаў да ракі. Над дрэвамі паднялося сонца — і перакат перада мной раптам зайграў блікамі. З першымі промнямі сонца ліпень выйшаў на быстрыню. Палюючы за казюркамі, ён адсвечваў бакамі па ўсёй прасторы вады, і рэчка, здавалася, дыхала. Яна спявала сваю адвечную песню…

Фёдар Мадэставіч дапіў гарэлку і падняўся на ногі.

— Пара, — сказаў ён. — Пуціна не чакае.

— Пуцін? — не зразумеў я.

— Які Пуцін? Пуціна! — пагразіў мне пальцам рыбны кароль і задзьмуў свечкі.

Няцвёрдай хадою ён накіраваўся да выхада. Я ў разгубленасці застаўся сядзець на месцы. Плаціць за гэтую вячэру з кандэлябрамі ў мае планы не ўваходзіла.

Быццам пачуўшы мае думкі, Фёдар Мадэставіч спыніўся пасярод зала, дастаў з унутранай кішэні пінжака кашалёк і адлічыў некалькі купюр. Падумаўшы, дабавіў да кучкі яшчэ адну.

— Чалавек! — крыкнуў ён. — Атрымай разлік!

Амерыканцы ўсе як адзін павярнуліся ў яго бок. Ніводзін з іх не жаваў.

Афіцыянт падляцеў да Фёдара Мадэставіча і з паклонам прыняў грошы.

«Моцна! — падумаў я. — З бляскам разыграў мізансцэну!»

— Заходзь яшчэ, — пачуў я голас з-за спіны.

Я павярнуўся. На мяне глядзеў Барыс. Ён усміхаўся.

— Мы тут нічога не парушылі? — спытаў я падымаючыся.

— Наадварот, — працягнуў мне руку Барыс. — Заўсёды рады добраму кліенту.

Я кіўнуў і пайшоў услед за Фёдарам Мадэставічам.

На вуліцы дастаў з кішэні рэстаранную картку, яшчэ раз уважліва прачытаў яе і выкінуў у сметніцу.

— Падвезці? — даляцеў да мяне з чэрава джыпа голас Фёдара Мадэставіча.

— Прагуляюся да метро, — адмахнуўся я.

— А то паехалі ў гэты... Чугуеў.

— Плывіце, Фёдар Мадэставіч, плывіце.

— Пра кнігу не забудзься. Трэба, разумееш, нашчадкам пакінуць.

Джып завуркатаў і павольна паехаў па асветленай вуліцы. Чымсьці яна мне нагадвала раку з ліпенем, які гуляе на быстрыні.

Як і тады, я стаяў на беразе, не рашаючыся закінуць у ваду прынаду. Баяўся парушыць гармонію іншага жыцця.

## *Макрэль*

Яшчэ за тыдзень да Новага года ў Мінску была адліга. Пад нагамі хлюпала гразь, імжыў дробны дождж, з паркаў і сквераў імкліва знікалі рэшткі снегу, які выпаў у пачатку снежня.

— А ўсё Балтыка, — сказаў Мікола Івану. — Яна для нас горш за мачыху. Улетку выдзімае цяпло, узімку мароз не падпускае. А неба дык на плячах ляжыць.

— Будзе мароз, — супакоіў яго Іван. — Нікуды не дзенецца.

І праўда — назаўтра прыціснуў мароз. Затрашчаў лёд на лужынах, у абледзянелым голлі дрэў засвістаў вецер.

— На Мінскім моры, нябось, таксама ўзяўся лёд, — задаволена сказаў Мікола.

— І што? — спытаў Іван.

— Падлёдная лоўля пачынаецца.

— Можна з'ездзіць, — згадзіўся Іван. — У першыя ж пасля Новага года выхадныя.

— Навошта ў выхадныя? — зірнуў на яго таварыш. — Новы год на лёдзе сустрэнем.

— А што, ідэя! — загарэўся Іван. — Возьмем бутэльку, бутэрброды, петарды. А дагульваць да Сашкі пойдзем.

Сашка быў іхні знаёмы ўрач. Ён лячыў сяброў ад усіх хваробаў, у тым ліку пахмелля. Па прафесіі Сашка быў нейрахірург. Але галоўнае, ён жыў ва ўласным доме ў Ждановічах на беразе Мінскага мора, у яго быў склеп, а ў склепе стаялі бутлі з хатнім віном. Сам Сашка віна не піў і не раз прасіў сяброў памагчы яму пазбавіцца ад гэтых бутляў. Сустрэча Новага года якраз падыходзіла для гэтай мэты.

— Замётана, — сказаў Мікола. — Ты звоніш Сашку, я рыхтую снасці. Піць будзем гарэлку. Ад шампанскага на марозе кроў ледзянее.

— А не патонем? — раптам засумняваўся Іван. — У табе колькі кілаграмаў?

— Семдзесят пяць.

— Ува мне восемдзесят...

На выгляд у ім былі ўсе сто, але Міколу гэта не палохала.

— У мяне ліхтар добры, — ляпнуў ён па плячы прыяцеля. — Пасвецім пад ногі і пройдзем, як па сухім. Кажуць, мароз да Калядаў пратрымаецца.

— А на чым паедзем?

— На электрычцы. На машыне заблукаем ці засядзем у сумётах. У дзесяць вечара выправімся, у адзінаццаць будзем на месцы. Нават палавіць паспеем. А потым да Сашкі. Ён не п'е, дачакаецца.

Мікола прыйшоў на вакзал загадзя. У бушлаце, валёнках, з ледабурам у руках і туга напакаваным рукзаком за плячыма ён моцна адрозніваўся ад іншых пасажыраў, якія спяшаліся да святочнага стала. Яны з сваімі сумкамі і валізкамі, з якіх тырчалі рыльцы шампанскага, яму былі проста смешныя.

Мікола купіў два білеты, сеў на лаўку і разгарнуў учарашні «Спорт-экспрэс». За ўвесь дзень не было спакойнай хвіліны, хоць цяпер адпачне. Аднак нацешыцца спартыўнымі навінамі не ўдалося. Краем вока ён заўважыў дзве постаці. Адна з іх была Іванам, а вось побач крочыў, бліскаючы белымі зубамі, Абрам.

Абрам, а калі быць дакладным, Абрахам, быў прынцам ці то з Бурундзі, ці то з Руанды. У мясцовым універсітэце ён вучыўся на сацыёлага. Скончыўшы універсітэт, Абрам паехаў на радзіму чакаць сваёй чаргі, каб уссесціся на прастол. Усё-ткі ён быў прынц, хоць і не наследны. Але за пяць гадоў, якія ён правёў у краіне пахмурнага неба, чэзлых сасёнак і золкага паветра, Абрам прызвычаіўся да гультайства, няспешнасці і пафігізму. Гарэлка ўвечары і піва ранкам зрабілі сваю чорную справу. Абраму больш не хацелася на трон. Ён хацеў у інтэрнат да бялявых сяброўак і вясёлых сабутэльнікаў.

Абрам рашыў паступіць у аспірантуру універсітэта, і яго не спыніла нават жаніцьба з Дэліяй, чорнай прыгажуняй з багатай сям'і.

Ён вярнуўся ў Мінск з маладой жонкай і пасяліўся ў інтэрнаце для аспірантаў. Зноў па вечарах Абрам сядзеў з сябрамі за сталом, ранкам ішоў з імі ж у піўную, і Дэлія, заўстаўшыся сам-насам, выпраўлялася гуляць па горадзе.

Калі яна ішла па цэнтральным праспекце, на якім размяшчаліся асноўныя магазіны сталіцы, выразна чулася храбусценне шыйных пазванкоў. Ніводзін мужчына не мог устояць, каб не пaглядзець услед высокай, зграбнай, надзвычай прыгожай негрыцянцы. Яна шпацыравала па чужых каменнях, і здавалася, што гэта пантэра бегла па саванне, высочваючы чарговую ахвяру. А можа, гэта жырафіха меланхалічна плялася ад аднаго дрэва да другога, не заўважаючы з вышыні свайго росту драбязу, што сноўдала пад нагамі.

Ва ўсякім выпадку, Міколе яна здавалася менавіта пантэрай, у той час як Іван знаходзіў у ёй падабенства з жырафіхай.

Зараз Дэліі побач з Абрамам не было, і гэта яшчэ больш не спадабалася Міколе.

— Дзе ты яго ўзяў? — спытаў ён.

— У інтэрнаце! — здзівіўся той.

— Навошта?

— Новы год! — умяшаўся Абрам.

— Затое паглядзі, як я яго апрануў! — узяў прынца за плечы Іван і павярнуў на трыста шэсцьдзесят градусаў.

У чорным кажусе, валёнках і шапцы-вушанцы Абрам выглядаў жахліва. Ён быў падобны адначасова на дворніка, пудзіла і бамжа. Ва ўсякім выпадку, не меў нічога агульнага з універсітэцкім аспірантам і тым больш з асобай каралеўскай крыві.

— Што мы там з ім будзем рабіць? — працягваў дапытвацца Мікола.

— Лавіць рыбу.
— А калі замерзне?
— Я купіла дзве бутэлькі гарэлкі! — ганарліва сказаў прынц.
Абрам добра гаварыў па-руску, але на падпітку блытаў мужчынскі і жаночы роды.
— Усё зразумела, — сказаў Мікола, — напіліся. Зараз у міліцыю здам.
— Не трэба міліцыю, — паляпаў яго па плячы Абрам. — Цябе пасадзяць, а не прынца.
— Пайшлі па білет, — уздыхнуў Мікола.
— Зайцам паедзе, — запярэчыў Іван. — Прынц ён, зрэшты, ці не прынц?
Мікола моўчкі закінуў на плечы рукзак. Хацеў хлопец прыгод? Атрымай.

Яны паспяхова дабраліся да месца і сышлі з электрычкі. На небе сярод рэдкіх аблачын гуляў маладзік. Добра бачылася дарога, якая вяла да вадасховішча. Яно здавалася вялізнай белай пусткаю, што знікала ў цемры.
— Вялікі рыба тут ловіцца? — пацікавіўся Абрам.
— Вельмі вялікі, — буркнуў Мікола.
— Макрэль?
— Меч-рыба, — сказаў Іван. — «Стары і мора» Хемінгуэя чытаў?
— Хемінгуэй расіст, — заявіў Абрам. — Рускі пісьменнік лепш.
— Талстой?
— Усе лепш.
Яны ступілі на лёд, і літаратурны дыспут скончыўся. Першым, падсвечваючы сабе пад ногі ліхтаром, ішоў Мікола, за ім Абрам, апошнім Іван.
— Тут, — спыніўся Мікола. — Вунь Ждановічы свецяцца. Хата Сашкі якраз з гэтага канца. Вуліца Лугавая, дом два. Колькі часу?
— Адзінаццаць, — паглядзеў на гадзіннік Іван.
— Вазьмі бур і зрабі тры лункі. Я свечкі пастаўлю.
— Якія свечкі? — здзівіўся Іван.
— У слоіках, — растлумачыў Мікола. — Па-першае, усё відаць, па-другое, навагодняя ілюмінацыя. Абрам будзе наліваць.
— Дзе шклянкі? — узрадаваўся Абрам.
— Спачатку закінем вуды. Ёсць матыль і цеста. Я асабіста буду лавіць на мармышку.
Работа, як ні дзіўна, у начных рыбаловаў ішла весела. Іван хутка пракруціў у лёдзе тры дзіркі. Мікола начапіў на кручкі матыля. Абрам трымаў у руках бутэльку «Бярозавай».
Ветру амаль не было. Таямніча мігцелі за шклом агеньчыкі. Чароўна булькала гарэлка, якую наліваў у металічныя шклянкі Абрам.
— Ну, за стары год! — сказаў Мікола. — Не такі ўжо ён быў дрэнны.
— Добрая, — кіўнуў Абрам. — Я ажанілася!
— Дзе, дарэчы, твая жонка? — чокнуўся з ім Іван.
— Там, — паказаў кудысьці за спіну прынц.
Яны выпілі. Іван збегаў да сваёй лункі і вярнуўся з яршом.
— Бярэцца! — кінуў ён пад ногі сябрам рыбку.
— Макрэль? — дакрануўся да яе доўгім чорным пальцам Абрам.
Яны паспешліва выпілі яшчэ па шкляначцы і разышліся па сваіх лунках. Мікола адразу ж выцягнуў ярша, за ім другога.
— І ў мяне хвост! — пахваліўся Іван.
— Я заблыталася! — паскардзіўся Абрам.
Аднак на дапамогу яму ніхто не спяшаўся.

— Мужыкі, Новы год! — раптам закрычаў Іван. — Дзве хвіліны засталося!

Яны зноў збегліся да скрыні, на якой ганарліва адсвечвала бокам бутэлька гарэлкі.

— За Новы год! — аб'явіў Мікола. — Хай будзе не горшы за стары.

— Лепшы! — паправіў яго Іван.

— У гэтым годзе аспірантура скончыўся, — сумна сказаў Абрам. — Я тут заўсёды хачу лавіць макрэль.

— Заўсёды не атрымаецца, — паклаў у рот акрайчык каўбасы Мікола. — Хто краінай будзе правіць?

— У мяне ёсць дзве брат.

Абрам кульнуў чарачку і кракгануў.

— Наш чалавек, — сказаў Іван.

Яны зноў разышліся па лунках.

— Я замерзла, — раптам аб'явіў Абрам. — Лёд вельмі халодная. Макрэль таксама змерз і пайшоў.

— Што будзем рабіць? — спытаў Міколу Іван.

Той зняў з кручка чарговага ярша і нічога не сказаў.

— Бачыш агні? — паказаў рукой Іван. — Гэта пасёлак. Там жыве Сашка. Ён нас чакае. Лугавая, дом два. Чытаць па-руску ўмееш?

— Я вельмі добра чытаю па-руску, — пакрыўджана сказаў Абрам.

Нават не зматаўшы вуду, ён патэпаў у пасёлак.

Дабраўшыся да першых хат, Абрам доўга кружляў, шукаючы вуліцу Лугавую. Нарэшце яму на вочы трапілася шыльда з надпісам: «Вуліца Лугавая, д. 2-а». Не звярнуўшы ўвагі на літару «а», Абрам адчыніў весніцы і накіраваўся да хаты, у якой свяцілася адно акно. У інтэрнаце для аспірантаў ён адчыняў без стуку любыя дзверы, і ўсюды яму радаваліся. Рускія, як і беларусы, былі надзвычай гасцінныя людзі, Абрам да гэтага прызвычаіўся.

З цяжкасцю намацаўшы ў цёмных сенцах дзверы, ён рашуча штурхнуў іх і зайшоў у цьмяна асвечаны пакой.

Ля печы стаяла пажылая жанчына з чапялой у руках.

— Добры дзень! — ветліва сказаў Абрам. — Я прыйшла да доктара Сашкі.

Жанчына падалася назад, затым паражагналася на абраз у куце, размахнулая і трахнула прынца чапялой па галаве. У Абрама з вачэй пырснулі іскры. Ён паваліўся на падлогу, як сноп.

Пасля таго, як Абрам пайшоў, сябры лавілі нядоўга. Адна за адной патухлі свечкі. Скончылася гарэлка. Яршы таксама перасталі брацца.

— У цябе колькі хвастоў? — спытаў Іван.

— Пяць.

— У мяне таксама пяць.

На самой справе ён злавіў чатыры яршы.

Яны хутка зматалі вуды, сабралі слоікі з агаркамі свечак і пайшлі да Сашкі. Мікола на хаду расціраў рукой замерзлы нос.

Моцна тупаючы валёнкамі, яны ўваліліся ў цёплую хату. Ярка гарэла святло. У куце стаяла ўбраная елка. Галава Сашкі тырчала з адчыненага падмосця пасярэдзіне пакоя.

— Сапраўдны нейрахірург, — засмяяўся Мікола. — Куды рукі-ногі падзеў?

Галава нічога не сказала і знікла ў падмосці.

— Прымай буталь! — даляцеў з яго голас Сашкі.

Мікола з Іванам асцярожна прынялі буталь і паставілі ў цэнтры святочнага стала. Ён быў выдатны: сала, хатняя каўбаса, сальцісон. У місцы дымілася толькі што звараная бульба.

— А дзе Абрам? — спытаў Іван. — Змерзлі, разумееш, а наліць няма каму.

— Няма тут ніякага Абрама, — зноў паказалася ў дзірцы галава Сашкі. — Агуркі з памідорамі даставаць?

— А як жа, — сказаў Мікола.

— Пачакай, — спыніў яго Іван, — дзе Абрам?

Яны ўзялі з рук Сашкі па слоіку памідораў і агуркоў і сгрудзіліся каля стала. Выходзіць з хаты і шукаць прынца нікому не хацелася.

Раптам нехта моцна пастукаў у шыбіну.

— Баба Маня? — адсунуў фіранку гаспадар. — Заходзьце!

Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшлі спачатку жанчына ў накінутым проста на халат паліто, за ёй Абрам з перавязанай галавой. Бялюткі бінт на яго лбе глядзеўся вусцішна.

— Аляксандр Міхайлавіч, чорт падбіў! — схапіла Сашку за руку жанчына. — Сабралася спаць, разбіла вуглі ў печы, закрыла юшку — і тут ён уваходзіць! Чорны, як галаўня!

— Хто ўваходзіць? — спытаў Сашка.

— Дык я думала — нячысцік! Якраз па тэлевізары паказвалі... Пералжагналася на святога Міколу, схапіла чапялу і па галаве. Потым прыгледзелася — кроў... А ў іх жа крыві не бывае, самі знаеце. Бацюхны, думаю, чалавека забіла! Тут ён пра вас загаварыў. Лугавая, дом два, доктар Сашка. Чыста на нашай мове! Я перавязала, як магла, і да вас...

Абрам, хістаючыся, падышоў да стала і наліў з адкаркаванай бутэлькі ў чарку гарэлку.

— Лугавая, дом два, — сказаў ён. — Новы год!

Усе зарагаталі. Не смяялася адна баба Маня.

— Адкуль жа мне знаць, што тут ходзяць людзі, ваксай намазаныя? — мармытала яна. — У нас такіх ніколі не было...

— Ну, за макрэль! — падняў чарку Мікола.

— Добры Новы год атрымаўся, — згадзіўся Іван.

— Жонка спытае, дзе была? — паглядзеў на іх Абрам. — Я скажу, Лугавая, дом два. Макрэль лавіла.

— І злавіла, — хмыкнуў доктар Сашка.

У куце пакоя, прыцiснуўшы вушы, распраўляўся з яршамі гаспадарскі кот. За акном грымнуў салют. Людзі адзначалі наступленне Новага года.





Уладзімір КАРЫЗНА

# «ТЫ ЗАЎСЁДЫ З НАДЗЕЯЙ ЖЫВЕШ...»

## АДЫСЕЯ

Там, дзе мяцеліца хадзіла,
Цяпер вясна чаруе слых,
І зноў развесіла Радзіма
Званочкі жаўранкаў сваіх.

Я ад іх музыкі святлею!
І з лісцем, што — нібы вясло,
Я пачынаю адысею
Усім нязлагадам назло.

## КАЗАЧНАЯ СКРЫПКА

Не думайце, што проста напісаць
Вяснянку, каб адразу падхапілі
Яе і пчолы, і вясёлы сад,
Начной маланкі трапяткія крылы.

Як з глыбіні папросіцца радок,
Тады душа — не залатая рыбка,
А казачная вогненная скрыпка,
Рука — як чулы веснавы смычок.

---

***Карызна Уладзімір Іванавіч*** *нарадзіўся 25 мая 1938 года ў вёсцы Закружка Мінскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1961). Настаўнічаў на Браслаўшчыне, працаваў на Беларускім радыё, у часопісе «Полымя», у выдавецтве «Юнацтва», у часопісе «Крыніца».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Край мой сінявокі», «Жураўліны досвітак», «Святло ліўня», «Цеплыня», «Цішыня баразны», «Музыка ў свеце» і інш., кніг для дзяцей «На сяле ў бабулі», «Кыонг і яго сябры», «Зямля — два паўшар'і», «Мір і сонейка — для ўсіх» і інш, чатырох зборнікаў песень з нотамі. Пераклаў многія вершы паэтаў з былых саюзных рэспублік на родную мову.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996) і прэміі прафсаюзаў БССР (1991).*

## КОЖНАМУ СВАЁ

Я з тых месц,
Дзе не кожнае слова прывецяць,
Рып ботаў калядных,
Ці з мёдам кілішак,
Або крык,
Калі ён без адчаю...
Ды нават скупы
І нялюдскі патомак
Не з лепшага роду
Шырока расчыніць тут дзверы
Перад
Гармонікам
Здатным.

## СВЯТАЯ

Калісь з партызанскай купіны
Вяртала дамоў шаша.
Насы ў нас былі аблуплены,
Але спявала душа.

Мы пекла хапілі так многа,
Набраліся столькі трывог,
Што і не верылі ў Бога,
Які нам зусім не памог...

А памяць заўсёды згадае
І сэрцам і лёсам той час:
Мама... мама — святая,
Яна ўратавала нас!

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА З МАКСІМАМ ТАНКАМ

Працягваю блукаць
Па сваіх снах,
Па замініраваных сцежках
Успамінаў.

*Максім Танк*

Ішоў я да яго ў палату,
А заявіўся ў келлю,
Зацесную для таленту такога,
Які сваіх людзей з усяго свету
Душою чулай, як вясна,
Збірае.

Адразу ён мяне
І не прыкмеціў,
Але здзівіў ягоны від пакутны.
Па снах сваіх, —
Падумаў я, —
Блукае,
Па замініраваных сцежках
Успамінаў.

Блакнот,
Як поле
Ля бацькоўскай хаты,
Рупліва засявае
Ураджаем...

Ды ўбачыў ён мяне —
Захваляваўся:
— Ну вось апошні свой загон
Канчаю. —

Рукой перад сабой
Пачаў рабіць кругі ён. —
Ужо няма з маіх сяброў нікога,
Дык, знаць, пара
І мне ўжо закругляцца.

— Вы вершамі
Душу сабе
Не рвіце,
Вы адпачніце:
Тут жа не працуюць.
— Я не магу...
Калі пішу я вершы,
Дык болю ў сэрцы змучаным не чую...

Слязу не выцер я —
Зляцела ў голас,
Я вочы засланіў свае
Рукамі —
Здалося мне,
Што паказаўся Колас
І Багдановіч сумны
З васількамі...

## ІСЦІНА

Рака не мялее вякамі —
Пятляе,
шукае,
каб жыць.
Вады ў ёй заўжды
З берагамі:
Яна ж па крынічках бяжыць.

Не высушыць рэчку ніколі!
Але каб раку загубіць,
Яе трэба д'ябальскай волі
Спраміць,
Адарваць ад крыніц...

## ЗАВІРУХА

Завіруха лютуе
Крыкам,
Танкамі смерці, —
Вымятае
Радзіму
Святую,
Ды толькі не з сэрца!

*1993*

## ПІЛІПАЎСКІ ВОЎК

Драпежнік,
І выдае яго лыч, —
Піліпаўскі воўк ён мацёры:
Шамкае —
Быццам задзьмухвае зніч,
З ночы здзірае зоры.

Добрую справу
Нельга клыкамі рабіць,
Ненавісная думка
Не стане любімай...
Толькі ведай, драпежнік,
Ніколі табе
Не забіць
Тое,
Што ў сэрцы
Спрадвек
Прарастае Радзімай!

*1993*

## БЫЛОМУ КАЛЕГУ

Гаворыш:
«А што змянілася?!»
Не даказаць табе,
Хоць біся ў сцяну
Ілбом.
Ды зямля твая
Перакулілася:
Ты быў чалавекам,
А стаў у даляра рабом.

*1993*

## ДАРАГОЕ СВЯТЛО

Роднае слова,
Тваё святло
На Гербе,
Сцягу
І ў Гімне.
Доляй тваёю
Яно ўзышло,
Таму і ніколі
Не згіне.

## У ВЯКАХ

Беларускі
Мой ціхі
Народ,
Ты ў вяках
Свой цяжкі
Камень коціш.
Толькі выара сонца
Нарог,
Як зноў лёсам
На камень наскочыш.
Прадзед, дзед,
Бацька, сын
Праз вякі
Салаўіны свой дзень здабывалі, —
Рэвалюцый віхуры,
Клыкі
Налятали,
Яго раздзіралі...
Ты заўсёды
З надзеяй жывеш,
Што жыць будзеш
Калі-небудзь лепш.

*1993*

## АЛЬТЭРНАТЫВІСТЫ

Трывожуся:
песня,
Якая была нам —
як хлеб і паветра, —
Сягоння ўжо — «рэтра».

Так, можа, калі-небудзь
Зветраным ранкам
У «рэтра» загоняць
І Багдановіча з Танкам?

А там, глядзіш, днём
Ці, магчыма, і нанач
Зняслаўляць і Белавежу,
І Нарач...

Шумяць, не сціхаюць
Пад рокі і твісты
На роднай зямельцы
Альтэрнатывісты.

## У БАЛЬНІЦЫ

Хоць прыся ў ноч-туман,
А то — табе канец,
Бо ў дзеда нос — буян,
Храпе, як жарабец.

А днём блатнюга-хват
Сустрэнецца якраз —
І наш паганіць лад,
А заадно і нас...

Мне б уцячы туды,
Дзе кветкі, а не ртуць,
Але мае сады
Далёка ўжо цвітуць.

***31.X.2005***

## СЛЯЗА

Калі ўдарам ляза
Ў сэрца самае
Мама навекі са мной
Развіталася, —
Налілася і ўпала
Такая цяжкая сляза —
Ледзь зямля не сарвалася.

***1991***

* * *

Не зайздрошчу вароне,
Што каркае,
А змяі, —
што гнюсліва
звіваецца,
Слімаку, —
што ў даспехі хаваецца,

Ды і золата
Чэсці не вартае...
Бо ўсё імі
Пагана здабытае
Пылам вечнасці
Будзе прыбітае...

## СОН

Прыснілася мама
з дарогі
Далёкага
Страшнага Сцікса:
Вочы —
дзве ночы
трывогі,
І сэрца
Як бы і не сціхла.

Сляза
За слязою
Находзіць...
— Сыночак,
душа ўсё пытае:
Якое ж у вас там
Стагоддзе,
Што гэтак
зямельку
кідае?

*2002*

## СУМНЕННЕ

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, —
Яны ж мне каменні давалі.

*Максім Багдановіч*

Не маю грошай на патрэбу,
Бо я мужык, дурны мужык.

*Янка Купала*

Ці нам навука тая
Не дапала,
Што ў сэрцы ўсё трывожней
І гарчэй?
А зорка
Багдановіча-Купалы
З гадамі разгараецца
Ярчэй!

## АСЕННІ ДОЖДЖ

Цёмны дождж асенні
Слізгае па вокнах,
Па пустой кішэні —
Аж душа намокла.

## РЫНАК

Хоць снежань,
Хоць студзень —
не зімна.
Марозу і снегу —
няма.

Жывём — і як быццам не дзіўна,
Што, бра́ткі,
Прапала зіма.

Трава —
як вясной —
Зелянее,
Лісткі
з дрэў выманьвае плюс.
А вырасце што?
Што паспее?
Што будзе збіраць беларус?

## ПРА МОДУ

Некалі была мода
На добрую песню,
На цнатлівасць дзявочую,
На подзвіг геройскі —
І таму нас і вораг ніякі
Вайной не скруціў.
А сягоння
Так модна камусьці
Выціраць свае клыпы
Аб родную песню,
Аб зямельку,
Чысцейшую ў свеце,
Аб славу бацькоўскую, —
І гэта называецца
Дэмакратыяй.

## ТЫ ТАКАЯ АДНА

*Песня*

Наша маці-Зямля,
Дарагая, навек найсвятая,
Твой асенні лісток,
Як вясны ручаёк,
Ціхай ласкай у сэрцы світае.

Ты жывою вадой
Са сваёй поіш вечнай крыніцы,
Не крыўдуеш на тых,
Неразумных такіх,
Ад каго табе ночкай не спіцца.

Дарагая зямля, я малюся на ясныя зоры,
Што свяцілі табе і свяціць будуць, знаю, павек.
Напаю я любоўю твае і лясы, і азёры
І слязамі разгладжу маршчыны загубленых рэк.

Ты такая адна,
Што на шчасце падорана людзям,
Ні табе каб зманіць,
Ні цябе замяніць,
Бо другой ужо гэткай не будзе.

Неразумным даруй,
Прытулі нас да сэрца з надзеяй
І не дай нам пажаць
Буры страшны ўраджай:
Хай пажне яго той, хто пасеяў.







Іван КАНАНОВІЧ

# ВЯРТАННЕ

*Апавяданне*

## I

Алена прачнулася ад стогну хворага Ігната. Уначы ён дрэнна спаў, варочаўся, браў лекі, якія яна заўсёды ставіла на невялічкі столік пры ложку. Занепакоена зірнуўшы на бледны, нездаровы твар мужа, рухава, як птушка, выпырхнула з-пад цёплай коўдры, папраўіла падушку і пачала апранацца.

У вокнах ледзь прыкметна сінеў жнівеньскі світанак, тонкай рэдзенькай плёнкай слаўся па выгане перад хатай белы туман. Можна было і не спяшацца, паляжаць хвілін колькі, пачакаць пакуль добра развіднее, часу хопіць управіцца з гаспадаркай — выхадны ўсё ж. Ды прыспешвалі клопаты.

Сёння ў яе імяніны — шэсцьдзесят гадоў. Збяруцца госці, прыедуць з горада дзеці — трэба паспець прыбрацца: выпаліць у печы, напячы пірагоў, наварыць, насмажыць, каб усяго было ўдосталь.

Ідучы да хлява даіць карову, Алена позіркам акінула ў чыстае неба з рэдкімі зорамі, шэры прасцяг поля, дзе нядаўна пасеялі азіміну, падумала з надзеяй: «От каб дожджык прайшоў». Яшчэ нядаўна, як жалі збажыну, яна штодзень слухала зводку надвор'я, непакоілася, каб не заліло, не замачыла. Цяпер у брыгадзе ўсё зроблена: сена — у стагах, збажына — у свірнах, звезена салома. Пачалі сеяць азімыя, і патрэбен быў дождж. На дождж не паказвала. Пакуль даіла карову, вялізным вогненным колам выкацілася з-за лесу сонца, злізала ранішнюю смугу. Неба над Баркамі, як здалося Алене, засвяцілася нейкім надзвычай урачыстым блакітам.

Яшчэ звечара Ігнат з дзедам Ахрэмам, які жыў па суседстве, змайстравалі з дошак лавы, сталы заслалі абрусамі, і хата цяпер выглядала па-святочнаму прыбранай.

---

***Кананові́ч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 10 мая 1938 года ў вёсцы Кукавічы Капыльскага раёна.*

*У 1968 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў слесарам на Мінскім аўтазаводзе, супрацоўнікам газеты «Аўтазаводзец», рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг прозы «Заводскія світанкі», «Белы чыгун», «Цёплы камень», «Асобая зона», «Чорныя цені».*

Увайшоў дзед Ахрэм.

— Добрай ранічкі, Алена, віншую цябе з днём нараджэння, — дзед дрыжачымі ад хвалявання, сухенькімі зморшчанымі рукамі разгарнуў газету, падаў ёй ярка-чырвоны адрэз матэрыі: — Насі здаровенькая.

Алена пацалавала старога. Той засаромеўся, як дзіця, сабраўся ісці.

— Пачакайце трошкі, паснедаем разам, — спыніла яго Алена, — ды будзем на сталы збіраць.

— Не спяшайцеся, дзед, — падаў сціпшаны хваравіты голас Аленін муж Ігнат, які расстаўляў гарэлку, — ведаеце, які з мяне памочнік.

Дзед узяўся памагаць.

Пасля абеду, як выгналі ў поле кароў, пачалі збірацца госці. Ішлі суседзі, сваякі, проста аднавяскоўцы. Адны заходзілі ў хату з двара, цераз расчыненую браму, іншыя, для большай важнасці, кіраваліся адразу з выгану ў прасторную светлую веранду. У сенях чулася гамонка: Алене ўручалі падарункі, віншавалі.

Гаспадыня радасна мітусілася сярод гасцей, запрашала ў хату, дзе сталы ламаліся ад пітва і закускі. Госці заходзіць у хату не спяшаліся, гаманілі на двары, у сенях, бавілі час — ведалі, што не прыехалі яшчэ з горада дочкі з зяцямі.

Да Алены на імяніны сабралася ўся вёска. Як тут было не запрасіць людзей. Яна — брыгадзір, працуе з людзьмі столькі гадоў разам — няхай павесяляцца: хопіць на ўсіх і гарэлкі, і закускі — нагатавалі шмат.

Як Ігнат занядужаў і пакінуў брыгадзірства, людзі з Баркоў пайшлі ў праўленне, прасілі старшыню: «Не прысылай нам нікога — Алену стаў». Ведалі, што яна заўсёды старалася, любіла парадак, нікога не крыўдзіла. Некалі, яшчэ перад вайной, разам з Ігнатам вучылася ў горадзе на агранамічных курсах. Там і пажаніліся. Як прыехалі ў вёску, Ігната паставілі брыгадзірам у паляводчай брыгадзе, яе — у агародняй. З таго часу аднавяскоўцы хіляцца да іх, паважаюць.

Апошнія гады Ігнат прыкметна паслабеў, часта хварэе, і Алена за яго вяла брыгадзірства — упраўлялася і ў брыгадзе, і дома.

Хата іх стаіць у Барках пры выгане — новая, прасторная, зрубленая ў гладкі вугал. Упоперак да яе Ігнат прыбудаваў вялікую кухню, паставіў кацёл, правёў ацяпленне, і зімой не ведаюць гора. У хаце, у сенях нарабілі перагародак: па выхадных, як з'едуцца дзеці, кожнаму асобны пакой.

Ігнат ужо другі год, як пакінуў брыгадзірства, топчацца пры доме, а большасць сядзіць на лаўцы ў чыстай накрухмаленай кашулі, адпрасаваных штанах, адпачывае, як курортнік. Выглядае ён хваравіта: твар спалатнелы, худы, вочы запалыя, позірк сумны, паніклы. За яго ўпраўляецца Алена.

Па выхадных, як прыязджалі з горада дочкі з зяцямі, Ігнат ажываў, рабіўся больш рухавы, вясёлы, забываў пра хваробу: з вялікай асцярожнасцю вынімаў са старога, абшарпанага футляра баян, куплены даўно, яшчэ перад вайной, які Алена нейкім чынам уратавала ад пажару, як немцы палілі Баркі. Ігнат вельмі ашчаджаў баян, ніколі не даваў у чужыя рукі. Мо таму ён і захаваўся — галасісты, з перламутравымі планкамі, абведзенымі чырвонымі меднымі абадкамі, быццам толькі з магазіна. Іграў гаспадар хораша, з густам, асабліва даўнейшыя танцы — вальсы, кракавякі, полькі. А колькі вяселляў згулялі ў Барках і суседніх вёсках пад гэты баян. З вяселляў вяртаўся Ігнат з мазалямі на пальцах — іграў да знямогі. Ён часта ўспамінае тыя вяселлі.

Пад вечар каля хаты, як у свята, гучыць музыка, збіраецца моладзь, прыходзяць і пажылыя — заўсёды хораша, весела. Ігнат і цяпер добра іграе, але не мае ўжо у руках ранейшай моцы — хутка стамляецца.

Памятае Алена яго ў танцы — азартнага, прыгожага, вёрткага. Выходзячы ў круг, ён фарсіста ссоўваў гармонікам галянішчы хромавых ботаў і адбіваў «яблычка». Спрытны быў Ігнат некалі да танцаў, хваткі да работы, чулы да яе і аднавяскоўцаў.

Алена ўжо каторы раз выбягае на выган, глядзіць на гасцінец — не можа дачакацца дачок. Прайшлі паўз хату дзяўчаты, спыталі:

— Яшчэ не прыехалі вашы?

— Не, дзеткі, яшчэ, — ласкава адказвае яна і хвалюецца: «Нешта ж і старшыні няма — абяцаў прыехаць».

Нарэшце на выгане гучаць працяглыя сігналы. У Алены радасна затрапятала сэрца. Выбегла з хаты, за ёю, накульгваючы, спяшаецца Ігнат. Як гарох, высыпаліся з машын унукі і навыперадкі кінуліся да бабулі. Паважна ідуць дочкі з хатулямі, пакункамі — нясуць падарункі, гасцінцы. Па чарзе цалуюць. Яе акружаюць зяці з кветкамі ў тонкім празрыстым, як паветра, падарачным цэлафане.

Алене радасна, што пашэнціла на зяцёў — старанныя, працавітыя. Як прыедуць на выхадныя, не пасядзяць. Ведаюць: Ігнат немагутны, хворы, у гаспадарцы не работнік.

Гэтым летам адпачывалі тут, у Барках. Сямейка сабралася немалая. Алена варыла, смажыла, увіхалася то каля пліты, то каля печы. Як сядуць за стол, толькі паспявай падаваць.

За адпачынак перасыпалі хлеў, зрабілі веранду, накасілі сена. Зяці жартавалі: «Давай нам, брыгадзір, работу».

Як парабілі ўсё па гаспадарцы, Ігнат прывёз машыну сілікатных блокаў, узяліся ляпіць гараж. Алена падносіла ім то халодны з пограба, настоены на пражаным ячмені і дубовай кары, бярозавік, то кіслае малако. У клопатах непрыкметна праляцеў той месяц...

Імянінніца, трымаючы пукі кветак, падарункі, з дочкамі і ўнукамі скіравалася ў хату, а Ігнат з зяцямі застаўся пры машынах.

— Прыехалі, дзякаваць Богу, — прывітаўшыся, далучыўся да мужчын дзед Ахрэм — сухі, зморшчаны і ссівелы як лунь і па-гаспадарску ўзяўся зачыняць гараж. Гэта яго любімы занятак. Як толькі да Алены госці — дзед ужо тут, напагатове. Жыве адзін — баба даўно памерла, а трох сыноў ён і цяпер з вайны чакае. Няма яму, акрамя Алены, да каго прыхіліцца. Дзед у Аленінай хаце заўсёды ў пашане, хоць і не сваяк. Без яго ні адно застолле не абыходзіцца. Алена не забыла, памятае дзедаву дабрату, ласку. У вайну, як Ігнат на фронце быў, дзед памагаў ёй чым толькі мог — араў, сеяў, малаціў. За гэта і паважалі яго, любілі і шанавалі як свайго.

Каля хаты прыпынілася машына. З яе вылез невысокага росту мужчына з абветраным загарэлым тварам, з лагодным мяккім позіркам вясёлых блакітных вачэй. Прыехаў старшыня. Алена ветліва сустрэла яго, павяла ў хату.

Заўважыўшы старшыню, застолле прыціхла. Госця пасадзілі побач з імянінніцай. Старшыня ўстаў, асцярожна расчыніў невялічкую чырвоную каробачку, у якой зіхацеў ордэн, сказаў урачыста, узнёсла:

— Дарагая Алена Іванаўна, вам споўнілася шэсцьдзесят гадоў. Многа сілы і здароўя аддалі вы калгасу, многа гора перажылі ў вайну і разруху — з папялішчаў падымалі Баркі. За гэты час далёка сягнула наша гаспадарка. Забылі мы назаўсёды нястачу, нішчымніцу — усяго ў нас цяпер удосталь, жывём багата, заможна. І гэты дастатак ствараюць такія сумленныя і шчырыя людзі, як вы, Алена Іванаўна. Радзіма высока ацаніла вашу працу. — Голас старшыні пацішэў, завагаўся. Пэўна, тыя словы, якія ён адрасаваў гаспадыні і застоллю, кранулі яго самога, расчулілі. І ўжо не маючы моцы стрымаць

хвалявання, працягваў: — Дазвольце мне ўручыць нашай імянінніцы ордэн. — Ён пацалаваў Алену і, прышпіліўшы ордэн, дадаў: — Пажадаем нашаму лепшаму брыгадзіру новых, яшчэ большых поспехаў.

Агнём палыхнула Алене ў твар радасць, і слёзы ручаём хлынулі з вачэй. Выціраючы іх, яна спрабавала нешта сказаць — ад нахлынуўшых пачуццяў прапаў голас; толькі моцна грукала сэрца і звінела ў скронях. Шумнае, гаманкое застолле зноў вярнула яе ў рэальнасць:

— Гавары, Алена, не маўчы — сёння тваё свята.

І яна, змахнуўшы слязу, усміхнулася сваёй шчырай, лагоднай усмешкай:

— Дзякуй вам, старшыня, за віншаванні, за ордэн, а вам, госці, што сабраліся дружна. Прашу ўсіх выпіць.

Алена стаіць між сталоў у ладна скроенай шаўковай сукенцы, купленай прадбачлівымі дочкамі яшчэ з месяц назад, з высокай прыгожай прычоскай, зробленай у райцэнтры, куды спецыяльна з'ездзіла, і запрашае гасцей. Яна, як лічылі баркоўцы, адносілася да той катэгорыі жанчын, якіх не старылі ні гады, ні клопаты, ні работа. У меру статная, з поўнымі, да чарнаты загарэлымі рукамі, выглядала маладзей сваіх гадоў, не страціла і цяпер той прыгажосці, якой надзяліла яе прырода з маленства.

Старшыня незадоўга паехаў, і ў цэнтры застолля засталіся Алена з Ігнатам. Каля іх сядзела малодшая дачка Аксана, як дзве кроплі вады падобная на Алену, — такая ж смуглявая, з доўгімі чорнымі, як грачынае крыло, валасамі ў буйныя прыгожыя завіткі. Яна вучыцца на артыстку, і маці гэтым вельмі ганарыцца. Аксанін муж, якога завуць Рыгор, невысокага росту, каржакаваты мужчына, гадоў на пяць за яе старэйшы, з кароткай бародкай і глыбокімі залысінамі. Рыгор працуе мастаком. Гэтым летам за адпачынак намаляваў Аленін і Ігнатаў партрэт, які вісіць у пазалочанай рамцы на відным месцы, і госці з цікавасцю разглядаюць яго.

Абслугоўваць гасцей засталіся старэйшыя дочкі — Люба і Люся са сваімі мужамі. Старэйшая Люба светлавалосая, з поўным чыстым тварам і заўсёды сумнымі блакітнымі вачыма падобна на бацьку. Побач муж Іван — два метры ўвысь і метр ушыркі. Белая кашуля на ім распіраецца, здаецца, разляціцца па швах. Абое працуюць у ліцейным цэху: Люба шпянёўшчыцай, Іван сталяварам. Зарабляюць добра, даўно купілі машыну і пасля цяжкай работы ў гарачым цэху кожны тыдзень прыязджаюць у Баркі, як на дачу.

Сярэдняя Люся невысокага росту, худзенькая, з дробным дзіцячым тварам і жывымі цёмна-шэрымі, як у Алены, вачыма, рухава падносіла закуску, збірала посуд, запрашала гасцей. З мужам Ігарам Люся, як брат і сястра. Пажаніліся яшчэ ў інстытуце. Працуюць на заводзе інжынерамі. Стоячы перад гасцямі, Люсін муж увесь час разгублена папраўляе ў пазалочанай аправе акуляры, пэўна, саромеецца.

За сталом гучаць тосты, госці п'юць за здароўе Алены, Ігната, іх дзяцей, унукаў, крычаць «горка!», гамоняць. Гамонка часам змаўкае, і чуюцца песні — даўнейшыя, большасцю ваенныя. Яны гучаць, як гімн тым, хто не вярнуўся ў Баркі з фронту.

Праз гадзін колькі стомленыя, разамлелыя ад застолля і гарачыні госці высыпаюць на веранду, выходзяць у сад, дзе цень і халадок.

Пакуль госці бавілі час, прыйшлі з пашы каровы. Алена накінула халат, узяла даёнку і пакіравалася ў хлеў. За ёю следам, з кубкамі напагатове, пацурылі строем унукі. Яна заўважыла, як старэйшы зяць узяўся настройваць магнітафон, прыладжваючы доўгі провад; Ігнат вынес да лаўкі баян.

Хутка пачнуцца танцы, і Алене вельмі хацелася не прапусціць скокаў сваёй малодшай дачкі, якая пабегла ў камору прыбірацца ў цыганскае ўбран-

не — шырокую, сабраную у вялізныя фальбоны, квяцістую, ледзь не да пят сукенку.

Яна скоранька падаіла карову, напаіла ўнукаў сырадоем і пасяшала да танцораў. У сенях выразна чуецца жартаўлівы старэчы голас падвыпіўшага дзеда Ахрэма:

— Завадзі шарманку!

Іван, старэйшы Аленін зяць, пачуўшы дзедаў загад, уключыў магнітафон. З рэпрадуктараў, развешаных на плоце, вырваліся адрывістыя гітарныя акорды знаёмай цыганскай мелодыі.

Ад нечаканасці Алена аж прыпынілася: з высокага ганка ў цыганскім убранні спускалася Аксана, накінуўшы паверх сукенкі квяцістую кашміроўку з чорнымі шаўковымі фрэнзлямі. Рашуча ступіла ў круг, прытупнула маленькай ножкай, ледзь прыкметным адрывістым рухам галавы раскінула веерам доўгія валасы, якія ў святле ліхтара здаваліся варанёна-сінімі, і закружылася віхурай-мяцеліцай. Фальбоны на сукенцы, надзьмутай паветрам, выпрасталіся, зліліся ў суцэльны букет кветак.

Алене было відаць, як госці, стоўпіўшыся шчыльным колам, з цікавасцю падступалі ўсё бліжэй да танцоркі. Рукі дачкі то гнутка і плаўна, як крылы птушкі, перабіралі паветра, і, здавалася, праз хвіліну-другую яна ўзляціць і знікне ў вячэрнім змроку, то павольнымі хвалямі ападалі і заміралі долу. Казачна прыгожыя густыя доўгія валасы ссыпаліся са смуглявай загарэлай спіны на твар і на імгненне захілілі агністы, узбуджаны позірк яе вачэй, поўныя грудзі, ярка-чырвоныя ружы на чорным фоне сукенкі. Рэзкім кіўком яна зноў адкінула іх на спіну і нячутна, як на хвалях, паплыла па крузе; гнуткае цела то плаўна выгіналася лазінай, то спружыніста пульсавала.

Стоячы на высокім ганку, Алена добра бачыла танец сваёй дачкі. Траха не кожны прыезд у Баркі выконвала на пацеху бацькам і аднавяскоўцам гэты танец Аксана. Сёння ён Алене падабаўся больш чым калі. Пазіраючы на дачку, імгненне ўявіла сябе маладой, такой жа падкай да танцаў, і, здавалася, быццам не Аксана кружылася ў цыганскім танцы, а яна, Алена.

Глядзела, радавалася, цешылася сваёй малодшай крывінкай, пакуль не ўспыхнулі ў памяці яе папярэднія прыезды. Ні разу не абыходзілася без сваркі. І прычыну кожнага разу знойдзе. За тое, што пазычыла Івану грошай на машыну — цэлае лета сварылася з бацькамі і дакарала сястру. Перад ад'ездам абавязкова надзьмецца, як мыш на крупы, натапырыць на яе, Алену, незадаволеныя губы, быццам ёй меншую, чым сёстрам, далі ссабойку. Глядзела Алена на сваю адмысловую танцорку і непакоілася, каб яна не ўчыніла вэрхалу сёння і не сапсавала свята. Была ў душы спадзяванка, што хоць у гэты дзень усё будзе мірна.

Гулянка разгаралася. Зайгралі факстрот, і Алена заўважыла, як жвава і пацешна мітусілася ў крузе моладзь, танцавалі на старасвецкі манер пажылыя. Пастаяла, пацешылася і пайшла прыбіраць сталы, гатаваць закуску — пара была зноў запрашаць гасцей.

Заўважыўшы, што маці пайшла ў хату, падаліся за ёю старэйшыя дочкі. Алена прыпынілася, сказала:

— Давайце, дзеткі, стол прыбіраць.

— Няхай бы, мама, пагулялі, на людзей паглядзелі — сёння ж ваша свята, — азваўся Іван, ідучы следам.

— Нагуляемся — часу хопіць, — усміхнулася радасна Алена. — Чуеце, як наш бацька хораша іграе.

Толькі ўзяліся за работу, як не па-старэчы рухава прыбег дзед Ахрэм, прашаптаў спалатнелымі вуснамі:

— Ігнату кепска.

Ён ухапіў вады, валяр'янку і кінуўся на двор, за ім — Алена з дочкамі.

Ігнат з пакутлівым бледным тварам сядзеў на лаўцы, квола прытуліўшыся да плота: галава схілена набок, вочы заплюшчаны, рукі вяла абвіслі. Каля ног з расхлябешчаным мехам валяўся на траве баян.

— Што з табой, Ігнатка? — залямантавала ў роспачы Алена і ўзялася паіць лекамі.

— Сэрца нешта прыхапіла, — пасля працяглага маўчання падаў ён нарэшце сцішаны, зняможаны голас, — пайду, прылягу. — Узяўся за плот, памкнуўся ўстаць, але аслабелыя рукі звярэджана апусціліся.

Зяці падхапілі яго, асцярожна павялі ў сені. Каля хворага разгублена мітусіўся дзед Ахрэм.

Спачувальна бедавалі госці: «Гэта ж трэба так раптоўна захварэць чалавеку. Весяліўся, іграў хораша — і на табе».

Хвіліны праз дзве з сяней выйшла Алена, сказала даўкім ад слёз голасам:

— Не разыходзьцеся, госцікі, прашу, калі ласка, усіх за стол.

Каля яе гуртам сабралася моладзь:

— А нам можна патанцаваць?

— Танцуйце, весяліцеся, колькі хочаце.

Алена з дочкамі рупілася каля гасцей, разносіла закуску, падавала гарэлку. У хаце гаманілі, весяліліся, на выгане танцавала моладзь. Яна сюд-тут выбягала ў другі канец хаты, дзе ў невялічкай бакоўцы ляжаў Ігнат — схуднелы, бледны, як без крыві, падносіла то ваду, то лекі. Ён нічога не браў, моўчкі, не маргаючы, глядзеў у столь, быццам усё, што рабілася ў хаце, яго не датычыла.

У бакоўку зайшоў дзед Ахрэм, распарадзіўся:

— Ты, Алена, ідзі да гасцей, а я пасяджу каля хворага.

— Мо табе што прынесці, Ігнат?

— Нічога не трэба, — ледзь чутна варухнуў той сасмяглымі вуснамі.

Да позняй ночы Алена ўвіхалася каля гасцей, часта бегала да Ігната, каля якога, як каравульны, сядзеў змарнелы ад бяссонніцы дзед. Не лажылася, пакуль не выгнала карову. Прылегла, толькі сон вочы звёў — прахапілася, кінулася да хворага. Прытулілася да твару, абрадавалася: цёплы, жывы, толькі дыханне частае, адрывістае, цяжкае.

На другі дзень, як разышліся госці, яму пагоршала. Іван прывёз на легкавушцы фельчара. Той паслухаў і, зрабіўшы ўкол, загадаў: «Трэба класці ў бальніцу». Як Алена выйшла, Ігнат папрасіў слабым ціхім голасам: «Ты мяне нікуды не адпраўляй — позна, не давязуць».

## II

Пахавалі Ігната на трэці дзень пасля Аленіных імянін. Дзеці раз'ехаліся — хата апусцела. Увесь дзень яна ў клопатах, у рабоце. Нацямку бяжыць на ферму — адпраўляе малако ў горад. Рупіцца, каб удосталь завезлі кармоў, добра выдойвалі і даглядалі жывёлу. Ферма невялікая — усяго дзвесце кароў. Кароўнік стары, яшчэ даваеннай пабудовы. Не вельмі даўно, як Алена заступіла на брыгадзірства, папрасіла старшыню, каб зрабілі рамонт. У хуткім часе змуравалі падлогу, правялі транспарцёры, паставілі аўтапаілкі, халадзільню, абсталявалі душавую. Кожны раз, ідучы сюды, яна яшчэ здаля чуе, як шумяць вакуумныя помпы — дояць кароў.

Адправіўшы малако, звоніць у кантору старшыні — атрымлівае нарад, вывешвае яго на адным і тым жа месцы, на невялічкай дошцы аб'яў, прыбі-

тай на хаце дзеда Ахрэма. Некалі, яшчэ перад вайной, тут збіралася кожную раніцу траха не ўся вёска, і брыгадзір размяркоўваў работу. Мужчыны важна рассаджваліся на лаўцы, смалілі самакруткі і чакалі. Улетку і цяпер збіраюцца тут людзі.

...Адышло спякотнае лета, золатам успыхнула і пасыпалася долу лістота, зачасцілі дажджы — бясконца мочаць зямлю, урываюць час, запавольваюць работу. У Барках пачалі капаць бульбу. І клопатаў Алене прыбавілася — не прыпыняецца дома.

У рабоце яна лягчэй пераносіць гора, не грызе душу скруха па Ігнату, які ўжо больш ніколі не выйдзе на лаўку са сваім баянам, не сустрэне зяцёў. Іншы раз, каб не вельмі бачылі людзі, выплачацца, гаротна пасумуе і спяшаецца далей. А вечарам, як вернецца дамоў, маркота раздзірае душу.

Вечарамі заходзіць дзед, суцяшае:

— Ты, Алена, слязьмі Ігната не падымеш, а сябе загубіць можаш.

— Без пары чалавек Богу душу аддаў, — у роспачы ўздыхае яна.

— Колькі адведзена на гэтым свеце пажыць — столькі і пажыў, — заключае дзед. — А табе трэба берагчы здароўе ды жыць-цешыцца: дочкі, як карціны, зяці ўдалыя, унукі растуць.

Цяжка ёй адной, без Ігната, упраўляцца і ў брыгадзе, і дома. Хадзіла да старшыні, прасіла, каб вызвалілі ад брыгадзірства. А той і слухаць не хоча: «Вы, Алена Іванаўна, лепшы брыгадзір у калгасе — не маю права знімаць з пасады, што мне людзі скажуць». «Дык я ж пенсіянерка», — пярэчыла Алена. Старшыня прыязна зірнуў на яе, усміхнуўся: «Гэта не перашкода».

І Алена працуе, стараецца, чакае кожны тыдзень з горада дзяцей, унукаў. Яны і цяпер, восенню, як і ўлетку, прыязджаюць часта, памагаюць.

Неяк пад вечар, сярод нядзелі, прыехалі зяці на машынах. Алена аж спужалася — мо здарылася што. Зайшлі ў хату дочкі, за імі — зяці з дзедам Ахрэмам. Прывітаўшыся, моўчкі, як чужыя, селі. З хвіліну ў хаце было ціха — ніхто не адважваўся пачынаць гаворку. Дзед у працяглым маўчанні гасцей адчуў нядобрае, пайшоў.

— Зайду пасля, — азваўся ён з парога.

Алена пачала збіраць вячэру.

— Вы, мама, вельмі не клапаціцеся — перакусім і паедзем, — парушыла цішыню старэйшая Люба.

— І не паначуеце? — здзівілася Алена.

— Пагаворым — ды назад, — працягвала Люба і не надта прыязна паглядзела на Аксану: — Гавары, чаго прыехала.

У цёмна-дымных вачах Аксаны бліснуў халодны агонь, вусны сціснуліся, пабялелі, яна загаварыла патрабавальна і рашуча:

— Нам з Рыгорам выдзелілі кааператыўную кватэру — трэба грошы сплачваць. — Яна крыху счакала, пэўна, завагалася, і, не падымаючы вачэй, прапанавала: — Прадавайце, мама, гаспадарку і пераязджайце да нас у горад.

Ад даччыных слоў Алена, як з пярэпалаху, утрапянела, быццам нутро абарвалася. Яна перастала прыбіраць стол і знямогла асунулася на крэсла. Наважвалася нешта сказаць, ды не магла, як знямела. Пасля крыху супакоілася, падала голас:

— Хіба мы, дачушка, табе грошай не знойдзем: я хоць заўтра з кніжкі здыму, карову, свіней збуду, дзяўчаты на першым часе памогуць, не чужыя, — гарачылася Алена, не знаходзячы больш важкіх і пераканаўчых слоў.

— Давалі, прапаноўвалі — грошы ў нас ёсць — браць не хоча, ганарыстая, — з папрокам зірнула на Аксану старэйшая Люба, — яна ж артыстка, хіба мы ёй раўня?

За ўсё жыццё Алена не адчувала сябе такой разгубленай і бездапаможнай, як у гэтую хвіліну. Галава, здавалася, спухла ад думак. Ад нечаканай Аксанінай прапановы нядобра заныла ў грудзях.

«Як я магу кінуць нажытае за столькі гадоў і некуды ехаць. Што скажуць аднавяскоўцы, старшыня калгаса?» — балюча вярэдзілі душу пытанні. Яе не пакідала надзея, што можна яшчэ знайсці нейкае выйсце, адгаварыць дачку. І Алена выкінула свой апошні козыр:

— Грошай я у людзей пазычу колькі трэба — аддадзім памалу.

— Правільна маці кажа, — умяшаўся ў гаворку старэйшы зяць Іван, які часцей за другіх наведваўся ў Баркі на адпачынак пасля цяжкай сталяварскай работы, — грошы знойдзем, а хата нам усім спатрэбіцца.

Як уджаленая, усхапілася Аксана:

— Вы тут усе мне раіце пазычыць, з кніжкі зняць, а не падумалі пра тое, з чаго мне іх аддаваць — са стыпендыі? Ды ці атрымаю яшчэ яе. А мне два гады вучыцца. Вам добра ўсім, асабліва табе, Іван, — воўкам зіркнула яна на старэйшага зяця, — грошай куры не клююць, з Баркоў — малако, сала, гароднiна, яблыкі, а ўлетку — курорт. Можна іншых павучаць. А я, як і ты, гонар маю: не хачу, каб твая Люба коса глядзела, калі ў вашу машыну саджуся — сваю хачу мець.

Заўсёды спакойнага, стрыманага Івана кранула за жывое:

— Ты нашы грошы палічыла. А ці ведаеш, як яны даюцца: для мяне ручаямі салёнага поту каля гарачых печаў, для Любы — прафесійнай хваробай. Ад чаго ў яе павекі ўзбухлі, запалены? Ад шпенявой сумесі, якой штодзень дыхае. Пазайздросціла, што мы ў Баркі ездзім, — з папрокам заключыў ён і грэбліва паглядзеў на швагерку.

Сярэдняя дачка Люся, якая, здавалася, спакойна і раўнадушна слухала спрэчку, уступілася за Івана:

— Знайшла ўпікаць каго — на яго плячах уся гаспадарка трымалася, і табе нямала перападала. А што ты, такая ахмістрыня, зрабіла? За Іванавай спінай цыганскія танцы скакала? Было за кім весяліцца.

Малодшая дачка, пэўна, ад злосці і крыўды заплакала, расціраючы па твары фарбу. І Алене стала шкада яе: «Хіба ў яе мала клопатаў: і вучоба, і дзіцё, і жыве на прыватнай кватэры. Каб лёгка было, не паехала б шукаць ратунку ў Барках!» І такая яе ахапіла жаласць, што ледзь стрымала слёзы. Пераадолеўшы ўзрушанасць, сказала:

— Супакойся, дачушка, няхай будзе па-твойму, збуду гаспадарку — пажыву ў горадзе.

Пасля Аленіных слоў спрэчка заціхла. Толькі Аксана падняла мокры ад слёз твар, акінула ўсіх зверавата-дакорлівым позіркам, пэўна, наважвалася нешта сказаць, ды не паспела — увайшоў дзед Ахрэм. Здзіўлена зірнуў на стол, на якім стаялі некранутыя гарэлка і закуска, распарадзіўся:

— Пара, Алена, частаваць гасцей — прашу ўсіх за стол. — І ўзяўся разліваць гарэлку.

Мужчыны адставілі кілішкі — трэба было ехаць. Дзед наліў жанчынам і сабе.

Вячэралі моўчкі, панура, як на памінках. Каб крыху развесяліць застолле, Алена загадала дзеду:

— Наліце яшчэ.

Выпілі, пасядзелі крыху. Іван устаў з-за стала першы:

— Дарога не блізкая — ехаць пара.

Зяці з дзедам падаліся да машын, за імі — старэйшыя дочкі. Алена затрымалася з малодшай, непрыкметна сунула скрутачак грошай, шапнула:

— Пакуль прадам гаспадарку — упыніш сёе-тое. — І на развітанне пацалавала гарэтніцу.

На выгане сцішана загулі маторы, напаўняючы едкім бензінавым выхлапам халоднае начное паветра; яркім белым святлом успыхнулі фары, сталі добра відны выган, бярозы пры гасцінцы — машыны паволі крануліся, пакінуўшы ў начной смузе дзве чорныя нерухомыя постаці — Алены і дзеда.

Як толькі машыны звярнулі на гасцінец, дзед, каб не маўчаць, зазначыў:

— Ноч вялікая — заедуць паціху.

Зайшлі ў хату. Алена пасадзіла старога за стол:

— Вячэрайце, бо маладыя вам і паесці не далі, схапіліся, пабеглі.

Пасядзеўшы колькі хвілін, дзед асцярожна пацікавіўся:

— Нешта ты невясёлая, кабета.

— А чаму весяліцца — хату трэба збываць, Аксане грошы на кааператыўную кватэру патрэбны.

Дзед перастаў жаваць, здзівіўся:

— Во яно што!..

Алена заплакала, ціха прыгаворваючы:

— Век пражыла ў Барках, а паміраць паеду ў горад.

Ад яе слёз у дзеда раптоўна выветрыўся хмель. Ён нервова заварушыўся, быццам мулка стала сядзець, паспачуваў:

— Хату прадавай, грошы завязі, а сама ў Баркі вяртайся, у мяне будзеш жыць, не чужыя. І дзецям з унукамі будзе куды прыехаць. У горадзе якое там жыццё: паветра заводамі атручана, цесната. А дома ў цябе пасада, — заключыў ён.

Дзед разважаў спакойна, без эмоцый, быццам усё гэта ведаў даўно і толькі сёння зайшоў, каб сказаць.

Тую ноч спала Алена трывожна, насцярожана, некалькі разоў прачыналася ад страху. Снілася, быццам прыйшоў Ігнат, моўчкі выняў з футляра баян і, моцна расцягваючы мех, іграў, але музыкі не чуваць было; то гарэла хата, і ніхто з суседзяў не памагаў яе тушыць.

Раніцай, яшчэ нацямку, ішла яна ў суседнюю вёску да чалавека, які нядаўна прыходзіў таргаваць хату. Усю дарогу непакоілася: «Каб хоць у другім месцы дзе-небудзь не напытаў».

Гаспадар быў дома. Яна прывіталася, пачала гаворку. Той выслухаў Алену, усміхнуўся:

— Куплю, калі дорага не папросіш, бо, сама ведаеш, цяпер выбар вялікі, хатаў навокал хапае — толькі купляй.

— Ці ж яны маёй раўня? — па-мужчынску зазначыла Алена.

Чалавек памаўчаў, пасля азваўся:

— Будзь, кабета, дома — я зайду пад вечар, прыцэнімся.

У Баркі яна вярталася на досвітку. З пачуццём жалю і ціхай трывогі глядзела Алена на родную вёску, на ўсланае бацвіннем поле, з невялічкімі копчыкамі буракоў, якіх яшчэ не паспелі звезці, на малады сасоннік пры дарозе, дзе ўлетку ўнукі збіралі маслякі. «Збуду хату — не будзе ім больш да каго прыязджаць», — дакарала сябе. Яе не пакідала раздвоенасць, няўпэўненасць у сабе. Толькі цяпер, на адзіноце са сваімі думкамі, Алена ўсвядоміла, як цяжка ёй разлучацца з Баркамі. «А мо не прадаваць хату? А як тады Аксане быць?» — кружыліся пакутлівыя супярэчлівыя думкі. Урэшце пераканала сябе, што адступаць позна, нічога не перайначыш. Ішла павольна, не спяшалася, прагна ўдыхала пах вільготнага поля, хвоі, сухой травы, смалістага дыму, які з вёскі даносіла сюды, на гасцінец, быццам развітвалася назаўсёды...

Хату Алена прадала. Свае пажыткі перанесла да дзеда і некалькі дзён жыла там — чакала з горада старэйшага зяця, які павінен забраць яе.

На мёрзлую ўцаглелую зямлю падаў густы, лапушысты снег. Раніцай Алена выйшла на вуліцу і ўздрыгнула ад нечаканасці. Вакол было хораша, бела. Баркі здаліся ёй памаладзелымі і казачна прыгожымі. Мяккай лёгкай коўдрай снег усцілаў хатнішча, пляц, на якім сіратліва стаялі хлеў і гараж. Гараж зроблены за адпачынак зяцямі, быццам спяшаўся схаваць яе разбураную спадчыну ад людскіх позіркаў.

Думкі Алены парушыў дзед:

— Легкавік з гасцінца ў сяло павярнуў — мо Іван па цябе едзе.

Алена схамянулася, кінулася на вуліцу. Машына прыпынілася каля гаража, з яе выйшаў Іван — мажны, высокі.

Зайшлі ў хату, пачалі збіраць Алену ў дарогу. Дзед тупае, мітусіцца, вядзе размову з несхаваным жалем у голасе:

— Жыла б у мяне, дак не — у горадзе знайшла нейкую патрэбу. А мне без цябе хоць кладзіся ды памірай.

За Алену адказвае дзеду Іван:

— Я рад бы і сам пакінуць у вас — хай бы жыла, ды не магу: загадана забіраць.

Яна разгублена стаіць сярод хаты — схуднелая, паніклая, быццам нядаўна перанесла цяжкую хваробу, трымае пад пахай завязаную ў старую выліняўлую хустку раму — яе і Ігнатаў партрэт, які гэтым летам намаляваў малодшы зяць. Не выпускае з рук, пэўна, баіцца, каб не забыць.

Алена бачыць, як панура, з невясёлымі тварамі выносяць Іван з дзедам клункі, шчыльна пакуюць у машыну. Трэба было ехаць, а яна ўсё стаяла, не магла адарваць позірку ад свайго пляца з пустым хатнішчам, з якога патыхала адсырэлай задымленай цэглай і старой кастрыцай.

Каля дзедавай хаты сабраліся вяскоўцы — прыйшлі праводзіць Алену — сцішана перагаворваліся, быццам баяліся моцнай гаворкай пакрыўдзіць былога брыгадзіра.

Як спакавалі машыну і дзед важна сеў на пярэдняе сядзенне побач з Іванам, каб праехаць да гасцінца, аднавяскоўцы загаманілі:

— Ты нас, Алена, надоўга не пакідай, к вясне вяртайся.

Жанчыны, развітваючыся, цалавалі яе, плакалі, давалі парады, раілі заставацца, бо нідзе лепш не будзе, як тут, у Барках.

Галасы вяскоўцаў зліваліся ў Аленінай галаве ў суцэльную гаману, яна дрэнна ўсведамляла сэнс іх гаворкі. Слёзы засланілі вочы і гарачым ручаём цяклі па твары.

Жанчыны, пасадзіўшы яе ў машыну, яшчэ доўга стаялі на выгане, развітальна махаючы рукамі.

Едучы да шашы, дзед павучаў:

— Ты, Алена, як занудзішся ў горадзе, вяртайся, не пакутуй: хата мая не на замку, вясной пляц засеем. — І да Івана: — Бяры ўлетку адпачынак, прыязджай з Любай, з дзеткамі: мёд, сала і бульба ёсць, астатняе купім. Шарманку толькі не забудзь. — Стары паспрабаваў усміхнуцца, але, зірнуўшы на пануры Аленін твар, зноў стаў сур’ёзны.

На шашы Алена развіталася з дзедам і яшчэ доўга глядзела на засланую белым дываном вёску, на маленькую згорбленую постаць старога і раптам адчула, як балюча шчыміць сэрца ад гэтай нечаканай разлукі.

## III

Аленіна жыццё ў горадзе, на здзіўленне самой, пабегла, завіравала, як вада ў імклівым вясновым ручаі, і, быццам папяровую лодачку, закружыла яе на сваіх хвалях, нясе і нясе наперад, нідзе не спыняючыся.

Устае яна, як і некалі ў вёсцы, рана. Асцярожна паправіць, захіліць коўдарку на ўнучцы, якая роўна дыхае, падклаўшы пад шчочку далоні, і, нячутна ступаючы, ідзе на кухню, уключае святло. Колькі хвілін глядзіць на сляпыя зацемненыя вокны процілеглага дома, дзе таксама яшчэ спяць.

У такі час яна любіць пабыць адна са сваімі думкамі, пасядзець, захутаўшыся ў цёплы мультановы халат на ўтульнай чыста прыбранай кухні. Кухня ёй вельмі падабаецца — абкладзена белай, як снег, пліткай, застаўлена шафкамі з рознай пасудай, якую разам з дачкой куплялі. Многае падарылі на наваселле.

Няспынна, як вада ў рацэ, цякуць думкі. Не праходзіць і дня, каб не ўспомніла Баркі, Ігната, дзеда Ахрэма, аднавяскоўцаў. «Як вы там без мяне?» — пытае сябе і не знаходзіць адказу. А ёй і тут, як некалі дома, у брыгадзе, клопатаў хапае.

Аб'ездзілі з Аксанай увесь горад — выбіралі для кватэры мэблю, шмат грошай патрацілі. Пасля да наваселля рыхтаваліся — гулялі траха не тыдзень.

Госці і цяпер часта прыходзяць — амаль штодзень, доўга, да поўначы чутны рознагалосая гамана, жарты, спрэчкі. Ад цыгарэтнага дыму ў пакоі сіне, хоць сякеру вешай.

Яна глядзіць на стрэлкі будзільніка, які весела цікае на стале, — пара гатаваць сняданак. Увіхаецца каля пліты. Забарабаніў накрыўкай невялічкі бліскучы чайнік, згатавана яечня. Алена ідзе будзіць дачку з зяцем, збірае ў садзік унучку. Тая абвівае яе шыю гарачымі пульхнымі ручкамі і радасна-ўсмешліва пытае:

— Пойдзем, бабуся, з табой на каток?

— Пойдзем, Аксаначка, пойдзем, — ласкава згаджаецца яна, апранаючы ўнучку.

Усталі дачка з зяцем. За снеданнем дачка папрасіла:

— Сёння да нас, мама, рэжысёр ансамбля прыйдзе — прыгатуйце што. — Счакаўшы, дадае: — Як будзе час, зайдзіце ў абутковы — мо даваць боты будуць.

— Добра, — згаджаецца Алена і вядзе ў садзік маленькую Аксану.

Тая цешыцца, кратае рукавічкай іней, бяжыць паперадзе, спяшаецца. Адбяжыцца крыху і чакае.

Вяртаючыся з садзіка, Алена заходзіць у магазін, купляе, што трэба. Яна ведае ўсе магазіны ў сваім раёне, некалькі разоў ездзіла ў цэнтр горада, ва універмаг. Людзей там, як у мурашніку, не праціснуцца. На першым часе такі занятак ёй нават падабаўся — цікава было, і час ляцеў непрыкметна.

Пастулова ўсё гэта пачало Алене надакучаць. Усё часцей успамінала Баркі, сваё ранейшае жыццё, дзе былі заўсёды малако, масла, тварог і іншае, і не было ў яе, як цяпер, патрэбы хадзіць па магазінах.

У кватэру падымаецца з поўнай цяжкай сумкай. Хвіліну адпачывае і пачынае прыбіраць. У зале пасля ўчарашніх гасцей яшчэ не выветрыўся цыгарэтны дым. На сцяне, на падлозе грудкі попелу. Вымыла ўсё, працерла, праветрыла — аж дыхаць вальней стала.

Зала ёй падабаецца. Купілі замежнага вырабу прыгожы гарнітур, дыван на ўсю падлогу. На сцяне — дзве карціны, намаляваныя зяцем. На адной

голая, як маці радзіла, дзяўчына — ляжыць бокам на канапе, плаўна выгнуўшы талію. На поўныя грудзі спадаюць залаціста-светлыя прамыя валасы. Адразу, як прыехала, Алена нават саромелася глядзець на карціну. А цяпер прывыкла: і зблізку, і здалёк разглядвае. Толькі не можа дакладна ўсвядоміць сэнс — для чаго намалявана. Усё збіраецца папытаць у зяця, ды часу не стае. Дагадваецца толькі, што карціна прысвечана мацярынству, неўміручасці, вечнай гармоніі жыцця. Сваёй сялянскай дасціпнасцю яна з кожным днём адкрывала ў гэтай дзяўчыне нешта новае, незвычайнае, параўноўвала яе з сабой у маладосці і знаходзіла нейкае блізкае падабенства. І ад такога параўнання рабілася крыху няёмка.

На другой карціне — сталявар з вогненна-чырвоным тварам у засцерагальным шыракаполым капелюшы, як у старэйшага зяця Івана. На твары буйныя кроплі поту, позірк напружаны, заклапочаны — чалавек выконвае цяжкую работу. Тут усё для яе было зразумела і ясна.

Аднаго толькі не магла сабе ўцяміць Алена — для чаго дачка павесіла паміж карцінамі звычайныя лубяныя лапці з вераўчанымі аборамі, якія некалі ў вайну, як не было ў чым хадзіць, плёў і раздаваў людзям дзед Ахрэм. Ёй здавалася, што лапці псавалі залу. А дачка, наадварот, гаварыла, што ўсё старасвецкае цяпер у модзе.

Прыгадалася, як нядаўна на наваселлі, разглядаючы карціны, Іван жартаваў: «Гэта — я, а гэта — мая Люба, карціны павінны належаць мне». «Гэтай Любе цаны няма», — з сур'ёзным самавітым выглядам пярэчылі яму барадатыя мастакі. А Іван, каб яшчэ больш іх распаліць, падначваў: «Голая баба — уся ёй і цана. Іншая справа лапці — у іх закладзены глыбокі сэнс: яны сімвалізуюць сувязь мяне, рабочага чалавека, з сялянскай дзяўчынай — маёй жонкай, якая іх некалі насіла». Люба пярэчыла, спрачалася, што лапці ніколі не насіла. Госці цешыліся, смяяліся. І ёй, Алене, у такія хвіліны разам з дзецьмі весела, радасна на душы...

Алена стала збірацца ва універмаг па боты. Заглянула ў сумачку, дзе схаваны грошы, і жахнулася — ад яе спадчыны засталіся лічаныя дваццаціпяцірублёўкі. Нядобра зашчымела сэрца. Паспрабавала суцешыць сябе: «Накуплялі ж шмат чаго». І ўсё ж не пакідала трывога: «Кожны вечар госці — дзе тым грашам утрымацца». Некалі, як жыла ў Барках, з Ігнатам кожную капейку ашчаджала, марна не траціла, для дзяцей хавала. Тут, у дачкі, усё рабілася іначай. «А мо ўсе так жывуць у горадзе», — разважала яна.

Пабедавала Алена над сваёй былой спадчынай, забрала астатнія сто рублёў на боты і паехала ў магазін. Дарогай палічыла дні — пенсію хутка атрымае, абрадавалася.

У абутковым аддзеле чарга — стала апошняй, чакае, нецярпліва пазірае на прылавак, хвалюецца, каб ёй хапіла. Больш за гадзіну штурхалі, ціснулі да прылаўка. Узяла боты Аксанінага памеру, расплацілася і хутчэй дамоў. Трэба паспець да вечара гасцям прыгатаваць.

На ўсыпаны снегам зімовы падворак насоўваецца ранні змрок; у цёмных вокнах процілеглага дома ўспыхнулі агні. Алена, як па гадзінніку, ведае, што пара забіраць з садзіка ўнучку. Кладзе ў сумку яе невялічкія чаравікі з канькамі, выходзіць на вуліцу.

Каля пад'езда бясклапотна бавяць час некалькі такіх жа, як і яна, сялянак. Некаторыя пакутуюць тут, у дзяцей, ужо не першую зіму — усіх іх Алена ведае. Наслухалася ўсяго: і добрага, і дрэннага. Адна ва ўсіх надзея — дачакацца вясны і хутчэй з'ехаць у вёску, у сваю хату.

— Добры вечар, Іванаўна, — загаворваюць яны хорам, — пастаялі б хвіліну.

Крыху запавольвае ходу, адказвае:

— Часу не маю — бягу па ўнучку. — А сама сабе думае: «Спыніся — пачнецца гаворка пра вёску — толькі душу развярэдзяць».

Садзік непадалёку, і Алена ідзе павольна, думае, разважае. Даўно хочацца да старэйшай дачкі паехаць, унукаў паглядзець, ды ўсё не выходзіць. З месяц назад ездзіла. Добра жыве Люба з Іванам, усё маюць. Іван і з ёю ласкавы, спагадлівы, як з роднай маці. Люба толькі незадаволена на яе косіцца, што ўсе грошы за спадчыну аддала Аксане. «Пра іх ужо і ўспамінаць не варта — разляцеліся», — як не ўслых сказала яна і азірнулася, каб ніхто не пачуў.

Толькі расчыніла дзверы ў групу — Аксана кінула гульню і бягом да яе, уткнулася тварыкам, радуецца. Унучка апранаецца сама — няўмела, паспешліва. Алена памагае ёй. Надзяваюць, зашнуроўваюць белыя чаравікі з канькамі.

Цуп-цуп ступае па лёдзіку ўнучка. Алена падтрымлівае яе. Ездзіць унучка добра не ўмее, толькі вучыцца. Цешыцца Алена, што такая малая на коўзкім лёдзе трымаецца адна. Наездзіўшыся ўдосталь, стомлена кідаецца да яе, румяная, узбуджаная — копія маці. Памятае такой маленькай малодшую дачку. Аксана расла хваравітай — часта па дактарах вазіла, ледзь выхадзіла. А ўнучка, каб не прагаварыцца, ладная, пухнаценькая — кроў з малаком.

Дамоў вяртаюцца на санках, якія Алена заўсёды брала з сабой.

Дома дачка тым часам прымервала новыя боты.

— От малайчына, мама, што купіла, якраз да нагі.

— Насі здаровенькая, — шчыра ўсміхнулася маці і ўзялася прыбіраць для гасцей стол.

Накрыўшы стол, Алена з унучкай садзяцца вячэраць. Малая ад яе не адыходзіцца, не злазіць з рук.

Пасля ідуць у невялічкі пакойчык, дзе яны спяць з унучкай. Алена пачынае ўкладваць малую, а тая знарок скідае ножкамі коўдру, ласкава просіць:

— Раскажы, бабуля, казку пра лісу і воўка.

Алена расказвае ціха, пяшчотна, і ў такт яе слоў сплюшчваюцца дзіцячыя павекі. Стомленую клапотамі, яе таксама агортвае салодкая дрымота. Рассцілае пасцель, хутка засынае і не чуе, як шумяць у кватэры госці і гучыць музыка.

Жыла Алена ў дачкі, не скардзілася на лёс. Каб вельмі соладка было — не скажаш, але і не пакутавала, рабіла, што магла — у руху, у клопатах. Работы яна не баіцца, з маленства прывучана, каб толькі дачцэ было добра і ў сям'і ўсё ладзілася.

Адно стала заўважаць, што дачку раптам як падмянілі — зрабілася нервовай, раздражнёнай — пачынае сварку без дай прычыны, усё ёй не так: то кватэра не чыста прыбрана, то прыгатавана нясмачна. Некалькі разоў чула, як Аксана сварылася з зяцем, пэўна, з-за грошай. Алена аддавала дачцэ ўсю да капейкі пенсію — не хапала, залазілі ў даўгі.

Зайшла Аксана аднойчы на кухню — нервова-ўзбуджаная, вочы нядобра гараць, пытае:

— Мо ў вас, мама, якія грошы ёсць — не ведаю ў каго й пазычаць.

У Алены ад яе позірку душа заледзянела. Дачка пужала яе сваёй знешнасцю — нейкім звярыным бляскам масляніста-дымных вачэй, намоклымі ад снегу, злямчанымі валасамі.

Апамятаўшыся ад пачутага, ціха вымавіла:

— Няма, дачушка, што мела — усё аддала.

— Усё? — нядобрая, здзеклівая ўсмешка, як маска, адбілася на яе твары, — і на смерць не пакінула нічога?

Разгубленасць і страх у Аленінай душы ад вымагальных даччыных слоў змяніліся рашучасцю і пратэстам:

— Хіба я ўжо такая нямоглая і старая, што ты мяне хаваць сабралася — збяру яшчэ.

Вочы дачкі зноў загарэліся нядобрым агнём, як у той вечар, восенню, у Барках. І Алена ў прадчуванні нечага страшнага ўся сціснулася ў клубочак, быццам вожык, каб неяк абараніцца ад свайго роднага дзіцяці.

— У Аксанчын пакой я пускаю кватарантаў, а яе забіраю ў свой, — заявіла дачка ўладарна і рашуча, — а вы пажывіце ў Любы — Іван жа любімы зяць. — Яна, ледзь стрымліваючы ўзрушанасць, параіла: — І ў Люсі кватэра не цесная.

Алене нешта цяжкае і пякучае здушыла грудзі, пераняло дыханне, наварочваліся слёзы. Перасіліла сябе, не заплакала. Узрушанасць і крыўда ў адначассе змяняліся рашучасцю і пратэстам. У роспачы падумала: аддзячыла дачушка за ўсё. Раптам згадалася, як некалі цяжка хворую дачку ратавала ад смерці, выгадавала, дала адукацыю і ў дадатак дзеля яе дабрабыту — збыла апошняе — гаспадарку. І мо таму, на здзіўленне сабе, сказала надзвычай спакойна, упэўнена:

— Мая ў гэтай кватэры, дачушка, доля не меншая, чым твая.

— Мо дзяліцца будзем? — успыхнула тая.

— І раздзелімся, калі трэба, — не здавалася Алена.

Дачка моцна ляпнула дзвярыма, пайшла. Алена чула, як грымела яна ў прыхожай, выцягваючы з пакоя дзіцячы ложак, як плакала, працівячыся матцы, незадаволеная ўнучка.

Алена ў гэты момант успомніла пра грошы, якія адклала мужу на помнік і, выязджаючы з Баркоў, схавала ў матрац. Яшчэ з восені заказала Ігнату помнік і тысячу рублёў — дзесяць соценных — на патрэбу зашыла ў ражок. Гэта ўсё, што засталося ад яе спадчыны, нажытай за гады цяжкай працы. Прыехаўшы ў горад да дачкі, Алена быццам забыла пра іх, выкрасліла з памяці. Чакала вясны, каб паехаць у раён, расплаціцца.

Яшчэ ў Барках, размяркоўваючы грошы, была спакуса аддаць усё да капейкі, не пакідаць. Нешта ж тады ўтрымала, перасцерагло.

Яна даўно заўважыла, што дачка жыла шыкоўна, не ашчаджала капейку. Пэўна, гэтая тысяча, як і тыя, што яна прывезла сюды, даўно б разляцелася.

Увогуле нават гэтых, пакінутых на патрэбу грошай, яна не вельмі шкадавала. Нечаканая сварка з дачкой, яе камандзірскі зняважлівы тон замуравалі Аленіну душу.

Асцярожна, як баючыся, зайшла ў пакой, зірнула ў пусты вугал, дзе валяліся Аксаніны цацкі. Вельмі шкада стала ўнучкі — заўсёды такой шчырай і вясёлай. Тут, да звону ў вушах, стаяла нязвыклая пакутлівая цішыня. Яна выразна чуе, як усхліпвае за сцяной пакрыўджаная ўнучка, і адзінота балюча вярэдзіць душу.

Алена залезла пад коўдру і сцішылася як чужая, яе апаноўваў страх. Пасцель здалася мулкай і халоднай, калаціла дрыготка. Трывожныя, неспакойныя думкі праганялі сон, прымушалі шукаць выйсце з безвыходнага становішча, у якім яна апынулася. Слых лавіў кожны гук.

Аксанін муж прыйшоў позна. Пачалася сварка. Падумала: «Мо з-за мяне сварацца, не ладзяць»?

«Ты маляр, а не мастак, бездар, не можаш сям'ю забяспечыць», — крычала ў запале дачка. «А ты недавучаная артыстка, хутка ваш цыганскі ансамбль разгоняць — каму патрэбны такія, як ты, штучныя цыганкі: памахалі ручкамі,

патупалі ножкамі — хопіць», — выразна чуе Алена цераз гулкія сцены кватэры абразлівыя словы зяця.

Раз'юшаная Аксана раўла ад злосці, і Алена не магла разабраць яе слоў. Падумала толькі сама сабе: «От як мілуюцца мае залатыя дзеткі. Мы век пражылі з Ігнатам — ніколі так не сварыліся». Было крыўдна і балюча за дачку, за сябе, што збыла ўсё і прыехала сюды на пакуты.

У душы паўставала і мацнела трывога за свой лёс: як жыць далей, куды дзецца? Да старэйшых дачок ісці было брыдка. У двухпакаёўках ім самім было цесна з дзецьмі. Заставалася адно — вяртацца назад у Баркі. І на здзіўленне, ёй самой ад гэтай думкі адразу палягчэла, квола варухнулася пачуццё, падобнае на радасць. Сапраўднай радасці, вядома, не было, бо там, у Барках, ніхто не чакаў яе. Але гэта была хоць нейкая надзея. Звярэджаная думкамі, клопатамі, заснула недзе пад раніцу.

Раніцай унучку ў садзік павяла дачка — Алене не дазволіла. Цішыня і адзінота пустой кватэры пужалі, яе, здавалася, сілком зачынілі тут і не выпускаюць. Ад страху было хоць крычы ці кліч каго на помач. Падумала: а хто паможа?

Думкі і клопаты пра сябе нечакана перакінуліся на дзядоў і бабуль, суседзяў-вяскоўцаў, такіх, як і яна, няшчасных гаротнікаў, перавезеных руплівымі дзецьмі на райскае жыццё ў горад. Часцяком, бавячы час з Аленай на лаўцы, тыя скардзіліся на свой горкі лёс, які, зразумела цяпер яна, не адрозніваўся ад яе бураломнай сітуацыі. Некаторых, яшчэ даволі рухавых і спрытных, за гэту зіму не стала, сышлі ў нябыт, вядома, не ад бесклапотнага жыцця і вялікага шчасця. Яе ўсохлую, як трэска, маленькую суседку, былую настаўніцу-небараку, кожнага дня п'яны зяць біў да смерці. Алене не раз даводзілася бараніць. Дачка-інжынерка ніколі за маці не заступілася, наадварот, усяляк нацкоўвала п'янтоса, які і звёў няшчасніцу на той свет без суда і следства.

Ад невясёлых думак і спачуванняў сваім суседкам-вяскоўкам ёй да болю ў грудзях стала шкада іх, бо сустрэцца з імі больш не давядзецца.

Пакуль прыбірала пакой, зноў згадала дачку. І пабеглі ўспаміны. З пялёнак Аксана не ведала гора — усё лепшае ёй: абноўкі, прысмакі і бясконцыя ласкі. Як падрасла, зрабілася грубай, сварлівай, усім незадаволенай — задзіралася і лезла ў сварку са старэйшымі сёстрамі. Выхоўвалі, прасілі, ушчувалі — як з гусі вада. Знарок нахабна агрызнецца, перадражніць і пойдзе. Нябожчык Ігнат, бачачы такое, непакоіўся і моцна перажываў: «Што, Алена, з нашай распусты будзе, не ведаю — і ў каго яна такая ўдалася? Ці не ў родную цётку? Тая нікому праходу не дае». І як у ваду глядзеў.

Алена ўспомніла Ігнатаву старэйшую сястру Тэклю з Пяскоў — сварлівую, языкатую пляткарку. Яна да старасці людзям жыцця не давала — кожнага абгаворыць, напляткарыць такое, што ў чалавека вушы вянуць.

Не раз пескаўчане ёй, Алене, скардзіліся, сустрэўшы ў полі ці ў калгаснай канторы: «Ты, галубка, такая акуратная кабета, суняла б як-небудзь сваю братавую-пустабрэху, няма ад яе жыцця людзям — уся вёска штодня хадуном ходзіць».

Не раз спрабавала яна з Ігнатам уціхамірыць распусніцу. Не рады былі што зачапілі — усё роўна як лінулі масла ў агонь. Выдала мацюкоў па поўнай праграме ды траха вачэй не павыдзірала.

І старэйшая дачка яе — копія мама: і тварам, і характарам. На ферму, дзе тая доіць кароў, ніхто з вяскоўцаў ісці рабіць не хоча — з суседняй вёскі прывозяць даярак.

Бывала, прыйдуць у госці абедзве, такі гвалт учыняць — хоць стой, хоць уцякай з хаты. Абрыдзелі Ігнату як горкая рэдзька. Аднаго разу не вытрымаў,

прапёр сваіх родных з-за стала — з таго дня вачэй не паказваюць. Таму і на яе, Аленіным юбілеі, не былі — не запрашалі шалахвостак.

Згадала бязглуздых сваячак, і на душы палагоднела, аж крыўда на Аксану прапала. Зразумела — ад Ігнатавай радні ўхапіла дачка ў спадчыну невылечную «хваробу». Бо, як казалі Алене старыя людзі, такімі адмысловымі задзірамі былі іх бабуля і прабабуля, і нікому невядома, з якога пакалення ўсё гэта пачалося і колькі будзе працягвацца. І Алена не на жарт устрывожылася за ўнучку, каб, крый Божа, гэта ліхаманка ў характары мацеры дачцэ не перадалася...

Ёй было няўтульна і мулка ў кватэры — душа прагнула волі. Яшчэ ўчора дамовілася са старэйшым зяцем ехаць у Баркі. Няўрымсліва зіркала на гадзіннік, а стрэлкі ўсё роўна як прымерзлі да цыферблата, быццам і не рухаліся да прызначанага часу. Каб нечым заняць сябе, выйшла на балкон. У твар дыхнула казытлівым вясновым паветрам, настоеным на гарадской суспензіі невядомых ёй кампанентаў. Спяшалася вясна, сонца зыркімі, як электразварка, промнямі плавіла рэшткі зляжалага бруднага снегу. Неба, змытае хмарамі, ззяла чыстым бяздонным блакітам. Вясна клікала Алену да цёплага, пяшчотнага поля, якое яна зноў, як і раней, абавязкова засее.

# ЗОРА І КАНАРАЦ

*Апавяданне*

Пяцігадовую праўнучку Машку ўсю ноч душыў надрыўны сухі кашаль, ад якога, здавалася Зоры, малая захлынецца. Не памагалі і замежныя лекі, якія дзіцяці кожнага разу прывозілі бацькі, спадзеючыся, што кашаль сунімецца і тая нарэшце паправіцца. Але час ішоў, а здароўе малой не паляпшалася. І Зора заўсёды балюча перажывала кожны прыезд праўнучкі сюды, у яе аднапакаёўку, вокнамі на вадасховішча, да якога рукой падаць. Таму кожнага разу дакарала сябе ў душы за згоду паняньчыць у выхадныя хворую Машку, бо ў бацькоў яе акурат у гэтыя дні заўсёды быў нейкі пільны клопат. Больш за ўсё непакоіла Зору, што сырое, вільготнае паветра ад вадасховішча ніяк не спрыяе дзіцяці. Запярэчыць унучцы і зяцю не адважвалася — пакрыўдзяцца на ўсё жыццё.

А ў дадатак да ўсяго — саноўны сват і сваццця. Сват, хоць і ў адстаўцы, мае надта высокі чын, атрымлівае прыстойную пенсію, а сваццця, за ўсё жыццё не ўдарыўшы палец аб палец, лічыць сябе вышэй за генерала і заўсёды ставіцца да Зоры як да плебейкі. Не раз і не два пры сустрэчы з’едліва папікала: «А ваша Наташка не пара майму Ягору». Ад такой абразы Зору хапала злосць і было жаданне ўчапіцца ў сівыя каўтуны невыноснай, праціўнай нахабы. Прыехаўшы дамоў пасля чарговай знявагі і ганьбы, Зора давала волю слязам, праклінаючы ў душы свой пасляваенны лёс, які не даў ёй, як і многім яе аднагодкам, выбіцца ў людзі, а пакінуў на ўсё жыццё звычайнай рабочай-зборшчыцай, хоць і самай перадавой на заводзе.

Зора, не тое што яе інтэлігентна-разбэшчаная сваццця, у юначым узросце пасля вайны прыйшла на завод, асвоіла прафесію зборшчыцы і да самай пенсіі працавала на канвееры — выпускала машыны. Завод, як і сваю прафесію, яна любіла, заўсёды ў душы ганарылася, што можа працаваць лепш за іншых і гэтым заслужыла ў калектыве пашану, а на заводзе — славу. А мройлівая знічка шчасця калісь толькі бліснула на небасхіле і назаўсёды для яе згасла. І адзіная ўцеха ў жыцці — унукі ды праўнучка Машка. Нават дачка не прынесла ёй у жыцці радасці, а толькі адны пакуты, гора і несціханы душэўны боль.

Пра ўсё гэта яна думала-ўспаміналa кожнага разу, як і сёння, хутаючы Машку ў пуховую хустку і ўкладваючы спаць, каб ад сырога паветра ўначы малую не біў кашаль. Ды ўсё роўна тая ледзь не да раніцы бухікала, часам аж заходзілася, і ад гэтай яе праклятай хваробы на душы Зоры рабілася тужліва і балюча — лепш бы яна сама замест Машкі так пакутна хварэла.

Кашаль у малой суняўся, як зазірнула ў акно густая сінеча раніцы. Тады Зора, змораная думкамі і бяссонніцай, заснула — раптоўна і глыбока, як засынала калісь маладая, стамляючыся да знямогі на канвееры...

І сніўся ёй дзіўны і недарэчны сон. Быццам выклікаюць на пасяджэнне партыйнага бюро, а з якой прычыны — нават сабе не можа ўявіць. За доўгім сталом, засланым чырвоным настольнікам, сядзяць члены бюро, у самым яго тарцы — партыйны сакратар, хударлявы, з вечна жоўтым тварам не то ад злосці на людзей, не то ад зайздрасці, Закіданец. Сакратарова аблічча пры кожнай сустрэчы выклікала ў Зорынай душы нешта нядобрае і агіднае. І сённяшняе бюро, адчувала яна, не зычыла радасці, пэўна, не ўзнагароджваць жа сюды паклікалі, а, як бывала і раней, за нешта пясочыць. А за што — вядома толькі аднаму Закіданцу.

Толькі яна пераступіла парог партыйнага пакоя, як адчула на сабе нядобры, калючы позірк сакратара, і на нейкі момант яе аглушыў рэзкі, пранізлівы голас:

— Таварышы члены бюро! Сёння мы павінны разгледзець персанальную справу слесара-зборшчыцы Зоры Круталевіч.

У Зоры ад нечаканасці адняло мову і пачалі падкошвацца ногі. «Чаго яе сюды выклікалі?» Крыху асвойтаўшыся, яна ніяк не магла зразумець, чаму гэта яе як члена партыйнага бюро не запрашаюць сесці за стол, дзе сядзяць яе паніклыя, унураныя паплечнікі па грамадскай рабоце, — ніхто і галавы не падымае. Адзін толькі Закіданец, як заўсёды, злосна шчэміць худыя сківіцы і свідруе яе наскрозь нядобрым позіркам.

Каб хоць крыху сабрацца з думкамі і ацаніць абставіны, у якія так нечакана трапіла, Зора чамусьці агледзела даўно знаёмы пакой, абвешаны партрэтамі важакоў сусветнай галыцьбы, і крыху збоч ад членаў бюро нечакана заўважыла сваіх добра знаёмых. Як на лаўцы падсудных, сядзяць яе былы муж Мікола Круталевіч і майстар участка — дзівакаваты, вечны няшчаснік і халасцяк Васіль Падбягайла па мянушцы Канарац. Абодва паніклыя, сумныя, як нечага моцна саромеюцца, не глядзяць на яе, нават выгляду не падаюць, што бачаць.

Калі ўбачыла знаёмых мужчын, нядаўнія насцярога і страх пачалі паволі спадаць з душы, вярталася здольнасць цвяроза разважаць. Яе колішні муж Мікола сябраваў з Канарцам, ды так, што не разліць вадой — у адным жа цэху працавалі. У госці разам хадзілі, на маёўкі ездзілі, нават на работу і з работы — неразлучна, як вяроўкай звязаныя. Прычыну гэтага іх надзвычай зацятага сяброўства Зора хутка раскусіла. Мікола да страты прытомнасці раўнаваў яе да Падбягайлы-Канарца, таму і бегаў, як сабака, следам, каб яна часам не спаткалася дзе сам-насам з майстрам. Па некалькі разоў на дзень прыбягаў былы муж на канвеер, дзе яна працавала, аціраўся каля майстра, раўніва зіркаючы ў яе бок.

Убачыўшы поруч з былым мужам Канарца, Зора згадала той не вельмі далёкі час, як яго, гаротніка, быццам сёння яе самую, выклікалі на бюро і Закіданец на поўную катушку, як гэта заўсёды ўмеў рабіць, распякаў бедалагу за амаральныя паводзіны ў грамадстве. Той, як і часцяком раней здаралася, на добрым падпітку пацалаваў на прыпынку чужую жонку і пабіўся з яе разя-

вакам-мужыком. І добра надаваў таму кухталёў, трапіў у міліцыю. Адтуль даслалі адпаведную паперу для перавыхавання.

Таго разу Канарцавы штукарствы завяршыліся прачуханцам на бюро і строгай вымовай. Але свае дзівацкія выбрыкі з незнаёмымі жанчынамі ён і не думаў спыняць. Яшчэ некалькі разоў спрабаваў прыгалубіць на вуліцы якую-небудзь зазявалую сямейніцу, цярпеў ад мужавых кулакоў і зноў трапляў на бюро ў жалезныя абцугі Закіданца. Зора як член партбюро ўсяляк старалася абараніць свайго майстра-дзівака, ды толькі сабе траўміравала душу.

Апошні яго выбрык скончыўся надзвычай сумна. Канарца выключылі з партыі і ўпяклі за краты. А Зора неўзабаве пайшла на пенсію і з небаракам багата часу не бачылася. А з былым мужыком развялася на другім годзе сумесна-невыноснага жыцця, і ён ужо даўно аддаў Богу душу.

Таму гэтая нечаканая сустрэча на партбюро з былым мужам і Канарцам яе надзвычай уразіла і здзівіла.

Плынь думак перапыніў строгі начальніцкі і заўсёды праціўны голас Закіданца:

— Таварышы! На Зору Круталевіч у партбюро паступіла скарга ад былога мужа, у якой абгрунтавана даказана, што яна як камуніст зрабіла ганебны ўчынак — незаконна кінула яго аднаго ў кватэры, забрала дачку і сышла ў прочкі. Пасля развялася, атрымала на сябе і дачку жыллё, пачала жыць асобна і сустракацца з майстрам Васілём Падбягайлам, якому ён, Круталевіч, з-за сваёй глыбокай рэўнасці ніяк не можа дараваць.

Закіданец уладарным, суровым позіркам акінуў прысутных — Зору, былога мужа і колішняга майстра, як бы спрабуючы нешта невядомае яму вывядаць ці ўдакладніць. І, знізіўшы тэмбр голасу, звярнуўся да членаў бюро:

— Ёсць у каго пытанні?

Тыя, як заўсёды, колькі Зора памятае сябе ў бюро, маўчалі, быццам магільныя помнікі, бо сакратар надзвычай спрытна ўмеў і на бюро, і на сходзе любому заткнуць рот. Зора ўжо наструнілася і чакала, што нехта з прысутных нешта скажа, а ўслед, як гром з неба, прагучыць каронная фраза Закіданца: «Зачыні сваё свіное хайло, і каб я цябе больш не чуў».

Дыктатарскім позіркам партыйны ўладар акінуў сваіх пакорлівых падначаленых і запыніўся на Зоры, прагна азіраючы яе з ног да галавы, быццам меў намер у гэтую хвіліну раздзець дагала і здзейсніць тое, чаго ён не адзін год ад сваёй падначаленай дамагаўся, ды так і не пацешыўся. І вымушаны быў у рэшце рэшт знайсці другі аб'ект для кахання, а на непакорную ўдаву затаіў злосць і помсту. Пра гэта ўсе ў цэху ведалі, спачувалі Зоры, але не маглі нічым памагчы — Закіданец любога сатрэ ў парашок.

І цяпер яна была ў яго поўнай уладзе. Таму, помнячы ўпарты, непадступны характар Зоры, вырашыў на гэты раз расквітацца. Натапырыўшы порсткія рэдкія бровы, запытаўся патрабавальна і сурова, як камандзір у падначаленага:

— Мы табе нядаўна далі пакой. Нашто ты прытуліла дачку і ўнучку?

Партыйны важак працоўнага калектыву, адчуўшы поўную і неабмежаваную ўладу над прысутнымі, пачаў зачытваць прыгавор-пастанову выразна, як дыктар, дэкламуючы:

— За сістэматычную здраду былому мужу і палюбоўныя сувязі з майстрам участка Падбягайлам прысуджаем Круталевіч Зору Антонаўну да пакарання смерцю.

«Эйш, якую кару прыдумаў мне помслівы Закіданец за сваё нязбытае каханне», — насцярожылася яна. Але паддавацца прайдзісвету і на гэты раз не збіралася. Усю яе істоту ахапіла такая злосць, што аж пачало балюча калоць у

скроні, і Зора гатова была ўчапіцца ў ненавісную жоўта-зялёную фізіяномію прайдзісвета. Яна яшчэ раз уважліва агледзела пакой, шукаючы што-небудзь ёмкае і прыдатнае ў руку, каб хоць раз агрэць свайго спрадвечнага крыўдзіцеля, адпомсціць і за сябе, і за сяброў, і за яго каханак, за ўсіх, каго ён не раз даводзіў да слёз.

Зіркнула ў кут і заўважыла даўно знаёмыя дрэўкі для сцягоў. Імгненна схапіла адно і кінулася на Закіданца. А той, захінуўшыся ад удараў рукамі, выскачыў са свайго крэсла і пачаў бегаць вакол стала, і Зора ніяк не магла яго дагнаць. Вырашыла нарэшце сагнаць злосць на былым мужы і дзіваку майстру. Толькі глянула — крэслы, дзе яны яшчэ нядаўна сядзелі, былі пустыя. Недзе нечакана знік і яе галоўны крыўдзіцель...

Зора раптоўна прачнулася ад надрывістага Машынага кашлю. Тая басаногж у начной піжаме стаяла каля яе ложка, моцна бухікала і, пераадольваючы кашаль, пыталася:

— Чаго гэта ты, бабуля, махала ў сне рукамі і нешта крычала? Цябе, можа, хто ўначы крыўдзіў? Трэба было мяне на дапамогу паклікаць. Я смелая, ніколі не баюся, нават Змея Гарыныча.

Уражаная нядаўнім сном і шчырымі, пяшчотнымі словамі дзіцяці, Зора прыгарнула яе да сябе, пацалавала і захутала ў пуховую коўдру. Шчыльна тулячы да сябе ахаладалую праўнучку, каб неяк крыху сагрэць яе і суняць гэты д'ябальскі кашаль, які каторы год замучвае дзіця, яна яшчэ колькі хвілін нерухома ляжала і ніяк не магла асэнсаваць таго, што бачыла ў сне. Не сон, а сапраўднае кіно. І не ў кожным яшчэ такое ўбачыш. Сон адразу выклікаў усмешку, а пасля скіраваў думкі да сур'ёзных разваг. З якой нагоды блыталася ў галаве тое недарэчнае пасяджэнне партбюро на чале з Закіданцам. Думкі тыя нечакана вярнуліся на некалькі гадоў назад і раптоўна запыніліся на адным з пасяджэнняў, на якім вырашалася яе кватэрнае пытанне. Дом ужо размеркавалі, пачалі будаваць гаспадарчым спосабам, а Закіданец ні з таго ні з сяго выносіць пытанне на бюро аб незаконным выдзяленні ёй кватэры. На тым бюро не ўстрымаўся і ўскіпеў вулканам заўсёды спакойны і разважлівы начальнік цэха Міхаленя і заткнуў Закіданцу рот. Члены бюро, наўздзіў Зоры, тады падтрымалі яе. Пакуль будавалі дом, актыўны грамадскі важак аддаў Богу душу і каторы год парыць зямлю. Дзіўна было толькі, з якой нагоды ён нечакана прысніўся. «Прысніўся, ну і няхай яму лягчэй будзе на тым свеце», — паспачувала Зора былому крыўдзіцелю.

Са сваім, хворым на вострую форму рэўнасці, Круталевічам развялася, як дачцэ было паўтара года. Дакладней, не развялася, а сабрала свае рэчы, забрала дачку і пайшла з кватэры ў белы свет, куды вочы глядзяць, каб не чуць яго і не бачыць.

Пасля ён бегаў па пятах — прасіў і маліў вярнуцца, кляўся і бажыўся стаць ідэальным, але яна разумела, што гарбатага можа выпрастаць толькі магіла. Так з таго часу з ім і не сустракалася, і замуж не выходзіла, хоць і прапаноўвалі. А мінула столькі часу — унучкі замуж павыходзілі, праўнучка кожны выхадны бегае ў яе па кватэры. А ён, бедалага, некалькі разоў яшчэ жаніўся, ды так і не знайшоў свайго шчасця, спіўся ўрэшт і без пары сканаў п'яны на марозе.

Згадаўшы былога мужа, Зора адчула да яго жаль, быццам была ў нечым перад ім вінаватая. Пасля душа яе зрабілася халодная і жорсткая, як толькі ўспомніла штодзённыя пабоі: «А ён цябе тады шкадаваў, як ты прыходзіла ў цэх з сінякамі?». І думаць пра яго больш не хацелася.

Дзіўным было і тое, што ў сне плёўся Зоры і былы майстар зборачнага ўчастка, вялікі дзівак няўдачнік Падбягайла-Канарац, з якім яна і сапраўды

бачылася апошні раз на партыйным бюро. За чарговае дзівацтва (зноў аблапаў нейкую прыгажуню на вуліцы) яго выключалі з партыі перад тым, як аддаць пад суд. Зоры чамусьці заўсёды шкада было гэтага пакрыўджанага лёсам мужчыну, за якога ніводная ў цэху жанчына, у тым ліку і яна, не адважылася выйсці замуж. А прапаноўваў ён многім. І, пэўна, горшай абразы і пакуты для яго нельга было прыдумаць. Каму ні прапануе, смеху на ўвесь цэх.

Падбягайла ведаў, што яна, Зора, багата часу жыве адна, — падступаўся і так і сяк. Стане каля яе рабочага месца і калом прастаіць паўзмены, ласкава пазіраючы ў вочы. Стаіць, пакуль жанчыны на смех не падымуць. Тады толькі недзе сыдзе. А на другі дзень зноў стане «на каравул» і быццам чакае таго моманту, пакуль не абсмяюць жанкі зноў. І так амаль кожны дзень. Зора прызвычаілася да яго дзівацтваў і не звяртала на іх увагі.

Бывае, усім участкам паедуць у лес па ягады ці па грыбы — на крок ад яе не адступіцца. Што ні назбірае — усё ёй, Зоры, аддасць, сілком высыпле ў яе вядро ці кош. І глядзіць моўчкі ў вочы пакорлівым, добрым позіркам, дый неяк пяшчотна і, як заўсёды, шаблонна скажа: «Давай, Зора, пажэнімся, і пойдзеш да мяне жыць». Яна тады заўсёды знаходзіла важкія довады, каб адчапіцца ад яго.

А прычын для гэтага хапала. Жыла ж пасля разводу з Міколам у адным пакоі з дачкою. У тае трое дзявок-падшпаркаў — ужо на хлопцаў прагна зіркаюць. Дачку мужык кінуў — дурны і ваяўнічы характар ухапіла ад свайго татулі. З ёю да трох не гавары. Як толькі што не па ёй — кідаецца біцца, выдзірае зяцю вочы. А зяць удаўся старанны да работы, ціхі, спакойны — мухі не пакрыўдзіць. Дачка, маючы «залаты» татаў характар, неяк непрыкметна і выразна выявіла яшчэ адну яго якасць — беспрабудна запіла, кінула работу і пачала туляцца з сінюгамі-бічамі па завуголлі. Колькі ні ўшчувала, ні прасіла, ні плакала, адказ адзін: «Ты мой характар ведаеш, не рві сабе нервы».

Як пайшоў ад дачкі зяць, паралізавала ў вёсцы маці. Куды яе дзяваць? Прывезла ў цесную камуналку, якую калісь ледзь вырвала з зубоў у Закіданца. Сямейка сабралася дай Божа — карміла, паіла і абмывала ўсіх. Дачка, вядома, не памочніца — усе клопаты на яе плячах. Работа на зборачным канвееры, дзе не кожны мужчына вытрымлівае, вядома, не мёд. Але пасля хатніх клопатаў яна тут адпачывала душой — сяброўкі і знаёмыя, суседкі па зборцы хоць паспагадаюць, пажартуюць. Адзін Падбягайла чаго варты. Яму толькі ў артысты, і — на сцэну, а не тырчаць майстрам у цэху ды сваімі паводзінамі смяшыць людзей.

Думаць пра каханне ў такіх жыццёвых абставінах, у якія яна нечакана трапіла, ніяк не выпадала. Круцілася штодзень, як вавёрка ў коле. І сяброўкі ў цэху, ведаючы яе становішча, дзівіліся: «Як ты, Зора, вытрымліваеш?»

І прапановы дзівакаватага майстра прапускала міма вушэй — тады не да іх было. Хоць недзе ў глыбіні душы часам закрадвалася кволае пачуццё ці жаль, а можа, нават нейкая надзея адным махам разарваць той цесны гордзіеў вузел, у які ўбэрсала жыццё. Але чым далей ішоў час, тым больш напластоўвалася праблем і клопатаў, і яна ў рэшце рэшт зразумела, што шчасце праскакала міма, як на кані, і яго ўжо ніколі ёй не дагнаць, не вярнуць назад...

Аднаго разу, недзе перад самым абедзенным перапынкам, як спыніўся канвеер, неяк нясмела падышоў да яе Падбягайла і кажа без усялякага ўступу:

— Выходзь, Зора, за мяне замуж — золатам цябе абсыплю з ног да галавы.

Канвеер спыніўся, выключылі каларыферы і вентылятары — добра чуваць навокал. Зорына вабная языкатая суседка, прывінчваючы ў кабіне прыборную

дошку, учула чарговую прапанову вечна закаханага майстра іператварыла святыя словы ў здзеклівы, абразлівы жарт:

— Ты, Зора, ведаеш, чаму за яго замуж ніхто з нашых баб не выходзіць? Нічога ў штанах нямашака.

Зорына напарніца сядзела на нізенькім зэдліку ў незашклёнай кабіне, рупліва завяршала аперацыю, зіркаючы раз-пораз цераз пусты аконны праём на недарэку.

Разнервавана-ўзрушаны майстар падбег з расшпіленым прарэхам да сваёй крыўдзіцелькі, паднёс траха не да самага твару мужчынскае прычындалле і раз'юшана крычаў:

— На паглядзі, сцерва языкатая.

А тая, быццам нічога не бачыла, завінчвае апошнюю гайку і ўядае разнервованага небараку па апошнюю завязку:

— Каб такі нягеглы і малы ў майго мужыка быў, я ў першую ноч адарвала б і выкінула курам на сметнік.

Увесь участак у чарговы раз ад смеху хапаўся за жываты. Збегліся пасмяяцца рабочыя з усяго канвеера. А Зора ў той дзень не смяялася — ёй было сумна, крыўдна і шкада Падбягайлы, якога ў чарговы раз выставілі на агульнае пасмешышча.

І гэты выпадак акурат здарыўся з Падбягайлам недзе перад злашчасным партбюро, на пасяджэнні якога небараку выключылі з партыі, і ён загрымеў пад фанфары з цэха хлябаць турэмную баланду. Зора на тым пасяджэнні спрабавала неяк абараніць майстра, звесці на жарт той нядаўні выпадак, бо адчувала ў душы і сваю віну перад ім. Каб дала згоду, то не пайшоў бы чалавек за краты, а выходзіла, што сваім чыстаплюйствам сама туды яго падпіхнула. Але было позна. У судзе ўжо завялі справу — сабралі ўсе яго ранейшыя штукарствы ў адну кучу, і партыйнае бюро было чыстай фармальнасцю, каб толькі пазбавіць чалавека білета і хутчэй упячы за краты. Зора на тым ганебным пасяджэнні, слухаючы з'едлівыя і брыдкія довады і факты з абрыдлых вуснаў распуснага, праціўнага Закіданца, надзвычай востра і балюча адчула, што пакаралі не Падбягайлу, а яе самую. Спрактыкаваны на цэхавых інтрыгах Закіданец, ведаючы схільнасць майстра-дзівака да яе, вырашыў адпомсціць адразу абаім — будзеце помніць мяне ўсё жыццё. Яе выступленне ў абарону свайго няўдалага заляцанца прагучала як лямант у вакууме — ніхто нічога не пачуў.

Пасля таго бюро навакольны свет пачарнеў, і Зоры стала няўтульна і агідна ў калектыве. У душы было такое адчуванне, што цэх у адначассе замянілі незнаёмымі злымі і зайздроснымі людзьмі, якім яна больш ніколі не патрэбна. А ёй тады акурат прыспешыў час на пенсію, ды і хворая, прыкаваная да пасцелі маці патрабавала пільнага дагляду. Зборачны ўчастак без Падбягайлы раптоўна зрабіўся няўтульны і сумны, як пакінуты жыльцамі пусты дом. Маркотна і нудна, як вечнасць, пацягнуліся аднастайныя будныя дні ў чаканні пенсіі.

Той апошні год, як прыкмеціла яна, не стала на ўчастку смеху, жартаў — не было сярод іх Падбягайлы. Сёй-той спрабаваў пажартаваць, успомніць былое і свайго майстра, ды ўспамін атрымліваўся сур'ёзны, бо кожная з яе сябровак, як і яна сама, недзе ў глыбіні душы адчувала віну за тую недарэчную судзімасць...

Машка, угрэўшыся пад коўдрай, перастала кашляць, выпрастала на падушцы ручкі, пацягнулася, як дарослая, і пачала тармасіць Зору:

— Ты, бабуля, не спіш? Уставаць трэба. Мае дзед з бабаю на дачы рана ўстаюць.

Зора пацалавала дасціпную праўнучку, схамянулася ад думак і пачала засцілаць ложак. Машка рупліва памагала. Занятая хатнімі клопатамі, Зора ўсё яшчэ была пад уражаннем нядаўняга начнога відовішча і ніяк не магла ўсвядоміць, з якой гэта нагоды такое магло прысніцца. Ні Закіданца, ні былога мужа Міколы, ні тым больш дзівака Падбягайлы-Канарца яна даўнымдаўно не ўспамінала, не было нават прыдатнага выпадку падумаць пра іх, бо на завод ужо гады тры не хадзіла, не ставала часу.

Пасля снедання Машка, як дарослая, распарадзілася:

— Хадзем, бабуля, на возера, а то ў кватэры горача.

Хуценька сабраліся і падаліся на вуліцу. Ад Зорынага дома да вадаёма — рукой падаць, хвіліны дзве хады. Перайшоў плаціну з шумлівымі шлюзамі — і ты ў цяністым парку, на беразе вадасховішча, хавайся ад спёкі пад шатамі разгалістых старых ліпаў у цяньку, адпачывай і цеш душу Машынымі забавамі.

Плакала і стагнала вада ў аслізлых ад водарасцяў бетонных шлюзах, і прахалодныя пырскі залятылі нябачнай прыемнай свежасцю на высокі мост і пешаходную сцежку, запруджаную людскім натоўпам, які няспыннай плынню цёк у парк, на бераг, бліжэй да вады, каб уратавацца ад гарачыні.

І хоць была яшчэ раніца, задушлівы, смуродлівы горад каторы месяц млеў і канаў ад нясцерпнай спёкі, якой, здавалася, ніколі не будзе канца. Сонца, як у пустыні, бязлітасна смаліла гарадскія камяніцы, плавіла асфальт, ператвараючы яго ў вадкую смалу. Яна прыкра плёхала пад коламі машын, чаплялася за падэшвы прахожых, і Машцы цікава было глядзець, як людзі нязграбна і смешна падымаюць з ліпкага асфальту ногі, перабягаючы дарогу. Дзяўчынка часта спынялася, з усмешкай сузірала навакольны люд і прыслухоўвалася да таемных гукаў імклівай, напорыстай вады ў шлюзах, якая шырокімі пеністымі стужкамі з вышыні падала ўніз. Як разумела Зора, Машка ў гэтых гуках адчувала нешта загадкавае, дзівоснае і чароўнае.

У камерцыйным кіёску Зора купіла праўнучцы розных прысмакаў, і тая, узрадаваная гасцінцам, скінула сандалікі і басанож бегала па пясчаным пляжы, плёхалася ў вадзе, маючы намер пакупацца, бо ўжо некалькі разоў запытальна-ласкава зазірала ёй у вочы і весела шчабятала:

— Дазволь, бабуля, мне паплаваць.

— Не, Машка, табе ўрачы забаранілі купацца. Ахалодзішся ў вадзе і будзеш усю ноч кашляць. Бацькі твае мяне будуць лаяць.

— Не будуць, — упарціцца дзяўчынка, крыўдліва насупліваецца, траха не плача, — яны нічога ведаць не будуць.

Вада пры беразе, як вясной у нераст ад рыбы, кіпіць дзетварой. Зора разумее Машына жаданне паплёхацца разам з усімі і, перасільваючы супярэчлівыя думкі і пачуцці, згаджаецца:

— Ідзі пакупайся, толькі не вельмі доўга.

Яна вымае з торбачкі ручнік, запасныя трусікі, каб ахаладалую пасля купання малую насуха выцерці, пасля пагрэць у гарачым пляжным пяску. Зора, нічога не кажучы Машыным бацькам, некалькі разоў такім чынам прагравала малую пасля купання і заўважыла, што пасля гэтай працэдуры тая ўначы лепш спала, менш кашляла.

Накупаўшыся ўдосталь, Машка мокрая, дрыжучы ад холаду, падбегла да яе. Зора выцерла яе, захутала ручніком, пасля загрэбла ў гарачы пясок, і дзяўчынка некалькі хвілін нерухома ляжала.

Была акурат нядзеля, і людзей на пляжы і ў парку пабольшала, стала цесна, тлумна, як на гарадскім рынку. Машка, адагрэўшыся ў пяску, яшчэ раз збегала да вады, акунулася і неўзабаве вярнулася. Зора хуценька апра-

нула яе, зірнула на гадзіннік і зразумела, што надышоў час абеду, трэба было весці сваю выхаванку дадому, карміць.

Зора глядзіць на Машку і ўспамінае сваё дзяцінства. Здаецца, зусім нядаўна і яна сама, як сёння праўнучка, з сяброўкамі бегала ўлетку на раку купацца і загараць. Ды не доўга той год давялося пацешыцца дзіцячымі забавамі. Пачалася вайна. Вёску спалілі немцы. Яе з маткаю, як і астатніх вяскоўцаў, загналі ў лагер за калючы дрот. Усю вайну і прабылі там, пакуль не прыйшлі нашы войскі і не вызвалілі. Мацеры той лагер адняў здароўе — усё жыццё цяжка хварэла, пакутавала і не ў пару аддала Богу душу...

Спёка мацнела, і ціхае нерухомае паветра нагадвала парылку ў лазні. Машка, упінаючыся, ішла крыху ззаду, увесь час зіркаючы на ваду, пэўна, мела намер паплёхацца там яшчэ. А ў Зоры было жаданне хутчэй схавацца ад пякельнай гарачыні за тоўстымі цаглянымі сценамі сваёй кватэры, якія, наўздзіў ёй, заўсёды захоўвалі ў сабе прахалоду.

Толькі выкіравалася на сцежку, што вяла да плаціны з шумлівымі шлюзамі, як заўважыла непадалёк знаёмую постаць. Чалавека адразу не пазнала, але кінуўся ў вочы яго касцюм — светла-блакітны, у чорную палоску, даволі ладнага і моднага крою. Незнаёмец ішоў павольна, нязграбна перастаўляючы ногі, быццам нешта цяжкае нёс за плячыма. Выглядаў стомлена, касцюм вісеў на ім як на кале. Твар у чалавека худы, маршчыністы, з упалымі шчокамі і нейкім зялёна-жоўтым адценнем, як у цяжкахворага. І яе здагадка наконт знаёмага касцюма імгненна знікла, пакінуўшы на душы нядобры асадак — можа, памылілася?

Аднак сумненні яе праз хвіліну развеяў знаёмы і звыклы, здаўна хрыплавата-гартанны голас, да якога яна, працуючы на канвееры, даўно прывыкла і памыліцца ніяк не магла:

— Здрастуй, Зора! Колькі летаў, колькі зімаў не бачыліся! — кінуўся абдымацца яшчэ хвіліну назад незнаёмы, а цяпер надзвычай блізкі і звыклы ёй дзівакаваты майстар Падбягайла.

Твар яго, яшчэ хвіліну назад з хваравітым адценнем, паступова пачаў набываць жывыя абрысы, якія яна, Зора, памятала з маладых гадоў. Ёй нават падалося, што разам з нездаровай афарбоўкай імгненна зніклі з твару глыбокія барозны-зморшчыны, якія заўважыла яшчэ хвіліну назад, не пазнаўшы свайго былога закаханага.

— Здароў, здароў, Васіль, — шчыра абрадавалася Зора нечаканай сустрэчы, вызваляючыся з некалі дужых, а цяпер прыкметна паслабелых абдымкаў былога майстра, — як жывеш і адкуль ты ўзяўся?

Дасціпная Машка, насцярожана пазіраючы на незнаёмага не надта прыемнай знешнасці дзядзьку, узлавалася:

— А чаго гэта ты маю бабулю абдымаеш — хіба які сваяк? Я цябе не ведаю.

— А я даўно люблю тваю бабулю, — прызнаўся малой заступніцы Канарац.

— Дак ажаніся з ёю, а то бабулі адной цяжка, ніхто, акрамя мяне, не памагае.

— Разумная ты дзяўчынка. А за параду — на табе цукерку, — выняў ён з кішэні і падаў малой шакаладку, мовячы: — Як пагодзіцца жыць са мной твая бабуля, буду кожны дзень табе купляць яшчэ лепшыя прысмакі.

На дзіцячым твары выразна акрэслілася задаволеная ўсмешка. Машка яшчэ наважылася нешта сказаць, але гаворку перабіла Зора, сунімаючы дужа разважлівую праўнучку:

— Такіх дзядоў па парку багата ходзіць, усіх не забяром у кватэру, а то і табе месца не хопіць.

— Усіх не трэба, а гэты мне падабаецца, — замілавана пазіраючы на былога бабулінага заляцанца, сур'ёзна параіла Машка, — яго можна браць.

Зора адчула, як ад гэтых пранікнёных і дзіўных слоў малой раптоўна хлынула ў твар гарачыня, і ёй нечакана стала сорамна. Каб неяк змяніць шчымлівую для душы тэму, яна спыталася:

— Дзе ты, Васіль, цяпер і як пажываеш?

— А так, Зора, і жыву. Пасля таго бюро, на якім ты мяне спрабавала абараніць ад Закіданца, я зрабіў яшчэ дзве ходкі на «канары». Пасля апошняй — толькі вызваліўся і аформіў пенсію. Маці памерла, жыву адзін. — У голасе яго прагучаў непрыхаваны і балючы папрок у яе адрас.

У скронях яе частымі малаточкамі зацінькала даўняя і далёкая, як вечнасць, вярэдлівая думка: «Прабач, Васіль, я ва ўсім вінаватая». Зора была не рада гэтай нечаканай сустрэчы, ды нікуды не дзенешся — жыццё не падуладна чалавечым жаданням. У гэтым яна даўно пераканалася. І дзіўны сённяшні сон, незразумелы і тлумны, меў свой глыбокі і даўні сэнс — нечакана звёў яе тут, у парку ля вадасховішча, з былым паклоннікам, якога ў жыцці не надта шанаваў лёс, як і яе самую.

Час набліжаўся да абеду — трэба было карміць Машку, і Зора заспяшалася, нагадаўшы пра гэта Падбягайлу. Той на развітанне заступіў ёй дарогу, акінуў позіркам з галавы да ног, ад якога аж халадок прабег па целе, зазначыў:

— А ты, Зора, пастарэла, але ўсё роўна прыгожая, як і некалі.

— Маладзён мне знайшоўся, — усміхнулася ў адказ яна, узяла за руку Машку, кіруючыся дадому, каб схавацца ад пякельнай гарачыні і хутчэй развітацца.

Канарац зрабіў некалькі крокаў следам, сказаў сцішана, як баючыся, каб ніхто не пачуў:

— А я цябе, Зора, па-ранейшаму люблю.

— Прайшла, Васіль, наша з табой пара, гадоў назад не вернеш, — з непрыхаваным жалем у голасе адказала яна, — засталіся мы з табой на ўсё жыццё сябрамі. І гэтаму павінны радавацца. Заходзь у госці. Дзе жыву — ведаеш...





## Іван ШАМЯКІН

*Пра тое, што пісаў вершы, Іван Пятровіч прызнаўся ў дарозе.*

*— Нават захаваўся сшытак з вайны...*

*Ехалі ў Глыбокае, везлі на прэм'ерны паказ фільм «Эпілог», зняты Ігарам Дабралюбавым па аповесцях пісьменніка. Магчыма, сама прыгажосць краявідаў з гонкімі прыдарожнымі соснамі і навяла Івана Пятровіча на лірычны роздум, адгукнулася ў сэрцы хваляй усюдыіснай паэзіі. Гаварылі пра творы і творцаў. І я, ва ўгоду прызнанню Шамякіна, зацікаўлена прапанавала:*

*— Вернемся, — дасце пачытаць вершы!*

*— Не! — цвёрда адказаў Іван Пятровіч. — Тое засталося ў сваім часе.*

*І вось у маіх руках яго вершы. Ужо яны жывуць па-за зямным часам пісьменніка — яшчэ адна неадкрытая старонка яго спадчыны.*

*Пісаліся яны юнаком-пачаткоўцам (і так хочацца многае-многае падправіць майстравітай рукой). Пісаліся ў пякельныя гады Вялікай Айчыннай... І таму мы, дарагі чытач, прапануем іх тваёй увазе, не крануўшы ні слова... Здаецца, ад рэдактарскага дакранання яны менш стануць дыхаць порахам вайны, зырчэць іскрамётнасцю пачуццяў... Дый цікавыя яны нам сягоння самым галоўным — праўдай суровага жыцця, перажываннямі іх лірычнага героя, які жыў, пакутаваў, марыў...*

***Мікола МЯТЛІЦКІ***

# ВАЕННЫЯ ВЕРШЫ

### ГОМЕЛЬ

Там кожная вуліца да болю знаёма,  
Тунелі пад'ездаў ля кожнага дома,  
Каштанаў і ліп маладыя прысады  
І ціхага Сожа прастор і прахлада.  
Сады і гаі зялёных акраін  
Я выхадзіў там ад краю да краю.  
Я восенню часта бываў у садзе  
І кожнае дрэўца ласкава гладзіў,  
Як быццам каханаю, цёплай рукою.

Я мог размаўляць з паўнаводнай ракою,
І мы разумелі друг друга цудоўна,
Двое маўклівых, здаровых і поўных
Цёплых пачуццяў, песень і думак,
Здольных смяяцца, плакаць і думаць.
Горад мой рос разам са мною.
Трубы заводаў адна за другою
У неба ўзнімаліся з клубамі дыма...

Што з табой сёння, горад любімы?
Сёння я ўбачыў фота ў газеце:
Спалены горад. Парк... Вецер
Носіць лісце па алеях і дарозе,
Ляжаць на зямлі ліпы і бярозы.
Цяжка спазнаць — тут усё не такое,
Спалена ўсё над спакойнай ракою.
Ну і не спазнаць мне цябе немагчыма,
Горад згарэўшы, горад любімы.

***13 кастрычніка 1941 г.***
***Мурманск***

* * *

Калі ад гарачае кулі
Ўпаду на халодныя скалы,
Жадаю адно — каб пачула
Ты стогн мой...
І потым без жалю
Часамі б мяне ўспамінала,
Ды толькі без раны смяротнай,
А вечна такім, як спаткала,
Такім, якім стаў табе родным.

***Кастрычнік 1941 г.***
***Мурманск***

## ПЕСНЯ

Я, бывала, марознай ноччу
Выхадзіў на заснежаны шлях.
Песня срэбным звонам дзявочых
Галасоў над раўнінай плыла.
Уплывала ў прастор, улятала
І не гасла ў бязмоў'і палёў —
У суседнім сяле падхваталі
Песню звонам другіх галасоў.
І крылатая песня ляцела,
Ўсё далей з пералівам плыла
І над гладдзю нясла мутна-белай
Весялосць ад сяла да сяла.

Я ішоў ці стаяў сярод поля —
Сэрца прагна піло гэты спеў...
...Родны край! Беларусі раздоллі!
Я сягоння спяваю табе!
Хай ляціць з палярнага краю
Мая песня да родных хат,
Можа, толькі яе не спаткае
Чужаземнае грубае «хальт!»
Хай раскажа нябачная песня,
Што вяртаюцца з боем сыны.
За зімой наступае прадвесне,
За прадвеснем — квітучасць вясны.

***Лістапад, 1941 г.***
***Паўвостраў Рыбачы***

## БЕЛАРУСЬ

Тут ніштo аб табе, родны край, не напомніць:
Ні халодныя скалы, ні адвечныя льды,
Ні бярозкі на схілах, нахілёныя сонна...
Толькі стогнуць знаёма адны праўды.
Пабялеўшыя струны болем сэрца кранаюць.
Гэта музыка ветру засталася ў грудзях,
Я з маленства слухаў яе ў родным краі
На шырокіх бяскрайніх беларускіх шляхах.
І цяпер здаецца: у аднатонным гудзенні
Чую я звон бяроз, шалясценне траў,
Родных рэк мнагаводнае цячэнне,
Спеў далёкі дзяўчат, шум зялёных дубраў.
Чую я адгалоскі знаёмае песні,
Што заўжды выклікалі і радасць і боль...
...Можа, толькі адно вось гэта прадвесне,
Родны край, я не стрэну разам з табой.
Твае топчуць палі і паганяць дубравы,
Заліваюць крывёю глыбіні азёр.
Ды ўжо блізка расплата з катам крывавым!
Зашуміце бары! Ўскалыхніся прастор!
Ўжо сыны падыходзяць, звініць перамога,
Хутка-хутка мы пройдзем лавінай палкоў
Па знаёмых тваіх, па шырокіх дарогах
Праз палескія пушчы хваёвых бароў.

***23 лютага 1942 г.***
***г. Кола***

## У ЗАПАЛЯР'І

Мароз такі, што трэскаюцца скалы
І снег звініць разбітым звонам шкла.
Ў палярным небе ззянне загуляла
Істужкамі рухомага святла.
З галін нябачных адлятаюць зоркі,
Здаецца, чутна — падаюць у снег,
Здаецца, тундры снежныя прасторы
Замоўклі ў доўгім і глыбокім сне.
Ну, так здаецца, толькі так здаецца,
На самай справе тут зусім не так,
Успыхне полымя — прыслухайся, і вецер
Даносіць шум прыглушаны атак.
І ў гэты край азёраў і граніту,
У дзікі край глыбінных вечных льдоў
Яны прыйшлі адпетай бандай спітай
З далёкіх рэйнскіх, эльбскіх берагоў.
Што трэба ім між хвоек парадзелых,
Загубленых у мурманскіх снягах?
Застыне кроў іх на скалах белых,
І занясе іх трупы тут пурга.

І тут яны згніюць на голых схілах
І трупаў вонь растворыцца ў вадзе.
Ніхто ім тут не выры́е магілы,
Звярам, загінуўшым ад рук людзей.
І прыйдзе ноч, калі ўжо з неба зоркі
Зляцяць бясшумна ў белізну снягоў.
Бяскрайняй тундры снежныя прасторы
Зазіхацяць агнямі гарадоў.

*1942 г.*

## ПІСЬМО Ў ПРАСТОР

Маша!
Сёння майскі дзень.
Звычайны ваенны дзень
З трывогамі, з боем,
З чаканнем.
Разам з другімі іду
Шляхам вялікіх падзей...
Веруй!
На грані штыка прынясу
Шчасце спаткання.
Веруй! Будзе яно!
Рукі твае я вазьму
Там, дзе крыжуюцца ў полі дарогі.
Нашу дачку на руках падніму,
Як сцяг,
Як сімвал
Жыцця й перамогі.
Веруй, як верую я.
У баі было б цяжка без веры,
Як цяжка ўпасць духам,
Думаць аб смерці тваёй.
Тысячы тысяч ідуць
Зараз пад градам шрапнелі
І выходзяць жыць
З гэтых смяротных баёў.
Верыць! Толькі верыць!
Сціснецца сэрца балюча
Пры думках,
Што станеш ахвяраю ты
Страшных, крывавых граміл,
Што нашу дачурку
Паставяць замест мішэні
І расстраляюць..
Не!
Думаць так не хваціла бы сілы.
Мы ж дамаўляліся жыць,
Жыць, каб звінела напевам
Шчасце,
Каб ляцелі песняй
Нашы вясёлыя дні.
Як жа мы можам даць
Вырваць з сэрца імкненні,
Наша жыццё пагасіць
У шумным разгары вясны?
Не! Мы застанёмся жыць!
І я прыйду да цябе
Па той, знаёмай да болю,
Разбітай вайной дарозе.
Ведай:
Радасць жыцця ў барацьбе,
Ў бурным імкненні наперад.
Шчасце — ў адной перамозе!

Маша!
Сёння майскі дзень.
Звычайны ваенны дзень.
Тут, у Запаляр'і, па-лютаўскі
Холад і жудасны вецер
У стромкіх цяснінах
Вые, свішча, гудзе —
Але і тут
Я ніколі не думаў аб смерці.
Думаю толькі пра вас.
Смерць там лютуе і косіць,
Грудамі цел жаночых
На родных шляхах ляжыць.
Страшна:
Выбіты вочы,
Крывёю склеены косы...
Але я шапчу:
Жыць!
Вы павінны змагацца і жыць!
Цяжка, любая, цяжка
Думаць аб родным краі,
Часта ад болю ў сэрцы
Вочы туманіць сляза.
Але сёння майскі дзень,
Сёння вясна расквітае

У родных маўклівых барах
Сілай стальной партызан.
Вясна!
І мы ідзём!
Мы прыйдзем! Чакайце!
Цяжка?
Але мы прывыклі
З цяжкасцю вечна дружыць.
Мы вымяраем штодзень
Адлегласць на сцёртай карце,
І хочацца крыкнуць вам:
Ідзіце!
Ідзіце насустрач!..
Каб перамагчы і жыць!

***Май, 1942 г.***
***Мурманск***

## МАЦІ

Прыйдзе час. Мы яго назавём Перамогай,
А ў фашысцкім генштабе дрыжача прашэпчуць: «Разгром...»
Па разбітых вайною, залітых крывёю дарогах
Я прыйду ў родны кут над блакітным Дняпром.
Што убачу я там? Цяпер цяжка ўявіць.
Знаю: вогнішча будзе там, дзе новая хата была.
Мая родная маці! Ці сустрэнеш ты сына жывой?
На дарозе на той, па якой ты яго правяла?
Буду верыць, што стрэнеш. Буду думаць толькі аб гэтым.
Але ўпэўнен чамусь: не убачыць равесніц маіх мне бяроз,
Не пачуць тваіх песень, у дзяцінстве нам недапетых —
Гора згорбіць цябе, пасярэбрыць пасмы валос.
Гора сэрца зальe, і маршчыны твар спаласуюць.
Ты ўвесь боль прыняла на сябе за разбіты і спалены край,
Ты слязамі і крывёю абмыла зямлю нашу святую,
І мы звернем яе, дарагая матуля. Чакай!

***Май, 1942 г.***

## НОЧ

Хмары ссякаюць вяршыні сопак,
Здаецца, рукою іх можна дастаць.
Ноч. І навокал як быццам шопат,
Прыдушаны, ціхі, як шопат салдат.
Дождж. І крокі — быццам стрэлы,
І быццам да берага хтосьці падплыў.
— Чаму гэта мора названа Белым?
Глядзі, які жудасна чорны заліў...
І чорная ноч, як траур ўдавы,
Заліты халодным патокам слёз...

Мы моўчкі ўваходзім у мякаць травы,
У мокры кустарнік карэльскіх бяроз.
— Закурым, таварыш? Нідзе ні душы...
— Садзіся, закурым...
Плячо ля пляча.
— Вялікае шчасце — змагацца і жыць, —
Любіцель памарыць, таварыш пачаў.
І ціха гаворыць аб родным сяле,
Аб шыры бяскрайняй паспелага жыта,
Аб тым, як многа на рускай зямле
Шчаслівых дзён да вайны пражыта.
І мне яго словы песняй гучаць,
Вялікаю песняй аб радасці жыць...
...Дождж...
Хвалі заліва ціха шумяць,
І ноч на зямлі цяжарам ляжыць.

*1942 г.*
*г. Кандалакша*

## МАГІЛКІ

Колькі ляжыць тут пакаленняў!
Колькі зарыта тут рускіх людзей!
Вербы-старухі ногі-карэнне
Мыюць у канаве ў мутнай вадзе.
Мёртва застылі крыжоў сілуэты,
Моцных, як прадзеды нашы й дзяды,
І па-вясноваму, быццам раздзетыя,
Станы худыя бяроз маладых.
Міма магілак праходзяць дарогі,
І хочацца мне каля кожных іх стаць,
Стаць, пакланіцца бярозкам у ногі
І славе рускай — дубовым крыжам.

*1943 г.*

## ДАЧКА

Я не бачыў цябе, я цябе не насіў на руках,
Аб з'яўленні тваім ўзнаў праз многа скалечаных дзён.
Абмываўся слязамі адступлення нашага шлях,
І гарэла зямля, каб жывой не папасць у палон.
Гаслі зоркі ўначы, быццам іскры далёкіх ракет.
Я лажыўся й шукаў: дзе яна, зорка шчасця, твая?
Мы ішлі на ўсход, каб вярнуцца назад.
Пераможцамі ў хуткіх, адшумеўшых вятрамі баях.
Але месяцы йдуць, а я ўсё не магу шчэ суняць
Таго болю, што сэрца праточыць змяёй...
Дзе ты, родных палёў праспяваная цішыня?
Калі звернем, дачка, неадданае шчасце твае?

***Май, 1943 г.***

## НАВАГОДНЯЕ

Я адзін ў чыстым полі,
Я далёка-далёка
Ад цябе і ад шчасця,
Ад Дняпра і цяпла.
Мне здалося, гарматы
За гарою замоўклі,
І цень новага года
Па снягу праплыла,
Ў беласнежным халаце —
Не ўбачыш у раўніне —
Быццам смелы разведчык
Пасля вылазкі ў тыл.
Я хачу, каб вось так
І ў гэту хвіліну
Ў прыдняпроўскай даліне
Стаяла і ты.
Каб вось гэты ж вецер,
Што мяне абвявае,
Мае думы і мары
Данёс да цябе...
Ты, я знаю, не спіш,
А дачка засынае
Пад твой ціхі, пяшчотны
Ледзь-ледзь сумны напеў.
Ты чакаеш яго —
Новы год — з нецярпеннем,
Як чакаеш шчасця,
Звароту майго,
Як чакала раней
Свайго вызвалення
І хавала ў сэрцы
Надзеі агонь.
Я адзін ў чыстым полі.
Я далёка-далёка.
Зноў гарматы завылі
За снежнай гарой —
Значыць, ён наступіў,
Малады, сінявокі,
Год — салдат-пераможца,
Тварэц і герой.
І я сэрцам пачуў,
Як раптам стаў бліжай
Да цябе і да шчасця,
Да цяпла і Дняпра.
Веруй: толькі спадуць
Кветкі з яблынь і вішань,
Я звярнуся дамоў,
Бо даўно быць пара.

***Студзень, 1944 г.***

* * *

Змыта дажджамі кроў на дарогах,
Выраслі кветкі ў лугах.
Ў сэрцах жаночых сціхла трывога,
Лёгка ўздыхнула зямля.
Закаласіліся ў полі пасевы —
Там, дзе шумела вайна,
І захацелася музыкі й спеваў,
Ласкі, цяпла і віна.
І захацелася шчасця спаткання
З тымі, хто помніў мяне,
З тымі, хто доўга кожнае ранне
Ўдач мне жадаў на вайне.
З тымі, хто часта ў горы разлукі
Імя маё ўспамінаў, —
З усімі, чые цёплыя рукі
Будуць мяне абнімаць.

***Жнівень, 1945 г.***

***Публікацыя Алесі Шамякінай.***





**Юрась СВІРКА**

# РАДКІ НАЎЗДАГОН

Верш мой ляцеў наўздагон, але запазніўся — «пантэон пясчаны» ўжо зачыняў свае цяжкія дзверы, за якімі — толькі незваротнасць ды вечнасць:

Князь, мой князь,
ты так заплыў далёка.
Стуль жа не вяртаюцца назад.
Захліснула чорная затока
Стомленых вачэй пагляд.

Здаецца, маімі вуснамі прамовілася некалі тое жартоўнае — Князь. Але як потым прыжылося. Было, і праўда, нешта княжае ва ўсёй яго паставе: і тая ж роздумная запаволенасць хады, ці спаважнасць, і скупая ўсмешка ўперамеж з суровасцю (часта са сціснутымі, ажно з прыкусам вуснамі — тое і фотаздымак адзін засведчыў), і востры, на мудрасці замешаны, позірк вачэй з-пад акуляраў. Можа, і не зусім па-княску пачуваўся ён у вялікім княстве паэзіі. Але чаму ж? — княжыў, меў сваю вагу і там.

Паэты часта «танцуюць» ля адной сваёй тэмы. Ён жа часцей за ўсё спяваў пра лес, пра сваю родную баравіну, у чыім «царстве» ніколі не быў чужым, а ў суровую ваенную блакаду нават ратаваўся. А якія прачулыя радкі прысвяціў роднай Бягомльшчыне! І пра вёску, якой абавязаны лёсам сваім, сказаў вось як непаўторна:

Заглядаю я у вёску, як у слоўнік,
Каб упэўніцца, што правільна пішу.

Можна і не сумнявацца: пісаў правільна, ды яшчэ надзвычай вобразна, значна і запамінальна, быццам прымерваўся да самой вечнасці.

Радком стаяць у мяне на кніжнай паліцы яго кнігі з аўтографамі. Адна так і называецца — «Аўтограф». Некаторыя падпісаны там, на Чырвонай, 4, дзе мы ўчатырох, плячо да пляча, сядзелі ў цеснаватым пакоі на другім паверсе ў будынку Беларускага радыё. У «літаратуршчыкаў», як нас называлі за вочы, было крыху больш волі, чым у астатніх, і яны сярод дня маглі заскочыць у тыя ж «Чорныя скалы» (кафэ на рагу Камуністычнай і Чачэрына) і хапіць на грудзі чарку нейкай «гарачыні». Але на эфіры гэта зусім не адбівалася.

Старонкі свайго перакіднога календара Юрась спісваў дашчэнту дробным, уборыстым почыркам. Чытае што-небудзь, і тут жа асацыятыўна штосьці занатоўвае: думкі, цэлыя радкі, прыкідкі да будучых твораў. А збіраючыся ў чарговы адпачынак, некалькі дзён сядзіць і выпісвае з тых каляндарных

лісткоў у сшытак. Гэта — так званыя «загатоўкі», якія мусяць стацца вершамі. Пасля адпачынку ён будзе чытаць іх нам услых. Чытаў ён, і сам нібы хмялеў ад свайго ж голасу, жэстам рукі ўзмацняючы галоўнае.

У 70—80-я гады ў паэта быў незвычайны творчы ўздым, вершы ягоныя друкаваліся нізка за нізкай у «Полымі» і «Маладосці», у выдавецтве адна за адной выходзілі паэтычныя кнігі. Вершы, шчыра скажам, былі нечаканыя, часта выбуховыя. Усё гэта заўважалася, але чамусьці замоўчвалася. Лаўры, слава, прэміі абыходзілі яго і даставаліся больш увішным ды прабіўным. Ён разумеў гэта, а, разумеючы, пісаў яшчэ лепш, ці то злуючыся, ці то кідаючы выклік.

Чытаю адзін з яго аўтографаў на кнізе «Узаемнасць»: «Дарагому Казіміру з найлепшымі думкамі і пажаданнямі. Помняцца гады і ўсе сустрэчы ў дарозе, у роднай вёсцы і за святочнымі сталамі.

Юрась Свірка 9.II.1993».

Сустрэч і сапраўды было нямала. Сваім Ю. Свірка пачуваўся і ў маіх Малых Навіках, а я тым жа сваім быў у яго Маргавіцы. Згадваю апошнюю нашу паездку туды летам 2003 года разам з Алесем Пісьмянковым, Вячаславам Корбутам і дачкой паэта Ірынай. Так многа цёплага, сардэчнага і незабыўнага ўмясцілася ў адзін той летні дзень! Абдымкі землякоў — гэта своеасаблівыя абдымкі. Я добра разумеў адчуванне Юрася Мікалаевіча, калі бачыў на яго вачах слёзы. Гэта так яго расчулілі сустрэчы таго дня.

Сёння, чытаючы апошнія вершы сябра, разумею, як многа было гаркоты і болю ў яго сэрцы. Адкуль яны? З тых далёкіх «балючых гадоў блакады і балота» ці ад таго сумнага і непазбежнага, што чакала яго ў нашым часе? Не на ўсё знойдзеш адказ у вершах.

Балюча перажываў паэт заўчасную смерць жонкі. Гэта страта ўсё часцей і часцей нагадвала пра сябе і ў вершах. Трагічны матыў той самай страты ажывае ў вершы «Язмін»:

Мы яго пасадзілі з табою калісьці вясною.
Ты хацела,
Каб рос ён на дачы і цвіў...

Дача для паэта была як маленькі куточак душэўнага прытулку, добрай чалавечай раўнавагі. На вялікі жаль, тут, на дачы, і спынілася яго сэрца. Вось пасля гэтага і не вер у прадчуванні паэтавай душы! У вершы «Прыкідка запавету» чытаем:

...Без анямелай мітусні,
Без абыходлівай пашаны...
Адно — сплысці на трэцім дні
Туды, дзе пантэон пясчаны.

Усё амаль так і адбылося...

Мой верш так і не дагнаў той «трэці дзень». Яго радкі, напісаныя перад гэтым, мы маем магчымасць сёння прачытаць і сказаць тое, што, мабыць, ужо неаднойчы казалася. Пайшоў ад нас паэт светлы і бескампрамісны, шчодра надзелены талентам ад прыроды. Пайшоў, але пакінуў нам багатую творчую спадчыну. Будзем жа да яе ўважлівымі.

***Казімір КАМЕЙША***

* * *

Адцвіў апошні майскі дзень.
Вясну ў вянку з пялёсткаў белых
Цалуе сонечны прамень
І палахліва і няўмела.

Чаканне ёсць у гэтым дні
І расставанне трапяткое.
Акно, здаецца, расчыні —
І лета закранеш рукою.

Прачнуўся буркатлівы гром
І перасоўвае аблокі.
Трава ільсніцца дываном,
Відаць, пачула лета крокі.

Яго усмешку пазнаю
І ў квецені садоў, і ў бэзе.
Здаецца, побач з ім стаю.
Яно знаёміцца не лезе.

Зашклёна неба сінявой,
Яно праяснена вятрамі.
Хоць гэты дзень прапах вясной,
Ды лета ўжо не за гарамі.

У белай квецені сяло.
І май сыходзіць з далягляду.
Чутно, як лета наплыло,
Перабірае завязь саду.

## ТРЫВОЖНЫ СОН

Трывожны сон перакажу:
Са мною мама не гаворыць.
Пагляд пранізвае душу —
Так на мяне глядзіць з дакорам.

Зрабіў я штось не так, відаць,
Пакрыўдзіў некага, магчыма.
Я ведаю, чаму глядзяць
Такімі сумнымі вачыма.

І пацягнула мяне зноў
Над тым пагуркам нахіліцца.
Хоць не пачуць жаданых слоў,
А перад мамай павініцца.

І вёў дадому шлях мяне
Між сосен стромкіх заінелых,
Каб мама там, у вечным сне,
На сына крыўдна не глядзела.

* * *

Цяжка, горка быць у хаце,
Натаміць на сценах зрок,
Не пачуўшы голас маці:
«Ты пабудзь яшчэ, сынок»

Печ сялянская. Каморка.
Не забыў куточак свой.
Вельмі цяжка, вельмі горка
Тут, у хаце дарагой.

Цяжка выйсці з роднай хаты,
Не пачуўшы: «Ты куды?..»
Нібы ў нечым вінаваты
Ты застаўся праз гады.

Цяжка выйсці за варотцы
Не аклікнутым нікім.
Аб маўчанне абкалоцца
Тут, на селішчы сваім.

Як чужы. Як пакаранне.
Адыходзіш навякі,
Не адчуўшы дакранання
Ні пагляду, ні рукі.

Цяжка сэрцу, каб не ўсхліпнуць
Тут, у роднай старане.
Мрою хатай, што пад ліпай
Сірацее без мяне.

* * *

За сотні вёрст вядзеш са мной размову:
«Сумую без цябе. Часцей пішы».
Пяшчотаю твае сагрэлі словы,
Якой тут не хапае для душы.

Я штосьці гаварыў табе пра мора
І пра сумотны гаварыў настрой.
Хаця і развіталіся учора,
А сёння быць хацелася з табой.

Не мару пра спатканне трапяткое:
Ты у мяне адна на ўсе гады.
Хачу, каб кожны дзень былі са мною,
Як сёстры, і паэзія, і ты.

* * *

Чакаю дня памінак я з надзеяй,
Нібы з табой сустрэнуся жывой.
Завея па-за вокнамі люцее.
А як жа там, у змроку тым, зімой?..

Здаецца, яшчэ ўчора — не калісьці —
Мы гаварылі. Слёзы на вачах.
Ты ў вырай свой апошні, бы ў калысцы,
Аплаканай сплыла на ручніках.

І памяць я напружваю да болю.
Жалобных гукаў чую переразвон.
Ды не сатруць твой воблік аніколі
Ні сорак дзён, ні сорак тысяч дзён.

Не сплю. Чакаю: «Божачка мой, Божа...»
Жывою паўстаеш ты зноў і зноў.
А можа (мне ўсё верыцца), а можа,
Ты, хоць і позна, вернешся дамоў.

* * *

Яны ідуць сустрэцца, сустракаць
Хто жонку, хто каханую жанчыну...
А мне куды, а мне каго спаткаць?
На гэтым свеце
Ты ўжо ва ўспамінах.

І весела, і радасна сябрам:
Чакаюць іх сустрэчы і спатканні.
А мне — дамоў.
А хто чакае там?
Чаго чакаць у вечным развітанні?

Сябрам я пазайздросціў, бо яны
Ідуць не адзінокаю хадою.
А мне такія сцежкі не відны,
Ніколі не ісці па іх з табою.

Ды ўсё ж і я сустрэнуся з табой.
Не тут, а там,
Дзе не бываюць госцем,
Дзе вечныя і цемра і спакой,
Дзе ні сябрам, ні сонцу не зайздросцяць.

## ЯЗМІН

Мы яго пасадзілі калісьці вясною.
Ты хацела,
Каб рос ён на дачы і цвіў...
Пяць гадоў я вякую ў расстанні з табою,
Ды ні разу цябе нежывою не сніў.
Беласнежна цвіце ён. Духмяныя гронкі.
Быццам ты ў белым плацці
Стаіш пад акном.
А язмін, як і лёс, — і надзейны, і ломкі,
Як і ўсё, што пазначана вечным жыццём.
Прачынаюся раненька чэрвеньскім летам.
Яшчэ сонейка спіць. Ад язміну відно.
Быццам ты як жывая душа з таго свету
Разбудзіла мяне, заглянула крадком у акно.

* * *

Кажуць, ёсць дні залатыя,
Многа іх — цэлы сувой.
А мне даражэйшыя тыя
Усе, што пражыты з табой.

Кажуць, ёсць ночы сляпыя,
Цемень, не бачна агнёў.
А мне найзмрачнейшыя тыя,
Што без цябе я правёў.

Кажуць, гады ёсць даўгія,
Быццам спыніўся іх бег.
А мне найдаўжэйшыя тыя,
Што я пражыў без цябе.

Кажуць, ёсць мары пустыя,
Як марна пражытыя дні.
А мне найсвятлейшыя тыя,
Што толькі з табой я сасніў.

* * *

Год за годам бліжэй і бліжэй
Да высокай мяжы падыходзіць.
А не хочацца крочыць цішэй
І душу супакоем лагодзіць.

Друг мой,
Кажаш, марудна іду.
Я не знаю, хто ў гэтым павінен.
Можа, ўдасца прыспешыць хаду
На раўнейшай маёй пуцявіне.

Можа, разам падумаць пара,
Нас чакаюць вякі за гарамі.
Непаэты марудна гараць,
А паэты імгненна згараюць...

І без нас нехта будзе гарэць
Ці адвеецца ў вечнасць паловай.
Мусіць, той пачынае старэць,
Хто ахвочы на доўгія словы.

Друг мой любы,
Ты знаеш, стары,
Мне парою такое прыходзіць,
Што не ўзяў я высокай гары
І паплёўся яе абыходзіць.

* * *

Па могілках праходжу верасовых,
Яны напамінаюць пра гады,
Пра тое,
Што і ты жывеш часова
І вернешся адпачываць сюды.

Тут родзічы.
Магілы значны ледзьве.
Па надпісах каменны мох паўзе.
Адны, малыя, без чаргі пралезлі,
Старыя ж — патаміліся ў чарзе...

О вечнае жыццё і абнаўленне!
Усё прыходзіць да сваёй мяжы.
Няма тут ані ўзлётаў, ні падзенняў:
Закрэслілі маўклівыя крыжы.

Пакуль жыву,
Пакуль усё здзіўляе,
Адсюль далей мне хочацца ісці...
Дарэмна месяц з хмаркай высвятляюць,
Дзе мне паляну чыстую знайсці.

* * *

Гарыць бульбоўнік і карэнне,
І лісце жоўтае дыміць,
Калі сабрана ўжо насенне,
Таму зусім і не баліць.

Калі старыя паміраюць,
Не плачуць голасна па іх.

А пройдуць следам, паўздыхаюць
І ўспомняць ціха, як жывых.

І попел лёгкі і ссівелы
Асядзе ад травы і дрэў.
Нібы нікому не балела,
Што ты тут жыў
І тут згарэў.

## ПЕРАД АДЫХОДАМ

У роспачы не закрычаць,
Не праклінаць жыццё ў адчаі.
Усё нашчадкам перадаць,
Пакуль у вечнасць не адчаліў.

І не махнуць на ўсё рукой,
Маўляў, ці варта існаванне,
Калі ўжо скон не за гарой,
Калі стаптаўся ўжо дазвання.

Не страціць мужнасці прызнаць,
Што жыць на свеце — асалода,
Што варта за жыццё аддаць
Багацце ўсё і ўзнагароды.

Усё жывое зберагчы,
Пакінуць дабрату і слова
І не забраць туды ключы,
Каб тут не звёўся круг жыццёвы.

## ПРЫКІДКА ЗАПАВЕТУ

Апошніх дзён я не прашу.
Іх не вымольваю у Бога.
Ён благаслаўляе сам душу
У незваротную дарогу.

І я надзею берагу
На Божы лік, і дар, і згоду,
Калі праз смутак і тугу
Сплыве душа ў яго Гасподу.

Сплые без зборышча вянкоў,
Без адпявальных галашэнняў,
Без пустаты хвалебных слоў,
Без непатрэбных суцяшэнняў,
Без анямелай мітусні,
Без абыходлівай пашаны...
Адно — сплысці на трэцім дні
Туды, дзе пантэон пясчаны.

* * *

Не забяру з сабой нічога:
Ні рэк, ні сосен, ні крыніц.
У цёмны свет звядзе дарога,
Якой нікому не спыніць.

Хоць і не ўбачыш, ды ўсё роўна
Перад табой — блакіт нябёс
І цішыня, дзе так чароўна
Хадзіць пад засенню бяроз.

Ды ўжо не зможаш захапляцца
І па красе іх уздыхаць...
Няхай мне *там* яны прысняцца,
Як тут яны жывым шумяць.

* * *

Родная мова! Душою народнаю
Ты ў памяць навекі
Ўвайшла праз гады.
Музыкай поўняцца словы лагодныя,
Быццам няма прадчування бяды.

Зброяй была і Купалу, і Коласу
Тою далёкаю змрочнай парой.
А мы і сягоння
Прыцішаным голасам
З аглядкай гаворым
На мове сваёй.

У сэрцы сцінаецца
Крыўда няўмольная...
Мова, ты лёсам народа была!
Што ж ты сказала
Такое крамольнае,
Сцежку да праўды каму перайшла?

Хто ад цябе
Адрачыся асмеліцца? —
Мне нават страшна
Падумаць аб тым.
Слова ж тваё і спявае, і свеціцца.
Сіла, пяшчота і музыка ў ім!

* * *

Іскрыцца праменне, хоць дзень вераснёвы.
Здаецца, зусім не канчаецца лета.
Верасам пахне, іглiцай сасновай.
Зямля быццам жнівеньскім сонцам сагрэта.

Быццам і дзень не прыходзіў асенні:
Хапае блакіту нябёсам, азёрам.
Яблыку — спеласці,
Полю — насення,
А думкам і марам — крылатай прасторы.

***Публікацыя***
***Ірыны СВІРКО.***



## Бажэна НЕМЦАВА

# БАЖЭНА НЕМЦАВА
## (1820—1862)

*Бажэна Немцава (у дзявоцтве Барбара Панклава) — найярчэйшая зорка на небасхіле чэшскага прыгожага пісьменства. Пісьменніца была і застаецца духоўным сімвалам нацыі. Яе творы абуджалі нацыянальную свядомасць, дапамагалі народу зразумець гістарычную значнасць сваёй Айчыны. У самыя змрочныя часы чэхі знаходзілі ў іх маральную сілу, што дапамагала выстаяць і перамагчы.*

*У чэшскую літаратуру Бажэна Немцава прыйшла ў 40-я гады XIX стагоддзя, якія характарызаваліся нарастаннем вызваленчага руху, а асноўны этап яе творчасці супаў з перыядам жорсткай рэакцыі, што надышла пасля падаўлення рэвалюцыі 1848 года. Першы верш Бажэны Немцавай «Чэшскім жанчынам» быў апублікаваны ў 1842 годзе ў часопісе «Květy». Яна пісала таксама народныя казкі, легенды і паданні. Першая кніга «Народныя легенды і паданні» выйшла ў 1846 годзе.*

*У апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця пісьменніца стварыла шэраг твораў, якія ўвайшлі не толькі ў скарб айчыннай, але і сусветнай літаратуры. Гэта аповесці «Барунка», «Разарка», «Бабуля», «Карла», «Вёска ў гарах», «У замку і ў падзамчышчы», «Бедныя людзі», «Добры чалавек».*

*Асабліва вылучаецца аповесць «Бабуля», праца над якой была распачата напрыканцы 1853 года, а ў 1855 годзе яна ўжо пабачыла свет.*

*Канцэпцыя твора вызначана аўтаркай у эпіграфе да аповесці, які ўзяты з рамана нямецкага пісьменніка і журналіста пачатку XIX стагоддзя, пра рай у душы простага чалавека, але вялікага ў сваёй чалавечай існасці.*

*Героі аповесці Бажэны Немцавай працуюць і мараць, радуюцца і сумуюць, у іх свае погляды на свет, сваё разуменне сэнсу жыцця, сваё бачанне прызначэння чалавека на зямлі. На першы погляд, іх жыццё нічым асаблівым не вызначаецца, але звычайнае існаванне і паўсядзённы побыт патрабуюць ад чалавека столькі высілкаў, столькі мужнасці і адвагі, так часта яму прыходзіцца рызыкаваць, абараняць свае гонар і годнасць, што ўспрымаюцца як сапраўдны подзвіг.*

*«Бабуля» належыць да тых шэдэўраў сусветнай літаратуры, якія могуць расказаць пра самыя глыбінныя працэсы ў душы народа. Гераіня аповесці Бажэны Немцавай жыве ў гармоніі з навакольным светам, найперш з прыродай. Яна, як і героі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», адчувае сваю залежнасць ад яе таямніц. Гарманічнымі з'яўляюцца і яе ўзаемаадносіны з людзьмі: бабуля, як і коласаўскі Антось, заўсёды прыходзіць на дапамогу,*

*вострa адчувае справядлівасць і несправядлівасць, шчырасць і няшчырасць. Яе стаўленне да людзей можна назваць узорным, вартым пераймання, своеасаблівым эталонам. Мудрасць бабулі — гэта шматвяковая мудрасць народа, які на працягу доўгага часу змагаўся за права шчасліва і свабодна жыць на сваёй зямлі. Адсюль і цэнтральныя эпізоды твора, дзе бабуля прымае лёсавызначальнае рашэнне: яе дзеці будуць жыць на зямлі продкаў, размаўляць на роднай мове. І пры гэтым у лісце да дачкі Іаганкі, якая сабралася браць шлюб з харватам, бабуля выказвае думку, што народы — браты, што сонца роўна свеціць усім, але заўсёды неабходна ведаць, хто ты ёсць на зямлі, і клапаціцца, каб варожыя коні не разнеслі на сваіх капытах тваю родную зямлю.*

*У бабулі ёсць удзячныя вучні: не толькі яе ўнукі, але і суседзі, знаёмыя, нават княгіня, якая бачыць, наколькі глыбока разумее старая кабета людзей. Яна называе бабулю «шчаслівай жанчынай», і гэта азначае, што па-сапраўднаму шчаслівы чалавек той, хто жыве ў гармоніі з сабою, людзьмі, прыродай. Вобраз бабулі надзвычай важны для аўтаркі, і невыпадкова ў творы не зменены імёны і прозвішчы бабулі, маці; на старонках кнігі чытач сустракае і Барунку — менавіта так у дзяцінстве клікалі Бажэну Немцаву. Старая Бялільня падаецца ў аповесці як вельмі прывабнае месца, куды спускаецца з гор ляснік Бейер са сваёй сям'ёй, прыходзіць яго калега, дзе шукае дапамогі Крыстліна. Сюды многія людзі любяць зайсці, каб пагаварыць, атрымаць параду. За адным сталом у Старой Бялільні сустракаюцца княгіня, млынар і ляснік — прадстаўнікі розных сацыяльных слаёў. А душой Старой Бялільні, безумоўна, з'яўляецца бабуля, якая любіць людзей, імкнецца ім дапамагчы. Таму зразумела, што падчас паводкі, калі бабуля застаецца адна ў доме, столькі людзей спяшаецца ёй на дапамогу.*

*Аповесць Бажэны Немцавай напоўнена святлом і цеплынёю. У ёй паэтызуецца кожная драбніца побыту, кожная праява дабрыні, узаемадапамогі. Гісторыя Вікторкі падкрэслівае, як лёгка параніць чалавека і нават скалечыць яго жыццё. А выратаваць могуць любоў і ўвага.*

*«Бабуля» Бажэны Немцавай — тая вяршыня, з якой добра бачны здабыткі прыгожага пісьменства блізкага нам па светаўспрыманні славянскага народа.*

# БАБУЛЯ

## *Карціны вясковага жыцця*

Daraus siehst du, daβ die Armen nicht so ganz elend sind, wie wir uns denken; sie haben wirklich mehr Paradies, als wir uns einbilden und selbst besitzen!

Gutzkow, Ritter vom Geiste[1]

Даўно, вельмі даўно гэта было, калі я апошні раз бачыла мілы спакойны твар, цалавала бледныя, усе ў зморшчынках шчокі, углядалася ў мудрыя вочы і бачыла ў іх столькі дабрыні і любові. Даўно гэта было, калі мяне благаслаўлялі яе старыя рукі. Няма ўжо добрай бабулі. Даўно спачывае ў халоднай зямлі.

[1] З гэтага ты бачыш, што бедныя людзі не такія ўжо мізэрныя, як мы думаем. Яны сапраўды маюць больш раю, як мы сабе гэта ўяўляем і самі маем.

Але для мяне яна не памерла! Вобраз бабулі глыбока захаваўся ў маёй душы ва ўсіх адценнях, і, пакуль буду жыць, ён будзе са мной. Калі б валодала пэндзлем мастака, намалявала б цябе, мілая бабуля, але магу толькі апісаць пяром — не ведаю, не ведаю, наколькі гэта каму спадабаецца.

Ты заўсёды казала: «Няма на свеце чалавека, які падабаўся б усім». Досыць і таго, што знойдзецца некалькі чытачоў, якія пра цябе прачытаюць з такой жа любоўю, з якой я пішу.

## I

Бабуля мела сына і дзвюх дачок. Старэйшая дачка шмат гадоў жыла ў Вене ў сяброў, ад іх і пайшла замуж. Другая паехала на яе месца. Сын, рамеснік, таксама быў самастойным і ажаніўся ў горадзе. Бабуля жыла ў горнай вёсачцы на сілезскай мяжы ў маленькай хатцы са старой Беткай, сваёй аднагодкай, што служыла яшчэ ў яе бацькоў. Яна не сумавала ў хаце: усе жыхары вёскі былі, як браты і сёстры, а яна была для іх маці і дарадцай, без чыіх парад не хрысцілі дзяцей, не спраўлялі вяселле, не ладзілі пахаванне.

Аднойчы бабуля атрымала з Вены ліст ад старэйшай дачкі, якая паведамляла, што яе муж перайшоў на службу да княгіні, якая мела вялікі маёнтак у Чэхіі, а гэта зусім недалёка ад горнай вёсачкі, дзе жыве бабуля. Дачка пісала, што сям'я ўжо збіраецца пераязджаць, муж таксама хутка будзе там разам з княгіняй. Напрыканцы была просьба прыехаць да іх назаўсёды, жыць у сваёй дачкі і выхоўваць унукаў, якія яе любяць. Бабуля заплакала, бо не ведала, што рабіць. Сэрца імкнулася да дачкі з унукамі, якіх яшчэ не бачыла, але яна прывыкла да сваёй маленькай хаткі і добрых сяброў. Ды кроў — не вада, туга перамагла даўнія звычкі, і бабуля вырашыла, што паедзе. Хатку з усёй гаспадаркай аддала старой Бетцы са словамі: «Не ведаю, ці спадабаецца мне там, калі ж не спадабаецца, то і тут, сярод вас, не памру».

Аднойчы да хаткі пад'ехаў і спыніўся вазок, на які фурман Вацлаў паставіў бабулін маляваны куфар, неадменны калаўрот, кошык з чатырма чубатымі куранятамі, мех з двума чатырохколернымі кацянятамі. Нарэшце на вазок села і сама бабуля, якая праз слёзы нічога навокал не бачыла. Выслухаўшы на развітанне найлепшыя пажаданні ад сяброў, яна паехала да свайго новага дома.

Як чакалі, як радаваліся яе прыезду ў Старой Бялільні![1] Так людзі называлі самотны будынак сярод маляўнічай даліны, які атрымала пад жыллё пані Прошкава, бабуліна дачка. Дзеці штохвілінна выбягалі на дарогу, каб паглядзець, ці не едзе Вацлаў, і кожнаму, хто праходзіў каля іх, казалі: «Сёння прыедзе наша бабуля!» Самі ж разважалі: «А як бабуля выглядае?»

Яны ведалі розных бабуль, іх падабенства змяшалася ў дзіцячых галовах, і яны не ведалі, з кім параўнаць сваю. Нарэшце прыехаў стары вазок. «Бабуля едзе!» — разнеслася па доме. Пан Прошак, пані, Бетка, якая несла на руках немаўля, дзеці і два сабакі, Султан і Тырл, — усе выбеглі на ганак, каб прывітаць бабулю.

З воза злезла вясковага выгляду кабета ў белай хустачцы. Дзеці стаялі адно каля аднаго і не зводзілі з бабулі вачэй. Бацька пацiскаў бабулі руку, маці, абдымаючы, плакала і цалавала яе ў абедзве шчакі. Бетка супакойвала немаўля, пухленькашчокую Адэльку, а бабуля смяялася, называла дзяўчынку малым дзіцяткам і раз-пораз хрысціла. Потым абвяла позіркам астатніх

[1] Бялільня — памяшканне, у якім што-небудзь беляць. У творы назва фальварка.

дзяцей і ласкава звярнулася да іх: «Мае залатыя дзеткі, мае птушаняткі, як доўга я марыла пра тое, каб вас убачыць!» Але дзеці апусцілі вочы і засталіся стаяць, нібы прымерзлі, і толькі па матчыным загадзе падставілі свае ружовенькія твары для пацалункаў бабулі. Яны не маглі апамятацца, бо іх бабуля не была падобная да тых, якіх яны бачылі раней. Такой бабулі яны не бачылі ніколі! Хадзілі вакол яе і разглядалі ад галавы да ног.

Разглядалі цёмны кажушок з доўгімі фалдамі ззаду, зялёную спадніцу ў складачкі, абшытую ўнізе шырокай стужкай. Падабалася ім чырвоная ў кветкі хустка, якую бабуля завязвала паўзверх белай. Дзеці прыселі на зямлю, каб убачыць чырвоную палоску на белых панчохах і чорныя чаравічкі. Вілімек шкроб каляровыя лапікі на муфце з рагожкі, якую бабуля трымала ў руках, а Ян, старэйшы з двух хлопцаў, церабіў бабулін белы ў чырвоныя палоскі фартух, таму што намацаў пад ім нешта цвёрдае — там была вялікая кішэня. Яну вельмі хацелася даведацца, што ляжыць у ёй, але старэйшая Барунка стрымала яго, прашаптаўшы: «Пачакай, а то я скажу, што хочаш залезці ў бабуліну кішэню!» Шэпт быў такі гучны, што яго было б чуваць і за дзевяццю сценамі. Бабуля ўсё зразумела, адпусціла рукі дачкі, залезла ў кішэню са словамі: «Але, паглядзіце, што ў мяне ёсць!» І паклала на калені пацеркі, сцізорык, некалькі скарынак хлеба, кавалак тканіны, два конікі з марцыпану і дзве лялькі. Гэтыя рэчы былі для дзяцей. Раздаўшы іх, бабуля дадала: «І яшчэ нешта я вам прывезла!» — і хуценька дастала з сумкі яблыкі і велікоднае яйка, з мяшка вызваліла кацянят, з кошыка — куранят. Колькі было радасці, колькі было скокаў! Бабуля — найлепшая з бабуль! «Кацяняты нарадзіліся ў траўні, чатырохколерныя, спрытна ловяць мышэй, іх варта трымаць у доме. Кураняты кемлівыя, і калі Барунка іх прывучыць, будуць бегаць за ёю, як сабакі!» — казала бабуля, і дзеці пыталіся ў яе пра адно і другое, нічога не баючыся, быццам былі з ёю добрымі сябрамі. Маці прыкрыкнула на малых, каб яны супакоіліся і адпусцілі бабулю адпачываць, але тая адразу запярэчыла: «Для мяне гэта радасць, Тэрэза, я вельмі задаволена ўсім», — і дзеці паслухаліся яе. Адзін сядзеў у бабулі на каленях, другі на лавачцы стаяў за ёй. Барунка ж стала проста перад ёю і глядзела ў твар. Аднаму было дзіўна, што ў бабулі белыя, як снег, валасы, другому — што ў бабулі рукі ў зморшчынках, трэці казаў: «Бабуля, у вас толькі чатыры зубікі!» Бабуля ўсміхалася, гладзіла цёмна-рудую галаву Барункі рукою: «Таму што я старая. Калі вы падрасцяце, дык будзеце таксама іншымі». А дзеці ніяк не маглі паверыць, што іх белыя, гладкія рукі могуць некалі стаць такімі непрыгожымі, як рукі старэнькай бабулі.

Бабуля адразу заваявала сэрцы ўнукаў, аддаўшы ім сваё. Пан Прошак, зяць бабулі, якога яна да гэтага не ведала, спадабаўся ёй прыгожым тварам і мілай сардэчнасцю, дабрынёй і ветлівасцю. Адно толькі ў ім не магло падабацца, што не гаварыў па-чэшску. А яна, хоць некалі па-нямецку разумела, ужо даўно на тую мову забылася. А так хацелася паразмаўляць з Янам! Бабуля парадавалася таму, што чэшскія словы Ян усё ж разумеў. Яна заўважыла, што размовы з хатнімі вядуцца наступным чынам: дзеці і служкі звярталіся да пана Прошака па-чэшску, а ён адказваў ім па-нямецку. Бабуля спадзявалася, што з часам і яна яго зразумее, і дапамагала яму, як магла.

Дачку сваю бабуля амаль не пазнавала: заўсёды памятала яе вясёлай вясковай дзяўчынай, а тут убачыла негаваркую, важную з выгляду кабету, у панскіх сукенках і з панскім норавам! Гэта была не яе Тэрэзка! Бабуля бачыла, што хатняя гаспадарка дачкі не падобная да той, з якой яна звыклася. Першыя дні былі напоўнены радасцю і здзіўленнем, але паступова рэальнасць стала яе палохаць: яна пачувалася няўтульна ў новым доме, і калі б не ўнукі, то з радасцю вярнулася б у сваю хату.

У пані Тэрэзы былі свае прыхамаці, але пра іх ніхто не ўзгадваў, бо была пані добрай і абачлівай. І маці сваю пані Прошкава вельмі любіла і не хацела ад сябе адпускаць, тым больш, што была б вымушана пакінуць службу кастэлянкі ў замку, бо не было каму займацца гаспадаркай і дзецьмі.

Аднойчы яна заўважыла, што маці сумуе, і пачала думаць, чаго той не хапае. Неяк Тэрэза звярнулася да яе:

— Я бачу, матуля, што вы прывыклі працаваць і вам складана цэлы дзень сядзець з дзецьмі. Можа, вам хочацца прасці, дык у мяне на гарышчы ёсць трохі лёну. Пасля новага ўраджаю будзем мець яго шмат. Я была б вельмі ўдзячная, калі б вы трошкі прыгледзелі за гаспадаркай. Увесь свой час я прысвячаю працы ў замку, шыццю і гатаванню. Прашу вас, дапамажыце мне і рабіце ўсё так, як вам падабаецца.

— З радасцю, ты ж ведаеш, што я да такой працы звыклая, — адказала задаволеная бабуля.

У той жа дзень яна палезла на гарышча за лёнам. Назаўтра дзеці ўпершыню ў жыцці ўбачылі, як прадуць на верацяне.

Галоўным бабуліным абавязкам па гаспадарцы стала выпечка хлеба. Бабуля не магла мірыцца з тым, што служка з гэтым Божым дарам абыходзіцца без усялякай павагі і клопату, без душы, нібы трымае ў руцэ цэглу.

Перад замесам бабуля крыжом асвячала дзяжу, а потым хрысціла ўжо гатовае цеста — каб адставала ад рукі. Ніхто не меў права заходзіць на кухню, пакуль «Божы дар не паспеў». Нават Вілімек, калі заходзіў туды падчас выпечкі хлеба, памятаў, што трэба сказаць: «Памагай, Божа!»

Унукі чакалі, калі бабуля будзе пячы хлеб, бо з кожнай выпечкі мелі па пляцёнцы і піражку са слівамі або яблыкамі. Яны павінны былі з павагай ставіцца да крошак. «Крошкі трэба адпраўляць у агонь», — казала бабуля, калі змятала са стала і кідала іх у печ. Калі бабуля бачыла, як нехта з дзяцей ссыпаў крошкі хлеба на зямлю, яна загадвала іх сабраць і казала пры гэтым: «Па крошках хадзіць нельга, бо душа ў чыстцы будзе плакаць». Яна не любіла, калі хлеб рэзалі няроўна: «Хто не ўмее добра абыходзіцца з хлебам, той не зможа гэтага рабіць і з людзьмі». Аднойчы Янік папрасіў адрэзаць яму скарынку — найбольш ім любімую, але бабуля адказала: «Ці ты не чуў, што, калі так рэжаш хлеб, то адразаеш Богу пяты? Рабі як трэба і не круці носам», — і Янічак адмовіўся ад любімага кавалка.

Недаедзеныя дзецьмі скібачкі і скарынкі бабуля клала ў кішэні, а калі праходзіла каля вады, кідала рыбам, крышыла мурашам, гуляючы з дзецьмі ў лесе, частавала і птушак. У яе дарэмна не прапаў ні адзін кавалак, і яна заўсёды казала: «Паважайце Божы дар, без яго вельмі дрэнна, і хто на яго не зважае, таго Бог карае». Калі ў некага з дзяцей падаў кавалак хлеба, то яго трэба было падняць і пацалаваць, просячы прабачэння, і калі гарошынка ляжала дзе-небудзь, то бабуля падымала яе і з павагай цалавала. Усяму гэтаму бабуля вучыла дзяцей. Убачыўшы на дарозе гусінае пяро, бабуля паказвала на яго рукою: «Нагніся, Барунка!» Гультаяватая ўнучка казала: «Але, бабуля, навошта падымаць адно пяро?» А бабуля адказвала: «Дзяўчына павінна думаць так: адно да другога — і будзе шмат. Памятай прымаўку: добрая гаспадыня павінна па пяро цераз плот пераскочыць».

У пані Прошкавай стаяла ў пакоях сучасная мэбля, якая бабулі не вельмі падабалася. Ёй здавалася, што на гэтых надзвычай мяккіх фатэлях з разнымі спінкамі нязручна сядзець, і чалавек рызыкуе ўпасці, а калі захоча абаперціся — можа зламаць. Калі яна засталася ў доме адна і ўпершыню села на канапу, а спружыны пад ёй прагнуліся, то небарака так напалохалася, што ледзьве не закрычала. Дзеці ж смяяліся, скакалі па канапе, гойдаліся, пераконвалі, што

тая не зламаецца, і клікалі бабулю, каб ішла да іх, але яна адмаўлялася, кажучы: «Заб'яце мяне; гэтыя фатэлі толькі для вас».

На бліскучыя столікі і скрыні яна баялася што-небудзь пакласці, каб не сапсаваць бляску, а скрыні са шклянымі сценкамі, за якімі размяшчалася ўсялякае дабро, стаялі, на думку старой, на грэх. Дзеці вельмі любілі круціцца ля бабулі і даведвацца пра нешта новае, але за гэта маці сварылася на іх. Гушкаючы малую Адэльку, бабуля любіла падысці да клавіра, таму што заплаканае дзіця змаўкала, ледзь толькі старая пачынала лёгка брынкаць па клавішах. Барунка нават вучыла бабулю граць простую песню «Гэта коні, гэта коні», а бабуля ківала галавою пад музыку і казала: «І чаго толькі людзі ні прыдумаюць! Чалавек здагадаўся, як зачыніць тут птушак, адно галасы звіняць».

У пакоі без патрэбы бабуля не ішла. У вольны ад спраў па гаспадарцы час яна сядзела ў сваёй святліцы, што была побач з кухняй і пакоем для слуг. Пакой абставілі ў адпаведнасці з густам бабулі. Каля печы — лаўка, далей уздоўж сцяны стаяў бабулін ложак, за ложкам — маляваны куфар, а каля другой сцяны — ложак Барункі, якая спала ў адным пакоі з бабуляю. Пасярэдзіне стаяў ліпавы стол з перакладзінамі, а над ім са столі звісаў галубок[1] як сімвал Святога духа. У кутку ля акна стаяў калаўрот, прасніца з кужалем, у кужалі — верацяно, на грэбені — матавіла. На сцяне вісела некалькі абразоў, над ложкам бабулі — распяцце, упрыгожанае кветкамі. Паміж вокнамі зелянелі мускат і базілік, а ў баваўняных мяшэчках былі схаваны разнастайныя зёлкі: ліпавы цвет, кветкі бэзу, рамонак, — гэта была бабуліна аптэка. За дзвярыма вісела ацынкаваная палівачка. У шуфлядзе ляжалі бабуліна шыццё, нізка рэлігійных песень, «Хаджэнні па пакутах», звязак шнуроў для калаўрота, асвечаная на свята «Трох каралёў» крэйда і грамнічная свечка, якую бабуля заўсёды трымала ў руцэ, калі была навальніца. На печцы стаяла металічная скрынка з крэменем, крэсівам і кнотам. Для асвятлення пакоя карысталіся напоўненай фосфарам бутэлечкай, але бабулі не падабалася гэтая прылада. Толькі аднойчы паспрабавала, і калі тая запрацавала і прапаліла фартух, які служыў ёй пятнаццаць гадоў, і яна ледзь не задыхнулася, дык з таго моманту больш не брала бутэлечку ў рукі. Як толькі яна здымала скрыначку з крэсівам, дзеці прыносілі анучы на кнот і рабілі запалкі: макалі палачкі ў серу. І бабуля мела свае звыклыя прылады для асвятлення на печцы і задаволеная клалася спаць. Дзецям таксама падабалася гэтым займацца, і кожны дзень яны распытвалі бабулю, ці не патрэбна ёй сера, каб зрабіць запалкі.

Больш за ўсё ў бабуліным пакоі дзяцей прыцягваў маляваны куфар. Яны любілі разглядаць намаляваныя на чырвоным фоне блакітныя і зялёныя ружы з карычневымі лісточкамі, блакітныя лілеі і чырвона-жоўтых птушак паміж імі. Але куды большая радасць апаноўвала, калі бабуля адчыняла куфар! Там было на што паглядзець! Распісаны знутры абразамі з малітвамі, радкамі з казанняў, ён быў напоўнены шмат якімі цікавымі рэчамі: сямейныя запісы, лісты ад дачок з Вены, маленькі баваўняны мяшэчак, запоўнены сярэбранымі грашыма, якія бабуля атрымала ад дзяцей, але не скарыстала; драўляная шкатулка з пяццю ніткамі гранатаў, на іх віселі манеты з профілямі цэзара Іосіфа і Марыі Тэрэзы. Калі бабуля адкрывала шкатулку (а яна яе заўсёды адкрывала па просьбах дзяцей), то казала: «Глядзіце, мілыя дзеткі, гэтыя гранаты я атрымала ад нябожчыка вашага дзядулі да вяселля, а гэты талер ад цэзара

[1] Фігура птушкі, звычайна выразаная з дрэва, якая падвешвалася пасярод пакоя. Гэты прадмет адлюстроўваў народную набожнасць падобна крыжу, што з'яўляецца сімвалам Бога-сына. Сёння прадаецца як сувенір.

Іосіфа ўласнаручна. То быў добры пан, дай яму, Божа, добрую славу! Але калі я памру, то яна будзе ваша!» — дадавала заўсёды, закрываючы шкатулку.

— Бабуля, раскажыце, як вам імператар даў гэты талер, — папрасіла аднойчы Барунка.

— Калі-небудзь нагадайце мне, і я вам раскажу, — адказала бабуля.

Акрамя гэтых рэчаў, у бабуліным куфры было двое пацерак, стужкі для каптуроў, паміж якімі заўсёды ляжаў які-небудзь ласунак для дзяцей.

На дне куфра была складзена бабуліна бялізна і вопратка. Разнастайныя спадніцы, фартухі, летнія кабаткі, шнуровачкі і хусткі ляжалі ў выключным парадку, а наверсе — два белыя скураныя каптуры, з «галубкамі» ззаду. Дзецям забаранялася перабіраць бабуліны рэчы, але калі ў яе быў добры настрой, то яна сама брала рэч за рэччу і казала: «Бачыце, дзеткі, гэтая каніфаска ў мяне пяцьдзесят гадоў ужо, гэты каптан насіла мая прабабка, гэты фартух мае ўзрост вашай маці, а ўсё як новае. Вы ж сваё адзенне не шануеце, бо не ведаеце цаны грашам! Бачыце, гэтая шаўковая блуза каштавала сто гульдэнаў, за яе па частках плацілі ў банк», — працягвала бабуля, і дзеці моўчкі слухалі, нібыта ўсё разумелі.

Пані Прошкава хацела, каб бабуля апраналася ў іншае, лепшае на яе погляд, адзенне, але тая нічога не мяняла ў сваім знешнім выглядзе і заўсёды казала: «Пан Бог мяне, старую кабету, пакараў бы, калі б захацела пайсці такой у свет. Гэтае адзенне не для мяне, стары мой розум такога ўбору не прымае». І заставалася ў старым. Хутка ў доме загаспадарыла бабуліна слова, кожны называў яе «бабуляю», і ўсё, што яна казала і рабіла, было добра.

## II

Летам бабуля прачыналася ў чатыры, а зімою ў пяць гадзін раніцы. Найперш яна цалавала крыжык, што вісеў на фісташкавых пацерках, — яго бабуля насіла заўсёды, а ноччу клала сабе пад галаву. Устаўшы з Божым імем, ужо апранутая, яна акрапляла сябе святою вадою, брала верацяно і прала, праспяваўшы перад тым ранішнюю малітву. Сама яна, бедная старая, не магла доўга спаць, але ведаючы, наколькі сон салодкі, не перашкаджала спаць іншым. Амаль праз гадзіну пасля таго, як яна прачнулася, было чуваць размеранае шорганне яе чаравікаў, рыпенне адных, потым другіх дзвярэй, і вось бабуля з'яўлялася на ганку. У тое самае імгненне загагаталі гусі ў хлеўчуку, зарохкалі свінні, замычэла карова, залопалі крыламі куры, аднекуль прыбеглі коткі і пачалі лашчыцца каля яе ног. Сабакі выскачылі з будак, пацягнуліся і ў адзін момант апынуліся каля бабулі, і, калі б не засцераглася, яны штурхнулі б яе, а пляцёнку з зернем для птушак вырвалі б з рук. Усе жывёлы вельмі любілі бабулю, а яна іх. Не давядзі Божа, каб яна ўбачыла, што нехта некага крыўдзіць, нават чарвячка. «Калі чалавеку нешта патрэбна для спажывы, то, калі ласка, забіце, але хай не пакутуе». Дзеці не маглі глядзець, як рэжуць курэй, бо шкадавалі іх і верылі, што тыя не могуць памерці.

Аднойчы бабуля моцна ўгнявалася на абодвух сабакаў, Султана і Тырла. Але было за што гнявацца! Сабакі падкапаліся да хлеўчука і загрызлі за адну ноч дзесяць качанятак, прыгожых, жоўценькіх, на якіх нельга было глядзець без замілавання. У бабулі апусціліся рукі, калі раніцай адчыніла хлявок і гуска вылецела здушана гагочучы, нібы аплакваючы сваіх загінуўшых дзяцей, якіх выседзела замест іх непаседлівай маці, усяго толькі з трыма качанятамі. Бабуля спачатку вырашыла, што шкоднічала зладзейка-куніца, але потым па слядах зразумела, што гэта зрабілі сабакі. Сабакі, верныя вартаўнікі! Бабуля вачам сваім не верыла. А яшчэ прыйшлі і лашчацца, нібыта нічога не здары-

лася! Гэта бабулю ўгнявіла: «Пайшлі прэч, нягоднікі! Што вам зрабілі качаняты? Можа, вы галодныя? Напэўна, з простага свавольства такога нарабілі? Пайшлі прэч, не хачу вас бачыць!» Сабакі падціснулі хвасты і папляліся да будак, а бабуля, забыўшы, што яшчэ рана, пайшла да пакоя паведаміць дачцэ пра свой смутак.

Пан Прошак вырашыў, што няйначай зладзеі абрабавалі камору або забілі Барунку, калі ўбачыў бледны заплаканы твар бабулі, якая выходзіла з пакоя. Калі ж пачуў пра здарэнне, то з палёгкай пасміхнуўся. І сапраўды, ці мог ён перажываць праз нейкіх качанят. Ён жа не садзіў гуску на яйкі, не бачыў, як з тых яек выходзілі птушаняты; ён жа не бачыў, як яны плаваюць і, сунуўшы галовы ў ваду, перабіраюць там лапкамі. Пан Ян страціў толькі некалькі кавалкаў смажаніны. Але гэта выклікала ў яго жаданне навесці парадак, таму ён узяў пугу і пайшоў задаць сабакам па заслугах. Бабуля заткнула вушы, пачуўшы віск і лямант у двары, але падумала: «І то праўда, няхай памятаюць!» Калі ж праз гадзіну-другую сабакі са сваіх будак не высоўвалі насы, то бабуля пайшла паглядзець, ці не занадта іх пакрыўдзілі. «Што здарылася, то здарылася, а сабакі тым не менш жывыя стварэнні!» — казала яна, набліжаючыся да будак. Сабакі пачалі скуголіць, жаласліва на яе пазіраць, ледзь не на жываце да яе паўзці. «Цяпер вы шкадуеце, ці не так? Бачыце, як караюць за непаслушэнства? Памятайце пра гэта!» Сабакі запомнілі. І ў далейшым, калі гусяняты або качаняты гулялі па двары, адыходзілі і глядзелі ў іншы бок, чым здабылі бабуліну сімпатыю.

Калі бабуля дагледзела птушак, то пацікавілася, ці не прачнуліся служкі. А шостай гадзіне яна падышла да ложка Барункі, лёгка дакранулася да лба (бо так душа хутчэй прачнецца) і прашаптала: «Уставай, дзяўчынка, уставай, ужо позні час». Потым яна дапамагла ўнучцы апрануцца і пайшла да малых, што спалі наверсе. Калі бачыла, што той ці іншы малы ляжыць яшчэ ў ложку, то шлёпала яго ніжэй спіны, гаворачы: «Уставай, уставай, певень ужо дзевяць разоў абышоў сметнік, а ты яшчэ спіш, ці не сорамна?» Памыцца дзецям бабуля дапамагала, але вопраткай займацца ёй не хацелася. Цяжка было разабрацца з гузікамі, гафтачкамі, аплікамі на куртках і сукенках; звычайна яна апранала іх дзецям задам наперад. Калі дзеці былі ўжо апранутыя, бабуля станавілася разам з імі на калені перад абразом Хрыста, які благаслаўляў дзяцей, чытала «Ойча наш», затым усе ішлі на сняданне.

Зімою, калі не было важных спраў па гаспадарцы, бабуля сядзела ля калаўрота, а ўлетку — з верацяном на двары ў садку пад ліпай або ішла з дзецьмі на шпацыр. Пры гэтым збірала зёлкі, якія дома сушыла і захоўвала на патрэбу. Да дня святога Яна Хрысціцеля хадзіла па лекавыя травы па расе, таму што яны ў гэты час найлепшыя. Калі нехта хварэў, бабуля запарвала зёлкі: горкую канюшыну ад нястраўнасці, дзядоўнік ад хваробаў горла... І ніколі ў сваім жыцці яна не пасылала па лекара.

Акрамя таго, зёлкі ў дом прыносіла нейкая знахарка з Крканошскіх гор, у якой бабуля набывала іх у запас. Зельніца прыходзіла кожную восень у адзін і той жа час на Старую Бялільню, дзе яе хораша сустракалі. Кожны год дзеці атрымлівалі ад яе пакеты чамярыцы ад прастуды, гаспадыні — розныя пахкія травы і мох для курэння, акрамя таго, зельніца цэлы вечар апавядала дзецям пра Рыбрцоўля[1], пра тое, які ён штукар і што робіць у гарах. Асабліва падабаўся дзецям аповед пра тое, як скача Рыбрцоўль да сваёй прынцэсы Качэнкі

---

[1] Герой чэшскіх паданняў, дух гор, персаніфікаваная назва ветру. Рыбрцоўль — народная, сёння ўжо архаічная назва Крканош — самых высокіх гор у Чэхіі.

кудысьці на Качэнчыны горы, дзе яна жыве. Але, як сапраўдная прынцэса, тая нядоўга трывае яго каля сябе і гоніць прэч, а ён плача так горка, што ўсе рэкі ў гарах разліваюцца. Калі ж яна кліча яго да сябе, то Рыбрцоўль з такой радасцю спяшаецца да каханай, што ўсё, што ляжыць на яго шляху, коціцца, вываротваецца і зрываецца. Словам, лес вываротваецца, каменне ляціць з гор, дахі зносіць з хат, і дарога выглядае, як перад канцом свету.

Зельніца прыносіла кожны год звыклыя зёлкі і адны і тыя ж казкі, але дзецям яны здаваліся кожны раз новымі, і заўсёды малыя яе чакалі. Калі бачылі, як паступова пусцее луг, то гаварылі: «Ну, ужо хутка прыйдзе бабка з гор». Калі ж тая на некалькі дзён спазнялася, то бабуля перажывала: «Ці не здарылася чаго са старою, можа, захварэла ці нават, не дай Бог, памерла». Такія размовы паўтараліся да таго часу, пакуль не з'яўлялася на двары зельніца з кошыкам на спіне.

Часта бабуля з унукамі выпраўлялася ў далёкую вандроўку ў хату лесніка або да млына ці ў лес, дзе весела спявалі птушкі і мяккім дыванам слаўся пад дрэвамі мох, а колькі тут расло духмяных кветак: ландыш, белыя анемоны, светнік, пралескі, зараснікі бузіны і прыгожыя залацістыя лілеі. Гэтыя лілеі прыносіла ім бледная Вікторка, калі бачыла, што людзі збіраюць кветкі і робяць з іх букеты.

Вікторка заўсёды была бледная, толькі вочы свяціліся, як два вугольчыкі, чорныя валасы яе былі растрапаныя; ніколі не насіла яна прыгожай вопраткі, ніколі не гаварыла. Каля лесу рос вялікі дуб, пад якім Вікторка стаяла гадзінамі, гледзячы ўніз на гаць. Увечары яна спускалася да гаці, садзілася на замшэлы пень і, гледзячы на ваду, доўга, аж да ночы, спявала.

— Бабуля, — пыталіся дзеці ў старой, — чаму Вікторка ніколі не апранае прыгожую сукенку, нават у свята? І чаму ніколі не гаворыць?

— Таму што звар'яцела!

— А калі, бабуля, чалавек вар'яцее? — пыталіся дзеці.

— Ну, калі чалавека пакідае розум.

— А што робіцца з чалавекам, калі ён не мае розуму?

— Ну вось Вікторка, напрыклад, ніколі не гаворыць, ходзіць у лахманах, жыве ў пячоры і летам, і зімою.

— А ноччу таксама? — спытаўся Вілем.

— А як жа, ці не чуеце, як да ночы ля гаці спявае, а пазней ідзе ў пячору спаць.

— І не баіцца ні блукаючых агеньчыкаў, ні вадзяніка? — дзівіліся дзеці.

— Няма ніякіх вадзянікоў, — цвёрда прамовіла Барунка. — Тата пра гэта казаў.

Летам Вікторка зрэдку падыходзіла да хаты прасіць ежу, а зімою, як тая варона, стукала ў дзверы або ў акно: прасуне руку, атрымае кавалак хлеба і адразу ж моўчкі адыдзе. Дзеці, калі бачылі на снезе крывавыя Вікторчыны сляды, беглі і клікалі: «Вікторка, ідзі да нас, маці табе дасць чаравікі, можаш у нас жыць!» Але тая, не азіраючыся, уцякала ў лес.

У цудоўны летні вечар, калі неба было ясным і прыгожым, а зоркі ярка гарэлі, бабуля адпачывала разам з дзецьмі пад ліпай. Пакуль Адэлька была малой, то сядзела ў бабулі на каленях, а Барунка з хлопцамі каля ног. Іначай і быць не магло, бо калі бабуля пачынала апавядаць, трэба было глядзець ёй у твар, каб не прапусціць ніводнага слоўца.

Бабуля апавядала пра светлых анёлаў, якія жывуць высока і запальваюць для людзей зоркі, пра анёлаў-ахоўнікаў, што берагуць дзяцей на ўсіх шляхах жыцця, радуюцца, калі растуць годнымі, плачуць — калі непаслухмянымі. Дзеці ўздымалі вочы ў неба, дзе бачылі мірыяды зорак, маленькіх, што мігцелі, і вялікіх, якія зіхцелі ўсімі фарбамі вясёлкі.

— Якая з гэтых зорак мая? — аднойчы ўвечары спытаўся Ян.

— Гэта ведае толькі Бог. Але падумай, ці можна знайсці яе сярод мільёнаў зорак? — адказала бабуля.

— А каму належаць гэтыя прыгожыя зоркі, што так блішчаць? — спытала Барунка.

— Тым людзям, якія дагадзілі Богу, выбраннікам Божым, што шмат добрага зрабілі і ніколі не гнявілі Бога, — растлумачыла старая.

— Бабуля, — пыталася зноў Барунка, калі загучалі жаласлівыя гукі бязладнай песні, — Вікторка таксама мае сваю зорку?

— Мае, але пацямнелую. А цяпер пойдзем, я вас пакладу спаць, ужо позні час, — дадавала старая, калі добра сцямнела.

Дома бабуля, разам з дзецьмі прачытаўшы малітву «Анёл Божы, абаронца мой...» і акрапіўшы ўнукаў святой вадой, клала іх у ложкі. Малыя адразу ж паснулі, а Барунка шмат разоў клікала бабулю да ложка і прасіла: «Пасядзіце каля мяне, бабуля, я не магу заснуць». Тады старая, трымаючы руку ўнучкі, пачынала маліцца разам з дзяўчынкай, пакуль тая не засынала.

Спаць бабуля клалася а дзесятай, гэта быў яе час. Усе справы былі зроблены. Перад сном бабуля правярала, ці ўсе дзверы зачыненыя, клікала котак і зачыняла іх на гарышчы, каб тыя не прабраліся часам у пакой да дзяцей і не напужалі іх; залівала ў печцы кожную іскрынку, клала на стале крэмень, крэсіва і лучыну. Калі збіралася навальніца, то рыхтавала грамнічную свечку, загортвала ў белую хустку бохан хлеба і, кладучы на стол, наказвала служкам:

— Памятайце, калі пачнецца пажар, то першае, што чалавек павінен узяць, — гэта хлеб, тады не разгубіцца.

— Але, бабуля, маланка не абавязкова патрапіць, — казалі служкі.

Але бабуля не адступалася:

— Толькі Бог гэта ведае. Што вы можаце ведаць? Абачлівасць заўсёды патрэбная. Памятайце пра гэта.

Калі ўсё было дагледжана, бабуля станавілася на калені перад распяццем, малілася і, яшчэ раз акрапіўшы сябе і Барунку святою вадою, клала пад галаву свае фісташкавыя пацеркі і з малітвай засынала.

## III

Калі б чалавек, звыклы да шумнага жыцця вялікага горада, трапіў у даліну, дзе стаіць самотны дом, у якім жыла сям'я Прошкавых, то падумаў бы: «І як тут гэтыя людзі могуць жыць цэлы год? Я тут жыць не хацеў бы. Хіба толькі калі ружы квітнеюць… Божа! Якія ж тут радасці!» А між тым тут было шмат радасці і зімою, і летам! Пад нізкай страхой панавалі лад і згода, якія толькі часам азмрочваліся з нагоды ад'езду пана Прошака ў сталіцу або чыёй-небудзь хваробай.

Дом быў невялікі, але ўтульны. Па сцяне, што глядзела на ўсход, вілася вінаградная лаза, пад вокнамі быў маленькі гародчык, дзе, акрамя ружаў, фіялак, рэзеды, раслі таксама салата, пятрушка і іншае дробнае зяленіва. На паўночна-ўсходнім баку размяшчаўся сад, а за ім цягнуўся луг аж да млына. Вялікая старая груша стаяла каля самага дома, паклаўшы ўсе свае галіны на крытую гонтай страху, пад якой гняздзілася шмат ластавак. У цэнтры двара расла ліпа, пад ёю была лавачка. На паўднёва-заходнім баку знаходзіўся невялікі гаспадарчы дамок, а за ім аж да гаці цягнуўся ўгару хмызняк. Каля дома праходзілі дзве дарогі. Адна, для вазоў, ішла ўверх уздоўж рэчкі да Рызенбургскага замка і далей на Чэрвену Гору, другая — уніз да млына і каля ракі — аж да найбліжэйшага мястэчка, да якога было каля гадзіны шляху. Бурлівая рака Упа бегла

з Крканошскіх гор, падаючы з уцёсаў і скал, прабіраючыся вузкімі цяснінамі да логу, дзе без перашкод працягвала свой шлях аж да Лабы, адзін з берагоў якой быў узгорысты і зарослы лесам.

Перад домам, якраз каля садка, вілася сцяжынка, што бегла ўздоўж канавы, праведзенай ад гаці да млына. Ад дома праз канаву перакінуты масток на той бок, дзе стаялі печ і сушыльня. Сюды восенню, калі сушыліся слівы, яблыкі і грушы, праз масток часта забягалі Ян з Вілемам, аглядаючыся, каб бабуля не ўбачыла. Але бабуля, зайшоўшы ў сушыльню, адразу ж заўважала, колькі сліў не хапае і хто па іх прыходзіў.

— Янек, Вілем, хадзіце сюды! — клікала яна, спусціўшыся ўніз. — Мне здалося, што вы на бляху дадалі сліў.

— Не, бабуля, — адгукаліся хлопцы, зачырванеўшыся.

— Не падманвайце! — гразілася бабуля. — Ці вы не ведаеце, што Бог усё бачыць?

Хлопцы маўчалі, але бабуля ўжо ведала ўсё. Дзеці здзіўляліся, адкуль бабуля даведваецца, як толькі яны нешта нашкодзяць, і як гэта можа быць, што яна здагадваецца па іх вачах. Таму вырашылі, што не трэба ад яе нічога ўтойваць.

Летам, у гарачыню, бабуля распранала дзяцей ажно да кашулек і вяла да ручая купацца. Заводзіла ў ваду толькі да калена, бо баялася, каб дзеці не патапіліся. Садзіла іх на масткі, дзе паласкалі бялізну, і дазваляла боўтаць ножкамі ў вадзе і гуляць з рыбкамі, якія, як стрэлы, праносіліся міма. Над вадою схіляліся цёмналістыя вольхі. Дзеці рвалі галінкі, кідалі ў ваду і сачылі за тым, як плынь адносіць іх усё далей і далей.

— Неабходна кінуць галінку ў самую сярэдзіну: ля берага яна застанецца, таму што будзе чапляцца за кожную травінку, кожны карэньчык і не хутка дасягне мэты, — вучыла бабуля.

— Але, бабуля, калі галінка прыплыве да гаці, ці зможа яна плыць далей? — спытаў Вілем.

— Зможа, — пацвердзіў Ян, — я нядаўна кінуў пруток у ваду перад самай гаццю, ён кружыўся, кружыўся на адным месцы і раптам апынуўся на другім баку, потым слізгануў па латаку на кола, і пакуль я абабег млын, быў ужо ў пратоцы і плыў па рацэ.

— А куды потым паплыве? — пыталася ў бабулі Адэлька.

— Ад млына паплыве да Жліцкага моста, ад моста — да віру пад абрывам, з віру праз шлюз уніз, каля Барвіржскага пагорка паверне да бровара, каля скалы праб'ецца праз вялікія камяні і прыплыве да школы, куды вы пойдзеце ў наступным годзе. Ад школы праз гаць да вялікага моста, паўз луг да Зволі, ад Зволі — да Ярамержа і да Лабы.

— А куды далей паплыве, бабуля? — спытала дзяўчынка.

— Далей паплыве па Лабе аж да мора.

— Ах, да мора! А якое яно — мора, і дзе яно?

— Мора шырокае, далёкае, да яго ў сто разоў далей, чым да горада, — адказала бабуля.

— А што там здарыцца з маёй галінкай? — пыталася дзяўчынка далей.

— Будзе гойдацца на хвалях, а тыя яе выкінуць на бераг, па беразе звычайна ходзіць шмат людзей і дзетак, і нейкі хлопчык падыме галінку і спытае: «Адкуль ты, галінка, прыплыла? Напэўна, недзе далёка сядзела каля вады дзяўчынка, якая адламала цябе і пусціла па вадзе!» І хлопчык прынясе галінку дахаты, пасадзіць у зямлю. З галінкі вырасце прыгожае дрэўца, птушкі будуць на ім спяваць, і дрэўца будзе радавацца.

Дзяўчынка глыбока ўздыхнула, апусціла прыўзнятую спаднічку ў ваду, і бабулі давялося яе выціскаць. Пан ляснік, які праходзіў недалёка, убачыўшы

Адэльку, сказаў, што гэта малая русалачка. Адэлька пакруціла русай галоўкай і запярэчыла: «А вось і не! Русалак не бывае!».

Бабуля, калі бачыла пана лесніка, заўсёды казала: «Заходзьце, пане куме. Нашы дома!» Хлопцы бралі таго за руку і вялі за сабой. Часам пан ляснік бараніўся, тлумачачы, што павінен даглядаць маладых фазанаў, якія толькі вывеліся, альбо зрабіць нешта ў лесе. Аднак, калі яго ўбачылі пан Прошак або пані, дык хочаш не хочаш, мусіш зайсці.

Пан Прошак любіў пачаставаць шклянкай добрага віна мілага госця, а пан ляснік якраз і адносіўся да такіх чаканых гасцей. Бабуля хутка прынесіла хлеб і соль і што яшчэ было ў доме, а пан ляснік забываўся на маладых фазанаў. Потым, спахапіўшыся і дакараючы сваю дрэнную памяць, закідваў стрэльбу на плячо і ішоў. Але на двары не знаходзіў свайго сабакі. «Гектар! — клікаў ён, але таго не было. — І дзе яго чэрці носяць?!» Хлопцы з ахвотаю беглі на пошукі, упэўненыя, што знойдуць сабаку, які лётае недзе з Султанам і Тырлам, а пан ляснік садзіўся на лавачку пад ліпай. Адыходзячы, спыняўся, клікаў бабулю: «Хацелася б вас бачыць сёння на гары — мая старая для вас прыхавала яйкі тыролек пад квактуху». Пан ляснік ведаў слабыя бакі клапатлівых гаспадынь! Бабуля тут жа пацвярджала: «Мы абавязкова прыйдзем! Найлепшыя пажаданні хатнім». Так па-сяброўску яны і развітваліся.

Пан ляснік праходзіў ля Старой Бялільні амаль кожны дзень, і так працягвалася з года ў год.

Другой асобай, якую можна было штодзень сустрэць а дзесятай гадзіне ля Старой Бялільні, быў пан млынар. Менавіта ў гэты час ён хадзіў даглядаць гаць. Бабуля казала пра млынара, ці, лепей, пра «пана бацьку», як амаль усе яго называлі, што ён разважлівы чалавек, хоць і жартаўнік.

Сапраўды, пану млынару падабалася кпіць, жартаваць, але ён мала смяяўся сам, толькі неяк «крывіўся». Вочы з-пад густых броваў весела глядзелі на свет. Быў ён сярэдняга росту, каржакаваты і на працягу года насіў белаватага колеру штаны, што вельмі здзіўляла хлопцаў, але пан бацька ім растлумачыў, што гэта колер млынароў. Зімою ён апранаўся ў доўгі кажух і цяжкія боты, а летам — у блакітную камізэльку, белыя з тонкай воўны шкарпэткі і чаравікі. Галаву заўсёды вянчала нізкая шапка з аўчыны. Незалежна ад таго, суха было на дварэ ці гразка, штаны пан млынар насіў заўсёды падкасаныя, і без табакеркі яго ніхто ніколі не бачыў. Дзеці, як толькі яго заўважалі, беглі насустрач, жадалі добрай раніцы і ішлі з ім аж да гаці. Па дарозе пан бацька заўсёды жартаваў з Вілема і Яна: у першага пытаўся, ці ведае, дзе з вала касцёл[1], а ў другога — ці зможа падлічыць, колькі будзе каштаваць булка за крэйцэр, калі корац[2] пшаніцы каштуе дзесяць рэйнскіх гульдэнаў. Калі хлопец, смеючыся, правільна адказваў, млынар гаварыў: «Ну, я бачу, што ты разумны. Цябе можна прызначыць старастам у Крамольне». Ён заўсёды даваў хлопцам панюхаць табакі, а калі тыя пачыналі чхаць, усміхаўся. Адэлька хавалася за бабуліну спадніцу, калі бачыла пана бацьку: яна яшчэ не ўмела добра гаварыць, а той дражніў яе, прымушаючы тройчы вельмі хутка паўтараць: «Наша ліштва з усіх ліштваў самая ліштвістая». Безумоўна, беднай дзяўчынцы гэта давалася з вялікай цяжкасцю, таму пана млынара яна баялася. Але атрымлівала ад яго кошык клубніц, міндальныя арэшкі або іншы пачастунак, і калі пан бацька хацеў яе прылашчыць, то называў малой шчабятушкай.

Кожны дзень каля Старой Бялільні праходзіў і доўгі Мойжыш, панскі вартаўнік. Быў ён вельмі высокі, як жардзіна, пануры і насіў за плячыма мех.

---

[1] Гульня слоў — касцёл вёскі Звол.
[2] Мера аб'ёму (93,6 літра).

Прыслужніца Бетка гаварыла, што ў той мех ён збірае непаслухмяных дзяцей, і з таго часу малыя, калі бачылі доўгага Мойжыша, адразу станавіліся цішэй вады, ніжэй травы. І хаця бабуля забараніла Бетцы весці такія размовы, але калі даведалася ад другой прыслужніцы Воршы, што Рабэрта Мойжыш нячысты на руку, нічога не сказала ёй. Напэўна, гэты Мойжыш сапраўды дрэнны чалавек, калі ўнукі яго так баяцца і вераць, што ў мяху сядзяць дзеці.

Летам, калі прыязджала княгіня, дзеці шмат разоў бачылі прыгожую пані на кані ў суправаджэнні вялікай світы. Аднойчы пан млынар сказаў бабулі:

— Мне здаецца, нібы з'явілася камета, якая цягне за сабой хвост.

— Ёсць розніца, пан бацька: камета прыносіць няшчасце, а калі з'яўляецца панства, то глядзі, людзям радасць будзе, — адказала бабуля.

Млынар перавярнуў у руцэ табакерку, нібы кола ў млыне (была ў яго такая звычка), усміхнуўся, але нічога не сказаў.

Увечары наведаць бабулю і дзяцей прыходзіла Крыстла, дачка гаспадара шынка каля млына. Дзяўчына-красачка была свежая, жвавая, як вавёрка, вясёлая, як птушачка. Бабуля заўсёды радавалася Крыстле, і называла яе сакатушкаю, бо тая вельмі любіла смяяцца.

Крыстла залятала, пан ляснік заставаўся, пан млынар заходзіў толькі на хвілінку, пані млынарыха, калі часам выбіралася ў Старую Бялільню, то брала з сабою верацяно. Леснікова жонка прыходзіла з малым дзіцем. А калі збіралася іх наведаць жонка аканома, то пані Тэрэза казала: «Сёння я чакаю візіту».

Бабуля з дзецьмі ў такі час сыходзіла з дому. Не таму, што не любіла гэтую кабету, не было чалавека, якога б яна ненавідзела, але жонка аканома не карысталася яе сімпатыяй, бо трымала сябе надта ганарліва. Напачатку, калі бабуля толькі прыехала да дачкі, яшчэ не пазнаёмілася з гаспадаркай і людзьмі, прыйшлі аканомава жонка і дзве паненкі з візітам. Пані Прошкава была дзесьці ў іншым месцы. Бабуля, згодна з традыцыяй, ветліва запрасіла гасцей прысесці, прынесла хлеб і соль, каб пані пакаштавалі. Але пані з такой пыхай закруцілі насамі, заявіўшы, што не будуць есці, і з такімі ўсмешкамі паглядзелі адна на адну, нібыта казалі: «Няўжо ты, наіўная, сапраўды думаеш, што мы абы-хто». Калі прыйшла пані Прошкава, то адразу ўбачыла, што бабуля парушыла панскія звычкі, і пасля адыходу гасцей сказала маці, каб яна не падавала пані хлеб, бо цяпер іншыя парадкі.

— Ведаеш што, Тэрэзка, — сказала пакрыўджаная бабуля, — хто не прымае хлеб і соль, той не варты, каб яму і крэсла прапаноўвалі. Але рабі так, як хочаш, я вашых новых звычак не разумею.

Адным з незвычайных людзей, што заходзілі на Старую Бялільню, быў гандляр Влах. Прыязджаў ён заўсёды на адным кані; на возе ляжала шмат прысмакаў: міндаль, разынкі, фінікі, апельсіны, лімоны, а таксама дарагое мыла, парфума і іншыя адмысловыя рэчы. Пані Прошкава з вясны да восені шмат чаго купляла, таму ён заўсёды дарыў дзецям пакет ласункаў. Задаволеная бабуля казала: «Уважлівы гэта чалавек, Влах, толькі тым ён мне не падабаецца, што забраў у ялавай каровы зад».

Бабуля з вялікай ахвотаю набывала неабходнае ў гандляра алеем, які прыходзіў два разы на год. Заўсёды брала бутэльку ерусалімскага бальзаму для ранаў, а да грошай за яго прыкладала яшчэ кавалачак хлеба.

Драценіка[1] і габрэя бабуля вітала заўсёды з ветлівай усмешкай. Яны кожны раз прыходзілі паасобку, іх тут добра ведалі, яны нібыта парадніліся з сям'ёй Прошкавых. Толькі калі аднойчы ў садзе з'явіліся цыгане, бабуля напалоха-

[1] Чалавек, які рамантуе гліняны посуд.

лася. Яна хутка вынесла ім ежу і сказала: «Людзі часам сілай выпраўляюць іх на скрыжаванне дарог».

Самым доўгачаканым госцем для дзяцей быў пан Бейер — ляснік з Крканошскіх гор. Ён кожную вясну спускаўся ўніз, каб назіраць за сплавам лесу, які накіроўвалі па Упе ў даліну.

Пан Бейер быў высокі і худы, адны скура ды косці. У яго быў доўгі смуглы твар, вялікія светлыя вочы, нос з гарбінкай, каштанавыя валасы і велізарныя вусы, якія апускаліся ўніз.

Рызнбургскі ляснік — каржакаваты, мажны, чырванатвары, меў маленькія вусікі і заўсёды акуратную прычоску. У пана Бейера валасы былі падзелены на прабор і звісалі над каўняром. Дзеці яго адразу пазнавалі.

Рызнбургскі ляснік заўсёды хадзіў павольна, а пан Бейер — нібы праз калдобіны скакаў. Першы не апранаў высокія цяжкія боты аж пад калена, меў прыгажэйшыя стрэльбу, рэмень і сумку, насіў шапку з савіным пяром. У пана Бейера былі вылінялы плашч, вялікі рэмень, на якім вісела стрэльба, а на зялёным з лямцу капелюшы зіхацелі пёры ястраба, каршуна і арла.

Так выглядаў пан Бейер. Дзеці палюбілі яго з першай сустрэчы. А бабуля сцвярджала, што дзеці і сабакі імгненна распазнаюць чалавека, які іх любіць. Бабуля не памылілася. Пан Бейер вельмі любіў дзяцей, асабліва Яна, шкадлівага Яна, пра якога ўсе казалі, што ён чарцянё. Тым не менш пан Бейер сцвярджаў, што той вырасце добрым хлопцам, і калі яму даспадобы будзе праца лесніка, то дапаможа авалодаць гэтай прафесіяй. Пан Рызнбургскі, які таксама наведваў Старую Бялільню, калі там быў яго калега з гор, казаў:

— Ну што ж, калі захоча стаць леснікам, вазьму яго да сябе, мой Францік таксама павінен леснікам быць.

— Не, пане браце, добра, калі малады чалавек праходзіць праз выпрабаванні, а вы, леснікі, якія тут, унізе, нічога не ведаеце пра сапраўдныя цяжкасці.

І тут пачынаў ляснік пералічваць складанасці сваёй прафесіі, казаць пра віхуры і заносы, пра дрэнныя дарогі і бездані, моцныя завеі і маразы. Апавядаў пра тое, што шмат разоў быў паміж жыццём і смерцю, калі нага яго слізгала па небяспечнай дарозе, пра тое, як блукаў, як галадаў па два-тры дні, не ведаючы, калі зможа выбрацца з лабірынту.

— Але затое, — казаў, — не ведаеце, як бывае прыгожа ў гарах летам. Калі снег растане, зазелянеюць раўніны, закрасуюць кветкі, лес напоўніцца пахамі і спевамі, усё зачароўвае. Радасна тады хадзіць па лесе, хадзіць з ім на спатканне. Два разы на тыдзень заходжу на Снежку. Калі бачу, як устае сонца і пад маімі нагамі ляжыць Божы свет, то думаю, што нікуды не хачу ісці, забываюся на ўсе цяжкасці.

Пан Бейер прыносіў дзецям горныя крышталі, апавядаў пра тое, як знайшоў іх, пра скалы і пячоры. Прыносіў духмяны, як фіялкі, мох, любіў успамінаць пра цудоўны сад Рыбрцоўля, куды нібыта трапіў аднойчы, блукаючы ў страшэнную віхуру і снежную завіруху па гарах.

Хлопчыкі не адыходзілі ад лесніка цэлы дзень, хадзілі з ім усюды, глядзелі, як сплаўляюць лес, каталіся на плыце. Калі ж раніцай пан Бейер развітваўся з Прошкавымі, дзеці заліваліся слязьмі і разам з бабуляю праводзілі госця. Пані Тэрэза кожны раз давала на дарогу столькі ежы, што ён ледзьве нёс.

— Ну, дасць Божа, у наступным годзе ўбачымся. Бывайце здаровыя! — казаў пан Бейер, адмерваючы велізарныя крокі. Доўга яшчэ потым дзеці апавядалі адно аднаму пра розныя цуды і жахі на Крканошскіх гарах, прыгадвалі пана Бейера і не маглі дачакацца, калі зноў прыйдзе вясна.

*Працяг будзе.*

***Прадмова і пераклад з чэшскай Н. Рашэтнікавай.***

# ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ



*Літаратуразнаўчыя слоўнікі і энцыклапедычныя даведнікі даюць дастаткова пэўныя вызначэнні фармальна-жанравых прыкмет аповесці. Аднак можна прывесці цэлы шэраг прыкладаў, калі мастацкая практыка супярэчыць тэорыі. Зусім натуральна, што ў чытачоў (а юныя аматары прыгожага пісьменства — асабліва дапытлівыя) часам паўстаюць заканамерныя пытанні... Чаму, напрыклад, «Дуброўскі» А. С. Пушкіна, «Бедныя людзі» Ф. М. Дастаеўскага, «Рудзін» І. С. Тургенева, «Кар'ер» В. У. Быкава названы раманамі, калі паводле тэарэтычных прынцыпаў творы ідэнтыфікуюцца з аповесцямі?!.*

*У навуковых артыкулах вызначэнне «аповесці» амаль заўсёды пачынаецца з удакладнення, што гэты жанр — «прамежкавы» ці «сярэдні» паміж апавяданнем і раманам (па аб'ёме, колькасці герояў, прасторава-часавых межах і інш.). Нярэдка падкрэсліваецца, што граніца паміж аповесцю і раманам даволі ўмоўная... Усё быццам бы правільна. Аднак школьніка такія каментарыі адно заблытваюць. Фактычна кожны мастацкі твор патрабуе асобнага філалагічнага аналізу, навукова-абгрунтаваных каментарыяў, удумлівага тэарэтычнага і метадалагічнага асэнсавання.*

*У нацыянальнай літаратуры жанр аповесці прайшоў свой адметны эвалюцыйны шлях, на кожным этапе развіцця ахопліваючы новыя тэматычныя і праблемныя абсягі, засвойваючы перадавы вопыт суседніх літаратур, выпрацоўваючы ўласныя мастацкія формы і метады. Слушна заўважыў Міхась Мушынскі: «Беларуская аповесць як жанравая форма народжана самой літаратурай, няўхільным яе развіццём. Яна ўзнікла з самой неабходнасці вырашаць на больш глыбокай ідэйна-мастацкай аснове тыя складаныя праблемы, якія паўставалі перад грамадскай, эстэтычнай свядомасцю чалавека ў новых гістарычных умовах». Дарэчы, вучоны падкрэсліў, што з заклікам да пісьменнікаў «даць беларускаму чытачу творы буйной жанравай формы» яшчэ ў 1914 годзе звярнуўся Максім Гарэцкі: «...А можа б, якую гістарычную аповесць, драму? Прозы, прозы, добрай мастацкай прозы беларускай дайце нам! Каб на стале ў нас каля тоўстай кніжкі вершаў «Шляхам жыцця» ляжала б не цянейшая кніжка прыгожай прозы»...*

*Сёння можна ўпэўнена сцвярджаць, што нацыянальная літаратура надзвычай багатая арыгінальнымі ўзорамі ў галіне жанру. Гэта гістарычныя, сацыяльна-бытавыя, фантастычныя, містычная, дэтэктыўныя, прыгодніцкія і іншыя віды аповесцей. Аднак айчынныя пісьменнікі не спыняюцца на дасягнутым, паранейшаму плённа працуюць у напрамку развіцця жанру.*

*«Школьныя далягляды» прапануюць чытачам цыкл матэрыялаў, які асвятляе сучасныя тэндэнцыі ў гэтай галіне беларускай прозы. У выпуску змешчаны тэарэтычны артыкул пра аповесць як літаратурны жанр, крытычныя рэцэнзіі на новыя арыгінальныя творы, што пабачылі свет толькі ў мінулым годзе. Мастацкая проза прадстаўлена адмысловай аповесцю Валерыя Гапеева, якую з поўнай адказнасцю можна назваць «камп'ютэрнай».*

*Рэдакцыя часопіса спадзяецца, што «Школьныя далягляды» істотна пасадзейнічаюць працы выкладчыкаў беларускай літаратуры, пашыраць досвед і кругагляд вучняў.*

Ізольда КІРВЕЛЬ

# ЖАНР АПОВЕСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Пачынаючы гаворку пра аповесць як эпічны жанр, мы міжволі можам апынуцца ў тэрміналагічным тупіку. Рэч у тым, што пераважная большасць замежных літаратуразнаўчых школ не вызначае жанр аповесці, і ў сусветнай літаратуры творы гэтай жанравай формы таксама не вылучаюцца з такой жа дакладнасцю, як раман ці навела. Тым не менш мы маем важкі спіс узораў аповесці ў розных нацыянальных літаратурах. Парадокс выкліканы, хутчэй за ўсё, няпэўнасцю азначэння і размытасцю жанравых межаў аповесці.

Звернемся да тых азначэнняў, якія прапануюць літаратуразнаўчыя слоўнікі і энцыклапедыі, і паспрабуем акрэсліць жанравыя прыкметы аповесці. Аповесць як від (жанр) эпічнага роду літаратуры займае месца паміж раманам і апавяданнем, з'яўляецца сярэднім па аб'ёме тэксту ці сюжэце эпічным творам, па форме выкладу часцей празаічным, але сустракаецца і вершаваная аповесць. Адметнасць аповесці не столькі ў аб'ёме, колькі ў змесце: ахоп падзей, часавыя межы, сюжэт, кампазіцыя, сістэма вобразаў. Ад рамана яна адрозніваецца меншым ахопам жыццёвых падзей, меншай колькасцю персанажаў, сітуацый, простасцю кампазіцыі, наяўнасцю, як правіла, адной сюжэтнай лініі, пераважна хранікальнай. Адпаведна, у параўнанні з апавяданнем аповесць мае большы аб'ём, разгорнуты сюжэт, які звязаны з жыццём і характарамі некалькіх персанажаў. Вобраз галоўнага героя (ці некалькіх герояў) аповесці раскрываецца шматгранна, паказаны ў развіцці.

Акрамя аб'ёму і сюжэтна-кампазіцыйных характарыстык, аповесць адрозніваецца ад іншых эпічных жанраў і манерай апавядання, у ёй выразна прасочваецца ўстаноўка на апавядальнасць (*повествовательность*), некаторая замаруджанасць аповеду (*повествования*), больш ці менш раўнамернае размеркаванне сюжэтнага напружання па асноўных этапах развіцця дзеяння, а таксама лірызм, таму аповед часта вядзецца ад імя аднаго з герояў.

Кожная з прыведзеных рысаў аповесці не з'яўляецца нязменнай і строга абавязковай. Параўноўваючы аповесць з раманам і апавяданнем, у кожным канкрэтным выпадку неабходна ўлічваць іх стылёвыя адметнасці. Увесь жа комплекс адзначаных вышэй жанравых прыкмет характарызуе «ўзорную», паказальную аповесць. На перыферыі гэтага жанру мы сустракаем значную колькасць пераходных формаў і жанравых разнавіднасцей аповесці, што не дазваляе ўстанавіць цвёрдыя межы паміж ёю і іншымі жанрамі эпічнага роду літаратуры. Няпэўнасць і «размытасць» як самой жанравай формы аповесці, так і тэрміна, абумоўлена, хутчэй за ўсё, адметнасцю і складанасцю гістарычнага развіцця гэтага жанру.

Як адзначалася, беларускаму тэрміну «аповесць» (як і рускаму «повесть») няма дакладнага адпаведніка ў заходнееўрапейскіх мовах і літаратуразнаўчых слоўніках. Французская аповесць — *conte*— літаральна азначае «казка», тое, што апавядаецца; у англійскай мове найбольш блізкі адпаведнік — *tale* — апавяданне, аповесць, тое, што расказваецца; нямецкаму *Erzahlung,* англійскаму *story, history, novel* адпавядаюць у нас як аповесць, так і апавяданне. Тэрмін **аповесць** у яго супрацьлегласці тэрмінам **раман**, **апавяданне**, **навела** з'яўляецца агульнаўсходнеславянскім і мае вельмі старажытнае паходжанне. Яго значэнне мянялася ў розныя перыяды развіцця літаратуры, адлюстроўваючы змены ў самой форме апавядальных твораў.



*Уладзімір Караткевіч у час працы над новай аповесцю.*

Слова «аповесць» паходзіць ад «поведать» ці «весць, вестка пра нейкую падзею». Старажытнае значэнне тэрміна сведчыць пра тое, што творы гэтага жанру ўвабралі рысы аповедаў, сведчанняў пра падзеі, якія бачыў ці пра якія чуў апавядальнік. Такое шырокае разуменне тэрміна ў агульнаўсходнеславянскай, а затым старарускай і старабеларускай традыцыях дазваляла называць аповесцямі творы самага шырокага дыяпазону: летапісныя («Аповесць мінулых гадоў»), сацыяльна-палітычныя («Аповесць пра Падолле» з Беларуска-літоўскага летапісу 1446 года), жыційныя («Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні»), гістарычныя («Повесть об Азовском сидении донских казаков»), гісторыка-літаратурныя («Аповесць пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл» з Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага), апакрыфічныя (перакладная «Аповесць пра трох каралёў»), воінскія («Повесть о разорении Рязани Батыем», перакладная «Аповесць пра Баву»), навелістычныя, ці раманныя (перакладная «Аповесць пра Трышчана», «Повесть о Еруслане Лазаревиче») і шмат іншых. Акрамя таго, да аповесцей можна адносіць і апавядальныя творы сярэднявечча, названыя як «Слова» («Слова пра паход Ігаравы»), «Сказание» («Сказание о Мамаевом побоище»), «Деяния» («Римские деяния»), нярэдка «Прытча», «Хроніка» («Хроніка Быхаўца»). Такім чынам, у старажытным прыгожым пісьменстве аповесць з'яўлялася той найбольш агульнай жанравай формай, у якой перасякліся амаль усе вядомыя апавядальныя жанры. Можна таксама заўважыць, што старажытныя аповесці і «пераходныя» да іх творы набывалі ў свой час неверагодную папулярнасць, актыўна перакладаліся і пранікалі ў суседнія літаратуры. Многія аповесці атрымалі сапраўды міжнароднае прызнанне; у розных нацыянальных і класавых асяродках яны перапрацоўваліся і атрымлівалі самастойнае жыццё, часам нават бытавалі ў вуснай, фальклорнай традыцыі (тая ж «Аповесць пра Трышчана»). Гэта сведчыць пра тыповасць адлюстраваных у іх падзей і ўзаемаадносін герояў, якія хоць і былі даволі прымітыўнымі, але выдатна дастасоўваліся да рэальных жыццёвых сітуацый.

Старажытныя аповесці і блізкія да іх па форме творы далі літаратуры новага часу асноўныя тыпы сюжэтаў і прыёмы кампазіцыі, на падставе якіх і складваецца далейшае развіццё жанру і выпрацоўваюцца асноўныя разнавіднасці аповесці, характэрныя і для сучаснай літаратуры. Аповесць паўтарае амаль усе мадыфікацыі рамана, за выключэннем ранніх (шахрайскі, ці «плутовской», і рыцарскі раманы). Існуюць такія разнавіднасці, як аповесць *сямейна-бытавая, гістарычная, прыгодніцкая, дэтэктыўная, фантастычная, сацыяльна-псіхалагічная, сатырычная, сацыяльна-палітычная, мастацка-дакументальная, філасофская* і інш.

На фарміраванне жанру аповесці ў беларускай літаратуры ў сучасным разуменні гэтага тэрміна ўплывалі руская і польская традыцыі. Станаўленне новай рускай аповесці адбываецца ў пераходны перыяд XVII — XVIII стагоддзяў, калі апавядальныя жанры набываюць, з аднаго боку, рысы рамана, з другога, — навелы. Жанры рамана і навелы ўжо былі выразна акрэслены ў заходнееўрапейскіх літаратурах. Варта заўважыць, што ў высокаразвітых і жанрава разнастайных еўрапейскіх літаратурах у XVIII—XIX стагоддзях назіраецца

значная перавага рамана і навелы, аднак і там шэраг буйнейшых аўтараў даў узоры твораў з характэрнымі рысамі аповесці (Гофман, Флабэр, Мерымэ). Тэрмін «аповесць» у новы час набывае новы і больш вузкі сэнс, які і ўкладваюць у яго тэарэтыкі сёння. Адначасова змяняецца і па-іншаму раскрываецца і самая прырода аповесці як сярэдняга эпічнага жанру. Калі раман вызначаецца маштабнасцю і складанасцю ўзнаўлення рэчаіснасці, падае цэлы комплекс сюжэтных ліній, апавяданне паказвае адзін жыццёвы выпадак, то аповесць, вылучыўшы адну якую-небудзь лінію рэчаіснасці, прасочвае яе на працягу цэлага шэрагу вызначальных момантаў, шматпланава абмалёўвае героя (герояў). Памер твора пры гэтым не мае істотнага значэння, аповесць можа быць карацейшай, чым доўгае апавяданне, і большай, чым невялікі раман (напрыклад, раман Тургенева «Напярэдадні» меншы, чым аповесць Купрына «Паядынак», а невялікую па форме «Капітанскую дачку» Пушкін сам вызначае як раман, аповесць «Знак бяды» В. Быкава маштабней за яго ж раман «Кар'ер»). Важную ролю ў развіцці жанру адыгралі рускія рамантычныя і сентыментальныя аповесці (творы А. Бястужава «Фрэгат «Надзея», М. Карамзіна «Бедная Ліза»), якія ўжо цалкам адпавядалі жанравым прыкметам аповесці. Вельмі плённым у XIX — пачатку XX стагоддзя было развіццё і рускай рэалістычнай аповесці (М. В. Гогаль, Л. М. Талстой, Ф. М. Дастаеўскі, А. П. Чэхаў, М. Горкі), якая найбольш паўплывала на станаўленне сучаснай беларускай аповесці.

Першыя ўзоры беларускай аповесці XIX стагоддзя суадносяцца з фальклорнай традыцыяй і маюць вершаваную форму. Як аповесці вызначыў В. Дунін-Марцінкевіч свае творы «Гапон», «Купала», блізкая да аповесці паэма Ф. Багушэвіча «Кепска будзе». Новая празаічная беларуская аповесць з'яўляецца ў пачатку XX стагоддзя. Трэба аддаць належнае М. Гарэцкаму, Ц. Гартнаму, Я. Коласу за творчае развіццё гэтага жанру на нацыянальнай глебе. У літаратуры 20-х гадоў аповесць спачатку была прадстаўлена як героіка-прыгодніцкі жанр («Два» А. Вольнага, «Свінапас» М. Чарота). Далейшае развіццё беларускай аповесці ішло па шляху паглыблення псіхалагізму, узбагачалася стылёвая палітра, узнікалі новыя жанравыя разнавіднасці. Лепшымі ўзорамі сацыяльна-псіхалагічнай аповесці лічацца творы К. Чорнага («Лявон Бушмар», «Люба Лук'янская») і М. Гарэцкага («Дзве душы»). У айчыннай літаратуры прадстаўлена аповесць сацыяльна-бытавая («Ні госць, ні гаспадар» Л. Калюгі), прыгодніцкая («Палескія рабінзоны» Я. Маўра), гістарычная («Чорная княгіня» В. Іпатавай, «Час чумы» У. Арлова), дэтэктыўная («Дзікае паляванне караля Стаха» У. Караткевіча, «Забойства на Каляды» М. Шайбака), фантастычная («Смута» А. Федарэнкі), маральна-псіхалагічная («Паляванне на Апошняга Жураўля» А. Жука), сатырычная («Бацька ў калаўроце» Р. Семашкевіча), мастацка-дакументальная («Vixi» А. Адамовіча, «Споведзь» Л. Геніюш). Пісьменнікі ствараюць цыклы з некалькіх аповесцей (трылогія Я. Коласа «На ростанях», пенталогія І. Шамякіна «Трывожнае шчасце»). У беларускай літаратуры склалася таксама адметная разнавіднасць аповесці — ваенная аповесць, развіццё якой найперш звязваюць з творчасцю В. Быкава.

Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў беларускай літаратуры стала вядучай з канца 40-х гадоў мінулага стагоддзя. Адным з першых аўтараў ваеннай аповесці быў І. Шамякін («Помста»). Наступныя творы — «Тартак» І. Пташнікава, «Хатынская аповесць» А. Адамовіча, «Суд у Слабадзе» В. Казько, «Ахвяры» І. Шамякіна і многія іншыя — значна паглыбілі аналітычны пачатак і псіхалагізм ваеннай аповесці.

Ваенныя аповесці В. Быкава — асобная і асобая старонка ў гісторыі аповесці як жанру, унёсак пісьменніка ў развіццё сусветнай літаратуры цяжка пераацаніць. В. Быкаў прызнаваўся, што «мысліць аповесцямі», што

менавіта гэтая форма найбольш прыдатная для выяўлення трагічнага і гераічнага пафасу яго ваенных твораў. В. Быкаў адкрыў новыя магчымасці старога жанру, па-сутнасці, стварыў адметную з'яву ў сістэме эпічных жанраў, якая атрымала назву «быкаўская аповесць». Яна мае спецыфічныя змястоўна-фармальныя прыкметы, што вылучаюць быкаўскую аповесць у шэрагу твораў гэтага жанру. Тэматычна ваенныя аповесці В. Быкава — франтавыя («Жураўліны крык», «Здрада», «Трэцяя ракета», «Яго батальён», інш.) ці партызанскія («Круглянскі мост», «Абеліск», «Сотнікаў», «У тумане», інш.). Выключэннем з'яўляецца аповесць «Альпійская балада». Стыль быкаўскага пісьма лаканічны, нават лапідарны, скупы. У прасторава-часавых адносінах быкаўская аповесць лакальная, асноўныя падзеі адбываюцца на невялікай, часам нават абмежаванай прасторы за кароткі адрэзак часу — ад некалькіх дзён да аднаго-двух месяцаў (чыгуначны пераезд у «Жураўліным крыку», хутар Яхімоўшчына ў «Знаку бяды»). Акрамя таго, пісьменнік засяроджвае ўвагу не на маштабных ваенных падзеях, а на характарах герояў, што яшчэ больш лакалізуе дзеянне і прыцягвае ўвагу да нешматлікіх дэталяў — рэчыўных, пейзажных, партрэтных, псіхалагічных. Вялікую ролю адыгрывае экзістэнцыйная сітуацыя — існаванне на мяжы жыцця і смерці. У гэтай сітуацыі, перад неабходнасцю зрабіць выбар, найярчэй праяўляюцца духоўныя магчымасці чалавека, выяўляецца, хто ён — свой ці чужынец. Адсюль — яшчэ адна рыса быкаўскай аповесці: супрацьпастаўленне кантрастных характараў, якія ў крытычнай сітуацыі разводзяцца на розныя бакі маральнай мяжы. Канфлікт надзвычайна завостраны, яго вырашэнне прыводзіць да выразна акрэсленай кульмінацыі і хуткай развязкі. Абавязковы для быкаўскай аповесці і рэтраспектыўны паказ падзей, якія фарміравалі характары герояў у храналагічна папярэдніх асноўнаму сюжэту часавых пластах.

Названыя асаблівасці быкаўскай аповесці спалучаюцца з традыцыйнымі для жанру аповесці рысамі: апавядальнасцю, паслядоўным разгортваннем падзей і характараў, адносна невялікім аб'ёмам. Пры разглядзе аповесцей В. Быкава абавязковым з'яўляецца аналіз як уласцівых ім спецыфічных, так і агульнажанравых рысаў.

Як развіваецца аповесць на сучасным этапе, калі жанравыя формы і ў паэзіі, і ў прозе надзвычай рухомыя? Неабходна прызнаць, што ў параўнанні з рускай, з большасцю еўрапейскіх літаратур, дзе раман літаральна захапіў вядучыя пазіцыі, становішча аповесці ў айчыннай прозе падаецца прыярытэтным. Да яе па-ранейшаму звяртаюцца пісьменнікі розных пакаленняў (У. Арлоў, Ю. Станкевіч, А. Наварыч, А. Глобус, А. Жук, І. Пташнікаў, інш.), іх пошукі часта прыводзяць да цікавых жанравых знаходак і здабыткаў: напрыклад, аповесць у навелах «Койданаўцы» А. Глобуса, фантастычная аповесць «Блуканні па іншасвеце» Я. Сіпакова, аповесць у жанры утопіі «Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў» А. Мінкіна. Сапраўдным адкрыццём апошняга дзесяцігоддзя стала проза маладой генерацыі пісьменнікаў, асабліва постмадэрнісцкія па стылі аповесці: «Шлях дробнай сволачы» Е. Вежнавец, «Галоўная памылка Афанасія» Ю. Каляды, «Удог» В. Мудрова і шэраг іншых.

Марыя ШАМЯКІНА

# ПАДАРОЖЖЫ Ў ЧАСЕ І ЭКСКУРСЫ Ў ГІСТОРЫЮ

Падарожжы ў часе — класічны сюжэт навуковай і прыгодніцкай фантастыкі. Машына часу як артэфакт фантастычнага твора з'яўляецца яшчэ ў XIX стагоддзі.

Верагодна, у рускай фантастыцы першым творам, дзе фігуравала падарожжа ў часе з дапамогай тэхнічных сродкаў, быў нарыс беларуса па паходжанні Ф. Б. Булгарына «Падобныя на праўду былічкі, альбо Падарожжы па свеце ў дваццаць дзевятым стагоддзі». Нарыс выйшаў у 1829 годзе.

Сапраўдную папулярнасць сярод пісьменнікаў-фантастаў ідэя машыны часу набывае пасля з'яўлення ў 1895 годзе аднайменнага рамана Герберта Уэлса.

Адзін з лепшых твораў дзіцячай фантастыкі, дзе дзейнічае машына часу і часавыя падарожжы — «Сто гадоў таму наперад» Кіра Булычова, папулярнага савецкага пісьменніка сярэдзіны XX стагоддзя.

Метад пераходу з аднога часу ў другі не ўсімі пісьменнікамі-фантастамі ўяўляецца як нешта механістычнае. Тунелі пад Полацкам з няскончанага рамана Вацлава Ластоўскага «Лабірынты» з'яўляюцца своеасаблівым пазачасавым збудаваннем, месцам перакрыжавання многіх эпох. Сапраўды, лабірынт — гэта *фрактал*. Сёння мы не ведаем і невялікай долі якасцей, уласцівых фракталам.

Беларуская пісьменніца Раіса Баравікова ў сваёй аповесці «Казімір — сын Ягайлы + Насця з 8 «Б» = ♡...» вырашае пытанне аб часавых падарожжах адметна. Яе героі, істоты з паралельнага свету Інф-1 і Інф-2, падарожнічаюць паміж рознымі сусветамі і часавымі вымярэннямі пры дапамозе «калідораў», своеасаблівых энергетычных тунеляў між рознымі кропкамі прасторы-часу.

Звычайна падарожжы ў мінулае ці будучае з'яўляюцца сюжэтным стрыжнем твора, адным з асноўных сюжэтаўтваральных элементаў. Так будуецца, скажам, той жа раман «Сто год таму наперад» Кіра Булычова.

У іншых творах падарожжа ў часе мае моцную філасофскую нагрузку, служыць не столькі для пабудовы забаўляльнага сюжэта, колькі для раскрыцця пэўных маральна-этычных, гістарычных, сацыяльных заканамернасцей, агучвання філасофскіх канцэпцый ці навуковых ідэй.

Асабліва цікавай у гэтым плане стала гісторыя апавядання Рэя Брэдберы «І грымнуў гром». Ідэя твора ў тым, што змены мінулага, нават самыя на першы погляд нязначныя, цягнуць за сабою катастрафічныя перамены ў будучым. Герой апавядання, падарожнік у час існавання дыназаўраў, выпадкова наступае на матылька. Вярнуўшыся з цікавага турыстычнага падарожжа ў свой час, герой заўважае, што рэальнасць дзіўным чынам перамянілася: на выбарах прайшоў зусім іншы прэзідэнт ЗША, абсалютна скажонымі і вычварнымі аказаліся змены нормаў англійскага правапісу.

Сёння гавораць, што апавяданне Рэя Брэдберы яскрава ілюструе адно з галоўных палажэнняў нелінейнай дынамікі (так званай тэорыі хаосу, як прынята называць яе ў папулярнай літаратуры) — залежнасць ад першапачатковых умоў. Але, заўважым, першыя распрацоўкі ў гэтай навуковай галіне датуюцца 1963 годам, калі метэаролаг Эдвард Лорэнц распрацаваў сваю знакамітую формулу залежнасці надвор'я ад трох ключавых паказальнікаў. Апавяданне ж Рэя Брэдберы выйшла ў 1952 годзе!

Наступнае супадзенне. Прычынай змен у апавяданні Брэдберы стаў матылёк. Атрактар (графічная ілюстрацыя матэматычнай функцыі) Лорэнца вонкава нагадвае матылька...

Працуючы над праблемай доўгатэрміновых прагнозаў надвор'я, Эдвард Лорэнц прыйшоў да высновы, што дакладна прадказаць атмасферныя з'явы магчыма толькі на 3-5 дзён наперад. Ускладненне абсталявання, павышэнне прадуктыўнасці камп'ютэраў ніколі не павялічаць гэты тэрмін. Лорэнц казаў, што ўсё залежыць ад першапрычын, ад пачатковых умоў, а ў выпадку з надвор'ем яны змяняюцца вельмі хутка. «Матылёк, махаючы крыламі ў Кітаі, можа выклікаць тарнада ў Амерыцы», — казаў ён. Ясна, што гэта перабольшанне, але зноў той жа вобраз — матылёк…

Сёння ў навуцы, палітыцы, мастацтве шырокае хаджэнне мае выслоўе «эфект матылька». Яно азначае непрадказальнасць развіцця сітуацыі, залежнасць яе ад першапачатковых умоў і ад тых умоў, якія спадарожнічаюць развіццю сітуацыі на кожным кроку.

А «прататыпам» гэтага вобраза стаў матылёк з апавядання пісьменніка-фантаста.

Гэта далёка не адзіны выпадак, калі пісьменнік прыдумаў тэрмін, выраз, які пазней увайшоў у шырокі ўжытак.

...У сваёй аповесці «Казімір — сын Ягайлы…» Раіса Баравікова прапаноўвае новы тэрмін — Кропка вяртання. Сэнс словазлучэння раскрываецца перад чытачом паступова, і цалкам высвятляецца толькі на апошніх старонках твора. Але адразу трэба адзначыць: яго ўжываюць не людзі, а прадстаўнікі іншай цывілізацыі — інфармацыйнай. Цывілізацыі, якая менавіта інфармацыю (фактычна — памяць) зрабіла сваёй асновай.

Падарожжы ў часе для Інф-1 і Інф-2 — магчымасць змяніць інфармацыйнае напаўненне Сусвету, перапісаць памяць, выправіць сённяшні дзень з дапамогай змен мінулага. Іх задача — прадухіліць замах на маладога князя Казіміра, які павінен быў адбыцца у 1445 годзе.

Для таго, каб дасягнуць сваёй мэты, Інф-1 і Інф-2 шукаюць чалавека, які мае своеасаблівую інфармацыйна-энергетычную адзнаку — Кропку вяртання.

Кропка вяртання прысутнічае не ва ўсіх людзей. Р. Баравікова падкрэслівае, што найбольш моцная яна — у прадстаўнікоў маладзейшага пакалення. З цягам часу яна можа страчвацца. Дарэчы, гэта нагадвае модны сёння феномен дзяцей індыга.

Страціўшы Кропку вяртання, чалавек і грамадства ў цэлым катастрафічна змяняецца.

«*У рэалаў усялякая падазронасць выклікае агрэсію,* — кажа Інф-1. — *І не толькі падазронасць. Яны па прыродзе сваёй — агрэсіўныя. Страціўшы Кропку вяртання, яны страцілі вышыню і прыгажосць свайго духу*».

Што цікава, пэўны чалавек звязаны сваёй Кропкай вяртання з пэўным часам і пэўным месцам.

Інф-1 кажа:

«*Я намацаў у аднаго з рэалаў, які жыве ў гэтым доме, Кропку вяртання. Гэты канал звязаны з тым часам і месцам, дзе мы павінны былі апынуцца*».

Але для абуджэння Кропкі патрабуецца вонкавы імпульс. Нешта павінна падштурхнуць свядомасць чалавека да ўспамінаў.

«*Мне цікавы кантакт з дзяўчынкай Насцяй. У яе ж павінна быць нейкая рэакцыя пасля таго, як наша інфармацыя прайшла праз Кропку вяртання. А яна прайшла. Я ўпэўнены! Мой інфармацыйны паток пра вялікага князя Казіміра, пра Міхайлушку Жыгмонтавіча і валожынскіх князёў Сухтаў абудзіў усё тое, што ў ёй было. У дзяўчынкі павінна з'явіцца шмат пытанняў, на якія ёй цяжка будзе знайсці адказ. Рэалы — не толькі з бялковай масы, яны поўныя самых розных пачуццяў*».

Менавіта гераіня аповесці праз свае дзіўныя, надзвычай рэалістычныя сны разбурае планы злачынцаў. Дзяўчынка, таксама Насця, але з 1445 года, атрымлівае інфармацыю аб замаху і перадае яе бацьку, а пасля і князю.

Такім чынам, не Інф-1 і Інф-2 прадухіляюць злачынства, а дзяўчынка, звязаная Кропкай вяртання з чалавекам, які жыве на паўтысячагоддзя пазней. Менавіта чалавек выратоўвае чалавека, а не звышістота з паралельнага свету.

Інф-1 і Інф-2 валодаюць сакрэтамі падарожжаў у часе і прасторы і могуць выкарыстоўваць іх, але яны не ўсемагутныя. Напрыклад, ім не вельмі ўдаюцца стасункі з людзьмі. Яны не змаглі адшукаць агульнай мовы з маці Насці. Дзяўчынкі — Насця і яе сяброўка таксама не выказваюць ім асаблівага даверу. Тут раскрываецца вельмі тонкі момант — псіхалогія чалавека не можа ўкладвацца ў пэўнае клішэ. Яе нельга прадставіць у выглядзе дакладных і абгрунтаваных дадзеных. Інф-1 і Інф-2 валодаюць усімі дадзенымі. Яны ведаюць гісторыю чалавечага грамадства, валодаюць методыкай уздзеяння на гэтую гісторыю. Яны нават ведаюць пра людзей тое, што людзі самі пра сябе не ведаюць — Інф-1 і Інф-2 маюць інфармацыю аб наяўнасці ў пэўных асоб Кропкі вяртання. Але адной інфармацыі, аказваецца, мала.

Дарэчы, Інф-1 і Інф-2 надзелены пэўнымі псіхалагічнымі якасцямі, кожны з іх — асоба. Яны неаднолькава ўспрымаюць свет, неаднолькава рэагуюць у пэўных абставінах. Так, Інф-1 выглядае больш эмацыянальным, Інф-2 — рацыянальным.

Яшчэ Станіслаў Лем казаў, што штучны інтэлект стварыць немагчыма, у тым ліку з прычыны таго, што розум — адзнака асобы. Пакуль машына не набудзе якасцей асобы, і добрых, і заганных, яна не набудзе інтэлекту, а застанецца проста машынай, здольнай да набыцця новай інфармацыі.

Б. Вербер, модны сёння французскі пісьменнік, пайшоў у гэтых развагах далей, даводзячы іх амаль да абсурду. Ён кажа, каб стварыць штучны інтэлект, трэба стварыць штучнае глупства, штучную магчымасць рабіць памылкі — і невыпадкова, а з прычыны таго самага глупства. Для стварэння штучнага розуму патрэбны штучныя шкодныя звычкі, штучная лянота, упартасць, дзівацтва.

Інф-1 і Інф-2 адразу ўспрымаюцца чытачом не як машыны, не як банкі дадзеных. Псіхалагічныя асаблівасці і адрозненні ва ўспрыняцці рэчаіснасці робяць іх асобамі.

Цікавымі падаюцца адносіны рэальнасці і сну ў аповесці Раісы Баравіковай. Людзі называюцца «рэалы», такім чынам, у творы прысутнічае пэўны намёк, неадназначнасць. Свет выглядае як бы траістым: інфармацыйнае грамадства суадносіцца з віртуальным светам, чалавечае — з рэальным. Але ёсць яшчэ свет сноў.

І свет сноў не такі просты, якім мы прывыклі яго ўспрымаць. У аповесці Раісы Баравіковай сон — ні ў якім разе не грубая псіхафізіялагічная функцыя. Гэта паралельны сусвет, які мае свае заканамернасці. У снах робіцца магчымым нават падарожжа ў часе, але выключна пры наяўнасці Кропкі вяртання. Насця і яе брат падарожнічаюць менавіта ў той адрэзак прасторы-часу, з якім яны звязаны Кропкай.

Але што ўяўляе сабою гэтая сувязь? Як праяўляецца Кропка вяртання?

Раіса Баравікова ні пра што не гаворыць прама, але дае чытачам падказкі. Магчыма, сувязь з мінулым праз Кропку вяртання адбываецца на аснове генетычнай памяці.

*«— Ну, вось, бачыш, Насця, — Інф-2 загадкава пасміхнуўся. — Калі б ты была больш уважлівай, ты да многага сама дайшла б!*

*І гэтыя яго словы прымусілі Насцю захваляваца.*

*— Да чаго? — хутка запыталася яна.*

*— Ты ж бачыла ў сне маленькую радзімку ў Настусі над левым брывом, у цябе яна таксама ёсць. І вочы ў вас аднолькавага колеру, як дзве пераспелыя вішні. І ўвогуле... Калі я прачнуўся сёння раніцай, я адразу згадаў цябе, — настолькі вы падобныя!*

*— Што ж тады атрымліваецца? — Вольга неяк нават разгублена пазірала то на Інфа-1, то на Насцю. — Настка, ты ж мне казала ў якім годзе рыхтаваўся замах на вялікага князя Казіміра... Калі гэта было?*

*— Тыя падзеі разгортваліся ў 1445 годзе, — за Насцю адказаў Інф-2.*

*— Цяпер — 2007, — і Вольга пачала лічыць. — Калі адняць ад гэтага года той, атрымліваецца пяцьсот шэсцьдзесят два гады. І калі... Калі падзяліць на сярэдніх шэсцьдзесят-семдзесят гадоў жыцця, дык прыблізна можа атрымацца лічба дзевяць, Настка! Ты ўсё зразумела?! Настуся — твая пра-пра-пра... бабуля ў дзевятым калене».*

Тут варта ўзгадаць знакамітага даследчыка Мірча Эліадэ, які ў сваёй кнізе «Міфы. Сны. Містэрыі» распавядае пра племя, уся гісторыя і міфалогія якога называлася «сны». Наогул, прадстаўнікі старажытных цывілізацый ставіліся да сну не як да нечага несапраўднага. Лічылася, што ў снах і іншых змененых станах свядомасці чалавек пачынае бачыць іншую рэальнасць, іншы зрэз прасторы-часу, таму і існавала вера ў прарочыя сны.

Такое суіснаванне і ўзаемапранікненне некалькіх рэальнасцей падкрэсліваецца і самой пабудовай аповесці «Казімір — сын Ягайлы...» Дзве сюжэтныя лініі чаргуюцца і ўзаемаперасякаюцца. Адна з іх — жыццё дзяўчынкі Насці з 2007 года, другая — здарэнне з Настусей з 1445-га. Першая напоўнена сучаснымі загадкамі — Кропка вяртання, сустрэча з прадстаўнікамі іншай цывілізацыі, НЛА. Другая сюжэтная лінія ўражвае дакладнасцю гістарычных рэалій і мае амаль дэтэктыўны сюжэт.

Такім чынам, Раіса Баравікова здолела сумясціць у сваім творы элементы фантастычнай і гістарычнай аповесці. Яны выразна размяжоўваюцца рамкамі глаў і чаргуюцца. Фантастычны элемент прэваліруе ў апісаннях сучаснасці. Менавіта 2007 год наведваюць жыхары іншага прастора-часавага вымярэння Інф-1 і Інф-2. Людзі XXI стагоддзя назіраюць НЛА, бачаць прарочыя сны, сутыкаюцца з дзіўнымі містычнымі здарэннямі.

Містычны элемент у беларускай літаратуры заўсёды быў надзвычай моцным, яго можна адшукаць нават у творах пісьменнікаў рэалістаў. Відаць, гэты глыбінны і, так бы мовіць, пабытавы містыцызм, — асаблівасць беларускай літаратуры і беларускага менталітэту. Дзіўныя здарэнні, якія цяжка вытлумачыць з матэрыялістычнага пункту гледжання, адбываюцца ў паўсядзённым жыцці. Многія былі іх сведкамі ці чулі пра іх. Сапраўды, беларусы не схільныя шукаць дзіўнага, незвычайнага недзе далёка, бо яны здольныя ўспрымаць і аналізаваць тое, што адбываецца побач.

Гэтая асаблівасць выразна адлюстравана ў аповесці Раісы Баравіковай. Так, бацькі дзяўчынкі Насці з 2007 года расказваюць ёй і яе брату пра загадкавыя здарэнні, што адбываліся з іх знаёмымі.

Гістарычны пласт аповесці таксама не пазбаўлены містычнага элемента. Але, і на гэта варта звярнуць асаблівую ўвагу, гэты элемент пададзены ў форме, характэрнай для тых часоў. Гэта не проста прарочы сон, а знак, Голас звышэй, відзеж.

*«—Нядобрае на тых ловах будзе. Я на ложку ляжала і Голас пачула. Знак мне быў. Князь Міхайлушка, што ў Клецку сядзіць, ліхі намер мае. Замах пад час ловаў на гаспадара вялікага — маладога Казіміра — ён рыхтуе, і князі Сухты яго здзейсняць, валожынскія. Падбухторыў ён іх. Напэўна, заб'юць яны вялікага Гаспадара. Я праўду кажу. Голас такі чула».*

Гэты матыў характэрны для жыційнай літаратуры, ён натуральны ў кантэксце культуры сярэднявечча.

Насця з 2007 года паступова пачынае адчуваць, наколькі моцная сувязь злучае яе з падзеямі і асобамі паўтысячагадовай даўніны. У яе нават ёсць падазрэнне, што ў Настусі з 1445 года быў раман з вялікім князем Казімірам, якога яна

выратавала. У сваім апошнім сне Насця робіцца сведкай таго, як князь запрашае сваю выратавальніцу наведаць яго палац у Троках. Што было далей — мы не ведаем, але зусім верагодна, што вялікі князь Казімір — прапрадзед у дзевятым калене Насці.

«*Мне здаецца,* — кажа Насця сябрам, — *што ў вялікага князя Казіміра і Настусі было каханне...*»

Такім чынам, у творы Раісы Баравіковай прысутнічае намёк і на яшчэ адзін парадокс, які традыцыйна прываблівае фантастаў. Што, калі чалавек накіруецца ў мінулае і заб'е там свайго дзеда да таго, як той пазнаёміўся з бабуляй? У гэтым выпадку не народзіцца бацька ці маці падарожніка ў часе, і, адпаведна, самога падарожніка не будзе таксама. У аповесці «Казімір — сын Ягайлы...» мы сустракаем адваротную карціну. Насця, ажыццяўляючы праз сны сваё часавае падарожжа, фактычна робіцца саўдзельніцай выратавання асабістага прапрадзядулі ў дзевятым калене!

Суіснаванне двух пластоў — гістарычнага і фантастычнага дазваляе Раісе Баравіковай паказаць, наколькі значным з'яўляецца гістарычнае мінулае для дня сучаснага. Калі б замах на князя Казіміра здзейсніўся, далейшая гісторыя развівалася б зусім па-іншаму, і так з кожнай падзеяй, з кожнай акалічнасцю. Адначасова аповесць «Казімір — сын Ягайлы...» асвятляе і ролю простага чалавека ў гісторыі. Настуся з 1445 года, якая выратоўвае маладога Гаспадара Казіміра, не князёўна, не дзяўчына высокага паходжання, а дачка простага асочніка.

І ўсё гэта дасягаецца аўтаркай, дзякуючы ўвядзенню новага для фантастычнай літаратуры «вобраза-тэрміна» — Кропкі вяртання.

Наяўнасць Кропкі вяртання, як мы змаглі назіраць, прадвызначае стан грамадства і лёс кожнага асобнага чалавека. Гэта мяжа гістарычнай узнаўляльнасці ў свядомасці людзей. Канцэнтрацыя маральных нормаў, духоўных і інтэлектуальных багаццяў, назапашаных продкамі. Страціўшы яе, перайшоўшы мяжу, пераадолеўшы гэтую ключавую кропку, грамадства гіне.

Зноў вернемся да выслоў'я «эффект матылька», якое ўзгадвалася ў пачатку артыкула. Як мы бачым, апавяданне Рэя Брэдберы не толькі папярэднічала выключнаму адкрыццю ў галіне дакладных і прыродазнаўчых навук. А так званая «тэорыя Хаосу» знайшла сваё прымяненне ў першую чаргу менавіта ў прыродазнаўчых дасцыплінах: з яе дапамогай прагназуюць надвор'е і рост або змяншэнне папуляцый жывёл, прагназуюць прыступы ішэмічнай хваробы сэрца і пікі мышачнай актыўнасці ў спартсменаў. Дарэчы, і ў гуманітарных навуках нелінейная дынаміка адыгрывае сёння надзвычай вялікую ролю. Яна дазваляе прагназаваць тэмпы ўзбуйнення гарадоў, рынкавыя механізмы, змены ў мове і інш.

Гэта выслоў'е — «эффект матылька» — з'явілася вельмі своечасова, калі не толькі ў навуцы, але і ў самім грамадстве наспела такая патрэба.

Таленавітыя пісьменнікі надзелены прарочым дарам — гэта ні для кога не сакрэт. І з'яўленне ў беларускай літаратуры новага «вобраза-тэрміна» — Кропкі вяртання — невыпадковая з'ява. Варта прыслухацца да сваёй гістарычнай памяці. І ў першую чаргу гэта павінны зрабіць прадстаўнікі маладога пакалення.

Кропка вяртання — ёсць узнаўленне генетычнай памяці на ўзроўні асобы, і гэтым яна вылучаецца ў параўнанні з вывучэннем гісторыі цэлага народа. Сёння мы даволі поўна валодаем здабыткамі гістарычнай навукі, але менавіта Кропкі вяртання не хапае беларусам. Не хапае адчування роднасці і непарыўнасці пакаленняў, асабістай прывязкі да традыцыі і нацыянальнай культуры.

Лада АЛЕЙНІК

# НЕЛЬГА ДВОЙЧЫ ЎВАЙСЦІ Ў АДНУ РАКУ...

***(аповесць Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца»)***

«Існуе неабвержная заканамернасць у тым, што тыя, хто піша пра станаўленне, фармаванне чалавечай асобы, пра яе духоўны і душэўны патэнцыял, заўсёды звяртаюцца да гадоў дзяцінства і юнацтва. Менавіта ў тую пару ва ўзаемаадносінах з навакольным светам, з прыродай, праз гэтыя ўзаемаадносіны і дзякуючы ім фарміруюцца ў чалавеку пачуцці і ідэалы добрага і прыгожага», — заўважыў С. Андраюк. Менавіта падзеі з юнацтва лірычнага героя з'яўляюцца аб'ектам філасофскага асэнсавання ў аповесці Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца». Пры гэтым іх сапраўдная сутнасць — драматычны вынік колішняга дзіцячага жарту — робіцца вядомай герою адно ў сталым узросце, нечакана і выпадкова...

Кампазіцыя аповесці неардынарная. У сюжэтную плынь уведзены некалькі своеасаблівых эсэ, якія быццам бы не маюць непасрэднага дачынення да асноўных падзей. Адно з такіх эсэ, дзе аўтар прамаўляе ад уласнага імя, выступае ў творы ў якасці пралога: «Я збіраю шарыкавыя аўтаручкі. <...> Я пісьменнік, і даўно зразумеў, што кожнаму твору патрэбна свая, асобная, скажам так, прылада працы. Часам даводзіцца перабраць добры тузін аўтаручак, каб нарэшце знайсці патрэбную, якую пры пісьме зусім не адчуваеш, быццам яна — частка тваёй рукі. Я пішу марудна, шмат крэслю, але пасля таго як тэкст з'яўляецца ў друку, больш ужо не ўношу ў яго ніводнай праўкі. А каб усё ж не з'яўлялася спакусы нешта ў ім паправіць, я праводжу — як правіла, гэта адбываецца на лецішчы — творчае ахвярапрынашэнне: спальваю аўтаручку на спецыяльна разведзеным для гэтай мэты вогнішчы. Таму мая калекцыя ўвесь час абнаўляецца...». З улікам таго, што далей у творы разгортваецца гісторыя юнацкага кахання, гэтае «лірычнае адступленне» можа падацца дзіўным або недарэчным. Арыгінальнасць і мэтазгоднасць аўтарскай задумы робіцца відавочнай значна пазней... Тады, калі ўзнікае разуменне, як няпроста часам бывае вярнуцца да мінулага, прымусіць сябе нанава перажыць тое, што, падавалася б, незваротна адышло, але чамусьці на працягу жыцця вярэдзіць душу, непакоіць і хвалюе. Каб асэнсаваць былое, даць яму аб'ектыўную ацэнку, часта не стае ці мужнасці, ці маральнай спеласці, ці адпаведнага стану душы, ці элементарнага часу... У дадзеным выпадку, як засведчыў пісьменнік, яму не хапала адно ***стрыжня для аўтаручкі***. Бо ў той аўтаручцы, што была адзіна прыдатнай для напісання аповесці і «дваццаць гадоў чакала свайго часу», у стрыжні высахла паста. «Да ўсяго, іншыя стрыжні, якія я ўстаўляў у ручку, пры пісьме хісталіся, і словы таксама атрымліваліся хісткімі, чужымі, быццам іх пісаў нехта іншы, а значыць, чужую, не маю гісторыю. Мне не заставалася больш нічога, як адкласці пісанне, выдатна разумеючы, што можа прайсці нямала часу, перш чым я зноў вярнуся да гэтай гісторыі. А можа, і не вярнуся да яе ніколі. Я адчуваў, як ува мне пачынае расці абыякавасць да яе». Што ж, атрымліваецца, што з-за «непрыдатнасці» аўтаручкі пісьменнік не можа падступіцца да новага твора?.. Сумнеўна. Тут, верагодней за ўсё, вобразна вытлумачваецца іншае — спецыфічная ўнутраная «негатоўнасць», адчуванне таго стану, які мастакі называюць «супраціўленнем матэрыялу». Міжвольна, падсвядома адчуваючы, што адпаведны момант яшчэ не надышоў, аўтар не дазваляе сабе прымусовай працы... Пра гэтую з'яву — своеасаблівую духоўную спеласць, маральную падрыхтаванасць творцы да ўвасаблення мастацкай задумы — цікавыя развагі сустрэліся ў кнізе Алеся Яскевіча «Грані майстэрства»: «Асабістае жыццё маста-

ка ў значнай ступені адрозніваецца ад жыцця іншых людзей. Мастак усё ўбірае ў сваё сэрца. Толькі праз сэрца — перамога, толькі праз перажыванне, спачуванне і творчасць — вызваленне! Ёсць, безумоўна, іншы выбар — пазбегнуць пакут, аднак ён не можа спадзявацца, што яму адкрыецца вышэйшая праўда свету. Пра гэта шмат гаварыў у сваіх дзённіках І. С. Тургенеў. Аб гэтым жа піша Стэфан Цвейг: «Для мастака ёсць лячэбны сродак, якога ўрач не можа прапісаць іншым сваім пацыентам. Ён можа, толькі ён адзін, пераадольваць клопаты і выпрабаванні, апісаўшы іх. Ён можа ператварыць свой горкі вопыт у хвалюючыя вобразы і ўсё, што было жорсткай жыццёвай неабходнасцю, перарабіць у творчую сілу». Перамога пакут творчасцю… Няма вышэйшай асалоды для мастака, як авалодаць хаосам жыцця, стварыць свой свет і ўсёй унутранай мерай адчуць, што ўдалося, «стварылася». Па-мойму, менавіта пра гэткія моманты — унутранага выспельвання задумы, чакання душэўнага імпульсу, руху, натхнення — вядзе гаворку Алесь Бадак, калі расказвае пра пільны падбор аўтаручкі для твора. Доўгачаканы момант урэшце надыходзіць. І пісьменнік ізноў звязвае яго з «прыладай працы»: «І калі амаль праз паўгода мой сябра пісьменнік Барыс Пятровіч, вярнуўшыся з Польшчы, са словамі: «Ён ідэальны для еўрапейскага пісьменніка, бо аб'ём чарніла ў ім вызначае самы прымальны для еўрапейскага чытача памер рамана», падарыў мне стрыжань, які — нарэшце — падышоў да маёй аўтаручкі, я падумаў, што гэта здарылася, відаць, надта позна. І ўсё ж цяпер, у гэтыя хвіліны, <…> я сяджу за сваім рабочым сталом і пішу радкі, якія вы зараз чытаеце, і ў руцэ маёй аўтаручка з польскім стрыжнем, якога, як лічыць Барыс Пятровіч, якраз хапае на напісанне самага ідэальнага па сваім памеры рамана. Праўда, у мяне будзе не раман, а хутчэй за ўсё, невялікая аповесць, і вярнуцца да яе мне дапамог адзін выпадак [падкрэслена мной. — ***Л. А.***], які здарыўся са мной на мінулым тыдні». Аднак ключавы сэнс утрымлівае, несумненна, словазлучэнне «адзін выпадак». Менавіта выпадковы збег абставін змушае пісьменніка не толькі згадаць сваё школьнае мінулае, але і літаральна «судакрануцца» з ім, высветліць нечаканыя і вельмі балючыя наступствы даўняга неабдуманага ўчынку…

Эпізод, з якога пачынае рэканструявацца былое, робіцца не толькі першым крокам да разумення канфлікту дваццацігадовай даўнасці, але і ў цэлым адыгрывае ў сюжэтабудове даволі істотную ролю: інтрыгуе, насцярожвае, абвастрае цікаўнасць...

Абставіны складаюцца наступным чынам: колішні аднакласнік, які ўжо сам стаў настаўнікам, запрасіў пісьменніка выступіць у школе — «у яго класе адбыўся надзвычайны выпадак»: вучань-васьмікласнік падцікаваў зручны момант і сфатаграфаваў сваю настаўніцу на мабільнік у непрывабным выглядзе. Ды яшчэ намысліў размясціць фотаздымак у Інтэрнэце… Прыехаўшы ў раённы гарадок да сябра дзяцінства, каб «папярэдне абгаварыць з ім нюансы гэтага выступлення», пісьменнік сустракае на аўтобусным прыпынку сваю школьную настаўніцу — тую, у якую калісьці быў па-дзіцячы наіўна і шчыра закаханы. Аднак дыялог, які адбываецца паміж імі, выклікае ўражанне, што настаўніца вядзе гаворку не з былым вучнем, а з заклятым ворагам:

«— Добры дзень, — сказаў я… <…> — Вы мяне пазналі?

— Пазнала, — сказала яна дастаткова суха, каб зразумець, што нават праз дваццаць гадоў не хоча рабіць выгляд, быццам ёй прыемна мяне бачыць.

— Відаць, вы на мяне тады моцна пакрыўдзіліся і не можаце дараваць па сённяшні дзень…

— Я вас тады ўзненавідзела.

Здавалася, цэлых дваццаць гадоў яна чакала моманту, каб кінуць мне ў твар усяго чатыры словы. Але я крыху памыліўся, гэтага ёй было мала. Яна адвяла позірк і дадала:

— І думаю, з таго часу мала што змянілася ў маіх адносінах да вас».

Тут, натуральна, узнікае шэраг пытанняў: што ж гэта быў за ўчынак, які настаўніца не здолела даравáць вучню і праз дваццаць год? Няўжо правіна школьніка можа быць падставай для шматгадовай зацятай нянавісці? (Што ж гэта была за гісторыя, да мастацкага асэнсавання якой пісьменнік не мог падступіцца гэтулькі часу?!)

Галоўны герой твора паўстае ў двух іпастасях. Найперш, аўтар, як адзначалася, выступае ад уласнага імя, згадвае імёны рэальных вядомых персон, датуе факты дакладнымі часавымі каардынатамі, чым выразна падкрэслівае аўтабіяграфізм аповеду. Па сутнасці — пазіцыянуе сябе як героя-апавядальніка. Але калі гісторыя падыходзіць непасрэдна да падзей юнацтва, то на авансцэну выходзіць іншы персанаж — Сяргей Васільевіч — пра якога гаворка вядзецца ўжо ў трэцяй асобе. Дзеля чаго ж аўтар робіць такую «падмену», навошта дыферэнцыруе персанажаў? Якой мэты спрабуе дасягнуць пры дапамозе гэткага мастацкага прыёму? Як на маю думку, далей пісьменнік тонка вытлумачвае сваё бачанне ўласнага маленства праз адлегласць у два дзесяцігоддзі: «І калі я, перабіраючы фотаздымкі таго часу, гляджу — вочы ў вочы — на сябе самога, мне міжволі здаецца, што той Сяргей і зараз жыве там, у часе, які застаўся на фота. І мы нічога не ведаем пра цяперашняе жыццё адно аднаго, і, можа быць, у гэтыя хвіліны ён таксама ўспамінае сябе ранейшага, і, магчыма, якраз такім, якім я сябе ўжо не памятаю. Таму нават у сваіх успамінах мы з ім пражываем розныя жыцці, нібы зусім чужыя адзін аднаму. Хоць каму, як не мне, да драбніц ведаць рысы яго характару, яго самыя інтымныя мары і жаданні». Ці не кожны з нас, згадваючы сваё дзяцінства, глядзіць на сябе нібыта вачыма староннягa чалавека — не проста дарослага, а іншага... Таго, хто амаль усё ведае пра цябе, дакладна разумее, чым ты кіраваўся ў сваіх памкненнях і ўчынках, ад чаго пакутаваў, чым суцяшаўся, чаго баяўся, чаму радаваўся, пра што марыў, што адчуваў… Гэты іншы чалавек з'яўляецца адначасова і самым шчырым сябрам, і самым строгім суддзёй.

Сутнасць канфлікту адначасова і вельмі простая, і надзвычай складаная. Настаўніца — маладая дзяўчына, якая не мае належнага вопыту, каб мудра ці хаця б памяркоўна паставіцца да ўвагі наіўнага і рамантычнага хлопчыка. Закаханы вучань не ведае, як выявіць свае пачуцці, як звярнуць на сябе ўвагу маладой прыгожай настаўніцы. Яны ўступаюць у нежартоўнае супрацьстаянне…

Неабходна падкрэсліць, што аўтару ўдалося стварыць аб'ектыўны падзейны малюнак. Ён не ідэалізуе мінулага, не рамантызуе сітуацый, не імкнецца апраўдаць учынкі персанажаў, але аналітычна ставіцца да фактаў, глядзіць на іх удумліва і быццам бы адстаронена. Па-філасофску глыбокае стаўленне да рэчаіснасці ўзбагачае мастацкую форму твора, надзяляе апавядальную плынь жывой вобразнасцю і пластычнасцю. Рэалістычна і дакладна выяўлена аўтарам псіхалогія хлопчыка, яго характар абмаляваны натуральна, матывацыя ўчынкаў вытлумачваецца дэталёва і абгрунтавана.

Знаёмства з новай настаўніцай пачалося ў падлетка з вельмі прыкрай сітуацыі. У школьным гардэробе Сяргея схапіла за руку (у літаральным сэнсе) тэхнічка, калі рука вучня была ў кішэні курткі аднакласніцы. Ніхто не ведае, што ён зусім не з мэтай крадзяжу палез у тую кішэню. Наадварот: тайна падкладаў аднакласніцы цукеркі. Аднак прызнацца ў гэтым (што цалкам характэрна для ўзросту персанажа) падлетак ніяк не можа. Калі ж тэхнічка прыводзіць «злодзея» ў кабінет дырэктара школы, там якраз знаходзіцца новая «біялагіца»: «Дырэктарка сядзела за сталом, а побач з ёй стаяла незнаёмая яму дзяўчына. Спыніўшыся ў дзвярах, ён, забыўшыся на тое, што пяць хвілін назад здарылася ў гардэробе, заварожана глядзеў на яе, глядзеў, і разам з тым не бачыў, таму што хацеў ахапіць позіркам за раз яе ўсю — ад залацістых валасоў, што ледзь краналіся плячэй, да ног, вышэй каленяў схаваных пад белай спаднічкай. У кабінеце стаяў пах духоў, якога ў іх школе раней ніколі не было, інача́й ён бы яго абавязкова запомніў.

— Міхайлаўна, прабачце, вось прывяла злодзея. У гардэробе лазіў па чужых кішэнях.

Яму трэба было нешта гаварыць, апраўдвацца, але нехта нябачны схапіў яго за горла так моцна, што стала цяжка дыхаць. Апускаючы вочы, каб не сустрэцца з ёй позіркам, ён усё ж паспеў убачыць на яе твары здзіўленне і нават, як яму здалося, пагарду».

Гэты эпізод выкрывае парадаксальнасць і драматызм сітуацыі, у якую патрапіў васьмікласнік; дэманструе раптоўную зачараванасць падлетка прыгажосцю настаўніцы і тым больш датклівым робіць адчуванне яго ганьбы. Апроч таго, эпізод з'яўляецца яшчэ і спецыфічным абгрунтаваннем далейшых паводзінаў Сяргея, які шчыра імкнецца рэабілітавацца: «Яму хацелася як мага хутчэй даказаць ёй, што ён не такі, як яна пра яго думае. На кожны яе ўрок ён прыходзіў старанна падрыхтаваным, але за месяц яна ні разу яго не выклікала. І калі ў адным з кастрычніцкіх нумароў газеты «Піянер Беларусі» надрукавалі цэлую падборку яго вершаў, ён ухапіўся за іх як за выратавальную саломінку. Ледзь толькі пачаўся ўрок біялогіі, ён разгарнуў газету, усяляк стараючыся прыцягнуць да сябе Танеччыну ўвагу. Нарэшце яна зрабіла яму заўвагу, але праз хвіліну ён зноў стаў шамацець старонкамі, чакаючы, што на гэты раз Танечка загадае пакласці газету на яе стол. І ён зробіць гэта з таемнай радасцю, і пакладзе газету так, каб Танечка, кінуўшы на яе свой позірк, адразу ўбачыла яго прозвішча». Засяроджанасць аўтара на інтымных думках і псіхалогіі юнага героя не толькі раскрывае сутнасць перажыванняў і ладу мыслення хлопчыка, але і па-свойму ўзмацняе разуменне наіўнага свету дзіцячай душы, абвастрае разуменне яго балючай крыўды... Верагодна, сталы педагог зразумеў бы пачуцці падлетка і адрэагаваў бы на іх адэкватна. Аднак хіба мала вядома прыкладаў, калі нават вельмі вопытныя педагогі паводзяць сябе імпульсіўна, неабдумана, рэзка? Што ж хацець ад маладзенькай выкладчыцы, якой бракуе элементарнага жыццёвага досведу, і якая гэтаксама імкнецца «сцвердзіцца» ў асяродку вучняў: «...Настаўніца, быццам баючыся перадумаць, хутка накіравалася да яго, выхапіла з рук газету і са злосцю парвала яе на шматкі...». А. Бадак, несумненна, наўмысна пакідае без каментарыяў некаторыя перыпетыі аповесці. І гэта, думаецца, беспамылковае рашэнне. У сюжэце не вытлумачваецца, напрыклад, якія пачуцці выклікала ў хлопчыка рэакцыя настаўніцы, як ён сябе паводзіў... Толькі канстатацыя самога факта. Тым больш кранае і хвалюе сітуацыя, тым вастрэй адчуваецца сапраўдная бездапаможнасць вучня, яго залежнасць ад абставін.

На подступах да кульмінацыі пісьменнік ізноў робіць філасофскае адступленне. І хаця на гэты раз гаворка тычыцца не аўтаручак, а вясковых хат, рэфлексія аўтара ізноў асацыятыўна звязваецца з асэнсаваннем мінулага, яго развагі непасрэдна наводзяць на роздум пра хуткаплыннасць быцця, пра яго імклівую зменлівасць, пра тое, што дарослы чалавек заўжды па-іншаму ацэньвае і сябе ранейшага, і навакольны свет, і з'явы жыцця: «Прыходзячы ў бацькоўскую хату, у якой доўга не быў, пачынаеш разумець, што яна мае ўласцівасць адвыкаць ад цябе. Калі ты вярнуўся, а дома нікога няма, то, адмыкаючы дзверы, пераходзячы з пакоя ў пакой, адчуваеш ва ўсім затоеную насцярожанасць, з якою сустракаюць чужынца, яна сыходзіць ад сцен, ад кожнай рэчы, нават калі тая некалі была куплена ці змайстравана табой». Міжволі згадваецца вядомае выслоўе Геракліта: «Нельга двойчы ўвайсці ў адну раку». Глыбокі сэнс гэтай крылатай фразы зробіцца асабліва выразным, калі герой даведаецца нарэшце пра вынікі свайго даўняга ўчынку.

Варта адзначыць, што спецыфічная дыскрэтнасць аповеду (чаргаванне былога і сучаснага, устаўныя эсэ і інш.) ніякім чынам не перашкаджае выяўленню логікі падзей. На працягу аповеду аўтар захоўвае меру кампазіцыйнай паслядоўнасці, пастпова падводзячы да сутнасці даўняга канфлікту; заглыбляючыся

ва ўспаміны маленства, па драбніцы ўзнаўляе колішні дзіцячы свет, прыгадвае амаль забытыя думкі, эмоцыі, уражанні... У апавядальнай плыні гучаць такія далікатныя ноты, што ўзнікае адчуванне гранічнай шчырасці, праўдзівасці, ці, інакш кажучы, сапраўднай «перажытасці» пачуццяў. Вельмі трапна ролю жыццёвых уражанняў у творчасці мастака патлумачыў У. Калеснік: «Трапіўшы ў душу мастака, знаходкі не залежваюцца: яны дабіваюцца ад творцы афармлення. Творчая фантазія захоплівае іх і кружыць па сваіх арбітах, паварочвае рознымі гранямі, шліфуе, надае форму. Фрагменты жыцця ператвараюцца ў кампаненты <...> твора».

Як у хату, у якой доўга не быў, герой «уваходзіць» у сваё мінулае. Ён прыгадвае, якія захады прадпрымаў, каб прыцягнуць увагу прыгажуні-настаўніцы... Яна зняважыла хлопчыка ў лепшых пачуццях, калі парвала газету з вершамі. Аднак гэта, натуральна, толькі «падагрэла» імпэт вучня, распаліла ў ім так званы дух супраціўлення. Пісьменнік з адмысловай дакладнасцю адлюстраваў паводзіны падлетка. Сяргей пачаў дзейнічаць навязліва, амаль нахабна. Аднак «біялагіца» па-ранейшаму ігнаравала ўсе яго высілкі — жарты, «ананімныя» тэлефанаванні ёй дадому. І вось аднойчы хлопцу выпала нагода «пажартаваць» чарговы раз: калі позна ўвечары настаўніца вярталася з працы, Сяргей з сябрамі напалохалі яе крыкамі і аглушальным стрэлам з самапала...

Эпізоды, з якіх скампанавана аповесць, паступова дадаюць гісторыі цэласнасць. Магчыма, непрымальнымі, але зразумелымі бачацца ўчынкі падлетка і маладой выкладчыцы, асобныя факты арганізуюцца ў лагічныя ланцужкі... Толькі ведаючы ўсе дэталі «супрацьстаяння» вучня і педагога, па-ранейшаму цяжка паверыць, што менавіта той «жарт» стаў нагодай для зацятай варожасці збоку настаўніцы. За дваццаць год выпадак павінен быў або забыцца, або, як часта бывае, набыць рысы анекдатычнасці, камічнай недарэчнасці...

Вельмі ўдалым падаецца аўтарскае рашэнне «адкрыць сутнасць» даўняй падзеі толькі ў фінале аповесці. Сам герой даведваецца пра вынікі свайго ўчынку ад былой дырэктаркі школы:

«— Тваё каханне да яе было вельмі агрэсіўным. Яна была зусім яшчэ маладая і не ведала, як гэтай агрэсіі супрацьстаяць. На жаль, гэтаму нельга навучыцца ва універсітэце, таму што на кожны какрэтны выпадак мусіць быць свой падручнік. <...> Дарэчы, яна паявяла сябе вельмі годна, калі пасля ўсяго, што з ёю здарылася, не ўчыніла ніякага скандалу, не паскардзілася ў райана, а проста перавялася ў іншую школу. <...>.

— А што з ёй здарылася? — недаўменна спытаў я, адчуваючы, як словы пяском захрасаюць на языку.

— Ты хіба не ведаеш? Яна была на пятым месяцы, калі вечарам вы яе так напалохалі, што ад стрэсу яна ў выніку страціла дзіця».

Такім чынам, наступствы дзіцячага жарту робяцца вядомымі галоўнаму герою праз дваццаць год... Менавіта тады, калі персанаж — ужо сталы чалавек і здольны ўсвядоміць увесь маштаб трагедыі. Нічога нельга змяніць, нічым нельга апраўдацца, нават словы прабачэння будуць недарэчнымі. *Нельга двойчы ўвайсці ў адну раку.*

Фінал твора, як бачна, вырашаны пісьменнікам жорстка і бескампрамісна. Міжвольна ўзнікае пытанне: наколькі па-мастацку мэтазгодная такая развязка? (У рэшце рэшт твор разлічаны на падлеткавую чытацкую аўдыторыю. Можа, варта было б «змякчыць» фінальныя падзеі?) І адразу ж прыгадваюцца словы В. Бялінскага: «...Не скажайце сапраўднасці ні паклёпам на яе, ні прыхарошваннем, але паказвайце яе такою, якая яна ёсць на самой справе, ва ўсёй яе прыгажосці і ва ўсёй яе няўмольнай суровасці, каб сэрцы дзяцей, вучачыся яе любіць, прывыкалі б у барацьбе з яе выпадковасцямі знаходзіць апірышча ў саміх сабе. У адной ісціне і жыццё, і вартасць: ісціна не патрабуе дапамогі ў хлусні. І таму

фінал вашай аповесці можа быць і нешчаслівым, у якім дабрадзейнасць церпіць, а загана трыумфуе...». Адно неабходна абмовіцца, што ў аповесці А. Бадака «загана» зусім не трыумфуе. Для героя адкрыццё сапраўднага стану рэчаў не проста балючае, — шокавае, і з гэтым пакутлівым усведамленнем уласнай правіны яму прыйдзецца жыць. Але аўтар дадае да гісторыі яшчэ адзін «штрых», які надзяляе яе шматзначным сэнсам, паглыбляе філасафічнасць.

Перад сустрэчай з вучнямі (на якую запрасіў былы аднакласнік, школьны настаўнік) герой даведваецца, кім на самой справе з'яўляецца юны «папарацы», дзеля якога па сутнасці гэтая сустрэча і была арганізавана:

«— ...Дарэчы, ты ведаеш, чый ён сын?

«О Божа, — падумаў я, — толькі гэтага мне не хапала. Хутчэй за ўсё, сын якога-небудзь мясцовага чыноўніка. Цяпер зразумела, чаму ім займаецца не міліцыя, а няшчасны пісьменнік».

— Гэта сын Танечкі. Ну, памятаеш нашу біялагіцу ў восьмым класе? Яна папрацавала толькі год, а пасля звольнілася.

Кожнае яго слова ўва мне адзывалася рэхам, быццам у маёй душы ў гэтую хвіліну было зусім пуста».

Вось так «замкнулася» кола падзей. Аўтар усё ж такі пэўным чынам рэабілітуе героя. «Няхай кіне ў яго камень той, хто сам бязгрэшны!» — быццам бы гаворыць пісьменнік. Так, ад памылкі ніхто не застрахаваны. Аднак вельмі выразна гучыць ключавая думка твора: перад тым, як штосьці зрабіць, заўжды неабходна падумаць пра магчымыя вынікі ўчынку... Жыццё — не чарнавік, які можна перапісаць. *Нельга двойчы ўвайсці ў адну раку.*

**Валерый ГАПЕЕЎ**

# ЛЁШКАВА КАХАННЕ, або ВІРТУАЛЬНАЕ ДРЭВА РЭАЛЬНАСЦІ

*Аповесць*

***Тлумачэнні для бацькоў, настаўнікаў ды іншых дарослых:***

**Браўзер** — праграма для прагляду Інтэрнэт-рэсурсаў.

**Форум** — рэсурс у Інтэрнэце (сайт, частка сайта), дзе адбываецца абмен думкамі, адкрыты для ўсіх карыстальнікаў.

**Адмін** — адміністратар, кіраўнік сайта, форуму.

**Нік** — прыдуманае імя на форуме.

**Аватар** — невялікі малюнак побач з нікам юзера або фотакартка яго.

**Зарэгістравацца** на форуме (**рэгіцца, рэгіць**) — выбраць сабе нік і задаць пароль для ўваходу, каб усе адказы юзера пазначаліся гэтым нікам.

**Аўтарызавацца** — зайсці на форум, увёўшы нік і пароль.

**Лазіць** па форуме — праглядваць тэмы.

**Пост** — адзін адказ, **пасціць** — адказваць, **пасціць тэму** — пачынаць тэму для абмеркавання.

**Топік** — усе разам адказы на адну тэму, сама тэма.

**Топікстартар** — той, хто пачынае топік, тэму.

**Флудзіць** — пасціць не па тэме, несці лухту; вольная размова на вольную тэму.

**Курылка** — асобны раздзел на спецыялізаваных форумах, дзе можна флудзіць.

**Асабістая пошта, асобка** — функцыя на форуме для абмену кароткімі тэкстамі з адным наведвальнікам.

**Юзер** — наведвальнік, карыстальнік, **юзаць** — карыстацца.

**Яндэкс** — пошукавая сістэма.

**Дэлфі, С++** — мовы праграміравання.

**Скрыпт** — праграма ў формулах і кодах.

**Кантэнт** — тэксты на сайце.

**Дыз** — дызайн, знешні выгляд старонкі ў Інтэрнеце.

**Смайлы** — невялічкія фігуркі (ці сімвалы) у тэксце для выказвання сваіх эмоцый. ☺ і ☹ — усмешка і незадаволенасць, ;) — падміргванне.

**Аська** — праграма для дыялога дваіх, закрытага ад усіх астатніх.

**Стукаць** у аську — запрашаць да размовы.

**Вінт, дыск, вінчэсцер, флэшка** — носьбіты інфармацыі ў камп'ютэры.

**Аператыўка** — аператыўная памяць камп'ютэра.

**Комп** — камп'ютэр.

**Інет, Сетка** — Інтэрнет.

**Дыялап** — мадэмнае злучэнне.

**Бай-флай** — хуткаснае злучэнне з Інтэрнетам.

**Трабл** — нейкая непрыемнасць.

**Фішка** — нечаканы ход, знаходка, нешта цэнтральнае, прыемнае, дадатнае.

**Глючыць** — дрэнна працаваць, **глюкнуць** — сапсавацца.

**Павесціся** — паверыць падману.

**ВМЗ** — электронныя грошы, у дадзеным выпадку долары ЗША.

**Кашалёк** — віртуальны кашалёк у сістэме электронных грошай.

**Кіпер** — праграма для атрымання і пераводу электронных грошай.

**Мэйл** — электронная пошта, сам адрас.

**Спам** — нежаданыя пісьмы рэкламнага характару.

**Паштавік** — праграма для атрымання і адпраўкі электроннай пошты.

**Профіль** —— дадзеныя аб юзеры, уводзяцца ім самім.

**Трафік** — пэўны аб'ём атрыманай-перададзенай інфармацыі. **Паліць трафік** — атрымліваць непатрэбную інфармацыю.

***Заўвага:*** *калі што дарослым застанецца незразумелым, варта папытаць аб тым у дзяцей.*

## 1

— Ты можаш мяне пакінуць у спакоі хоць на гадзіну? — Лёшка не адвёў позірк ад манітора ў бок маці, якая прыпынілася ля яго, сказаў спакойна, але з нейкім металічным прысмакам, якога маці раней не чула. І таму яна ўтрапёна глядзела на сына, ніяк не чакаючы такога тону.

— Ну, чаго ты маўчыш? — Лёшка рэзка крутнуўся разам са стулам.

Гэты стул, як і новы сапраўдны камп'ютэрны стол, зроблены майстрамі па чарцяжах самога Лёшкі, з'явіліся ў яго пакоі толькі месяц таму, якраз перад пачаткам заняткаў. Лёшка на гэта зарабіў сам — напісаў некалькі праграм па заказах, некалькі адладзіў.

— Што гэта ты так размаўляеш? — нясмела пачала маці. Куды цішэй спытала, чым толькі што прагучаўшае: «Колькі ты будзеш сядзець за сваім камп'ютэрам?!»

— А як мне з вамі размаўляць? — напорыста загаварыў Лёшка. — Ну, скажы — як? Я сяджу дома, у цябе перад вачыма, не лажу ў Інтэрнеце ў пошуках парнаграфіі, ніколі не хаваю ад цябе і ад бацькі манітора. Вы можаце бачыць і не адзін раз бачылі, чым я займаюся. Я працую! Я зарабляю грошы, якіх нам вечна не хапае. Дык чаго ты не даеш мне спакойна гэта рабіць?! — закончыў ён ужо з істэрычнымі ноткамі ў голасе.

— А Божачка, сыночак, што ты крычыш, — ідавочна напужалася маці. — Я ж думаю, што вунь як на вуліцы цёпла, сябры твае гуляюць, то пайшоў бы з імі…

— А я не хачу! — ужо закрычаў уголас Лёшка. — Не хачу бадзяцца па вуліцах! Я хачу сядзець тут! Што ў гэтым дрэннага, скажы?

— Ды нічога, нічога дрэннага, — адступіла на крок маці. — Працуй, я ж думала, мо б пагуляў, а то адзін ды адзін…

— Мне хапае сустрэч у школе, мяне дасталі дурныя размовы ў класе, — Лёшка крутнуўся назад, да камп'ютэра. — Не перашкаджай, калі ласка, — папрасіў ціха, супакоіўшыся. — Мне трэба скласці праграму для тэсціравання…

— Працуй, працуй, не буду, — маці паспяшалася да дзвярэй. — Толькі не трэба так нервавацца. Зусім ты стаў… не крануць цябе.

Маці пайшла, ціхенька прычыніла дзверы.

Лёшка ў дзесяты раз праглядваў напісаныя радкі, але памылкі не знаходзіў. Ён увогуле раптам згубіў здольнасць разумець ім самім напісанае. Маці вінаватая, перапыніла? Не… Дарэмна ён на маці…

Лёшка спрабаваў запусціць скрыпт, але ўспыхвала памылка. Ён бяздумна ціскаў і ціскаў кнопку мышы. Ні халеры не паспее… За месяц трэба напісаць праграму. Так добра, здаецца, ведае Дэлфі, а на табе, спатыкнуўся на такім простым дрэве.

Здаўся — набраў злучэнне з Інтэрнетам, потым зайшоў на форум.

Тут, на гэтым форуме праграмістаў, Лёшка адно і адчуваў сябе вольна і спакойна. Яшчэ як толькі пачаў займацца праграміраваннем, адшукаў гэты рэсурс. Добрая ў іх тут кампанія. Адны хлопцы, ніякіх лішніх размоў. Толькі па справе. А флудзіць хочацца — калі ласка, курылка ёсць. Заходзь — і пішы аб чым хочаш.

Лёшка ў курылку рэдка заглядвае, хіба як тэма цікавая з'явіцца. А па вясне дык і не заходзіў — што ні тэма, то пра дзяўчат.

Лёшка стварыў тэму ў асноўным раздзеле «Не атрымліваецца дрэва. Дзе я напартачыў?», выклаў у топіку код. Статыстыка паказвала, што на форуме былі Вожык, Лексус, Рапід — добрыя сябры. Ім Лёшка на форуме пад нікам Тайлер не раз дапамагаў, і яму дапамагалі, разам іншым навічкам паказвалі на памылкі ці спрачаліся з-за чаго ў курылцы.

Адгукнуліся адразу.

Лексус: — Што гэта ты такую лухту сёння пішаш? У цябе ж не тое што дрэва, куста не атрымаецца!

Дрэва — так завецца малюнак, на якім на лінію нанізаны папкі, кожная з якіх па шчаўчку мышы адкрываецца і паказвае, што ў ёй хаваецца. Як сапраўднае дрэва: ад ствала некалькі галін, ад кожнай вялікай галіны — яшчэ галіны, ад тых — галінкі, а на іх — лісточкі.

Тайлер: — А што тут у мяне?

Лексус: — Сінтаксіс не правераны. Радок вываду прапушчаны… Гэта ты сам пісаў?

Тайлер: — Сам.

Лексус: — Не паверыў бы ніколі. Добра трымаў, паправіў.

Пасля слоў Лексуса ішоў знаёмы код з асобнымі знакамі іншага колеру — Лексус і памылкі паказаў.

Вожык адгукнуўся.

Вожык: — Я ведаю, у чым трабл. Тайлер закахаўся.

Лексус: — Ні халеры. У Дэлфі няма такой функцыі.

Вожык: — Функцыі няма, а каханне ёсць. Тайлер, выкладзі фота новай функцыі, памазгуем, падбяром код.

Лексус: — Баюся, вінта не хопіць на код.

Тайлер: — Пайшлі прэч. Тэма закрыта.

Лексус: — Ну-ну, пабачу праз месяц. Восень, лісточкі падаюць пад ногі… рамантыка…

Вожык: — Лісточкі падаюць пад ногі ссохлымі марамі і звялымі надзеямі аб шчаслівым каханні…

Тайлер: — Вожык, збірай гэтыя лісточкі сабе на калючкі і пайшоў у спячку. Табе пара. Усё, дзякуй, я працую.

...Але праверaны код (цяпер дакладна будзе спраўны) нешта не абудзіў жадання працаваць над праграмай далей. Лёшка зазірнуў у курылку — новая тэма: «Як сказаць дзяўчыне, што яна мне нецікавая?»

«Цьфу, дурні», — усміхнуўся сам сабе Лёшка. У яго дакладна такіх праблем не будзе. Бо і дзяўчыны няма. Ды і ці будзе. За 10 гадоў у школе ні з кім і не гуляў ніколі. Чаму? Ды не хацелася.

Не, не трэба брахаць самому сабе. Было, было ў пятым класе, калі ўспыхнула нейкае такое незразумелае пачуццё, такое ўсеабдымнае, што і цяпер помніцца. Цэлы тыдзень хадзіў тады Лёшка ачмурэлы. І выпрасіў быў у маці грошы на дарагі падарунак. І прыйшоў да Яе на дзень нараджэння.

Там палова класа была. І яшчэ многа незнаёмых.

А Лёшка ішоў да гэтага дома пешкі. Вось захацелася яму так: не прывезці, а прынесці ёй гэты падарунак. Што там было ў тым пакунку? Ды якая розніца? Не трэба было ісці пехатой. Больш за паўтары гадзіны ішоў Лёшка. А дзень быў спякотны, паліла сонца.

Толькі ў той момант, калі ён нахіліўся ў пярэдняй, каб развязаць шнуркі на красоўках, у Лёшкі мільганула думка, што так і не памыў свае красоўкі ўнутры перад гэтым візітам — а значыць, новыя яго шкарпэткі будуць пасля такога маршу па горадзе пахнуць непрыемна. Калі б ён ведаў…

Калі б ён ведаў, што скажа Яна, чакаючы яго ў пярэдняй разам з яшчэ некалькімі дзяўчынкамі, якім ужо карцела хутчэй зазірнуць у прынесеную Лёшкам каробку...

Лёшку б мо адвярнуцца трэба было ў кут, калі красоўкі здымаў, а так Яна прама перад ім стаяла.

— Вой, які ты смярдзючы! — здзіўлена выгукнула Яна і ажно пальчыкамі нос заціснула. — З такімі шкарпэткамі за стол не пушчу!

Ці сур'ёзна яна казала, ці жартавала, але…

Першы раз за сваё жыццё Лёшка зведаў такі сорам. Страшны і чорны, які літаральна раздушыў яго, і Лёшкі не стала, толькі гэтыя праклятыя красоўкі і смярдзючыя шкарпэткі.

Лёшка і сам не зразумеў, як у адно імгненне, не разгінаючыся, ён нацягнуў красоўкі на ногі і кінуўся з кватэры. І пачуў ззаду смех.

Ён неяк выжыў гэты месяц: месяц здзеклівых кпінаў, двухсэнсоўных поглядаў, смешачак за спінай. Вядома, тое светлае пачуццё знікла. Замест яго быў сорам. І ён цягнуўся і цягнуўся за Лёшкам, як той каметны хвост: ядром быў той дзень нараджэння, а хвастом — яго сорам. З гадамі, чым далей ад ядра, хвост меншаў, ды ніяк не знікаў.

І Лёшка быў упэўнены, што з аднакласнікаў ніхто не забыў нічога, што і цяпер да яго прынюхваюцца, хоць Лёшка душ прымае штодзень, штодзень мяняе бялізну, а пра шкарпэткі і казаць няма чаго. Дэзадаранты і добрая парфума ў яго з восьмага класа.

Лёшка цяпер добра ведае, наколькі важна для атачэння твайго, чым ты пахнеш…

Трэнькнуў уваходны званок. Маці пайшла адчыняць, пачуўся знаёмы голас — Юрыс прыпёрся. Зноў будзе цягнуць вечарам бадзяцца. Падабаецца яму выглядаць дасціпным, калі побач такі маўчун, як Лёшка.

— Здароў! — Юрыс уваліўся ў пакой, схапіў стул, падсунуўся бліжэй да Лёшкі. — Ну што, атрымліваецца прога? Слухай, забі туды якую фішку, каб адказаў на пытанні, ціснуў — і адказы ўсе правільныя. Можна?

— А табе пароль адміна не даць?

— Дай!

— Захацеў… Пароль адміна задаецца ім самім, і можа мяняцца.

— Што, хочаш сказаць, нельга нейкі такі пароль прыдумаць, што над усімі адмінамі будзе адмінам?

— Можна.

— Дык зрабі!

— Пайшоў ты к чорту, нічога я рабіць не буду. Не бачу сэнсу. Мая задача — зрабіць прогу.

— От, дурань ты, Лёшка, і вушы ў цябе халодныя! Цябе б увесь клас на руках насіў.

— Не трэба мяне насіць, я сам хаджу, — адказаў Лёшка ўжо сур'ёзна.

— Ну хадзі сабе, — працягнуў Юрыс і адразу пераключыўся на іншае. — У цябе Інет падрублены цяпер?

— Ага, я сабе Бай-флай падключыў.

— Крута! І бацькі грошы далі?

— Сам зарабляю.

— Добра табе. А я во ні халеры не ўмею. А дай палазіць! А то з маім дыялапам…

— Куды ты хочаш?

— Давай наш гарадскі форум.

Лёшка пераключыўся на Оперу. Юрыс глянуў на адкрыты форум праграмістаў, выдаў тут жа:

— Цю, які шэры…

— А тут для справы людзі збіраюцца. Нам ды з кветачкамі не трэба. І трафіку менш паліцца.

— Ты тут тусуешся?

— Мы тут працуем. Дапамагаем адно аднаму. Грошы зарабляем…

Юрыс ведаў, як можа зарабляць Лёшка ў Інтэрнэце, і за гэта шчыра яго паважаў: «Я б ніколі не змог з тваімі формуламі капейку зарабіць». Ды Лёшка і не скнара — часам кідаў Юрысу колькі рублёў на мабільнік.

— А твой нік які? — спытаў Юрыс.

— Тайлер.

— А што гэта значыць?

— Ну, не ведаю. Так, прыдумаў…

— Добра, набірай адрас, дай я тут у пары тэмаў запашчуся…

На гарадскім форуме Лёшка быў не раз, але нават і не рэгістраваўся. Яму нецікава: адны і тыя ж тэмы, усё пра каханне ды пра адносіны. Фільмы розныя, музыка…

— О, зараз я яму выдам! — Юрыс адшукаў патрэбную тэму на форуме, стаў набіраць адказ. — Уяўляеш, улез адзін тып у нашу тэму хіп-хопу, хоча нешта даказаць… Не цяміць нічога, а туды ж… А ты чаму не заходзіш, Лёшка? Тут палова класа іншы раз па вечарах тусуецца. Цікава бывае…

— Мне не асабліва цікава, — адгукнуўся Лёшка. — Ды і справу рабіць трэба.

— І сёння сядзець будзеш? Слухай, кінь тры рублі на мабільнік, аддам, як разбагацею. Маці зарплату пакуль не далі, а я на SMS-кі раскідаў.

— Кіну, давай зараз…

Лёшка забраў мышку ў Юрыса, хутка зайшоў на патрэбны сайт.

— Усё.

— О, дзякуй, — шчыра адказаў Юрыс. — Значыць, я цябе нікуды не выцягну сёння?

— Не, не выцягнеш.

— Шкада. Ну, працуй… Слухай, а колькі табе за прогу заплацяць? Калі не сакрэт?

— Не ведаю. То ж для школы. Якія ў нас грошы! Колькі заплацяць. А мне практыка.

— Ну, я пабег. Бывай…

Юрыс пайшоў. Лёшка прыняўся за работу. Баламут Юрыс, але што ён шчыра да Лёшкі адносіцца — то праўда. І яшчэ як пульсуе энергіяй, з табой пабудзе — нешта рабіць хочацца. Вось і цяпер настрой самы рабочы. І лёгка пайшло ўсё, атрымалася патрэбнае дрэва. І яшчэ паспеў базу распісаць, адладзіў увод-вывад.

Маці паклікала вячэраць. Калі перахапіў трохі, вярнуўся да камп'ютэра, адчуў, што стаміўся. Зайшоў на свой форум — нікога з сяброў не было. І пайшоў на гарадскі форум.

Зірнуў на апошнія тэмы, адна прывабіла ўвагу: «Колькі грошай сёння ў вас у кішэні». Пасміхаўся, чытаючы разважанні аб тым, што «бацькі шкадуюць грошы на мабільнік», «выпрошваю ўсякі раз на дыскатэку». Па аватарках-здымках пазнаў траіх аднакласнікаў — Віктар са сваім лірызмам, Юрка Хаванскі з філасафічнымі развагамі аб тым, што лішнія грошы псуюць маладую псіхіку. І Юрыс нядаўна адказваў, нават нік яго тут такі ж, як і завуць, — Юрыс.

Нешта штурхнула (мо падсвядома ўспомнілася запрашэнне Юрыса), і Лёшка хутка прайшоў рэгістрацыю.

Тайлер: — Не разумею тых, хто тут плачацца. Ва ўзросце ад 16 можна элементарна зарабіць самому і не прыніжацца выпрошваннем.

Пачакаў, перагрузіў браўзер.

Юрка (нік — Філосаф): — О, новенькі прыйшоў, і такія заяўкі. Ну, падзяліся…

Пума (невядомы нік): — Зараз цябе, Філосаф, адправяць мыць аўто ці ў Макдональдс.

Філосаф: — Я не супраць мыцця аўто. І ў Макдональдсе працаваў летам. Але, здаецца, наш юны сябар нешта хацеў цікавейшае прапанаваць.

Пума: — Стрыптыз арганізаваць. У Сетцы.

Тайлер: — У Сетцы хапае і стрыптызу, і сексу, і парнаграфіі без усякіх кошак. Не атрымаецца.

Філосаф: — А чаго не хапае?

Тайлер: — Разумных людзей.

Пума: — Тайлер, а ты такі разумны? То падкажы дурным кошкам…

Тайлер: — Я — разумны. І зарабляю сваім розумам.

Філосаф: — Тады навучы нас…

Тайлер: — Тут, бачу, толькі размовы, а не вучэнне. Хто шукае — шукае ў іншых месцах. Юзайце Яндэкс па тэме «выдаленая работа». І ўсе справы.

Пума: — Авоечкі, што тут робіць такі разумненькі…

Цімоха: — Ціха! Тайлер завітаў сюды, каб ашчасліваць нас!

Пума: — Ой, я — уся ўвага! Тайлер, не цягні. Зрабі мяне шчаслівай!

Філосаф: — Глядзі, Пума, не хопіць месца на дыску пад падоранае шчасце.

Лёшка адчуў, як псуецца настрой. Стала прыкра. Ён не чакаў нейкай асаблівай увагі да сябе, але чаму аўтары пастоў не прынялі яго словы ўсур'ёз? Псіхануў.

Тайлер: — Ат, яшчэ раз пераканаўся, што наш гарадскі форум — балота. Адно балбатаць умеюць. Шчаслiва кіснуць!

Пераключыўся на другі сайт — на свой форум праграмістаў…

Гэта толькі здаецца, што віртуальныя зносіны — простыя і бяскрыўдныя. Маўляў, выключыў старонку — і ўсё прапала. Ага! Якая розніца, дзе адрэагавалі на тваё словы і хто адрэагаваў? Галоўнае ж для цябе зусім іншае — як адрэагавалі. І нікольки не ратуе тое, што цябе ніхто не ведае. Ты ж сам сябе ведаеш. Ты пісаў — ты атрымаў адказ. І менавіта гэта для цябе галоўнае. Зрэшты, і ў жыцці тое ж. Вунь пісьменнік напісаў кнігу, яе прачытаў чытач, выказаў сваё меркаванне. Ну і што, ёсць розніца для пісьменніка: ведае ён гэтага чытача асабіста ці не?

Лёшка даўно ўпэўніўся, што так званыя віртуальныя адносіны — зусім не віртуальныя. Самыя рэальныя. Калі так да іх падыходзіць, з той віртуальнасцю, то і тэлефанаванні — віртуальныя. І пісьмы, што людзі раней пісалі, — таксама віртуальныя. Людзі ж існуюць, людзі жывыя, і думкі ты агучваеш свае, і рэакцыя на гэтыя думкі застаецца на старонках форумаў…

2

Юрыс усеўся за свой камп'ютэр пасля апоўначы — так меней плаціць за Інтэрнэт, а то маці дае ўзбучку штомесяц: «Зноў амаль 25 тысяч за тэлефон! А Божачкі, дзе вам на ўсё набрацца!»

Вам — гэта яму, Юрысу, і бацьку. Бо бацька таксама часам раз садзіцца за камп'ютэр. Праўда, у яго іншыя прычыны: ён шукае змены ў настройках спадарожнікавых антэн.

…Юрыс зайшоў на форум — і вачам не паверыў: сярод новых зарэгістраваных значыўся Тайлер.

«А, Лёшка не ўтрымаўся!»

Юрыса аж азарт ахапіў: ну што там Лёшка, сама сарамлівасць і ціхасць 11-ага класа, напісаў?

Знайшоў тэму, пачытаў. Ну так і ёсць, гэта дакладна Лёшка. Былі сумненні наконт ніка, цяпер няма. Ды і аватара няма. Юрыс заўважыў, што і на сваім форуме Лёшка быў без аватара.

Пасябраваў Юрыс з Лёшкам два гады таму. Хутчэй і не пасябраваў — проста паважаць пачаў. Тады таўкліся на перапынку, Юрыс і таўхануў у коле хлопцаў Лёшку. Той спінай уляцеў проста ў вітрыну. Добра, што там не шкло было, а пластык. Вітрына паляцела, і пластык (вялізны, халера, два на метр) раскалоўся. Што б Юрысу было — ён і не ведае. Аднак тады Лёшка спакойна сказаў намесніку дырэктара, што ён сам вінаваты і гэтак жа спакойна спытаў, колькі трэба грошай.

І грошы назаўтра прынёс. Юрыс хоць палову, ды неяк сабраў, аддаў Лёшку. Спытаў:

— А ў цябе адкуль грошы? Маці дае?

— Я сам зарабляю. У Інтэрнеце.

І, мабыць, каб больш не распытвалі, дадаў:

— Праграмы складаю на Дэлфі. Нехта сайты робіць, ды ці мала чаго каму трэба.

— А калі ты навучыўся?

— А што мне яшчэ рабіць? Купіў кніжку, зацікавіўся.

Так, не дзіўна, што Лёшка тое праграміраванне асіліў. Заўсёды ўбаку ад класа, ціхі, непрыкметны. З дзяўчатамі — ніколі і нідзе. На дыскатэкі школьныя не хадзіў. І калі мусова было ісці, то ўбаку дзе і прастойваў увесь вечар.

— Ты чаму дзяўчат баішся? — спытаў неяк Юрыс. — Хлопец ты як быццам нармальны, адно што ростам не надта выйшаў…

— Мне без іх добра, — адказаў тады Лёшка рэзкавата і замоўк, не стаў працягваць размову.

У мінулым годзе яны зблізіліся больш — Юрысу купілі камп'ютэр, новы, то Лёшка іншы раз праседжваў у яго днямі. Бо яго камп'ютэр, на які грошы збіраў год, быў слабы, аператыўка малая, працэсар хіба што ў вордзе друкаваць, не больш.

Юрыс усюды імкнуўся пацягнуць за сабой Лёшку, іншы раз гэта і ўдавалася. Адчуваў Юрыс, што Лёшка і хацеў бы быць разам з усімі, але ці то саромеецца сам сябе, ці то смеласці не хапае, баіцца, што неяк не так зразумеюць яго словы ці дзеянні.

А так сябар ён быў добры — з такім і маўчаць можна. І Юрыс адчуваў нейкі абавязак перад Лёшкам. Нават маці аднаго разу заўважыла:

— Добры хлопец Лёшка. Падзяліць бы тваю кіпучасць на вас дваіх. А то ў цябе праз край, а ў сябра — няма.

І вось цяпер, гледзячы на нік свайго сябра, у Юрыса проста свярбелі рукі. Праз хвіліну ён ужо зарэгістраваўся на форуме пад другім нікам. Не доўга думаючы, назваўся Ксенкай. А што, цікавы нік. Не такі, як усе гэтыя Мэры, Сонейкі, Кветкі… Знайшоў у сваёй папцы некалі скачаных карцінак, адшукаў ці то робата-дзяўчыну, ці то дзяўчыну-робата. Вырашыў, што такі аватар будзе сімпатычны для Лёшкі — як-ніяк робат мае нейкае дачыненне да праграміравання.

Запасціў на форуме ў той самай тэме.

Ксенка: — Тайлер, будзь ласкаў, раскажы, што трэба ўмець, якія веды запатрабаваны ў сетцы? Я ў такой сітуацыі, што мне проста неабходна мець свае грошы ў кішэні. Вельмі прашу.

Ну вось, добрае зрабіў. Зазірне Лёшка — яму будзе прыемна, што запыталіся на поўным сур'ёзе ды і дапамагчы хоць словам другому прыемна… А там, глядзіш, прывыкне да размоў з дзяўчатамі. То можна будзе перайначыць хлопца!

### 3

Лёшкава свядомасць змагалася з падсвядомасцю: ён не хацеў больш заходзіць у тое месца, дзе яго не прынялі, пакрыўдзілі, і адначасова цягнула — ну што яны там адказалі на яго апошні выклік? Можна ж проста зазірнуць, крадком, нават не аўтарызавацца…

І зайшоў. Была амаль гадзіна ночы. Стаў чытаць пасты.

Пума: — Тайлер, гуляй, разумнік, сюды не клікалі.

Філасаф: — Ну, вось, чаго крыўдаваць, можна ж было б і падзяліцца сакрэтам заробкаў.

І раптам... Лёшка, здаецца, нават пачырванеў ад ахапіўшага невядомага пачуцця.

Ксенка: — Тайлер, будзь ласкаў, раскажы, што трэба ўмець, якія веды запатрабаваны ў сетцы? Я ў такой сітуацыі, што мне проста неабходна мець свае грошы ў кішэні. Вельмі прашу.

Пума: — Чакай, чакай, ён ужо змыўся… Бачылі мы тут такіх…

Лёшка з невядомай раней асалодай, што вось зараз ён можа здзівіць, можа паказаць сябе зусім нечаканым, можа рэальна дапамагчы, пачаў набіраць адказ у топік.

Доўга пісаў, потым сцёр напісанае. Не, так нельга. Па-іншаму трэба… Потым яшчэ пісаў…

Тайлер: — Ксенка, калі ласка! Я напісаў табе праз асабістую пошту — там ёсць пытанні. Калі на нешта можаш адказаць «так», то пішы, а лепш на мэйл. У профілі ёсць. Астатнім: не варта судзіць усіх толькі па сабе і сваіх знаёмых.

Перагрузіў браўзер, зірнуў яшчэ на профіль Ксенкі: бач ты, які цікавы аватар... Нешта механічнае... Дзяўчына, можа, валодае С++? Ну, таксама можна знайсці заданне. Пад нікам дзяўчыны высвечвалася зялёная лямпачка — значыць, яна ў гэты час на форуме. Што ж, пачакаем адказу.

...Юрыс аж уздрыгнуў, калі пабачыў у асобцы надпіс: «новых паведамленняў — 1».

«Ксенка, вітаю! Я не ведаю, што ты канкрэтна ўмееш рабіць. Давай так: я напішу табе, якімі спосабамі можна зарабляць у Інтэрнеце. А ты напішаш, што з гэтага можаш добра рабіць. Калі такое будзе — то зарабіць рэальна. Значыць, запатрабаваныя:

Дызайн
Вёрстка
Праграміраванне
Аптымізацыя
Стварэнне сайтаў
Напісанне тэкстаў (капірайтынг)

Калі з усяго можаш пісаць тэксты (як з сачыненнямі?), то хай і з цяжкасцямі, але зарабіць можна. Дапамагу, чым здолею».

Юрыс разгублена лыпаў вачыма. Блін, не думаў, што справа да асобкі дойдзе. Хай бы патлумачыў у пасце, ды і ўсё... бач, сакрэты тут робіць. Ну і што адказаць? Нічога не ўмею? Дык які тады сэнс было пасціць у топіку? Якое дачыненне мае слова «дызайн» да Інтэрнету і як ён робіцца, нічога невядома. А вось тэксты — гэта працей. Адправім адказ:

«Тайлер, дзякуй! Я ўмею пісаць — сачыненні на «выдатна», апавяданні пісала, вершы. Думаю, атрымаецца. А што трэба пісаць?»

«Ксенка, гэта выдатна! Калі ёсць час, давай я табе тое-сёе раскажу. Ёсць?»

«Ёсць».

«Тады заходзь на Серч — гэта такі рэсурс, вось яго адрас ... Адшукай «Работа для вэб-майстроў», раздзел «Капірайтынг». Пачытай там тэмы, усё зразумееш. Але зарэгіструйся і напішы мне сюды свой нік».

Юрыс узмакрэў. Уляпаўся... Але і цікава было паглядзець, як гэта Лёшка будзе вучыць зарабляць і што там за Серч.

Зайшоў па адрасе і ахнуў — больш за 1000 наведвальнікаў адразу. Ого! Колькі людзей хоча зарабіць... Зарэгістраваўся пад тым жа нікам, стаў чытаць тэмы... О, нехта піша па 7 у.а. за тысячу знакаў... стой, гэта ж менш за старонку тэксту! Во, а тут ужо і за 2 у.а. прапаноўваюць — канкурэнцыя... Лёшка вярнуўся на гарадскі форум — у асобцы зноў чакала пісьмо.

«Ксенка, я цябе пазнаў. Так, той жа нік? Вось цяпер табе трэба пачаць тэму. Ну, аналагічную тым, як там пачынаюць. Прызначай кошт каля 4—5 у.а. за капірайтынг і 2—3 у.а. за рэрайт. Рэрайт — гэта перапісванне чужога тэксту, але сваімі словамі. Першыя работы трэба будзе зрабіць за водгук. Бясплатна, значыць, але заказчык павінен чэсна напісаць аб выкананай рабоце, падрабязна. Але не перажывай, я там зарэгістраваны пад двума нікамі, і пастоў у мяне дастаткова, і рэпутацыя ёсць. Так што гэта быццам я табе закажу работы — закажуць Тайлер і Leha-07. Будуць іншыя пісаць, але ты ім адмаўляй. Калі закажуць работы ўжо за грошы, то пашукай у Інтэрнеце падобныя тэмы, пачытай і пішы. Складанага няма нічога, галоўнае — дакладна ведаць тэму, каб не ляпнуць глупства, кшталту «вада падала імклівым дамкратам».

Юрыс чытаў, перачытваў і не ведаў, што рабіць. А потым хэкнуў — цікава ж пачалося: зараз навучыцца грошы зарабляць!

І запасціў тэму на Серчы.

Нягледзячы на позні час, на форуме жыццё віравала: тут жа з'явіліся тры пасты: Тайлер, Leha-07 і яшчэ нейкі Шукач. Як і казаў Лёшка, Юрыс напісаў, што быццам бы згодны выканаць два першыя заданні за водгук. Трэцяму адмовіў.

Выйшаў з Інтэрнету, падуладны нейкаму шчымліваму адчуванню, што робіць непатрэбнае… не, патрэбнае, але нячэснае, нячыстае, што нельга так, што ён улез за гэтыя паўгадзіны ў самім жа распачатую непрыстойную гульню.

Камп'ютэр выключыў, уклаўся спаць і, засынаючы, супакоіўшыся, думаў аб тым, што зрабіў усё ж правільна — цяпер Лёшка будзе думаць, што дапамагае незнаёмцы, яму ж прыемна адчуць, што некаму робіць добрае. Тым больш — дзяўчыне…

Лёшку і на самой справе было добра. Лёгка на душы, светла…

Зазірнуў на свой форум, ведаў, што і тут іншы раз хто-ніхто пытаўся пра добры кантэнт для сайтаў. Палазіў па тэмах — так і ёсць, нядаўна вось пыталіся… Звярнуўся праз асобку да топікстартара, спытаў: ці актуальная яго заяўка?

Той адказаў адразу — быў на форуме. Актуальная, бо яшчэ заказ з'явіўся, трэба тэкст пра турыстычныя туры на Мальдывы. Тэрмін — тры дні. Рэрайт, тэксту на 20 тысяч знакаў, па 2 у.а. за тысячу.

«Бяру. Калі што не задаволіць — пераробім. За два дні зробім».

Тэкст прыйшоў на мэйл, і ён, толькі перагарнуўшы колькі старонак, тут жа адправіў яго на адрас Ксенкі.

«Ксенка, вітаю! Вось дык пашанцавала! Гэты тэкст трэба перапісаць, рэрайт, значыць. Пастарайся зрабіць гэта адмыслова. Тут 20 тысяч знакаў. Атрымаеш 40 у.а. Не падвядзі мяне — праз два дні работа павінна быць здадзена. Поспехаў. Тэкст — у файле».

Лёшка клаўся спаць з такім пачуццём, быццам за адзін вечар зрабіў дваццаць праграм для тэсціравання, і ўсе яны запрацавалі адразу ж і правільна. Сон ніяк не ішоў, яшчэ нешта хацелася зрабіць…

## 4

У класе Юрыс адразу заўважыў: Лёшка не такі. Ён выглядаў як чалавек, які раптоўна рашыў задачу, у якой даўно адчаяўся нават зразумець заданне.

І гэта заўважылі дзяўчынкі! На яго паглядвалі і раз, і другі, і трэці і ўрэшце ў Юрыса (усё ж сядзяць разам за партай) спыталі:

— Лёшка наш не закахаўся?

— Ага, закахаўся — у новую формулу. Такая яна гнуткая, а знакі там — што вашы 90х60х90!

Начных сумненняў не засталося — Юрыс быў упэўнены цяпер, што зрабіў правільна. Вунь як сябар ажыў!

Дзень прайшоў — звычайны, падобны на іншыя. Дома Юрыс праверыў пошту і няўцямна лыпаў вачыма. Ён чытаў пісьмо Лёшкі да неіснуючай Ксенкі, гартаў старонкі тэксту…

І што рабіць? Сказаць, што не магу, захварэла Ксенка, паехала ў вёску, памерла ў яе бабуля, яна перадумала, яна не перапіша такі тэкст, у яе зламаўся камп'ютэр? Што рабіць? Патэлефанаваць Лёшку ды прызнацца, што гэта ніякая не Ксенка, што яго развялі, як лоха…

І атрымаецца — хацеў як лепш, а ў выніку што?

Спакойна, спакойна… трэба нешта рабіць. Калі Лёшка даведаецца, што грошы зароблены, справа можа закончыцца… Трэба зарабіць тыя грошы…

Блін, а чаго адмаўляцца ад грошай? Рэальна ж зарабіць!

Юрыс хуценька скачаў тэкст на флэшку, адначасова і раздрукаваў. План імгненна ўзнік у галаве, аформіўся канчаткова.

— Танюшка? Прывітанне! Зайка, выручай! Аддзячу, каб мне не памерці! Тут тэксту тры старонкі, трэба яго перапісаць, ну, зрабіць кшталту пераказу сваімі словамі. Ну, трэба мне вельмі… Ага, тэкст у мяне, зараз прынясу…

Юрыс патэлефанаваў яшчэ траім дзяўчатам. А потым пабег па адрасах, бо толькі ў дзвюох былі падключэнні да Інтэрнэту, і ім Юрыс кавалкі тэксту скінуў па пошце.

Вечарам збіраў часткі ад дзяўчат. Усё нармальна атрымалася… Можна адаслаць ды на ўсё забыцца.

Не, стоп… столькі тэксту за адзін вечар не атрымаецца аднаму чалавеку зрабіць. Заўтра…

«Вітаю, Ксенка!

Ну, як табе заданне? Калі што незразумела, стукні мне ў аську, я патлумачу. На Серч зазірні, можа, там заказ ёсць у асобцы. Я ў сетцы яшчэ з гадзіны дзве буду. Як працуецца?»

Юрыс заёрзаў. Што рабіць? Трэба рэгіць новую аську. На гэтую Ксенку…

Лёшка ўздрыгнуў, хоць і чакаў гэтага знаёмага гуку аські, калі хто пастукае — «О-о!». Ксенка… Усміхнуўся, адразу ж пачаў пісаць адказ, нават не закончыўшы радок скрыпта, над якім працаваў.

Тайлер: Вітаю! ☺ Ну, расказвай!

Ксенка: Выдатна. ☺Тэкст не такі цяжкі. Заўтра закончу.

Тайлер: Вось бачыш — я ж казаў, што, маючы галаву, можна грошы зарабляць.

Ксенка: Я таксама так лічу.

Тайлер: Так, у цябе ж кашалёк ёсць?

Ксенка: Няма. ☹

Тайлер: Трэба заводзіць… А …грошы табе тэрмінова трэба?

Ксенка: Так.

Тайлер: Тады я прапаную такое: няхай пераводзяць на мой кашалёк, я змагу перавесці ВМЗ у нашы грошы і абнаўлю. Потым перадам табе. Давяраеш? ;)

Ксенка: Вядома. ☺

Тайлер: Выдатна. Тэкст скінеш мне на мэйл. А на Серчы было штонебудзь?

Ксенка: Ага… Я яшчэ не адказвала. Там заданне для мяне незразумелае: «Аптымізацыя тэкстам». 3000 знакаў. Абяцаюць 4 у.а. за тысячу. І яшчэ «Пошукавая аптымізацыя», таксама 3000 тысячы. Трэба пісаць…

Тайлер: О, гэта не вокны ПВХ. Тут пакуль у тэму ўедзеш…

Ксенка: ☹

Тайлер: Не перажывай. Заўтра будзе дзень… А спытаць цябе можна?

Ксенка: Пра што?

Тайлер: Грошы навошта так спатрэбіліся?

Ксенка: Ну… Ты не смейся. Але гэта асабістыя… скажам так, дзявоча-жаночыя праблемы.

Тайлер: Не буду смяяцца. Калі праблемы, трэба рашаць. Ты лепш пра сябе раскажы: ты адкуль?

Ксенка: А я цябе ведаю ;)

Тайлер: Не зразумеў… Як ты мяне можаш ведаць?

Ксенка: Потым раскажу. Але ведаю. І бачу цябе іншы раз…

Тайлер: Ну, ты мяне азадачыла… Не можа быць!

Ксенка: Можа. ☺ Потым скажу. Усё, выбачай, мне ж пісаць трэба.

Тайлер: Чакай, па заказе «аптымізацыя» прымай заданні. Я дапамагу.

Ксенка: Добра. Да сустрэчы.

Тайлер: Да сустрэчы. Заўтра ў гэты ж час? Мне прыемна было размаўляць з табой.

Ксенка: І мне…

Юрыс выключыў аську і некалькі хвілін сядзеў, як чумны. Ну, яго панесла! З якога ляку ён ляпнуў пра «ведаю»? Што цяпер прыдумаць? Ат, потым прыдумае, як вывернуцца. Затое цяпер Лёшка будзе хадзіць на заняткі, ведаючы, што за ім нехта, можа, і цікуе.

Чорт… яшчэ ж грошы… Як іх забраць у Лёшкі? Так, ужо дзве праблемы... Нічога, чым больш праблем, тым прасцей яны рашаюцца адным удалым спосабам! Галін на дрэве многа, а перасячы ствол — і ўсе пападаюць.

А Лёшка і на самой справе, укладваючыся спаць, зазірнуў у шафу: якую кашулю заўтра апрануць. І трэба пагаліцца — непрыемны пух пад носам толькі псуе твар…

Юрыс скоса пазіраў на Лёшку і дзівіўся: няўжо гэта яго прыдуманая Ксенка так змагла перайначыць Лёшку? Ну, далібог, нейкі ён аж свеціцца знутры. Вочы… шчаслівыя. Дзяўчаты зіркаюць, перашэптваюцца, а Лёшка да гэтага не тое што раўнадушны — ён быццам задаволены, што на яго ўвагу звяртаюць! Такое адчуванне, што падыдзі, спытай — знутры проста вырвецца радасць. Загадка для ўсяго класа! Гэ, весела б было, каб назваў Юрыс разгадку. Ды, можа, і назаве яшчэ, разам з Лёшкам пасмяюцца.

А Лёшку і на самой справе пачувалася добра. Лёгкім, прыемным і простым здавалася ўсё вакол. Як, аказваецца, важна мець нейкі клопат аб некім…

Паспяшаўся адразу за камп'ютэр — так, ад Ксенкі прыйшоў тэкст. Перачытаў — нядрэнна. Адправіў заказчыку. Праз паўгадзіны прыйшоў адказ: тэкст прыняты, грошы перасланы. Уключыў кіпер, пачуўся звон манет — прыйшлі 40 у.а. Тут жа перавёў іх праз абменнік, яшчэ колькі хвілін — усё, грошы можна здымаць з карткі!

Але пачакаем, трэба закончыць другі тэкст па аптымізацыі — адзін тэкст Лёшка яшчэ ў школе накідаў…

Папрацаваў дзве гадзіны. Маці паклікала вячэраць. Адмовіўся, адно папрасіў чаю.

Закончыў тэксты, адправіў Ксенцы ліст.

«Ксенка, прывітанне. Адправіў тэксты табе. Скінь іх заказчыку, скажы нумар майго кашалька — унізе пісьма будзе. Выходзь у аську, чакаю, як дамовіліся. ☺»

Засеў за сваё — трэба было набіваць базу дадзенымі. Нудная работа, чыста механічная, але сёння рабілася з лёгкасцю. Паглядваў на гадзіннік. Хацелася як мага больш зрабіць, пакуль надыдзе час сустрэчы…

«О-о!» Ксенка!

Тайлер: Прывітанне! Як справы?

Ксенка: ☺ Вітаю, Лёшка!

Тайлер: Ого! Цяпер я веру, што ты мяне ведаеш… Так, пакуль не раскажаш, я табе ні капейкі грошай не дам. ☺

Ксенка: Э, так не дамаўляліся! І чаму я не магу мець сваю маленькую тайну? Ты ж маеш выдатнае лагічнае мысленне — падумай. ☺

Тайлер: Добра, не буду дапытвацца. Прыйдзе час, сама раскажаш. Як справы?

Ксенка: Выдатна! Заказчык ухваліў тэксты і сказаў, што будзе яшчэ заказ. Казаў, што перавёў грошы.

Тайлер: Зараз зірнём… Ага, перавёў, Ксенка! Так, на тваім рахунку ужо 64 у.а.!

Ксенка: ☺ Авоечкі, ніяк не чакала. Ты мяне літаральна ратуеш, дзякуй. Так проста атрымалася!

Тайлер: Навічкам заўсёды шанцуе. ☺ Але так рэдка бывае. Іншы раз і за месяц на Серчы нельга столькі зарабіць. Жадаючых многа. Як табе перадаць грошы?

Ксенка: Калі я цябе папрашу пакласці іх у канверт і аднесці на пошту — не станеш крыўдаваць?

Тайлер: ☹Аднясу. Але чаму так?

Ксенка: Не крыўдуй. Потым… Потым усё патлумачу. Вось, а на канверце зробіш надпіс — уладальніку пашпарта. Нумар я ніжэй напішу. Толькі ты не цікуй там, добра ☺?

Тайлер: Не буду. ☺. Але грошы аднашу ўсё адно з адной умовай: як толькі на свой мэйл атрымаю твой здымак. Усё, я купляю твой здымак за 64 у.а. Неблагі кошт?

Ксенка: Так нячэсна! Ты такі шчыры быў, а цяпер умовы ставіш.

Тайлер: Э-е, я табе сам два тэксты напісаў, заданне знайшоў… Я лічу, што гэтым зарабіў хоць на якую спагаду. Хіба не? ☹

Ксенка: Зарабіў. ☺

Тайлер: Тады я чакаю. А ты… дзе вучышся?

Ксенка: У школе.

Тайлер: Не разам са мной?

Ксенка: Не скажу. Слухай, а чаму ты не бываеш на гарадскім форуме? І ўвогуле цябе так мала дзе відаць…

Тайлер: Я надта не люблю кампаній.

Ксенка: І з дзяўчынкамі не гуляеш?☺

Тайлер: Не. ☹

Ксенка: Чаму? ☹

Тайлер: Даўняя гісторыя. Неяк так атрымалася, што нацярпеўся сораму. Вось і …

Ксенка: Што, комплекс? ☺

Тайлер: Ды лічы, што так. ☺ Я асабліва да нікога не лезу, мяне не чапаюць… Потым, мяне праграміраванне толькі цікавіць. У гульні не гуляю, музыка не ў кайф, абы фон быў, фільмы мяне не цікавяць. Пра што са мной размаўляць? ☺

Ксенка: Разумею… Я сама амаль такая. ☺ Таксама не люблю кампаній. Ты выбачай, буду адключацца. Напалю на тэлефон, бацька зазлуе…

Тайлер: Ён у цябе строгі?

Ксенка: Не тое, што строгі. Іншы раз і за папругу хопіцца.

Тайлер: Як — хопіцца? ☹ Табе колькі гадоў?

Ксенка: А так хопіцца, як п'яны — і па азадку, па нагах. Таму я ў джынсах заўсёды. А са школы ў джынсах гоняць. І мне тэрмінова трэба штаны. Вось такая проза. ☹

Тайлер: А табе хопіць?

Ксенка: Хопіць. Дзякуй табе! Да заўтра. ☺

Тайлер: І табе дзякуй. Да заўтра… Я заўтра аднясу канверт на пошту. Запакую, каб не здагадаліся пра грошы…

Юрыса апанавалі пачуцці. З аднаго боку — на яго галаву звалілася з неба гэтулькі грошай! З другога боку — якія яны яго? Ён жа абдурыў усіх: Лёшку, дзяўчат… ну, добра, кіне ён дзяўчатам па 10 рублёў на мабільнікі. А з Лёшкам як? 48 тысяч — грошы ж усё-такі яго. Трэба вяртаць. От, навошта згаджаўся браць тыя яшчэ, трэба ж было адмовіцца! А з іншага боку, Лёшка тыя тэксты за колькі хвілін напісаў левай рукой, для яго гэта не работа, гульня…

Ды няхай паляжаць тыя грошы, што з імі зробіцца. Нешта прыдумаецца. Тут вось здымак шукаць трэба… Са школы якую дзяўчыну сфатаграфаваць? Трэба папытаць фотаапарат у Юркі — у яго лічбавы. Ат, а як сустрэне Лёшка тую дзяўчыну? Будзе камедзі-клаб… Во, трэба пашурудзіць у альбомах сястры. У яе сяброўак процьма, фотаздымкаў пяць альбомаў. Выбраць якую… сексапільную, у купальнічку! Гэх, будзе Лёшка сліну пускаць!

Юрыс не ўтрымаўся і, хоць быў позні час, прайшоў у залу, дастаў, не ўключаючы святло, кіпу фотаальбомаў, аднёс да сябе і стаў перабіраць здымкі.

Знайшоў. Прыгожы, аж сам загледзеўся. Дзяўчына ў купальніку, скура гладкая, ружовая, стаіць каля ствала нейкага дрэва — шурпатага, чорнага. Гэтак падкрэслівае старая грубасць дрэва яе зграбненькі стан ... Узіраўся ў твар доўга — не, гэта дакладна сяброўка далёкая, у гасцях яе Юрыс не бачыў.

Фота ён адсканіраваў. Вырашыў адправіць адразу ж — каб Лёшка нічога не западозрыў. І, кладучыся спаць, міжволі пасміхаўся сам з сябе: як ён выдатна ўжыўся ў ролю дзяўчыны. На хаду імправізаваў, а Лёшка павёўся, так лёгка павёўся...

## 5

Лёшка прыйшоў, павітаўся з Юрысам і, прысеўшы за стол, па-змоўніцку працягнуў свой мабільнік.

— Глядзі...

А сам проста ззяў.

На застаўцы мабільніка Юрыс пабачыў твар той самай дзяўчыны, фотакартку якой позна ўвечары скінуў Лёшку. Доўга ж працаваў Лёшка ў фоташопе: фон змяніў, колеры падкарэкціраваў... мілы такі тварык атрымаўся...

— Гэта хто? — нечакана для сябе хрыпла выдавіў Юрыс, ледзь утрымаўшыся, каб не сказаць: «Ды ведаю я яе, Лёшка! Гэта ж я табе мазгі палашчу! Развёў я цябе!»

Але не сказаў — глянуў на Лёшку, на шчаслівы, з загадкавай усмешкай твар яго, на святло ў вачах — і не сказаў. Адно падумаў: «Трэба заканчваць. Сёння ж».

Вось толькі як заканчваць, Юрыс не ведаў...

Думаў над гэтым да канца заняткаў. А Лёшка... Лёшкаў мабільнік ляжаў на стале ўсе ўрокі, і ён раз-пораз ціскаў кнопку, каб зноў і зноў успыхваў на дысплеі асвечаны блакітам тварык дзяўчыны.

— У Інеце пазнаёміліся. З нашага горада. Уяўляеш, яна мяне ведае, а я яе — не! Так, дапамог крыху, цікава з ёй у асьцы. Праўда, прыгожая?

— Ага, — ціха адказаў Юрыс. — Прыгожая...

Так нічога ён і не прыдумаў. Дадому прыйшоў, еў не спяшаючыся, паляжаў на канапе. Зразумеў раптам, што не хоча ўключаць камп'ютэр. Але ўсё ж уключыў, рашуча, вось зараз жа гатовы нешта сур'ёзнае напісаць. Потым прыдумае што. Адно вось пачытае ліст ад Лёшкі, які ён адправіў (ну, вядома ж, ужо адправіў!) Ксенцы, і напіша адразу ўсю праўду.

Але... пісьма не было. Юрыс разгублена яшчэ раз праверыў пошту — акрамя двух лістоў спаму — нічога. Зайшоў на форум — не, Лёшка не заходзіў. Нейкі час Юрыс сядзеў перад маніторам без усякіх думак. Ён нічога не мог зразумець...

Зазірнула маці.

— Што сябра не сустракаеш? Заходзь, заходзь, — павярнулася яна і прапусціла ў пакой ...Лёшку.

Той быў запыханы, расчырванелы. І вочы — разгубленыя.

— Ты чаго, — спуджана прагаварыў Юрыс. Ён на самой справе напужаўся невядома чаго.

— Ды, халера, комп заглючыў! Ну, уяўляеш, гэтае жалеза падводзіць у самы патрэбны момант! Дай я з твайго ліст адпраўлю Ксенцы...

— Ксенцы? — Юрыс акругліў вочы.

— Яе Ксенка завуць, — як аб нечым надзвычайна важным сказаў Лёшка, дастаючы мабільнік.

Юрыс узмакрэў.

— Ага, зараз… ты…ты прынясі мне вады… І скажы маці, хай там паставіць чайнік, кавы пап’ём.

Лёшка паслухмяна крутнуўся з пакоя, а Юрыс ліхаманкава адкрыў паштавік і выдаліў усе лісты адным махам — абы толькі Лёшка не пабачыў сярод іншых свае — якія пісаў да Ксенкі.

Лёшка вярнуўся, Юрыс якраз падключыўся да Інтэрнету.

— А я не буду праз паштавік, — сказаў Лёшка. — Зараз прама на сайт выйду, там праз пошту…

Ён адправіў пісьмо хутка, і Юрыс цяпер праклінаў сябе, што ўключыў паштавік; вось зараз возьме і прыйдзе імгненна гэтае пісьмо прама на вочы Лёшку.

— Усё, я выключаю, цяпер тарыф самы дарагі, — заспяшаўся Юрыс. — Пайшлі каву піць…

Але ад кавы Лёшка адмовіўся, пайшоў, не — паскакаў праз дзве прыступкі ўніз, не стаў чакаць ліфт…

Юрыс не мог патлумачыць сам сабе, чаму ён вось цяпер, вось тут не сказаў праўду. Можа, таму, што Лёшка быў такі шчаслівы? Сказаць — што абакрасці яго. Забраць, ды не проста забраць, а высмеяць яго шчасце…

Пісьмо прыйшло.

«Ксенка, вітаю! Дзякуй табе вялікі за здымак. Ты не ўяўляеш, як мне прыемна было яго атрымаць. Спяшаюся сказаць: грошы можаш сёння забраць — я іх пакінуў адразу пасля абеду на пошце, запакаваў у такі тоўсты канверт. Думаю, не здагадаюцца там, што ўнутры грошы. Але на ўсякі выпадак паспяшайся забраць.

Адпраўляю ліст з чужога компа — у мяне сістэма глюкнула, дай Божа, каб не давялося вінт фармаціраваць, там столькі ўсяго… таму вельмі цябе прашу — як толькі атрымаеш грошы, патэлефануй. Бо спаць не буду, пакуль не даведаюся, што грошы ў цябе. Не ведаю, калі запушчу свой комп. То патэлефануй абавязкова. Буду чакаць. ☺»

Ніжэй быў нумар тэлефона.

Юрыс доўга глядзеў на даўно знаёмыя яму лічбы.

Нічога, трэба напачатку пайсці і атрымаць той пакет ад Лёшкі, у якім грошы. Потым… потым ён прыдумае. Усё прыдумае так, каб нікога не пакрыўдзіць. Ён заўсёды быў здольны на выдумкі.

Дрыжалі рукі, калі па пашпарце ён атрымаў пакет «да запатрабавання». Пералічыў грошы. Такая вялікая сумма… тут жа, на пошце, паклаў траім дзяўчатам, што перапісвалі тэксты, па 15 тысяч на мабільныя. У нейкі міг пранеслася думка — усе астатнія пакласці на Лёшкаў рахунак. Але тое было б ударам для Лёшкі…

І нічога не прыдумалася. Купіць картку і папрасіць якую дзяўчыну патэлефанаваць Лёшку і сказаць адно — грошы атрымала? Не, гэта не выйсце. Бо што далей? Ат, заўтра проста трэба ўсё расказаць. І так добра — вунь як паверыў у сябе Лёшка! Пасмяюцца разам. А на грошы можна няблага ў бары патусавацца…

Лёшкі не было на першым уроку. Юрыс не ведаў, што і думаць. Здаецца, падрыхтаваўся да размовы, абдумаў свае словы, каб не былі яны надта крыўднымі, а Лёшкі няма. Юрыс не паспеў патэлефанаваць на перапынку — Лёшка прыйшоў сам. Разгублены, плечы паніклыя.

— Здарылася што? — ціха спытаў Юрыс.

— Потым… потым… — ціха адказаў Лёшка і да канца заняткаў не ўзняўся з-за стала — як сеў, так і прасядзеў: і ўрокі, і перапынкі. На хлопца аглядваліся, немагчыма было не заўважыць адбітак сапраўднага гора на яго твары. І нават у класе на перапынках неяк пацішэла...

Лёшка не выпускаў з рукі мабільнік. Трымаў, пазіраў на яго, быццам можна было позіркам сваім прымусіць той мабільнік зазваніць.

Юрыс маўчаў — ён не мог, бачачы стан Лёшкі, нешта сказаць.

Лёшка загаварыў сам, калі выйшлі са школы.

— Яна абяцала мне патэлефанаваць. І не патэлефанавала…

— Ну чаго ты ўжо так маркоцішся? — са штучнай бадзёрасцю адказаў Юрыс. — Жанчыны, яны… непрадказальныя. Ды і ці мала што там магло здарыцца…

— Я баюся, што і на самой справе нешта здарылася, — раптам адчайна загаварыў Лёшка. — Разумееш, я ад цябе паслаў ёй ліст, што яна можа атрымаць грошы на пошце, якія… ну, карацей, яна іх зарабіла, а я атрымаў і перадаў, вось яна павінна была ўчора атрымаць іх і патэлефанаваць! Але не патэлефанавала!

— То што тут страшнага, — нясмела адказаў Юрыс.

— Як што! — ускрыкнуў Лёшка. — То ж грошы! Маглі сволачы якія прасачыць, як яна атрымала канверт, а яна мо і адкрыла яго там…

— Не было яе там.

Юрыс і сам не чакаў, што вымавіць гэтыя словы. Як стрэліла нешта.

— Як… не было? Чакай, адкуль ты ведаеш? — Лёшка ўважліва глядзеў на Юрыса, лоб наморшчыўся, адчувалася, якая напружаная праца ішла ў яго галаве ў гэты момант. — Дык вось адкуль яна ведае маё імя… — сумна ўсміхнуўся ён. — Ты ведаеш Ксенку, ты ёй і напісаў, што мяне завуць Лёшка, дзе я вучуся… Што, ты сам грошы атрымаў і ёй перадаў? Але…чаму яна не патэлефанавала? Ці хоць бы ліст прыслала, я б заскочыў у сэрвісны цэнтр, атрымаў… Навошта яна так? Я ж шчыра ёй дапамагаў…

— Я грошы атрымаў, — вінавата, але цвёрда адказаў Юрыс. — Няма ніякай Ксенкі. Ксенка — гэта я.

— Што ты гоніш?.. Я не разумею толькі: і фотакартку яна прыслала…

— Кажу табе: няма ніякай Ксенкі! Я яе прыдумаў. Каб ты навучыўся з дзяўчатамі базары весці, — яшчэ раз паўтарыў Лёшка ўжо з большай упэўненасцю.

Лёшка спыніўся, глядзеў на Юрыса з нейкай незразумелай шкадобай у вачах.

— Ты ў мяне адзін сябар, Юрыс. Але не трэба, я не павядуся. Мне проста крыўдна, што яна так са мной…

— Ды няма, няма ніякай Ксенкі! Няма! — закрычаў Юрыс. — Можаш ты гэта зразумець сваімі запраграміраванымі мазгамі!?

— Я знайду яе… знайду і спытаю… А табе я не веру. Больш не веру, — ціха і цвёрда адказаў Лёшка, рэзка развярнуўся і пайшоў прэч.

Юрыс спыніўся ў адчаі на месцы, глядзеў на спіну Лёшкі, якая праз хвіліну згубілася ў прорве падземнага перахода.

Першы раз за сваё жыццё Юрыс не ведаў, што рабіць, куды ісці. Дадому прыйшоў чыста механічна. Упаў на канапу і так ляжаў. Доўга, аж пакуль не заверашчаў мабільнік. Нехта незнаёмы…

— Юрачка, гэта ты? Гэта мама Аляксея. Ты прабач, я хвалююся, вы не разам з Лёшай? Нешта яго дома да гэтай пары няма, і мабільнік не адказвае…

— Не, цёць Таня, у мяне Лёшкі няма… мы… гэта, у школе разышліся. Ён… там застаўся з праграмай нешта круціць. А мабільнік… казаў, што батарэя села…

— Добра, Юрачка, выбачай…

Юрыс падхапіўся з канапы, набраў Лёшку. У адказ пачулася механічнае: «Апарат абанента выключаны альбо знаходзіцца не ў зоне дзеяння сеткі». Юрыс кінуўся ў пярэднюю, насунуў красоўкі на ногі, схапіў куртку, на ўстрывожаны позірк маці кінуў «Я хутка» і вылецеў з кватэры. Ён імчаў уніз з той хуткасцю, быццам дакладна ведаў, куды бегчы і што рабіць. І толькі калі выскачыў з пад'езда ў пацямнелы двор, раптоўна спыніўся разгублены, бездапаможны: куды, у які бок?!

Дзе цябе шукаць, Лёшка?



# ВЕЧНЫ АГОНЬ ПЕРАМОГІ

Вялікая Айчынная вайна...

1418 гераічных дзён і начэй бязлітаснага змагання з фашысцкімі захопнікамі, тысячы кіламетраў франтавых дарог і партызанскіх сцежак, незлічоная колькасць вялікіх і малых аперацый, здзейсненых падпольшчыкамі ў акупаваных гарадах, дзесяткі мільёнаў ахвяр, пакладзеных на алтар Перамогі. Усё гэта яна, праклятая вайна, якая прынесла столькі гора нашаму народу! Зруйнаваныя гарады і спаленыя вёскі, страціўшыя сыноў маці, заплаканыя салдацкія ўдовы, асірацелыя дзеці...

Подзвіг савецкага народа, здзейснены ў імя ўсяго чалавецтва, выратаванага ад карычневай чумы, — гэта тысячы штодзённых ратных подзвігаў канкрэтных людзей: франтавікоў, падпольшчыкаў, партызан. Многія з іх адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі, удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

Далёка не ўсім давялося выйсці з жудаснага пекла вайны, дажыць да светлага дня Перамогі. Тыя ж, што вярнуліся да стваральнага жыцця, актыўна ўключыліся ў аднаўленне разбуранай гаспадаркі. Яны і тут паказвалі ўзоры самаадданага служэння любімай Радзіме, а да іх ваенных узнагарод дабавіліся ўзнагароды за мірную працу.

Сёння ўжо няма той вялікай Айчыны СССР, за якую пралівалі кроў і аддавалі свае жыцці мільёны савецкіх людзей розных нацыянальнасцей. Па пятнаццаці суверэнных дзяржавах раскідаў лёс былых франтавікоў, якія на вайне не дзялілі акопы і траншэі, а разам пераносілі ўсе нягоды ратнага жыцця, разам падымаліся ў атаку, разам, пядзь за пяддзю, вызвалялі ад фашысцкага ярма гарады і вёскі Расіі, Украіны, Беларусі, Малдовы, рэспублік Прыбалтыкі. Ва ўсіх іх была адна любоў да сваёй сацыялістычнай Радзімы і адна нянавісць да адзінага ворага — фашысцкай Германіі. І Вялікая Перамога, калі ў самым логаве акупантаў, у Берліне, над гітлераўскім рэйхстагам узвіўся Чырвоны Сцяг, была таксама адна на ўсіх.

...Кожны год аддаляе ад нас падзеі таго часу, аднак час непадуладны патушыць вечны агонь Перамогі. Ён гарыць у нашай памяці, у нашых сэрцах — сэрцах удзячных нашчадкаў салдат вялікай Перамогі.

З гэтага майскага нумара мы распачынаем публікацыю нарысаў пра ўдзельнікаў і ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, удастоеных высокага звання Героя Савецкага Саюза, а таксама кавалераў ордэна Славы трох ступеняў. Яны, нямногія з салдат і афіцэраў, уцалелыя на той бязлітаснай вайне, і сягоння ў страі, сярод нас, па меры сваіх сіл удзельнічаюць у грамадскім жыцці, вядуць такую неабходную работу па патрыятычным выхаванні юнага пакалення пачатку XXI стагоддзя. У іх розныя лёсы, у кожнага — свой жыццёвы і працоўны шлях, кожны здзейсніў свой подзвіг у імя Перамогі. Але ўсіх іх яднае адно званне: яны — Героі.

Распавесці пра гэтых людзей — наш пачэсны абавязак да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў і 65-годдзя Вялікай Перамогі.

***Рэдакцыя часопіса «Полымя»***

Анатоль МЯСНІКОЎ

# ТАВАРЫШ КАМБРЫГ

## I

Так завуць яго звыш… шасцідзесяці гадоў! І — не адно ўжо пакаленне. Больш таго, не толькі былыя таварышы па зброі, але і зусім невядомыя партызаны-пабрацімы, нават маладога веку людзі звяртаюцца да яго аднолькава проста і шчыра:

— Таварыш камбрыг!

Ім, камбрыгам, Віктар Ліўенцаў стаў у няпоўныя 24 гады! Гэта сёння такі ўзрост — яшчэ, так бы мовіць, і не ўзрост: не зусім і сталасць, хоць і далёка ўжо не юнацтва. А вось тады, напрыканцы трыццатых — на пачатку саракавых гадоў мінулага ўжо XX стагоддзя, маладыя людзі сталелі не па гадах хутка, аднак, дзякуй Богу, надзейна, трывала і назаўсёды…

Так, і назаўсёды!

У сённяшніх колах ветэранаў Вялікай Айчыннай Віктар Ільіч — фігура выбітная, шаноўная і глыбока паважаная. Ды, уласна кажучы, не толькі сёння: ён заўсёды быў у цэнтры ўвагі — і дваццаць, і сорак, ды і шэсцьдзесят гадоў назад… Ліўенцаў быў і шмат гадоў заставаўся душой, лідэрам, завадатарам, арганізатарам: малых і вялікіх задум і спраў, намераў і здзяйсненняў, акцый і мерапрыемстваў…

Такімі, хутчэй за ўсё, не становяцца, а — нараджаюцца!

…З ім заўсёды прыемна сустрэцца, павітацца, хоць бы на момант затрымацца, абмяняцца думкамі. Ну а калі выпадзе нагода пагутарыць, што называецца, капітальна, — пабагацееш маральна, сэрцам і душой.

## II

Вестка аб нападзенні гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз заспела яго ў Гродне. Незадоўга да таго чорнага жудаснага дня ён, 23-гадовы чырвонаармеец Віктар Ліўенцаў, тры гады адслужыўшы тэрміновую службу, з поспехам скончыў Гродзенскае ваеннае вучылішча і быў пакінуты там жа, у горадзе над Нёманам, для прадаўжэння вайсковай службы.

…Полк стаяў на самай граніцы. Штодзённыя, па некалькі гадзін запар, вучэбныя заняткі змяняліся такімі ж штодзённымі работамі на ўзвядзенні рубяжа пагранічнай абароны. Працы хапала яшчэ не на адзін дзень і нават тыдзень, аднак…

Аднак у жыццё ўварвалася вайна: жорсткая, жудасная, невядомая.

На досвітку нямецка-фашысцкія акупанты абрушылі на пазіцыі савецкіх байцоў мора агню. Няспынна біла варожая артылерыя, раз за разам над галовамі нашых армейцаў праносіліся дзесяткі самалётаў, часткова «разгружаючыся» на хаду, а ў большасці сваёй несучы смерць далей, ужо ў тыл: Гродна, Ваўкавыск, Слонім, Баранавічы… Агонь, дым і пыл змяшаліся ў суцэльнае смяротнае воблака. Гарэлі не толькі пабудовы і суседнія памяшканні — агнём пылала тэхніка, уся навакольная зямля…

З'явіліся дзесяткі і сотні забітых і параненых. Сувязь са штабамі дывізіі і арміі была знішчана літаральна адразу ж…

— Мы трымаліся тры дні і тры ночы, — успамінае Віктар Ільіч. — З нашай мінамётнай роты выжылі некалькі шчаслівчыкаў, ад дывізіі засталося крыху больш як сто чалавек…



*Герой Савецкага Саюза В. І. Лівенцаў.*

Боепрыпасы скончыліся. Рабіць на перадавой, што называецца, не было чаго, і камандаванне аддало загад выходзіць з акружэння невялікімі групамі… Астаткі 3-й і 10-й армій з-пад Гродна і Ваўкавыска накіраваліся ў глыбіню ўжо акупіраванай Беларусі.

З невялікай групай акружэнцаў ураджэнец гарадскога пасёлка Давыдаўка Варонежскай вобласці, афіцэр Чырвонай Арміі Віктар Лівенцаў узяў накірунак на Бабруйск.

## III

Бабруйск у тыя дні быў параўнальна вялікім горадам. Як і многія іншыя населеныя пункты нашай Бацькаўшчыны, ён літаральна з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны не скарыўся ворагу, не стаў перад ім на калені. У розных кутках горада адразу ж пачалі ўзнікаць падпольныя групы, явачныя кватэры. Бабруйчане настройваліся на арганізаванае супраціўленне акупантам.

Апынуўшыся ў незнаёмым горадзе, Віктар Лівенцаў не разгубіўся. Захоўваючы асцярожнасць і канспіратыўнасць, афіцэр-чырвонаармеец уважліва прыглядваўся да мясцовых жыхароў, пступова заводзіў з імі знаёмствы. Разумеў: рызыкуе жыццём, аднак добра ведаў і другое — іншага выйсця проста няма!

Пазнаёміўшыся з такімі ж, як і сам, акружэнцамі, ён неўзабаве сустракаецца з Паўлам Маслёнкам — мясцовым камуністам, накіраваным у Бабруйск Цэнтральным Камітэтам Кампартыі Беларусі для наладжвання і шырокага разгортвання патрыятычнага падполля. Убачыліся адзін раз, другі, бліжэй пазнаёміліся, шчыра пагутарылі і абодва пераканаліся: погляды на сітуацыю супадаюць, паразуменне знойдзена… Мясцовае насельніцтва павінна не толькі зразумець іх, але і актыўна падтрымаць.

— Тады і пачалі мы неадкладна рыхтавацца да сур'ёзнай барацьбы з гітлераўскімі акупантамі, — дадае Віктар Ільіч Лівенцаў. — Найперш, крок за крокам, асвойвалі «сакрэты» і тонкасці падпольнай дзейнасці і жыцця…

Тымі крокамі стала наладжванне яшчэ больш трывалых сувязей з мясцовым насельніцтвам. Арганізатары падполля рызыкавалі сваімі жыццямі не тое што кожны дзень, а кожную хвіліну, тым не менш на кантакты з бабруйчанамі ішлі актыўна, часцяком не задумваючыся пра небяспеку. І праз месяц-другі «свае» людзі — надзейныя і такія ж самаахвярныя! — з'явіліся ў падпольшчыкаў сярод работнікаў біржы працы, некаторых харчовых магазінаў, друкарні, нават у мясцовай нямецкай управе, паліцыі і … турме.

Вялікім «галаўным болем» для арганізатараў барацьбы было набыццё для падпольшчыкаў і «іхніх» людзей пашпартоў і прапускоў. Неўзабаве і гэтае вострае пытанне было паспяхова вырашана. На кватэры мясцовага жыхара Аляксандра Качаткова абсталявалі нелегальную фоталабараторыю, падключылі да працы спецыялістаў, і неадкладна патрэбныя дакументы былі зроблены своечасова і ў дастатковай колькасці.

— Без пастаянных, трывалых і надзейных сувязяў з мясцовым насельніцтвам ні падчас наладжвання падпольнай дзейнасці ў Бабруйску, ні потым, ужо

ў перыяд партызанскай барацьбы, мы не мелі б аніякіх вынікаў, — зноў і зноў просіць мяне адзначыць гэты важны, рашаючы, на яго думку, фактар Віктар Ільіч. — Карэнныя жыхары, і толькі яны, штодзённа рызыкуючы не менш, чым мы, спрыялі нам словамі і справамі, дапамагалі паспяхова змагацца з ненавіснымі нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

І з ім нельга не пагадзіцца...

## IV

Пасля таго, як фронт Вялікай Айчыннай адсунуўся ў глыбіню Савецкага Саюза, Бабруйск апынуўся ў далёкім тыле. Разбураны і абрабаваны горад тым не менш заставаўся важным стратэгічным пунктам і для Чырвонай Арміі, і для гітлераўскіх акупантаў. І найперш таму, што тут сыходзіліся і перасякаліся чыгуначныя і шасэйныя шляхі-дарогі. Праз горад днём і ноччу імчалі варожыя саставы на ўсход, тут жа праходзіла перафарміраванне пацярпелых паражэнні ў баях часцей немцаў, шырока і актыўна працавала гітлераўская шпіёнская служба... У той жа час усё больш размах набіраў падпольны рух.

— Ужо да пачатку верасня 1941 года, — успамінае Віктар Лівенцаў, — у Бабруйску дзейнічала звыш 20 падпольных груп. З большасцю з іх мы падтрымлівалі трывалую сувязь. Гэта былі групы, якімі кіравалі Сяргей Сыраквашын, Аляксей Сарафанаў, Уладзімір Якавенка, Валянцін Бутараеў, Міхаіл Сямісалаў, Васіль Калеснікаў, Мікалай Баўкун, Пётр Сцяржанаў, Уладзімір Сычкар, Сяргей Крамнёў, Андрэй Калеснікаў, Іван Бондараў і іншыя мясцовыя патрыёты. Адчуўшы сваю арганізацыйную моц і зладжанасць, вырашылі стварыць пры нашай групе падпольны партыйны камітэт. Галоўнай задачай яго, акрамя ўмацавання і пашырэння дзейнасці непасрэдна ў горадзе, было і правядзенне работы па падрыхтоўцы да партызанскай барацьбы.

Пастаянна падтрымліваючы кантакты з мясцовым насельніцтвам, бабруйскія патрыёты вырашылі інфармаваць людзей праўдзівымі звесткамі аб падзеях на фронце. Былі здабыты, адрамантаваны і настроены на прыём з Масквы зводак Саўінфармбюро два радыёпрыёмнікі, і неўзабаве горад запоўнілі лістоўкамі. Напярэдадні кастрычніцкага свята 1941 года, а асабліва падчас пачатку наступлення войскаў Чырвонай Арміі пад Масквой у снежні таго ж, 1941-га, насельніцтва не толькі пачула праўду-матухну, але і акрыяла духам, яшчэ больш пачало спрыяць патрыётам словам і справай.

Паступова ад прапагандысцкай і растлумачальнай дзейнасці, арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы людзей да партызанскай барацьбы падпольшчыкі Бабруйска перайшлі і да практычных спраў — вывад са строю абсталявання на лесакамбінаце, хлебазаводзе, электрастанцыі; ажыццяўленне дыверсіі на радыёзаводзе, суднарамонтным і шпаларэзным заводах... Усё часцей і часцей пачалі «знікаць» з мясцовых канцлагераў і гета ваеннапалонныя і зняволеныя: іх групамі патрыёты «выкрадаюць» з-за кратаў і накіроўваюць у навакольныя вёскі і лясы.

## V

Моцная і надзейная дружба — на ўсё наступнае жыццё — звязала тады Віктара Ільіча з Сяргеем Зіноўевічам Крамнёвым і Дзмітрыем Аляксандравічам Ляпёшкіным, якія пазней, падчас фарміравання на Бабруйшчыне партызанскага руху, стануць першымі памочнікамі і баявымі сябрамі партызанскага камбрыга. Абодва яны, як і сам Лівенцаў, былі баявымі кадравымі афіцэрамі Чырвонай Арміі. Сяргей Крамнёў яшчэ да вайны сем гадоў адслужыў у Бабруйску началь-

нікам штаба вайсковай часці, потым удзельнічаў у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Трапіўшы ў першыя дні Вялікай Айчыннай у акружэнне, капітан Крамнёў разам з іншымі баявымі таварышамі з баямі выйшаў з яго і апынуўся ў акупіраваным Бабруйску.

— Гэта быў не толькі мужны і смелы камандзір, але і таленавіты чалавек-творца, — з цеплынёй і павагай да Сяргея Зіноўевіча гаворыць Віктар Ільіч. — Стаўшы пазней начальнікам штаба 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады, ён будзе ў прамым сэнсе душой усіх народных мсціўцаў. Палымянае слова Сяргея Крамнёва даходзіла да падпольшчыкаў, партызан і мірнага насельніцтва ў выглядзе тысяч лістовак, соцень экземпляраў падпольнай газеты «Бабруйскі партызан», рэдактарам якой ён з'яўляўся.

Былы камбрыг прапануе нам каштоўную рэліквію — пажоўклы ад часу невялікі самаробны сшытак з надрукаванымі на машынцы тэкстамі партызанскіх вершаў і песень, аўтарам якіх у большасці і з'яўляўся Сяргей Зіноўевіч. Вось урывак з адной з іх — «Песни бобруйских партизан»:

Сожжены бандитской сворой
Наши сёла, города.
Под фашистским игом стонет
Белорусская земля.
Поднялся народ на битву,
На священную войну.
За великую Отчизну,
Встал за родину свою.
Закипела гневом, злобой
Белорусская земля.
Поднялась могучим шквалом
Партизанская война.
На просторах Беларуси
Нет такого уголка,
Где бы гитлеровским слугам
Не давали по рукам.
Уничтожим оккупантов,
Перебьем фашистский сброд,
С Красной Армией в Берлине
Мы закончим свой поход.

— Прапагандысцкай рабоце сярод партызан і мірнага насельніцтва мы надавалі вялікую ўвагу, — дадае Лівенцаў. — Бо разумелі: без гэтага нельга! Друкаванае слова, песня, канцэрт мастацкай самадзейнасці падымалі людзей на ўсенародную барацьбу з фашызмам, падтрымлівалі іх маральна.

Дзмітрый Ляпёшкін, у адрозненне ад іншых таварышаў Лівенцава па барацьбе, быў, па сутнасці, з мясцовых. Дзяцінства і першыя працоўныя гады яго прайшлі ў Парычах. Там яго ведалі ўсе, і гэта акалічнасць моцна спрыяла патрыётам. Палымянае слова камуніста і камісара Дзмітрыя Аляксандравіча заўсёды знаходзіла разуменне і падтрымку і сярод народных мсціўцаў, і сярод жыхароў шматлікіх навакольных вёсак.

Віктар Ільіч успамінае:

— Ты паглядзі, казаў мне Ляпёшкін, што творыцца ў Бабруйску, у навакольных вёсках. Усюды вядзецца падрыхтоўка да адкрытай узброенай барацьбы. Людзі аб'ядноўваюцца, каб выступіць агульным фронтам. Ніякім тэрорам, ніякімі «новымі парадкамі», ніякімі абяцаннямі вораг не паставіць наш народ на калені. Ён ведае цану свабоды!..

І так было на самай справе!

Сустрэўшыся вось з такімі патрыётамі, устанавіўшы з імі, а таксама з вялікай колькасцю мясцовага насельніцтва надзейныя і трывалыя пастаянныя сувязі,

бабруйскія падпольшчыкі вырашылі ўжо напрыканцы 1941 года перайсці да актыўных партызанскіх метадаў барацьбы з акупантамі. У навакольныя лясы памкнулі сотні савецкіх людзей.

## VI

У студзені 1942 года на агульным сходзе народных мсціўцаў Віктар Лівенцаў быў абраны камандзірам 752-га партызанскага атрада.

Першае, што зрабілі народныя мсціўцы Бабруйшчыны, — падрыхтавалі Зварот да мясцовага насельніцтва. Набраны і надрукаваны Віктарам Лівенцавым і Сяргеем Крамнёвым у выглядзе лістоўкі, ён літаральна праз некалькі дзён быў распаўсюджаны ў горадзе і навакольных вёсках.

«Таварышы рабочыя і работніцы, калгаснікі і калгасніцы, савецкая інтэлігенцыя! — гаварылася ў Звароце. — Будзьце вартыя сваіх продкаў! Арганізоўвайце партызанскія атрады! На вас глядзіць увесь свет як на сілу, здольную знішчыць ворага. Біце праклятых шакалаў-гітлераўцаў! Няхай горда б'ецца рускае сэрца, яно не было яшчэ зняслаўлена, бо наша краіна дагэтуль была пакрыта нябачнай ваеннай славай.

Успомніце зварот Дзмітрыя Данскога да рускага народа: «За зямлю рускую, за Радзіму святую мы храбра пастаім. Пакажам жа іншаземцам, што значыць сіла руская!»

Няхай памятае крыважэрная фашысцкая зграя словы вялікага рускага палкаводца Аляксандра Неўскага: «Той, хто з мячом да нас прыйдзе, той ад мяча і загіне. На чым стаіць, на тым і стаяць будзе руская зямля!»

Камандаванне N-скага партызанскага атрада».

І пачаліся штодзённыя партызанскія будні, поўныя мужных і самаадданых учынкаў, здзяйсненняў, сапраўдных подзвігаў: з радасцю перамог і гонарам за зробленае, болем страт і прыкрасцю за няўдачы…

Ужо ў лютым 1942-га быў зацверджаны тэкст «Партызанскай прысягі», урачыстае прыняцце якой стала абавязковым момантам уступлення добраахвотнікаў у рады народных мсціўцаў: «Я, грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, — адзначалася ў ёй, — уступаючы ў рады чырвоных партызан, прымаю гэту прысягу і ўрачыста клянуся: быць сумленным, храбрым, дысцыплінаваным, пільным байцом, строга захоўваць ваенную і дзяржаўную тайну, дакладна выконваць усе загады камандзіраў, камісараў і начальнікаў, накіраваныя на ўмацаванне нашай Радзімы…

Я клянуся добрасумленна вывучаць ваенную справу, усямерна берагчы ваенную і народную маёмасць і да апошняга дыхання быць адданым воінам свайму народу, сваёй Радзіме і рабоча-сялянскаму ўраду.

Я, чырвоны партызан, клянуся абараняць маю Радзіму мужна, умела, з годнасцю і гонарам, не шкадуючы сваёй крыві і самога жыцця для дасягнення поўнай перамогі над ворагам.

Калі ж па злосным намеры я парушу гэту маю прысягу, то няхай мяне спасцігне суровая кара савецкага закона — расстрэл»…

Былі дзесяткі паходаў і баёў, засад і аперацый… Многія з іх залатымі літарамі ўпісаны ў летапіс баявой партызанскай славы ўсяго беларускага народа.

Аднаму з тых баёў — за горад Клічаў — у гэтым летапісе адведзена асаблівае месца. Ён адбыўся 20 сакавіка 1942 года.

…Гэту смелую, хаця і рызыкоўную, аперацыю задумалі, распрацавалі і з поспехам ажыццявілі сумеснымі сіламі чатыры партызанскія атрады, якімі камандавалі Васіль Свістуноў, Андрэй Юркаўцоў, Васіль Сырцоў і ён, Віктар Лівенцаў.

Гарнізон Клічава, паводле аператыўных дадзеных партызанскай разведкі, налічваў каля 250 чалавек. «На савеце камандзіраў атрадаў, — успамінае Віктар Ільіч, — дакладваючы абстаноўку, Васіль Свістуноў інакш як «бобікамі» іх і не называў. Гэтым ёмістым словам наш баявы калега і сябар «аб'яднаў» усіх: і гітлераўцаў непасрэдна, і іх добраахвотных прыслужнікаў — паліцаяў. Ведалі мы і баявы арсенал ворага: 5 кулямётаў, каля дзесятка аўтаматаў, у астатніх — вінтоўкі. А галоўны «штаб» акупантаў знаходзіўся ў двухпавярховым памяшканні былога райвыканкама. Пачатак штурму горада прызначылі роўна на 6 гадзін раніцы...»

Падаўшы гарматны стрэл-сігнал да атакі, Лівенцаў і Крамнёў кінуліся ў першую шарэнгу атакуючых. Вось яны ўжо на ўскраіне Клічава, вось і першыя скрыжаванні гарадскіх кварталаў... Са сваім атрадам 24-гадовы камандзір авалодвае цэнтральнай вуліцай горада. Злева — аптэка і школа, насупраць — памяшканне былой гасцініцы. З яго вокнаў ворагі б'юць з аўтаматаў: трымаюць подступы да былога райвыканкама пад шквальным агнём. З'яўляюцца першыя параненыя. З гранатай у руцэ кідаецца цераз вуліцу партызан В. Чайнікаў і тут жа падае, скошаны варожай куляй. Але штурм працягваецца...

— Наперад, хлопцы, наперад!

Вось і ўзята памяшканне гасцініцы, але вораг пачынае весці шалёны агонь ужо з вокнаў школы. Корпус яе з цэглы, так што выбіць адтуль акупантаў будзе вельмі няпроста. Лівенцаў аддае каманду неадкладна даставіць сюды партызанскую гармату. Ставяць яе на прамую наводку, зараджаюць... Камандзір сам пасылае па цэлі першы снарад, другі. Развальваюцца сцены школы, ворагі здаюцца ў палон...

Цэлы дзень доўжыўся бой за Клічаў. Толькі пад вечар змоўклі выстралы.

— І тут пачулася песня, — успамінае Віктар Ільіч. — Спачатку ціха, а потым усё мацней і мацней паліліся па знявечаных вуліцах горада словы такой шчымліва-балючай і знаёмай песні:

Этих лет не смолкнет слава,
Не померкнет никогда.
Партизанские отряды
Занимали города...

На наступны дзень народныя мсціўцы хавалі сваіх сяброў, якія загінулі падчас штурму Клічава. Іх было пяцёра: В. Чайнікаў, І. Карэлкін, А. Ілюх, В. Лапін і В. Паўлаў. Прагучаў сціплы партызанскі салют, байцы і камандзіры, змахваючы скупыя слёзы, пакляліся адпомсціць ворагу за смерць сваіх баявых пабрацімаў.

І клятву сваю яны з гонарам стрымалі!

А ў самым цэнтры Клічава і да сённяшняга дня захоўваецца мемарыяльная дошка, якая сведчыць: «Г/п Кличев 20.III.42 г. был освобожден от немецких оккупантов партизанскими отрядами № 277, 128, 620, 752 и объявлен советской зоной в тылу врага. В годы Великой Отечественной войны Кличевский район был организационным и руководящим центром партизанского движения Могилевской области».

Выданне лістовак зваротаў, адозваў і іншай друкаванай прадукцыі па-ранейшаму заставалася для партызанскіх камандзіраў адказным участкам дзейнасці. У іх самі народныя мсціўцы і мясцовыя жыхары інфармаваліся аб становішчы на фронце і ў тыле ворага, аб здзеках гітлераўцаў над мірным савецкім насельніцтвам... У лістоўцы, выдадзенай 25 сакавіка 1942 года, былі наступныя словы: «Невядома, за якія правіннасці поўнасцю спалена вёска Усохі Клічаўскага раёна. Насельніцтва, якое тулілася ў зямлянках, было падвергнута бамбардзіроўцы фашысцкімі сцярвятнікамі, а ў вёсцы Замасточча Акцябрскага раёна па-зверску закатаваны 67 мужчын... Вось лічбы і факты крывавых спраў Гітлера-«вызваліцеля» і яго банды здраднікаў — паліцэйскіх»...

Праз два тыдні — 5 красавіка 1942-га — партызанскае камандаванне прыняло спецыяльны Зварот да паліцэйскіх: «...Вас са здзекам гітлераўцы называюць

«спадарамі», і вы, як паслухмяныя сабакі, рады аказваць ім усялякія паслугі. Але памятайце, што вам не ўцячы ад рук народных мсціўцаў, не збегчы ад народнага гневу. Вы, як адзін, будзеце змецены з твару савецкай зямлі. Імёны вашы навекі будуць праклятыя народам, а магілы зарастуць бур'яном і чартапалохам.

Мы нагадваем вам і папярэджваем, што, калі вы толькі задумаеце падняць руку на чырвоных партызан, — вас непазбежна спасцігне такая ж горкая доля, як і вашых сяброў у Клічаўскім, Акцябрскім, Парыцкім, Глускім і іншых раёнах...» Партызаны прапанавалі паліцэйскім «апамятацца і кінуць сваю сабачую службу Гітлеру, адмовіцца ад зброі» і запэўнілі, што народ ім даруе і «дасць магчымасць загладзіць сваю віну перад Радзімай...»

— Словы дзейнічалі дакладна, бы кулі білі ў цэль, — дадае Віктар Ільіч. — Па некалькі чалавек, а іншым разам — і цэлымі групамі былыя здраднікі пераходзілі на наш бок і потым актыўна змагаліся са сваімі ранейшымі «гаспадарамі»...

Ліўенцаў прапануе мне пазнаёміцца яшчэ з адным дакументам ваеннага часу — лістоўкай-зваротам былых паліцэйскіх Сяргея Н., Піліпа К. і Уладзіміра К. «Да паліцэйскіх»:

«Некалькі дзён таму назад мы яшчэ былі паліцэйскімі Лапіцкай і Чэвеньскай паліцыі і разам з вамі са зброяй у руках пад страхам смерці служылі фашыстам. Ад нашых з вамі рук загінулі сотні невінаватых людзей.

Цяпер міжволі задаеш сабе пытанне: як магло здарыцца, што мы, савецкія людзі, сталі здраднікамі Радзімы, што нам, рускім людзям, сталі сябрамі нямецкія шпіёны Лютэр з Ліпеня, Царык з Мірадзіна і дзесяткі ім падобных людаедаў, якія п'юць нашу рускую кроў?!

Адказ адзін: фашысты здолелі нас падмануць, зацягнулі ў сваю павуціну і накіравалі супраць сваіх жа братоў і бацькоў.

Пасля таго, як мы ўсё гэта зразумелі і ўсвядомілі сваю віну перад Радзімай, мы вырашылі кінуць сваю службу і пайсці да партызан. Спачатку мы баяліся, што партызаны нас расстраляюць, але вырашылі, што лепш памерці ад партызан, чым працягваць здрадніцкую службу і забіваць сваіх братоў і сясцёр, бацькоў і мацярок.

Мы прыйшлі да партызан са зброяй і сказалі, што больш служыць немцам не будзем, рабіце з намі што хочаце. Партызаны моцна палаялі нас, але заявілі, што дадуць нам магчымасць загладзіць сваю віну ў барацьбе з немцамі.

Мы далі клятву партызанам — да апошняй кроплі крыві змагацца разам з імі супраць нямецкіх захопнікаў за сваю Радзіму, за свой народ.

Цяпер мы — чырвоныя партызаны, народныя мсціўцы. Тут мы даведаліся, што ўжо сотні былых паліцэйскіх у іншых раёнах Беларусі змагаюцца разам з партызанамі супраць нашых кроўных ворагаў — нямецкіх бандытаў.

Цяпер мы яшчэ больш пераканаліся, як ненавідзіць насельніцтва ўсіх паліцэйскіх, і ад чыстай душы раім вам пайсці, пакуль не позна, з крывавых нямецкіх лап, стаць са зброяй на барацьбу за сваю Радзіму. Але папярэджваем, — падкрэсліваецца ў лістоўцы-звароце, — што да партызан трэба ісці толькі з адкрытай душой. Здраднікаў і шпіёнаў яны хутка выкрываюць і расстрэльваюць.

Сыходзьце, пакуль яшчэ магчыма. Партызаны вас прымуць!»...

## VII

Менш чым праз год — у лютым 1943-га — з двух атрадаў, якімі камандавалі Павел Завадскі і Віктар Ліўенцаў, была ўтворана новая брыгада, якую, паводле тэрытарыяльнага падзелу, афіцыйна назвалі 1-й Бабруйскай партызанскай брыгадай. Яе і ўзначаліў 25-гадовы кадравы афіцэр Чырвонай Арміі Віктар Ліўенцаў.

— Гэта было нечаканае, а найперш — неверагодна адказнае партыйнае даручэнне, — успамінае Віктар Ільіч. — Так, я быў кадравым вайскоўцам, меў вопыт

барацьбы з ворагамі, набыты і падчас вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, і ў першыя дні Вялікай Айчыннай… Шмат ведаў і практычных навыкаў дало і бабруйскае падполле. Але ж камандаваць брыгадай — вялікім фарміраваннем людзей, якія былі прасякнуты лютай нянавісцю да акупантаў, гатоўнасцю ахвяраваць сабой у імя вызвалення Бацькаўшчыны і несці штодзённую, штохвілінную адказнасць за іх агульныя справы, учынкі кожнага паасобку, — гэта, паверце, у многа-многа разоў павышала маю асабістую адказнасць не толькі за баявыя дзеянні падначаленых, а перш за ўсё за іх лёсы і жыцці…

Колькасны састаў 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады даходзіў да 800 чалавек. 800 характараў, людскіх паводзін і адносін, прыхамацяў і капрызаў… Нам, сённяшнім, цяжка нават уявіць, як можна было наладзіць іх узаемадзеянне, знайсці кантакты і паразуменне, вызначыць агульныя мэты і задачы, нарэшце — проста разабрацца ў абстаноўцы, прыняць адзіна правільнае рашэнне і арганізаваць, мабілізаваць і скіраваць гэтых людзей на выкананне дзесяткаў, а можа, нават і соцень аперацый і адкрытых баёў, дыверсій і паходаў, атак і іншых баявых спраў і здзяйсненняў.

— У мяне былі надзвычай надзейныя, вопытныя, сталыя і спрактыкаваныя паплечнікі і памочнікі, — гаворыць Лівенцаў. — Штаб брыгады ўзначальваў усё той жа Сяргей Крамнёў; камісарам з'яўляўся Дзмітрый Ляпёшкін. Павел Завадскі і Уладзімір Комін, Рыгор Кустаў і Артур Спрогіс, Павел Кажушка і Андрэй Сумбаеў, Васіль Калеснікаў і Віктар Сікорскі, Міхаіл Сямісалаў і Фёдар Клімашонак — дзесяткі сапраўдных баявых пабрацімаў плячо ў плячо адстойвалі гонар і незалежнасць Айчыны ў самым жорсткім выпрабаванні — сутычцы з германскім фашызмам. Я заўсёды мог абаперціся на іх, даручыць кожнаму выкананне самай складанай і рызыкоўнай справы. Дарэчы, менавіта ім, камандзірам, партыйным і камсамольскім работнікам самага рознага ўзроўню, наша брыгада абавязана тым, што на працягу ўсяго перыяду свайго існавання яна панесла самыя мінімальныя страты. Мы ўсе разам берaглі людзей больш за ўсё!

І гэты факт, безумоўна ж, сведчыць аб многім…

У перыяд з лютага 1943-га і да дня вызвалення нашай рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў народныя мсціўцы 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады падарвалі і знішчылі 55 варожых эшалонаў, 388 аўтамашын, 19 чыгуначных і 69 шасэйных мастоў, разграмілі 4 гарнізоны, 15 паліцэйскіх участкаў. Падчас правядзення славутай «рэйкавай вайны» байцы падарвалі 1305 чыгуначных рэек…

Лічбы, якія гавораць самі за сябе!

Прашу Віктара Ільіча згадаць яшчэ адзін памятны баявы эпізод.

— Аднойчы разведка паведаміла, што непадалёку з'явіліся захопнікі — каля роты салдат і афіцэраў, — расказвае Лівенцаў. — Мы якраз адпачывалі каля вёскі Усакіна, што на Магілёўшчыне. Узняў па трывозе тры ўзводы партызан — і насустрач ім. Завязаўся бой. Наш удар аказаўся для ворагаў нечаканым, і мы пачалі імкліва праследаваць іх. Захапіліся, страцілі пільнасць, і раптам бачу: мы на нейкім узгорку, а навокал фашыстаў намнога больш, чым нас… Захопнікі пачалі нас акружаць, абстрэльваючы шчыльным агнём з розных відаў зброі. «Ну, думаю, хана нам…» А тут яшчэ хлопцы пачалі сябе не так, як трэба, паводзіць: адзін усхапіўся, другі, і — драла з пазіцый… Узняўся ва ўвесь рост, даў чаргу з аўтамата над галовамі сваіх: «Ляжаць, такую вашу маць!»… Немцы на імгненне разгубіліся. Тут жа падаў каманду: «За Радзіму, наперад!» і першым пайшоў у атаку. Словам, вырваліся з акружэння, прабіліся да сваіх, узялі падмацаванне — і зноў на ворага. Рота немцаў была знішчана поўнасцю…

За ўмелае кіраўніцтва партызанскай брыгадай, вялікі асабісты ўклад у барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1 студзеня 1944 года Віктару Ільічу Лівенцаву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

## VIII

Адразу пасля вызвалення Беларусі Віктар Лівенцаў актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё рэспублікі, якая стала для яго самай роднай і дарагой! Шэсць гадоў працаваў у Цэнтральным Камітэце камсамола: загадчыкам аддзела, сакратаром і другім сакратаром, шмат сіл, энергіі і часу прысвяціўшы аднаўленню разбуранай вайной гаспадаркі. Закончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ, экстэрнам здаў экзамены на гістарычным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута.

А потым лёс звязаў яго з не менш адказным і кіпучым участкам жыццядзейнасці грамадства — фізкультурай і спортам. Дваццаць гадоў (!) узначальваў Віктар Ільіч галоўнае спартыўна-фізкультурнае ведамства рэспублікі — Камітэт па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР.

— Гэта была адказная, цікавая і патрэбная народу праца, — дзеліцца ён сваімі думкамі-ўспамінамі. — Трэба было будаваць спартыўныя аб'екты, арганізоўваць насельніцтва на ўдзел у фізкультурным руху, адкрываць секцыі і спартыўныя школы, надаваць паўсядзённую ўвагу станаўленню і развіццю вялікага спорту… І мы насамрэч рабілі шмат чаго.

Так, гэта была — без перабольшання — вялікая справа. І каб расказаць пра яе, спатрэбілася б яшчэ не адна старонка… Таму толькі зазначым: менавіта тады, у шасцідзесятыя — семідзесятыя гады XX стагоддзя пад кіраўніцтвам і пры самым непасрэдным удзеле Старшыні Камітэта па фізічнай культуры і спорце пры Савеце Міністраў БССР Віктара Лівенцава Беларусь выйшла ў тагачасным Савецкім Саюзе на передавыя пазіцыі ў развіцці масавай фізкультуры, а яе выхаванцы з поспехам выступалі ў радах зборных СССР на чэмпіянатах свету і Еўропы, Алімпійскіх гульнях. Гэта тады былі пабудаваны мінскія Палац спорту, воднаспартыўны камбінат, стралковы комплекс імя Цімашэнкі, спартыўныя базы «Стайкі», «Ратамка», «Уручча» і «Раўбічы», заснаваны добра вядомыя ва ўсім спартыўным свеце беларускія школы па фехтаванні, спартыўнай гімнастыцы, вольнай і класічнай барацьбе, лёгкай атлетыцы, веславанні на байдарках і каноэ, ручным мячы і іншых відах спорту, а імёны Алены Валчэцкай, Вольгі Корбут, Тамары Лазаковіч, Антаніны Кошаль, Аляксандра Мядзведзя, Таццяны Самусенка, Алены Бяловай, Віктара Сідзяка, Аляксея Ніканчыкава, Міхаіла Крываносава, Рамуальда Кліма, Марыі Іткінай, Леаніда Гейштара, Сяргея Макаранкі, Мікалая Гарбачова, Алега Караваева, Уладзіміра Зубкова, Аляксандра Каршакевіча, Юрыя Шаўцова і многіх іншых загучалі на ўвесь свет.

## IX

Зараз Віктару Лівенцаву 90 гадоў. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны і працы даўно на заслужаным адпачынку. Выраслі дзеці, унукі і праўнукі. Толькі не ў характары Героя спакой і бяздзейнасць. Падчас юбілейных дат і мерапрыемстваў і ў звычайным будзённым жыцці Віктар Ільіч — сярод людзей. Ён ніколі не адмовіўся выступіць перад любой аўдыторыяй, сустрэцца як з вялікай колькасцю слухачоў, так і з невялічкай групай. Асабліва любяць яго школьнікі, навучэнцы і студэнты: для іх Лівенцаў — узор, на які трэба раўняцца, з якога трэба браць прыклад…



Алесь ЯСКЕВІЧ

# В. КАРАТЫНСКІ: ЛЯ ВЫТОКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЛІРЫКІ І ЭСТЭТЫКІ

Пад пасіянарным уплывам агульнаславянскага абуджэння, да папярэднікаў якога, паводле адноўленых сёння фактаў, мы справядліва залічваем сваіх славутых суайчыннікаў С. Богуш-Сестранцэвіча і З. Даленгу-Хадакоўскага, усе нашы нацыянальна свядомыя дзеячы XIX стагоддзя ў некалькіх самастойна сфарміраваных культурных асяродках жывуць падзвіжніцкімі памкненнямі адраджэння прыгожага пісьменства на роднай мове, знакамітай сваёй узорнай літаратурнай распрацаванасцю ў папярэднія гістарычныя перыяды, калі яшчэ на нашай кнізе ставіўся міжнародны эмблемны знак — «пераклад з беларусінскага».

І хто ведае, магчыма, у паэтычным лёсе Уладзіслава Сыракомлі і яго таленавітага вучня Вінцэся Каратынскага, што ўтваралі досыць уплывовы літаратурны асяродак, увогуле ў самім тагачасным літаратурным руху ўсё складвалася б інакш і больш спрыяльна, калі б ім давялося здзейсніць выданне сумесна падрыхтаванага зборніка ўласна беларускіх вершаў ва ўмовах фактычна нелегальнага становішча нашага нацыянальнага адраджэння.

З перспектывы нават пазнейшых мастацкіх дасягненняў яны не могуць не ўражваць узвышанасцю духоўных ідэалаў, экзістэнцыяльнай глыбінёй лірычнага пачуцця, філасофскім спасціжэннем таямніц быцця, нарэшце, сваёй ранняй мастацкай дасканаласцю. У прыватнасці, слынная элегія Вінцэся Каратынскага «Туга на чужой старане», якая па сваёй значнасці атаясамлівалася сучаснікамі з музычным шэдэўрам Міхала Клеафаса Агінскага «Развітанне з Радзімай», сталася драматычным гімнам і сцягам беларускага абуджэння. Такіх шчымлівых патрыятычных нот і настальгічнай безвыходнасці празябення на чужыне, дзе «Ад зарыцы да зарыцы, // Туга кроў мне п'ёць», рэдка яшчэ калі дасягала наша нацыянальная лірыка: «Я ж зямліцу меў радную. // Быў свабодзен сам! // Ох, ці днюю, ці начую — // Я ўсё там ды там! // Там гукнеш ў сардэчным краю — // Разглягнецца свет. // Тут гукаю, прамаўляю — // Адгалоску нет».

Хоць бясконца абнадзейвалі гэтыя зыркія паэтычныя ўзыходы на роднай мове, але яшчэ пакуль наша мастацкая традыцыя змушана была адраджацца на «полілінгвістычнай» аснове, з выкарыстаннем эстэтычных заваёў і пад прыкрыццём больш развітых суседніх — польскай і часткова рускай — літаратур. Ды тут мы сустракаемся з фенаменальнай сітуацыяй, на якую ўжо тады звярнула ўвагу руская крытыка (М. Аксакаў, В. Лаўроў), знаходзячы ў толькі па слоўным абліччы польскамоўных творах нашых паэтаў літаральна нацыянальныя «аснову і ўток»: ад найсамабытных, у этнічна-фальклорным духу, сюжэтаў, вобразаў і ладу думак аж да беларускамоўных зваротаў і «макаранічнай» лексікі — ва ўсім дазвання ўзнаўленне жывых беларускіх рысаў, фарбаў і рэалій тагачаснага народнага жыцця.

Пры паскораным прарыве да ідэйна-мастацкага стану высокаразвітых літаратур нашы пачынальнікі за «антэеву» апору аднаўлення нацыянальнага мастацтва і яго саматоеснай ідэнтыфікацыі бралі найбагацейшы сярод народаў айчынны фальклор і славутую культурную спадчыну мінулага.

Усё уласна пачалося з пераацэнкі новым, ужо нацыянальна пасталелым пакаленнем, так званай краёвай польскамоўнай паэзіі на Беларусі, прадстаўнікі якой, па словах аднаго з лідэраў нацыянальнага абуджэння Рамуальда Падбярэзскага, «ніколі не выяўлялі народнага духу, бо самі яго не мелі і не разумелі». «Наша пакаленне, — развівае далей канцэпцыю літаратурных вытокаў другі руплівец беларускага адраджэння Юліян Барташэвіч, — добра зразумела тую ісціну, што каб мець нацыянальную паэзію, трэба спачатку выкупаць яе ў вясковай песні, бо толькі ў гэтай песні ёсць элементы першародныя».

Асабліва распрацаванай філасофію фальклору мы знаходзім у В. Каратынскага, які не толькі бачыў у ім зыходную эстэтыку аднаўлення нацыянальнай мастацкай традыцыі, але, што надзвычай важна, ужо на самым раннім этапе адрозніваў усю складаную дыялектыку ўзаемадзеяння прафесійнай літаратуры з вусна-народнай паэзіяй, творча асвойваючы, так бы мовіць, узроўні фальклорных уплываў на унікальную, па вытанчанасці нацыянальнага экзістэнцыявання, уласную лірыку. У сваім выдатным «Каментарыі» да паэмы «Таміла» паэт выкладае дзівосную па заглыбленасці ў прадмет канцэпцыю фальклору: «Песні і казкі народа — гэта вобраз яго сэрца і фантазіі, паданні і прымаўкі — гэта яго гісторыя і філасофія. Толькі яны з усёй шчырасцю могуць намаляваць нам разумовы стан народа; не даследаваўшы іх і не прасякнуўшыся імі, не варта выказвацца пра яго».

І далей В. Каратынскі выкрывае павярхневыя адносіны да фальклору, даволі распаўсюджаныя, як ні дзіўна, сярод «народазнаўцаў» шматлікіх развітых культуралагічных «школ». Па яго выразе, для многіх пісьменнікаў фальклор «толькі канва», на якой яны «вышывалі сваімі колерамі свае ўласныя памкненні», упадаючы пры гэтым бадай у супрацілеглыя крайнасці, аднолькава далёкія ад рэальнага спасціжэння народа і яго эстэтыкі. У пераважнасці гэта ці адмаўленне народу і яго мастацтву «ў вялікіх пачуццях і розуме», ці, наадварот, абсалютная ідэалізацыя фальклорных твораў, «вартых (паводле афарыстычнага выслоўя аўтара) аправы з крышталю ці чырвонага дрэва». Адсюль і поўны недавер паэта да такога гатунку народазнаўства.

Змушаныя нацыянальным і сацыяльным прыгнётам станавіцца існымі народазаступнікамі, пачынальнікі новай беларускай літаратуры і ў сваіх мастацкіх маніфестах, і непасрэднай творчасцю дэкларуюць непадманны дэмакратызм, выводзячы, па словах В. Каратынскага, «на сцэну народ такім, як ёсць», прымусіўшы «яго прамаўляць аб самім сабе ўласнымі песенькамі, прымаўкамі і выслоўямі», каб «добры і злы бок знайшлі месца побач: добры, каб быць зведаным; злы, каб знайсці і знішчыць яго вытокі».

Усё больш станавілася відавочным, што культуры прыгнечаных і занядбаных славянскіх нацый, як адроджаныя на глыбокім народазнаўстве і этнафальклорнай эстэтыцы, сваім якасным дэмакратызмам уносілі вялікую навізну ў сусветны літаратурны працэс, выводзячы на ролю галоўнага героя літаратуры самога працаўніка, з асноўнага па тым часе сялянскага саслоўя, на якім трымаюцца лад, норавы і дабрабыт, а ў першую чаргу мова і менталітэт этнасу. І важнейшай прадумовай адроджаных літаратур новай фармацыі з'яўлялася стварэнне ў самім народным асяроддзі нацыянальна масавай чытацкай аўдыторыі.

Знамянальным у шэрагу новых славяназнаўчых зрухаў быў ліст В. Каратынскага «Да чэшскіх літаратараў» (не пазней 21 чэрвеня 1858 года), якому наш пісьменнік невыпадкова надае статус «адозвы». Гэты пакінуты па-за ўвагай гісторыкамі літаратуры ліст-дакумент уяўляе па-свойму цэлае адкрыццё ў кантэксце агульнаславянскага «будзіцельства», у якім напачатку яшчэ кволы беларускі культурны рух шукаў падтрымку і вопыт, намацваў, нарэшце, самі формы, у якіх працярэблівала сабе шлях нацыянальнае адраджэнне братніх краін. «Шэрагі стагоддзяў, — піша ў сваёй натхнёнай адозве В. Каратынскі, — падзялілі вялікую сям'ю на некалькі дамоў адной велізарнай па сваім памеры вёскі — Славяншчыны. Пасля таго, як

мы доўга адны пра адных не ведалі, сённяшняе пакаленне пачало працаваць над аб'яднаннем гэтай вялікай сям'і, але аб'яднаннем братнім, а не паглыненнем самастойнасці аднаго элемента другім. Высокая мэта! Але кожнае разумнае дзеянне павінна папярэджвацца тым, што да яго накіроўваюцца ўяўленні, яно выпешчваецца ў агульнай думцы, яго прынцып становіцца любімым усімі».

Ліст-адозва В. Каратынскага падчас славянскага будзіцельства сапраўды набываў вагу праграмнага. Прынцыповым у праграме беларускага славіста быў тэзіс яднання на братняй аснове, а не паглынання «самастойнасці аднаго элемента другім». Тут няцяжка заўважыць поўную салідарнасць са славістычнымі ідэаламі айчыннага папярэдніка агульнаславянскага абуджэння С. Богуш-Сестранцэвіча, што ў шэрагу прац «Аб паходжанні славян і сарматаў», «Гісторыя Таўрыі», даследаванні вытокаў рускай мовы, нарэшце, у найбольш вядомай з іх «Аб Заходняй Русі» (Магілёў, 1793), прысвечанай паходжанню і еднасці беларусаў, украінцаў і рускіх, узвышаў палымяны голас, падмацаваны ўладай царкоўнага іерарха, у абарону славянства — каб ніводнае славянскае племя не аказалася прыгнечаным ці забытым ні сярод чужых, ні тым болей сваіх братніх народаў.

Да асабліва значных па тым часе тэзісаў адозвы В. Каратынскага належыць аднесці яго прапанову пра выкарыстанне агульнаславянскага пісьменства ў якасці ініцыятыўнай формы дзейнасці і актыўнага сродку ўзаемапаразумення ў доўгачаканым братнеславянскім яднанні. «У стане палітычнага раздраблення, — пераконвае сучаснікаў В. Каратынскі, — пісьменства толькі адно здольнае настроіць усіх славян, каб яны падалі адзін аднаму руку для братняга поціску».

Як бачым, яшчэ пакаленнем нашых пачынальнікаў закладваліся ідэі будучых славістычных форумаў з іх неацэнным унёскам ва ўзаемапаразуменне і гэтак актыўныя сёння шырокагаліновыя ўзаемасувязі славянскіх нацый.

Ва ўмовах «полілінгвістычнага» характару нашага нацыянальнага руху ў адозве В. Каратынскага асаблівы акцэнт набывала падтрымка (як зайздроснага вопыту для сябе!) высокай народнасці новачэшскай літаратуры, што забяспечыла ёй бесперашкоднае заваяванне масавай народнай аўдыторыі.

«Чэшскае пісьменства, — паводле ацэнкі В. Каратынскага, — хоць у адносінах багацця і літаратурнай вартасці сваіх плёнаў не дасягае, можа, польскага, аднак мае неаспрэчную перавагу адносна кірунку. Вы пішаце для народа, для ўсяго народа, — і смела можаце сказаць сваім песням: «Ідзіце ў хаціны, ідзіце ў замкі, // Вас пачуюць стары і дзіця». Сапраўдныя дзеці нацыі, вы пішаце для народа, і народ вас чытае, і народ вам гаворыць: «Узнагародзь вас Бог! Вы шчаслівейшыя за нас!» І таму такой кранальнай нотаю заканчвае адозву аўтар, каб на шырокія славяназнаўчыя інтарэсы чэхаў паспяшацца адказаць братняй беларускай узаемнасцю!

Пазней у артыкул «Рамуальд Зянькевіч» («Tygodnik Ilustrowany. 1869, № 103) В. Каратынскі, працягваючы развязваць найскладанейшую праблему ўзаемадзеяння прафесійнага мастацтва і фальклору, у адшуканні навуковых да яго «ключоў» адчуе большую глыбіню, у прыватнасці, пры даследаванні замглёнай вякамі славянскай даўніны: «Былі надзеі знайсці ў народных творах і аснову роднай паэзіі, і зачаткі славянскай філасофіі, і нават праліць святло на дагістарычнае мінулае. Надзеі гэтыя ў асноўным не апраўдаліся... Стосы назапашаных матэрыялаў буцвеюць у чаканні, пакуль ясная, падтрыманая шырокай навукай галава ўсё адным промнем думкі не ахопіць».

Зрэшты, даводзіцца канстатаваць, што навукаю і па сёння далёка не развязаны гэты вузел, хоць айчыннае літаратуразнаўства, маючы справу з непасрэднымі фальклорнымі вытокамі новай беларускай літаратуры, і можа пахваліцца найбольш значнымі дасягненнямі ў гэтай галіне.

Фальклор, маючы сваім прабацькам загадкавую па паходжанні старажытную міфалогію з глыбока ўкаранёнымі рэшткамі паганства і магіі, у пазнейшай практыцы народаў ужо прасветлены высокамаральнымі хрысціянскімі законамі,

усё болей пачынае мадыфікавацца ў звычаёвую этнаграфічную надбудову (архетып) этнасу / нацыі, праз абрадавае дзейства (вусна-паэтычныя мелас, драму і эпас), набыўшы паводле нашага вызначэння, функцыю «другой» эстэтызаванай рэальнасці, без якой, у народным уяўленні, «жыццё не красна» і каляндарна не ўпарадкаванае. Менавіта з-за сваёй сінкрэтычнай сінхранічна-дыяхранічнай шматграннасці фальклор не можа лічыцца тоесна ізаморфным прафесійнаму мастацтву. Але да загадкава прываблівых граняў гэтай па-свойму універсальнай этнічнай скалы кожны прафесійны мастак мусіць прыпадаць, як Антэй да зямлі, для прыліву ў яго творчасць нацыянальных сіл, засваення самабытнай асновы, пачэрпвання сюжэтаў, вобразаў, матываў, самаго менталітэту народнага.

Пры арыентацыі пачынальнікаў новай беларускай літаратуры на глыбокае засваенне ёю нацыянальнай самабытнасці, як бачым, наша пачатковае прыгожае пісьменства ў тым яго змушаным «полілінгвістычным» стане літаральна «выкупваецца» ў фальклорна-этнаграфічнай стыхіі. Да прыкладу, В. Дунін-Марцінкевіч на подступах да ўласна беларускамоўнай творчасці ў арыгінальным жанры «быліц» ідзе па шляху суцэльнага пераймання фальклорных формаў, паводле знешняй аранжыроўкі каляндарна-абрадавых нумароў пад свае мастацкія сюжэты.

Але паскоранае адраджэнне нацыянальнага мастацтва вымагала ўжо высока прафесійнага засваення вусна-народнай творчасці, што ставіла пытанне пра, так бы мовіць, узроўні, ці ступені фальклорных уплываў, пачынаючы ад элементарнай імітацыі пад фальклорны твор з кантамінацыяй «жыўцом» вусна-паэтычных выразаў, зваротаў, мікравобразных сродкаў — да глыбока арганічнага засваення яго сюжэтаў і ўсяе вобразна-алегарычнай сістэмы. У канчатковым выніку паглынанне яго вонкавых рэалій і перайманне самога глыбіннага «духу народнага».

І пэўным чынам творчай загадкай для таго пачатковага стану нашай літаратуры мусіць выглядаць паэтычная «школа» В. Каратынскага, які, разам са свядомай, прытым самай рознаўзроўневай апрацоўкай фальклорных першакрыніц, прадставіў нам, можна сказаць, вяршынныя дасягненні існа нацыянальнай лірыкі ва ўмовах пачатковага яе выдзялення з родавага сінкрэтызму. Ад твора да твора прасочваецца гэтая свядомая ўстаноўка паэта на самае шчыльнае зліццё з этнафальклорнымі пластамі народнага жыцця і ў той жа час праз высокую рознаўзроўневую культуру засваення вусна-паэтычнай спадчыны мы заўважаем ва ўсім вельмі вытанчаную, па ўласным экзістэнцыяванні лірычнага героя, ужо цалкам прафесійную паэзію.

«Этнаграфічная» зададзенасць нашай ранняй паэзіі, і ў прыватнасці, у В. Каратынскага заўважна нават на выбары самой тэматыкі. У вершы «Два каханні» з выкарыстаннем прыёму разгорнутага антрапамарфічнага паралелізму, гэтага універсальнага сюжэтнага сродку народнай паэзіі, аўтар стварае сапраўдны ўзор так званага мастацкага фальклору, традыцыя якога будзе працягнута Я. Купалам («Явар і каліна») і многімі іншымі беларускімі паэтамі.

Над рачулкай каліна глядзіцца ў вадзіцу;
У сяле прыгажуня, што толькі дзівіцца.
У каліны і зелень, і квецень, і росы;
У дзяўчыны і росквіт, і ў вочках нябёсы.
Салавей да каліны лятае штовечар;
Стрэў дзяўчыну юнак — голаў страціў навечна.

З існа фальклорнай інтуіцыяй, з дасціпна чуллівай абраднасцю ўзноўлена паэтам важнейшая з жыццёвых падзей — шлюбаванне ў вершы «Сваты», калі сэрцайка нявесты поўніцца радасным здзяйсненнем паяднання з абраннікам («Той, хто завітае, // Дасць мне долю, // Возьме волю // І хваліці мае»), а сватове па звычаёвым рытуале «Будуць плесці, // Хто ды дзесьці, // Лгаць на кожным слове», каб заручыць адшуканую «куніцу», што «іншым і не сніцца». Нібы

працягам абрадавага цыкла з'яўляецца наступны верш «Пасля сватання», дзе радасць заручаных лёсаў («Вочкі тыя — свецік цэлы: // Зазіраюць аж да сэрца // Як за птушкай, здэцца, рушу // У край свабоды, свет саколлі... // Міласць нам з'яднала душы» амрочана іх падпрыгонным станам: «Ох, ці толькі пан дазволіць?».

У выкананым цалкам паводле народна-песеннага ладу вершы «Сірата» праз адвечныя скаргі дзяўчыны на цяжкую долю, што «з плачам лёс свой каратае» і якой «пасаг турботны, заработны», аўтарам праведзена існа народная філасофія, у якой, па глыбока ўкаранёным хрысціянскім звычаі, людская сімпатыя на баку сіраціны, удовінага сына, кожнага лёсам абдзеленага чалавека. Мудрасць у тым, што тып людзей, якія выхоўваюцца ў няроўных умовах, у нядолі, народам асабліва цэніцца. Каму народная фантазія наканоўвае царэўну — удовінаму сыну! Абранніцай каралевіча аказваецца падчарка, а не спешчаныя і ні на што не вартыя мачышыны дочкі.

Мастацкай распрацоўцы асабліва ўлюбёнай тэмы народнага эпасу якраз і прысвечаны аўтарам «Казкі маёй нянькі» пра прыгажуню падчарку і злую мачыху з яе няўдаліцай дачкою. Але пад творчым пяром паэта з яго карэнна народным канцэптам адраджэння нацыянальнага мастацтва прыкметна істотная мастацкая аранжыроўка фальклорнай фабулы. Не адкідваючы зусім фантастычных элементаў, як напрыклад, казачнае папраданне кужалю на рагах карміцелькі Лыскі, вытканне за ноч ужо і адбеленага ручніка, іншых цудадзеяў чараўнічай кароўкі, аўтар уносіць у народны сюжэт спрэс рэалістычныя дэталі дзеля дасягнення эфекту мастацкай верагоднасці. Праведаць распаўсюджаныя ажно да каралеўскага двара пагалоскі пра кветку-дзяўчыну і цуды, якім навучала яе зведзеная са свету мачыхай Лыска («Хоць і верылі людзі тым чуткам не шыбка» — для верагоднасці дадасць ад сябе аўтар), нарэшце, прыязджае сам «венцаносец», што ачараваны розумам і прыгажосцю сіраціны. «Табе, — кажа, — лёсам прызначана дзева, // Жадаць што захочаш, нат быць каралевай!». Ды яшчэ больш уражаны мудрым адказам «басаножкі»-дзяўчыны, што яна не можа здрадзіць суджанаму простаму хлопцу ў вернасці, кароль, загадаўшы «рваць бараною» мачыху за злыя ўчынкі, ладзіць нарачоным на ўвесь свет вяселле.

Вывучка на фальклоры працягваецца ў В. Каратынскага праз усю яго творчасць. І ва ўсім мы назіраем ужо прафесійнае разведванне фальклорных радовішчаў з абавязковым паэтычна-вобразным узбуйненнем, «гранennем» алмазаў народнай мудрасці. У вершы «Сон наяве» распрацоўваецца папулярны матыў сямейна-бытавой паэзіі пра нялёгкую пару замужжа, уступленне жанчыны пад уладу мужа і суровы нагляд свекрыві і сямейнікаў. Для лірычнай гераіні твора надараецца светлае імгненне толькі ў сне паклікаць, прымроіць спатканне з роднай матуляй, каб на яе грудзях выплакаць гаркоту, сум, на момант збыць, перакласці на родныя плечы цяжар свайго новага жыццёвага стану. І ўсё ж В. Каратынскі, якому, як будзе паказана, былі ўласцівыя багавейныя адносіны да жыцця, і тут не перабірае меры. У элегійна прасветленых мроях маладзіцы гаворка ідзе не пра драму замужжа, а пра ледзьве пасільную маладым плячам шматцяжкую выпрабавальнасць самастойна звітага сямейнага гняздзечка.

У свой час у спрэчках з нядаўняй крайняй сацыялагізацыяй фальклярыстамі сямейна-бытавой лірыкі нам даводзілася выказвацца аб народнай патрабавальнасці — як абавязку старэйшага пакалення пры перадачы ланцуга этнічных паводзін і нораваў дзеля забеспячэння жыццеўстойлівасці сваго роду. Замужжа — безумоўна, вялікі пералом у лёсе жанчыны, канчаецца параўнальна бесклапотнае юнацтва, пачынаецца пара найскладаных абавязкаў, гаспадарання. Цяжкая яна для маладога гаспадара, яшчэ цяжэйшая яна для маладзіцы, што трапіла ў чужую сям'ю. Таму строгасць нораваў, што падтрымлівалася старэйшымі, загартоўвала новую сям'ю, выхоўвала маладую змену працалюбівай, устойлівай у жыццёвых нягодах. Гэта быў вызначальны, вякамі асвечаны стэрыатып жыццёвых паводзін,

што перадаваўся ад пакалення ў пакаленне і падтрымліваў увесь этнас працалюбівым і дзейсным, адраджаў увесь час яго жыццяздольнаць. Арыентацыя ж на аблегчанасць, а не на загартоўку перад складанасцю сямейнага жыцця спараджала сем'і няўстойлівыя, аслабленыя, што не вытрымлівалі першых больш-менш сур'ёзных жыццёвых выпрабаанняў і нярэдка зводзілі сваю родавую лінію.

Прышчэпліванне, наследаванне і як мага поўнае засваенне фальклору і ў цэлым этнаграфізму прафесійнай творчасцю важныя былі не толькі дзеля вяртання этнічна-нацыянальнай самабытнасці адроджанаму мастацтву, не ў меншай ступені гэта было неабходна для заваявання, па сутнасці, наноў складвання народнай аўдыторыі, без чаго справа нацыянальнага адраджэння аказвалася б бязмэтнай і малаплённай. Прыгадаем, як наш паэт захапляўся і зайздросціў поспеху ў гэтым кірунку братоў-чэхаў, наракаючы на становішча ў нашай «краёвай», усё яшчэ «разнамоўнай» літаратуры, дзе «толькі шляхта піша для шляхты, і пісьменства за малымі выключэннямі, замест інтарэсаў нацыі, падтрымлівае інтарэсы касты, якая адна толькі хоча называцца нацыяй».

Як засведчана традыцыямі сусветнай літаратуры, для заахвочвання народа да сямейнага чытання і ў непасрэдным сэнсе стварэння шырокай чытацкай аўдыторыі прафесійнае мастацтва напачатку вымушана шчыльна трымацца форм «народнай кнігі», распаўсюджаных у вусным бытаванні любімых народных жанраў і сюжэтаў, важнай адзнакай якіх з'яўляецца даходлівасць, займальнасць, гумар, маральная павучальнасць. Вось чаму і ў прафесіянальна развітай лірыцы В. Каратынскага мы назіраем па-свойму выбарачнае кола жанраў і фабул: паданні і балады («Каралеўскі плашч», «Паланянкі»), анекдатычная бывальшчына, сатыра («Жарцік майго дзеда», «Адысея гладыша»), прытчы і жыццёвыя здарэнні на біблейскія тэмы («Як пасцелеш, так і выспішся», «Старазаконны жабрак») і асабліва ўласцівыя аўтару сентэнцыі паводле хрысціянскіх матываў («Галодная пара», «Гутарка з пліскай», «Пярэдадне Божача Нараджэння», «Выпіў Куба да Якуба») і інш.

Для ўліку інтарэсаў, па выразе В. Каратынскага, народнай «чытацкай публікі», выхоўваннем якой гэтак былі заклапочаныя нашы пачынальнікі, да месца будзе нагадаць вядомае сведчанне на гэты конт кампазітара І. М. Крамскога: «Колькі я ведаю тую частку народа, якую я ведаю (а я сам часціна народа і з нізавых саслоўяў), дык вось што народ любіць і чаго ён хоча: гераічных паданняў і нічога болей».

Арыентацыя пачынальнікаў новай беларускай літаратуры менавіта на народныя густы і нацыянальныя запатрабаванні дапамагае зразумець усеагульнае імкненне да стварэння буйных эпічных твораў пры зусім яшчэ фрагментарных праявах пачатковага літаратурнага працэсу. Велічнымі эпасамі на фальклорным матэрыяле (Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч), з гераічнай даўніны (Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч) ці з тагачаснага жыцця (Ул. Сыракомля, Я. Лучына), па-першае, задавольваліся патрэбы шырокой нацыянальнай аўдыторыі колам папулярных твораў для сямейнага чытання, за чым праглядвала яшчэ больш адказная мэта, гэтак надзённая для страціўшых дзяржаўны статус мовы і сваю самастойнасць нацый, — узнаўленне збіральнага гістарычнага вобраза Белай Русі як важнейшай архетыпова-ідэалагічнай надбудовы для культурнага, палітычнага, міжнароднага адраджэння краіны.

У творчасці В. Каратынскага, з яго рэдкай энцыклапедычнай дасведчанасцю ў многіх, сёння ўжо напаўзабытых фактах айчыннай гісторыі, — глыбокі грамадзянскі непакой за страчанае слаўнае мінулае праходзіць скразной дамінантай праз дайшоўшыя да нас фрагменты ягонай публіцыстыкі і на рэдкасць змястоўнага эпісталярыю. У балючым клопаце аб безвыходным становішчы прыгоннай вёскі на яе раздарожжы да не меней сквапнага арэндна-капіталізаванага землекарыстання паэт яшчэ ў віленскі перыяд стварае знакамітую паэму «Таміла», дадаўшы важны фрагмент у архетыповы вобраз Беларусі з сучаснай рэчаіснасці. На вобразе цэнтральнага героя-пакутніка Тамілы, як сімвалічным увасабленні

тупіковага лёсу тагачаснага сялянства, аўтар увядзеннем арыгінальных гісторыка-філасофскіх раздзелаў да асноўнага сюжэтнага дзеяння малюе фантасмагарычную панараму змізарнення, аж да фізічнага здрабнення, чалавечага роду, да чаго гістарычна прыняло парушэнне Божых запаветаў і запанавання маёмаснай няроўнасці між людзьмі. З колішняга «залатога веку» справядлівасці, паводле аўтарскай фантасмагорыі, адбылася катастрафічная метамарфоза чалавецтва: «...і волаты зніклі, // Здрабнелі эпохі, героі звяліся. — // Пігмеі змянілі тых продкаў вялікіх», а з хвалёным прагрэсам яшчэ памножыліся эгаізм, бессардэчнасць («і мэты мізэрныя, буднія мэты!»), ганебна распладзілася славаблуддзе для прыкрыцця спекулянства, накапляльніцтва, геданістычнага паразітавання «вялікіх» за кошт уціску і абрабавання «меншых» («Плачуць адныя няўцешна слязамі, // Каб іншыя болей яшчэ весялелі»).

Увогуле трэба адзначыць, што лірыка В. Каратынскага па сваёй існа хрысціянскай экзістэнцыяльнай глыбіні і «родапачынальным» прарыве да высокай творчай культуры займае унікальнае месца ў тым «лабараторным» стане складвання нашай новай мастацкай традыцыі, застаючыся ўсё яшчэ па-сапраўднаму не прачытанай і як след тэарэтычна не інтэрпрэтаванай літаратурнымі гісторыкамі.

У непасрэдным сэнсе патрабуюць навуковай расшыфроўкі першынцы ўласна нацыянальнай творчасці сярод «полілінгвістычнага» па сваіх накірунках тагачаснага літаратурнага руху. Так, у згаданым яго беларускамоўным шэдэўры «Туга на чужой старане» мы застаём амаль аголеную «лабараторыю» ў непасрэдным сэнсе выплаўлення з прастамоўна-дыялектнай руды ўжо дастаткова ў стылявых адносінах выдзеленага «лірычнага слоўніка», як важнейшай прадумовы родавага ўсталявання паэзіі ў сваёй лірычнай прыродзе. Хоць фальклорная эстэтыка, на якую нашыя пачынальнікі беспамылкова арыентаваліся як на зыходную крыніцу адраджэння нацыянальнай літаратуры, па-свойму ўжо паклапацілася аб нарыхтоўцы вобразных сродкаў з уласцівым для яе арсеналам пастаянных эпітэтаў, антрапаморфнай метафарызацыі выразаў, памяншальна-ласкальным прыпадабненнем лексікі пад лірычна-стылявы яе пласт і няблага распрацаваных рытарычных фігур экспрэсіўнага сінтаксісу, — аднак у вершы В. Каратынскага мы назіраем ва ўсім ужо навізну прафесійнай паэзіі, поўнае пераплаўленне гэтых «каштоўных» фальклорных россыпаў «у адзінстве і цеснаце рытмараду» дысцыплінаванай сілаба-тонікі, нарэшце, відавочную «ўзгонку» прастамоўна арыентаванага слова на падвышаны стылявы ярус, шляхам вырошчвання ў ім ці, прынамсі, яшчэ большага пашырэння пераносных, менавіта лірычных адценняў. Вось той «лірычны элемент» у вершы «Туга на чужой старане», які сваёй частотнасцю ў тканіне твора літаральна пераўтварае самую па сабе бытавую фабулу з яе вясковымі рэаліямі ў дзівосную па эмацыйным уздзеянні лірыку, што па яшчэ пачатковасці формаў і па сёння палоніць шчымліва безвыходнай настальгіяй нацыянальнага чытача: «Ой, саколка, ой, галубка!», «мая любка», «тошна», «старана», «зямліца родная», «сардэчны край», «гукаю», «адгалосак», «дзяўчаткі на вячорках // Словейкам радным», «красен цвет-тым'ян», «на свабодзе», «быў вясёл і дзік», «кветкі», «аконца», «чоран... свет», «сіраціна», «хараміна-чужаніца», «ад зарыцы да зарыцы», «у чыстым полі», «мілай стараны», «не судзіла горка доля» і так нярэдка аж да суцэльных кантамінацый пастаянных тропаў і народных выразаў: «Саколачка, галубочка! // Хочаш мне памоч? // Дай маё мне, дай сялочка — // Туга пойдзе проч».

Вядома, тканіна ўласна-аўтарскай мовы ў тым стане яе выбаўлення з вусна-дыялектнай стыхіі яшчэ спрэс пярэсціць грубымі сродкамі фальклорнай «лірызацыі»: «У сэрцы аж гудзе», «душа ліпне к ім», «як ад мёду п'ян», «я адзін як кол», «туга кроў мне п'ець», і лірычны герой у сваіх сардэчных пачуццях паўстае прыбраным у вобразныя «шаты», сатканыя з надта агульных народных антрапамарфізаваных параўнанняў: «Як дубочак маладзенькі, // Гібкі проста віць, // З воч маланка вылятае, // Кроў агнём кіпіць!».

Але сакрэт і проста дзівосны мастацкі эфект ранніх беларускамоўных паэтычных узораў В. Каратынскага ў тым, што яго суцэльна кантамінтаваныя нярэдка з фальклорных стэрыатыпных тропавых сродкаў і прыёмаў вобразы зусім не здаюцца мастацкім прымітывам, як не вельмі кідаецца ў вочы літаратурна-кніжная неўнармаванасць сінтаксічнай будовы, правапісу і вымаўлення, бо пераадольваюцца высокаструктурным вершам сілаба-тонікі і незвычайным багаццем медытатыўна ўзнёслых лірычных інтанацый гэтага на здзіўленне сталага для свайго часу майстра паэтычнай тэхнікі.

Да таго ж перад пачынальнікамі новай беларускай літаратуры, якім выпадала распачынаць мастацкую традыцыю з высокаўмоўнага роду паэзіі, паўставала нялёгкая задача выраблення (па сутнасці ў адным пакаленні) нацыянальнай прасодыі ў яе прастамоўна-дыялектным стане пад інверсійна распрыгоненае сілаба-танічнае вершаскладанне. Дарадцам тут не маглі прыдацца задзейнічаныя ў «полілінгвістычным» тагачасным літаратурным працэсе хай сабе і роднасныя паэтычныя традыцыі: ні польская з-за пераважна сілабічнай тэндэнцыі паводле спецыфічна фіксаванага націску яе прасодыі, ні нават найбольш набліжаная па характары сілавога (квантытатыўнага) націску руская, што істотна рознілася з па-складовым беларускім — сваім паскораным па-тактавым тэмпарытмам.

Але В. Каратынскі ўжо меў прад сабою пэўныя тэарэтычныя распрацоўкі па беларускай прасодыі Яна Чачота, плённа скарыстаныя ім у сваёй беларускамоўнай паэзіі. У прадмове да выпуску «Сялянскіх песень з-над Нёмна і Дзвіны» 1846 года ён, побач з параўнальнай з суседнімі мовамі характарыстыкай «беларускага (крывіцкага) дыялекту», у прыватнасці, даваў цікавыя рэкамендацыі па нацыянальнай версіфікацыі: «Як кожная мова, чым менш яна апрацавана і звязана правіламі, тым больш падатлівая да вершаскладання, так і крывіцкая. Паэт не меў бы тут клопату з колькасцю складоў: ёсць самыя паслужлівыя *да, дый, дэй, ды, дэ, дык...* бо іх можна тры разы без забароны дабаўляць у адным радку... і ўсе словы, пры якіх ёсць прыназоўнік *у*, можна вымаўляць на адзін склад меней або болей». Слушныя парады Я.Чачота і адносна свабоды рыфматворчасці ў пачынальны перыяд («кожная [рыфма], якая надарыцца, пойдзе ў справу»), бо перад паэтамі ляжаў суцэльны аблог «незацяганага» літаратурнай традыцыяй слова, а фальклорны густ дазваляў яшчэ самы шырокі спектр рыфмоўкі — ад «прыблізнай» да «дакладнай», вытанчана «асананснай» і г. д.

І можна сказаць, што ў дасканала выробленай з мастацкага боку паэзіі В. Каратынскага нацыянальная прасодыя аказалася ў асноўным узгодненай, «скаронай» пад сінтаксічна раскаваную кадэнцыю сілаба-тонікі. І гэтае важнае рытмічнае дасягненне датычылася не толькі ўласна беларускага верша. Законы, у літаратальным сэнсе энергію лёгкага сілаба-танічнага рытму, як і напеўную інтанацыю кароткарадковага народнага верша, паэт цалкам пераносіць і ў сваю польскамоўную творчасць, як гэта мы вышэй назіралі на віртуозна выкананых паводле фальклорнай метрыкі танічных ці ўжо цалкам сілаба-танічных вершах «Сваты», «Пасля сватання», «Сірата», «Сон наяве» і інш.

І хай сабе пры пачатковым стане нашага прыгожага пісьменства лірыка В. Каратынскага ў сваім пакутлівым разрашэнні балючых праблем рэчаіснасці і экзістэнцыйным роздуме над яшчэ болей пякучымі «вечнымі тэмамі» годна ўзвышалася ўпоравень з сучаснай яму філасофскай паэзіяй Я. Баратынскага, пазней Ф. Цютчава, і проста вымагала надзвычай высокай мастацкай тэхнікі і паскоранай распрацоўкі самой творчай практыкаю родава-жанравай сістэмы новаадроджанай літаратуры. У яго паэзіі мы назіраем выдатнае валоданне мастацкай тэхнікай у абраных улюбёных жанрах і рытмічных памерах. Паэт свабодна карыстаецца цяжкімі і рэдкімі формамі, напрацаванымі дагэтуль сусветнымі паэтычнымі «школамі». Так, напрыклад, у вершы «Да Фелікса О. (На смерць яго жонкі)» найскладанейшы ў яго трансцэндэнтнай бязмежнасці змест паэт сумеў

укласці ў строгую санетную форму, толькі злёгку распрыгоненую разгорненымі сямірадковымі страфоідамі. Адпаведна і ў вершы «Сваты» літаральна ў «пракруставае ложа» месціцца любоўны свет-сусвет трапяткіх парыванняў маладых сэрцаў. Дысцыпліна яго фармальнага выканання да таго ж ускладнёная пяцірадковай будовай страфы, дзе парная рыфмоўка дадаткова кампазіцыйна павязана рамачнай рыфмай: «Па цясовым мосце // Едуць, едуць госці. // Павітайся, // Запытайся: // Хто вы, ягамосці?».

У паэзіі В. Каратынскага, зрэшты, дзівіць нават не яе адмысловая тэхніка, а перш за ўсё не стрыманая ніякімі фармальнымі прыёмамі свабода выказвання думкі. Рэдкае багацце паэтычнага слоўніка, выпрацаванасць аўтарскай мовы і ўжо развітае ролевае выкарыстанне «лірычнага героя» дазваляюць паэту, па сутнасці, у стане яшчэ родава-літаратурнага сінкрэтызму выказвацца з натуральнасцю лірычнай споведзі.

Нас не павінна ўражваць непрадбачана дасканалая для таго літаратурнага ўзроўню мастацкая культура В. Каратынскага, бо паэт, калі меркаваць па яго унікальным «Каментарыі» да паэмы «Таміла», выявіў сябе надзвычай арыгінальным, а па завершанасці самой эстэтычнай сістэмы, выключна сталым тэарэтыкам літаратуры. Загадкай толькі застаецца, з якіх крыніц у Сыракомлевым культурным асяродку, фактычна рупнасцю настаўніка і вучня «сабралася іх зусім энцыклапедычная дасведчанасць аб дасягненнях сусветнай эстэтычнай думкі і выспела здзіўляючая да гэтай пары сваёй самастойнасцю «школа» нацыянальнай эстэтыкі.

У «Каментарыі», напісаным з нагоды палемікі ў польскім друку крытыка М. Гарбоўскага аб сацыяльнай «тэндэнцыйнасці» як антыподзе «мастацкасці», В. Каратынскі выяўляе самае непасрэднае знаёмства з, відаць, найболей блізкай яму сваёй дэмакратычнай платформай рускай крытыкай (гл. яго тэзіс, амаль па М. Г. Чарнышэўскаму: «Што праўдзівае, тое прыгожае ў мастацкім сэнсе»), з нямецкай эстэтыкай (пра якую аброніць прызнанне як аб «выцуглянай з усялякай аброці нямецкай філасофіі»), нарэшце, з найбольш уплывовай у польскай літаратуры французскай крытыкай, на якой ён не толькі адточвае свой эстэтычны густ і канцэпцыю, але і вядзе найперш прынцыповую спрэчку да поўнага непрымання яе ўпадніцкіх мадэрных плыняў.

Абараняючы высока жыццёвую змястоўнасць літаратурнага твора, ці яго тэндэнцыйнасць, у тагачаснай тэрміналогіі, у якасці прадумовы паўнакроўнага мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, беларускі эстэтык высоўвае настолькі знішчальна абгрунтаваныя аргументы супраць мастацтва-забавы, як пустамастацтва, якія нам не сорам прыцягнуць да сённяшняй раз'юшанай прапаганды «гульні ў мастацтва», што на гэты раз выступае пад уседазваляльнай філасофскай мімікрыяй постмадэрна.

Эстэтычная спадчына пачынальнікаў не абрачоная «на архіўнае спісанне», вынайдзеная ў стане эмерджэнтнага высільвання думкі, яна і па сёння захоўвае значэнне кодава-аберагальнага канона, духоўна-эстэтычнага ідэалу, якім абавязана маральным здароўем уся наступная гісторыя айчыннага прыгожага пісьменства.

«Як цела без душы толькі груда зямлі, — даводзіць пачынальнік нацыянальнай эстэтыкі, — так і мастацкі твор без тэндэнцыі, без асноўнай мэтанакіраванай думкі ўсяго мёртвы злепак, фарфоравая статуэтка з ярка намаляванымі шчокамі. Ад «Іліяды» да «Валенрода», ад «Страчанага раю» да «Мёртвых душ», ад Фідыевага «Юпітэра» да «Узнясення Хрыста», ад «Рэквіема» Моцарта да «Паланеза» Агінскага — усе творы маюць сваю тэндэнцыю, хоць не кожны зможа яе ўбачыць».

Тэндэнцыя, па сцвярджэнні аўтара, гэта ўвогуле «імкненне да праўды, у тым ці іншым кірунку, гэта цэнтр, асноўная думка, душа твора». В. Каратынскі разглядае мастацтва як кандэнсаваную сродкамі эстэтычнага мадэлявання «другасную» рэальнасць, асноўная генератыўная роля ў якой зноў жа адводзіцца тэндэнцыі.

«Тэндэнцыя звяртаецца да пачуцця, — раскрывае далей гэты вобразаўтваральны пачатак мастацтва аўтар, — каб схіляць да прасякнення *Праўдай жыцця*, якая разбеглася на тысячы праменьчыкаў, пульсуе ў рэчаіснасці жыва, хоць і прыхавана. Сабраная ў адзін фокус творам мастацтва, яна бачна, як на далоні. Таму няхай што хочуць гавораць пра мастака, творчасць яго — гэта лінза, што кандэнсуе промні думак сучаснага яму свету».

У гэтым па-сапраўднаму сістэмным трактаце па эстэтыцы не перастаеш захапляцца дакладнасці азначэнняў, у якіх з дапамогаю трапных вобразных аналогій аўтар фармулюе важнейшыя мастацкія паняцці, над вырашэннем якіх яшчэ і цяпер карпее тэарэтычная думка. «Геніяльнасць, — ва ўяўленнях беларускага тэарэтыка мастацтва, — гэта чысціня і збіральная моц лінзы, арыгінальнасць — гэта колер шкла, з якога яна зроблена, колер, які больш добра або дрэнна фарбуе белыя думкі народа, папулярнасць — гэта вынік яднання мастака са сваім народам, вынік думання яго думкамі, адчування яго адчуваннямі». «Праламляльная здольнасць» пісьменніцкай творчасці, паводле аўтарскіх дыскурсаў, павінна ўспрымацца ў дыялектычнай узаемасувязі з жыццёвай і мастацкай рэальнасцю. Па В. Каратынскаму, мінулае народа і яго сучаснасць мастак павінен параўноўваць з думкай таго ж народа, памкнёнай у будучыню, і розніцу паміж імі адлюстроўваць у сваёй працы, як у люстэрку. Так мастак, канцэнтруючы ў сабе думку шырокіх колаў пра будучыню, дамагаецца грамадскіх рэформ, карыстаючыся дзеля дасягнення сваёй высакароднай мэты ўсімі сродкамі, без іх карыкатуравання, каб выклікаць сімпатыі або непрыязнасць.

Тэзіс «вечна жывой праўды», супрацьпастаўлены «мастацтву дзеля мастацтва», для В. Каратынскага не толькі палемічная пасылка. Яму як паэту вельмі важна асэнсаваць рэальнасць праўды ў плане самой творчай псіхалогіі. Вось чаму ў сваю эстэтычную аксіяматыку ён уводзіць у якасці абавязковага, вызначальнага пастулата — *сумленне мастака*, што ў канчатковым выніку, па меркаванні аўтара, і ёсць «неўсвядомленая тэндэнцыя».

Такую развітую мастацкую тэорыю з распрацоўкамі самага працэсу трансфармацыі жыццёвай рэчаіснасці ў рэальнасць літаратурнага твора, да таго ж з заглыбленнем у мастацкія з'явы з боку іх працэсуальнай інтэрпрэтацыі, праз самую псіхалогію творчасці, мы бадай упершыню назіраем у тагачаснай эстэтыцы.

Абарона тэндэнцыйнасці як ідэйна-філасофскай, урэшце, грамадзянска-сацыяльнай значнасці мастацтва ў вачах В. Каратынскага набывала праграмны характар для новай беларускай літаратуры, што накрэсліла на сваіх скрыжалях справу народнага заступніцтва і нацыянальнага адраджэння. Наш паэт вельмі занепакоены адыходам многіх польскіх пісьменнікаў-сучаснікаў ад грамадскіх, увогуле жыццёва-філасофскіх праблем у сваёй творчасці. «Нават людзі з незвычайным талентам, — зазначае са скрушлівай іроніяй аўтар, — калі даходзіць да пісання вершаў, здаецца, уцякаюць ад мыслення. Іх творы нібы тыя жанравыя карцінкі, дзе ў адной кучы з усім багаццем каларыту і фантазіі намаляваны пучок пятрушкі, галоўка капусты, бохан хлеба, заяц, курапатка, кумпяк і язык — падсунься толькі і аплятай, але не болей».

Узняць голас нашых, яшчэ нешматлікіх нацыянальных адраджэнцаў за вялікую маральна-духоўную адказнасць перад грамадствам прымушаюць яшчэ больш негатыўныя з'явы, якія ўжо тады пачалі даваць знаць аб сабе ў сусветным мастацтве. Пра якіясьці небяспечныя зрухі ў царстве дагэтуль «прыгожага пісьменства» папярэджваў наш паэт: «Калі мастак, хочучы ўзняць нашы пачуцці любоўю да прыгожага, намалюе нам жабу, то хоць ён залатымі літарамі падпіша, што гэта хараство, ніхто гэтаму не паверыць; калі, хочучы зняславіць распусту, пакажа яе так, каб паказытаць нервы, задума яго не будзе дасягнута». Далей па тэксце гэтае сімптаматычнае папярэджанне адрасуецца непасрэдна польскай паэзіі, што, па словах аўтара, некалі выбаўленая «вялікімі песнярамі з абдымкаў галаслоўнай

класіцысцкай *рыфматворчасці*, у апошні час ізноў пачынае лічыцца забаўкай». Такі стан ён ацэньвае не іначай, як «звіхнутае адчуванне паэзіі ў наш час».

Трывога В. Каратынскага стане зразумелай, калі прыняць пад увагу, што ён быў сучаснікам «узыходжання» на літаратурную арэну французскага дэкаданса ў асобе «праклятага паэта» Ш. Бадлера, які ў змрочна памятнай кніжцы «Кветкі зла» (1857) з якойсьці дэманічнай апантанасцю бессаромна выплюхнуў на грамадскі агляд антыэстэтыку разбэшчанасці, багаборства, апявання «безбацькоўскага кахання», пачварнасці і жахаў жыцця. Лічыцца, што бунт супраць усялякіх нораваў адчайнага француза быў выкліканы паражэннем рэвалюцыі 1848 года, на баку якой ён выступаў як абаронца абяздоленых і апраўдваў свой амаралізм як сродак барацьбы з абывательскай капіталанакапляльніцкай культурай і ладам жыцця Захаду. Не забудзем, што ў змрочным сузор'і ідэолагаў дэкадансу быў і Ф. Ніцшэ, што пад сатанінскім лозунгам «смерці Бога» павёў адкрытую барацьбу за вызваленне ад богаўстаноўленых маральных запаветаў для зямной цывілізацыі, якое звар'яцелы багаборца выдаваў за «аслабленне спрадвечных жыццёвых інстынктаў» дзеля ўзрастання ролі інтэлекту і культывавання ідэі звышчалавека, што знайшла неўзабаве сваё практычнае выпрабоўванне ў ідэалогіі фашызму.

В. Каратынскі спяшаецца папярэдзіць аб небяспецы як спадкаемцаў любых французскіх навацый — польскіх літаратараў, бо ён ужо заспеў на іх глебе падобную кветку адкрыта дэкляраванага амаралізму ў асобе С. Пшэбышэўскага, раманы якога «Заўпакойная меса», «Дзеці сатаны» і літаратурна-крытычнае эсэ «Да псіхалогіі індывідуалізму» (Т. 1 — «Шапэн і Ніцшэ»; Т.2 — «О. Хансон») набылі славу злавеснага выкліку хрысціянскай цывілізацыі і папярэдніка сучаснай пошасці постмадэрнізму з яго агрэсіўным дыктатам усёдазволенасці «без берагоў».

Без папярэдняга разгорнутага аналізу эстэтычнай сістэмы В. Каратынскага, супрацьпастаўленай, з усёй відавочнасцю, хваравітым праявам тагачаснага мадэрна, як і разгадкі, можна сказаць, узорных для пачатковага стану дасягненняў яго лірыкі немагчыма па вартасці ацаніць і сам унікальны тып творчасці паэта, сцверджаны ім на сінтэзе (ці, прынамсі, на сумежжы) розных творчых метадаў. Адносіны да існаваўшых падыходаў да жыцця паэт з усёй пэўнасцю выкажа на гэты раз у спецыяльным крытычным абразку пра асабліва шанаванага ім Ігната Крашэўскага: «Адны паказваюць нам рэалізм брудны, як сцірка, другія вымыты і выпрасаваны», ды ўсё гэта, паводле аўтарскай канцэпцыі мастацтва, не мае дачынення да «сапраўднага мастацкага твора».

У свой час захопленая крайнасцямі крытычнага рэалізму, а пазней хай сабе і спалучаным з ім так званым пераўтваральным рамантычна-рэалістычным метадам (з поўным адмежаваннем ад сентыменталізму як носьбіта пасіўных, абстрактна-гуманістычных адносін да жыцця), эстэтыка ўжо пачынала губляць існую перспектыву літаратурнага развіцця ў яго важнейшым аспекце — шматграннасці адлюстравання рэчаіснасці. У той час як для чалавечага духу характэрныя не толькі станы крытычнага погляду на свет ці рамантычных парыванняў сэрца, але і найбольш цанімае намі як стваральны, душаратавальны сродак — спачувальнае, даравальнае, любаснае, сентыментальнае светаўспрыманне, нарэшце, ідэальна цэласныя адносіны да свету (ідылія) аж да ацаляльнага рэзанансу і касмічнай паяднанасці з ім.

Таму ў вытокавай фазе станаўлення новай літаратурнай традыцыі не павінна здзіўляць імкненне, у прыватнасці, у творчым метадзе В. Каратынскага да найбольш поўнага спалучэння, як у сонечным святле, усіх аднолькава значных спектраў светаўспрымання, бо ў паэта гэты сінтэз засноўваўся на асабліва арганічным засваенні хрысціянскай ісціны, у непасрэдным сэнсе ўзнікаў, як мы сёння гаворым, з хрысціянскага экзістэнцыявання свету.

У айчыннага паэта-філосафа гэтая паўната жыццеўспрымання зыходзіла з глыбока любаснага ўсхвалення багастворанага ў Шасціднеў непасціжнага па

дасканаласці і канчатковых мэтах мірыядааблічнага Сусвету. Захопленасць ім у беларускага мысліцеля, пры ўсёй нявырашанасці тагачасных грамадскіх праблем, набывала ў канчатковым выніку універсальную пазіцыю «багавення перад быццём». Пазней у заходняй навуцы з яе прагматычным ухілам гэты падыход мадыфікуецца ў самыя разнастайныя, нярэдка ўзаемавыключальныя «філасофіі жыцця», з якіх найбольшую перавагу па набліжанасці да нашага ўсходнеславянскага светаразумення мы павінны аддаць «этыцы пакланення жыццю». «Пакланенне жыццю, — як зазначае заснавальнік этыкі любасці да ўсяго жывога Альберт Швейцар, — ужо само па сабе абуджае ў нас духоўныя адносіны да свету незалежна ад якой бы ні было сістэмы светапазнання ў цэлым... У ладзе думак, што завецца пакланеннем жыццю, мы набываем светапогляд, які самім сабой матываваны, валодае непасрэднымі этычнымі адносінамі да свету. У кожнае імгненне, калі мы задумваемся над самім сабой і над навакольнай рэчаіснасцю, гэтае светаразуменне абнаўляецца ў нашых душах». Цяпер нашы адносіны да свету, — сцвярджае далей філосаф, — плён не пазнання, а непасрэднага ўспрымання яго, перажыванне. «Любы ж роздум, бясконца накіраваны ў глыбіню, вядзе ў канчатковым выніку да трансцэндэнтнай этыкі».

Такім чынам, у нашым культурным руху ўжо XIX стагоддзя, як гэта надараецца ў эмерджэнтны перыяд закладвання нацыянальнага класічнага стылю, мы застаём фенаменальнай значнасці з'явы і філасофска-светапоглядные пасталенне маладога мастацтва, якія лягуць глыбокімі падвалінамі эстэтычнага ідэалу новай беларускай літаратуры і, паўтараем, пры ўсёй урыўкавасці тагачаснага мастацкага працэсу, прадвызначаць яго маральна-духоўную вышыню і пераемнасць у наступных літаратурных пакаленнях. І ў дадзеным выпадку лірыка В. Каратынскага сваім унікальным экзістэнцыяльным прарывам у сусветна трансцэндэнтныя планы чалавечага існавання застанецца пэўным узорам хрысціянска-філасофскай паэзіі ў нацыянальнай мастацкай традыцыі. Насуперак упадніцкім тэндэнцыям заходняга дэкадансу, якія беларускі паэт зноў і зноў выкрывае ў сваім эстэтычным маніфесце-каментарыі да паэмы «Таміла», у пачынальніка новай беларускай літаратуры сацыяльнае зло саслоўнай несправядлівасці і маёмаснай няроўнасці знаходзіць вырашэнне, набываючы аптымістычную перспектыву на аснове хрысціянскіх сусветных запаветаў брацтва, усеразрашальнай Любасці і вялікаснага прызначэння чалавека ў вечнасці (паводле ягоных слоў, «да нябесныя мэты народаў»).

З аднаго боку, многія і многія старонкі сваёй творчасці паэт прысвячае выкрыццю сацыяльнай несправядлівасці: «Чалавек мяне азмрочыў: // Ломіць розгі, б'е ён брата!» (верш «Бярозка»). У баладзе «Галодная пара» адмову распешчаных ад раскошы багацеяў падаць міласціну жабраку, што памірае ў час вясновай бясхлебіцы, паэт па высокапатрабавальным хрысціянскім законе называе «братазабойствам», за які давядзецца несці адказ на «апошнім... страшным прысудзе».

У сваім і жыццёвым, і грамадзянскім пакутлівым роздуме пра палярна саслоўнае становішча тагачаснага грамадства паэт усё болей прыходзіў да пераканання толькі аб канчатковым богаправідэнцыяльным разрашэнні сацыяльнай справядлівасці на зямлі. Менавіта з гэтых пазіцый можна вытлумачыць твор «Выдуманая гісторыя», у якой аўтар зноў жа сродкамі фальклорнай кантамінаванай кампазіцыі («У нашага пана маляваны двор») ствараe вобраз прагрэсіўнага землеўласніка, у якога «павага людская», і «люд не ў ярме», «без драных світ», «жабрацкія песні не гучаць здавён», замест разабранай карчмы «шпіталь для калек ёсць», куды «не прыдзе туманіць нас заморскі госць», і далей дакляруюцца іншыя дадатныя якасці, каб высокамаральнымі прыкладамі выкрыць нялюдскія законы і норавы прыгону.

У папулярным для свайго часу ў народнай аўдыторыі творы «выпіў Куба да Якуба (нараджэнне, спакуса і сухоты гарэлкі)» паэт таксама адзіную надзею ў барацьбе з гэтым спрадвечным злом ускладае на хрысціянскае выпраўленне нораваў, каб шляхам пашырэння ўстрыманасці на вёсках павесці выкараненне

траістай хваробы п'янства (як «шкоднай звычкі, маральнага адранцвення і матэрыяльнай беднасці»).

Між тым мы ўжо неяк зусім пачынаем забываць, што светапоглядная аб'ёмнасць творчага метаду пісьменніка ў непасрэдным значэнні задаецца філасофскай вышынёй эстэтычнага ідэалу, які ў В. Каратынскага засноўваецца на асабліва глыбокім хрысціянскім разуменні чалавека як «вобраза і падабенства Божага», узрошчваннем, зрэшты, аднаўленнем якога дасягаецца існае маральнае самаўдасканаленне і выпраўленне нораваў роду людскога.

Па высока экзістэнцыяльным кодэксе паэта, «варты памяці вечнай», «хто пабачыў у кожнай істоце змест Божы, // І сэрца, і хлеб аддаваў, каб быў кожны сагрэты», ён «шчасце тым самым у свеце памножыў» (верш «Да Ф. П. Перасылаючы экземпляр «Дэмбарога»). Зразумець усю напружанасць жыццёвага і мастацкага экзістэнцыявання В. Каратынскага, нават крыху адхінуць заслону ў яго псіхалогію творчасці нам, магчыма, дапаможа пранікнёнае выказванне паэта аб сваім незабыўным настаўніку Ул. Сыракомлі-Кандратовічу: «Пры незлічонай разнастайнасці задум і цудоўнасці мастацкай формы, пры ўсё большай ўпэўненасці пяра і глыбіні рэфлексіі дух у яго творах заставаўся заўсёды адзін — дух ціхай, хвалюючай, глыбокай любасці. У пазнейшых творах, калі ажно цераз край выліваліся жыццёвыя пакуты, калі-нікалі зрываліся з вуснаў паэта ледзь прыкметная іронія або адкрытая балесная скарга і нават заклік да магільнага спакою: «Cupio dissolvi». Ніколі, аднак, Кандратовіч не сплявіў пяро святатацтвам, ніколі не ўсумніўся ў сумленнасці людской натуры і канчатковым трыумфе дабра, ніколі не пайшоў па слядах спапялелага сэрца самалюбаў, якім здаецца, што тым вышэй яны ўзносяцца, чым болей усё прыніжаюць. Скаргам яго неадступна таварышавала даравальнасць, а перажываннем — малітва пра «мудрасць пакутаў». Гэтая вера, гэтая любасць і гэтая надзея таварышавалі яму да магілы, і з-за магілы яны свецяць грамадству».

Як ужо мы рабілі спробу характарызаваць універсальна-трансцэндэнтнае светаўспрыманне і на яго аснове творчы метад В. Каратынскага, апошні не мог не ўяўляць сабой іначай як сінтэзаванне жыцця «як ёсць» з жыццём «па ідэале», недасягальная спалучальнасць якіх можа быць узгоднена, перакрыта прадыктаванымі, мажліва, адзіна духам, сэрцам, багавейнымі адносінамі да быцця, ізноў жа Боскім фундаментальным сусветным законам — Любасцю.

Усім жыццём людскіх пакаленняў пацверджана, што духоўнае наталенне, паўната радасці існавання, гэтае звышняе нізыходжанне дабратворнай энергіі Сусвету даецца нам як мера за меру, у якую мы самі здольныя аддаваць, ахвяраваць, спагадаць, любасна атульваць кожнае стварэнне. Невыпадкова хрысціянская філасофія ўзводзіць Любасць у вярхоўны закон Сусвету, «закон царскі» (У. Лоскі, А. Ельчанінаў), повяззю якога ўтрымліваюцца ўсе касмічныя рэальнасці ад зор да чалавека, такога ж універсумнага цэнтра ў мініяцюры (мікракосма). Менавіта толькі на ўзроўні хрысціянска-касмічнага універсалізму імкнуліся вырашаць «кодавую» праблему эстэтычнага ідэалу нашы пачынальнікі. І без належнага разумення гэтай вызначальнай анталогіі нам цяжка будзе ўвайсці ў сам мастацкі свет В. Каратынскага, якога над усім іншым можна назваць песняром хрысціянскай Любасці. Пачнём з праграмнага твора паэта-філосафа «Любасць:

Дух адзін лучыць гоні сусвету,
Зваць яго Любасць, светлая мара
У квецені буйным, бегах планетных
Дух той спазнае, дух жыццедарны.

Мы і сёння з узвышаным пачуццём навіны адкрываем для сябе паэтаву трактоўку хрысціянскага сусветнага Закона як надсветнай повязі ўсіх ступеняў-узыходжанняў біблейскага Дрэва жыцця, пачынаючы ад «лучнасці сямейкі» і «любасці да краю» да пакутліва жаданай еднасці «люду планеты», што на новым вітку гэтак

супярэчлівага гістарычнага маральна-духоўнага адраджэння сучаснага грамадства, на думку сусветных экспертаў, адзінае ў стане калі не канчаткова выраішыць, дык адвесці ад зямлі пагрозу многіх сённяшніх яе абложных крызісаў.

Філасофія багавейных, любасных адносін да быцця, можна сказаць, скразная дамінанта творчасці В. Каратынскага, нягледзячы на пакутніцкі, пазней выгнанніцкі лёс паэта, «гімнаграфічная» акраса яго паэзіі. «Што каханнем называем, // То шчэ й жыццём завецца», — узнімаецца над усімі жыццёвымі скрухамі філасофская думка паэта ў сімвалічным вершы «Бярозка». У паэтычнай фантазіі «Гутарка з плёскай» аўтар не перастае заглыбляцца ў таямніцы крэацыянізму Божай светабудовы і чалавека як «вянка стварэння». «Рукою усявышняга Пана // Душа ў нас з любові соткана», бо «Бог з нічога у Слове // Любоўю дум сваіх усё стварае», таму і чалавек, у якім «дух Божы», у стане любасці «многа зможа», «ствараючы, ён волата напамінае». В. Каратынскаму, як нікому з нашых паэтаў, было дадзена дакранацца да трансцэндэнтных планаў Быцця, Любасці, Вечнасці, што ён вобразнай сімволікай вытлумачвае ў вершы «Тры праявы»: «Каханне й Жыццё — бліскавіца ў бяздонні: // Таму, хто чуе — адвечнасці покліч…».

Не існуе «цяжкіх тэм» для паэзіі, якая жыве глыбока трансцэндэнтным успрыманнем жыцця. Такое мастацтва, наадварот, знаходзіць у сабе сілы гаварыць з чалавекам тады, калі «быццам ты пахаваны» і нас бяссільна ўжо што-небудзь суцешыць (верш «Да Фелікса О. (Пасля смерці яго жонкі)». І толькі трансцэндэнтнае спасціжэнне планаў быцця, смерці і вечнасці падказвае паэту, што сказаць, чым суцешыць сябра, што «стратаю хворы навекі». У зямным адно вымярэнні «жыццё чалавецтва — рака вечнай далі», зграя хваляў, што «адна на адну набягае, знікае адна і другая». І ў гэтай заварожлівай плыні жыццё чалавека — «то ж кропелька хвалі». Такім несуцешным і здаецца лёс чалавека, калі даверыцца толькі абкрадзенаму, вонкава матэрыялістычнаму погляду на свет. Ды ці ж не прарочыць кожнаму з нас дух кожным уздыхам сваёй боскай прычынёнасці, што мы зусім не згубленая пясчынка ў Сусвеце, а нясём сабой высокую наканаванасць пад небам.

У вершы ва ўсёй праніклівай дыялектыцы веры ў трансцэндэнтны сэнс чалавечага быцця раскрываецца таямнічы, але ж і містычна-спасцігальны пакаленнямі коласварот нараджэння, жыцця і смерці ў вялікасным сусветным узыходжанні нашага духу, паводле хрысціянскай перспектывы, да «богаўсыноўлення», «абажэння». Вось тое адзінае, запаветнае, чым можна суцешыць боль сябра па нябожчыцы:

Што плакаць? Яе тут спыніла
Пад час пераходу між зораў,
Ды мала, хоць чула і міла
Яна на зямліцы гасціла,
Да чыстых пайшоўшы прастораў.
Але людзі з часу зрабілі гадзіны;
Дзе духі, там час невымерны, адзіны.

Творы В. Каратынскага «Любасць», «Да Фелікса О...», «У альбоме» і інш. да гэтай пары хвалююць чытацкую аўдыторыю выраішэннем вечных праблем жыцця, прарывам у свет нязведана трансцэндэнтнага, па вышэйшым рахунку іх належыць аднесці да адкрыцця нацыянальнага тыпу экзістэнцыявання.

Мы не ведаем, у якіх абставінах напісаны верш «У альбом», але фабульныя рэаліі яго памежна драматычныя. Па часе ён папярэднічае твору на аналагічную тэму «Туга на чужой старане», бо ўзнаўляе, відаць, стан уцёкаў з радзімы, пра што выразна сведчаць дэталі: покліч «У дарогу!» выгнання, што «ударыць векам дамавіны», пачуццё поўнай безвыходнасці («тут адчуў — жыццё знікае»).

Ды над трагічным цяжарам абставін у вершы пануе вышэйшы план трансцэндэнтнага экзістэнцыявання, на які настройваецца лірычны герой — аўтар, каб

«Сэрцам, подыхам адзіным, // Думкай брацъ *Сусвету* змогу» (курсіў. — **А. Я.**). Выбаўленне з безвыходнасці пачынаецца аблашчанасцю паэтавай душы гаючымі павевамі роднай прыроды («сонца весняга пагляды») і сардэчнай прыгарнутасцю на шляхах бежанства блізкім чалавекам, у кім сустрэў найбольшую, па хрысціянскіх мерках, духоўную падтрымку — *паразуменне*, *спагаду*, *выбачэнне*, што, урэшце, і вяртае лірычнаму герою «цеплыню, святло», трыванне ў абставінах, зноўку ткаць «з шаўкоў… надзеі», адраджацца вераю «у шчасце ўласнае, людское». Нездарма даўгавечнай мудрасцю засведчана, што ў сэрцы, гэтым цэнтры нашай духоўнай экзістэнцыі, сыходзяцца сусветы, менавіта ім адольваецца ўлада абставін, зрушваюцца горы:

Хай жа паўніцца ў адчаі
І ў лагодзе, што жывая
Есць яшчэ душа, якая
Разумее, прабачае.

На дарогах лёсу лютых
Той старонкай зірк прыкуты
Дзе быў сонцам прыгарнуты,
Быў суцешаны ў пакутах.

Так у Сыракомлевым, рэдкім па тым часе высокакультурным асяродку, у якім вучань Каратынскі ў вершы-прысвячэнні свайму слыннаму настаўніку «Уладзіславу Сыракомлі» спадобіць сябе «малечцы» ластаўцы пад магутным крылом бусла, спрадвечнага архетыповага сімвалу беларускай вёскі, пачынаў глыбока выяўляцца нацыянальны тып экзістэнцыявання, што служыў надзейным «падвалінным», менавіта духоўна-хрысціянскім забеспячэннем эстэтычнага ідэалу новай беларускай літаратуры.

З засваеннем экзістэнцыйнай культуры, што ў існым сэнсе разумення ўяўляе прарыў з побытава-абыдзенага існавання да вызначальна трасцэндэнтных рэальнасцяў быцця (ад нараджэння праз усе «пагранічныя» жыццёвыя станы да смерці і пераходу ў вечнасць), нацыянальнае мастацтва набывае агульначалавечую глыбіню без боязі выяўлення «безданяў» жыцця і пакутлівых «вечных тэм», на аснове біблейскага праведыянцыялізму вырашаючы перспектыву чалавека, гісторыі і Сусвету. З заснаваным на высокапатрабавальнай хрысціянскай духоўнасці эстэтычным ідэале маладое нацыянальнае мастацтва набывалаісную аб'ёмнасць у выяўленні жыцця, а галоўнае маральнае здароўе, высокую ідэальнасць, што ўжо само па сабе засцерагала яго ад упадніцкай пошасці дэкадансу, з якім гэтак рашуча размежаваў мастацкія пазіцыі В. Каратынскі ў сваім эстэтычным маніфесце.

Аб унікальным творчым метадзе паэта, заснаваным на нацыянальна заглыбленым хрысціянскім светаэкзістэнцыяванні, найболей сведчыў, можа, самы трагічны твор тагачаснай літаратуры — паэма «Таміла», якой невыпадкова папярэднічаў падзагаловак «Абразок з народнага жыцця» дзеля надання хоць пэўнай верагоднасці гісторыі невераемнага змагання з нястачай, злачыннага абкрадання і жудаснай смерці галоўнага героя. Ды паводле «рэалістычна-ідэальнага» творчага метаду паэта, трагічнае фабульнае дзеянне твора не толькі па-філасофску ўзбуйнена аўтарскімі адступленнямі, папярэджаннямі пра непазбежнае выраджэнне роду людскога на шляхах прыгнёту, капіталанакапляльніцтва і саслоўна-маёмаснай палярызацыі грамадства, але, што асабліва істотна з мастацкага боку, прасветлена трэцім сюжэтным планам уступу, танальнасцю незвычайнага настальгічнага перажывання лірычнага героя ад сустрэчы з Радзімай. Незабыўная гэтая плынь аўтарскай свядомасці ўступнага раздзела, што сваім элегічным і ўсё ж узнёслым «водсветам» перайначвае катарсіснае ўспрыманне трагедыі твора. «Чужынай апёкшыся, зведаўшы беды, // Іду я спачыць пад страхою з саломы», вар'іруецца настальгічным акордам «Божа мой, Божа! Хапіла б мне сілы // Дагледзець карціны роднага краю. // Хаткі ўсё тыя ж ліпяць на падпорах, // Аконцамі жальбы глядзяць на раздолле», ды над усім гэтым раптам запаноўвае, перакрывае скруху аб сялянскай бядотнасці і ўбостве спаконна ідылічнае ўспрыманне вясковага жыцця, як Божага благаславеннага наканавання земляробу

ў поце чала здабываць хлеб свой. І мы застаёмся з аўтарскай упэўненасцю, што хоць «зло не знікае, як з ветрам мякіна», «сардэчная вёска», зрошчваючы «потам надзеі палоскі», да скону веку «ніву дабра засяваць не пакіне».

Перад літаратурай, што ў новых умовах аднаўляла сваю колішнюю, славутую між народамі, мастацкую традыцыю, паўставалі надзвычай адказныя і грамадзянскія, і спецыфічна прафесійныя, і ў цэлым звышнапружаныя адраджэнскія задачы. У разуменні паэта панесці іх зможа перш за ўсё *нацыянальна* адроджанае пакаленне. Традыцыйная калыханка пад яго пяром ператвараецца ў своеасаблівы праграмны твор. У вершы «Над калыскай» аўтар не збіраецца закалыхваць залатымі салодкімі снамі маладое пакаленне. Калыханка В. Каратынскага — гэта перш за ўсё напамінак немаўлятку пра хуткаплыннасць бестурботнай дзіцячай пары, што не забавіць прамільгнуць пералётнай птушкай, і жыццё запатрабуе яго маладога розуму, рук і сіл даастатку. Заўважым гэтую «новую» хрысціянскую ноту ў паэзіі пачынальніка, у якога на змену адвечнаму плачу аб будучай нядолі чалавека прыходзіць выхаванне пачуцця абавязку, загартоўвання на пажыццёвае трыванне, мужнае адоленне нягод у пранясенні наканаванага крыжа. Гэты покліч да пажыццёвага падзвіжніцтва ў вершы мусіць быць павучальны і для сённяшняга, аслабленага аблегчаным цывілізаваным існаваннем пакалення:

Рукі звіснуць у адчаі,
З правых не сыходзь дарог!..
Можа, будзеш у нядолі
Лахмана не мець ніколі,
Каб прыкрыць хоць крыху цела.
Толькі колькі сілы стане,
Нішчы наракання лёх!..

...Магчыма, у цяжкай долі
Мець не будзеш хлеба, солі
Ад урокаў, ад паводкі.
Хоць ад слёз растануць росы,
З ног не падай ад знямог!

А завяршэнне гэтых духоўных запаветаў маладому пакаленню вар'іраваным рэфрэнам «Бога кліч, ён літасць мае, // Неба сілы дабаўляе, // Там ласкавы Бог» — зноў жа яскравае пацвярджэнне аб станаўленні эстэтычнага ідэалу з самога яго вытоку на непераўзыдзеным у сваёй вышыні хрысціянскім светабачанні і экзістэнцыяванні.

Матыў гартавання маладых сіл для нацыянальнага адраджэння працягваецца ў вершы «Новы год», дзе зноў жа касмічным правідэнцыяльным поглядам («мкнецца рака людская», а мы «ў чоўне вандроўнікі ў горы») асвячаецца шэсце пакаленняў, галоўны наказ якім — мужнасці і трывання ў пераадоленні жыццёвых пакут і перашкод:

Юным плячам і волі
Простыя ўсе дарогі.
Сёння пакут даволі,
Заўтра адчай знямогі,
Зрэшты — вянок перамогі...
Будзь жа, наш год, пражыты!
Слаўся, юнак імпэтны, —
Далі твае з блакіту!
Лаўрамі будзе сагрэты
Той, хто дасягне мэты.

Паводле духоўных імператываў В. Каратынскага, зарукай гэтак жаданага нацыянальнага адраджэння паслужыць Любасць, адзіна здольная прывесці да

новага яднання «народа як сям'і»: «Цудаў без любві не будзе», «Дай любоў нам, дай жа, Божа», «Жар жыцця жывога дай, // Каб сагрэць увесь наш край!» (верш «Песенька»).

У Максіма Багдановіча, ужо з вышыні новай хвалі так званага нашаніўскага адраджэння мы бачым пэўную недаацэнку родапачынальнага перыяду новай беларускай літаратуры, калі ён пра 80—90-я гады, у сувязі з разглядам творчасці Янкі Лучыны, меркаваў, што «ніякага колькі-небудзь прыкметнага беларускага руху тады і ў паміне не было».

Зразумела, што літаратурны працэс у тых умовах працякаў своеасабліва, і ў гэтай адметнасці яго праяў варта бачыць не толькі слабыя, але і плённыя бакі, назіраць жывую плынь па-свойму паўнакроўнага літаратурнага жыцця. Няхай не існавала яшчэ прафесійнага статуса літаратара, не было нацыянальнай журналістыкі з яе заказамі пісьменніку, які нярэдка працаваў па-аматарску, у поўнай культурнай ізаляванасці, пазбаўлены ўзаемасувязей, парад, падтрымкі сабрата па пяры, культуру творчасці выпрацоўваў самадзейнымі высілкамі «па ўзорах» сусветнай класікі. Але затое літаратурны працэс не ведаў засушлівай нівеліроўкі тэматыкі і стыляў, калі кожная ўдалая знаходка, жанравая «навіна» рабілася вельмі хутка ўзаконеным стэрэатыпам, заяўкай на літаратурную моду. Кожны нёс плён свайго шматгадовага жыццёвага роздуму, свае тыпы і тыповыя абставіны, выяўляў сваю мясцовасць і яе адметныя характары. Цяжка пераацаніць, наколькі важная была гэтая самастойнасць пошукаў разгорнутым фронтам і прадстаўніцтва ўсіх рэгіёнаў пры закладванні падвалін і выпрацоўцы зыходных форм нацыянальнага мастацтва. Вось чаму кожны з пачынальнікаў — заўсёды новая творчая індывідуальнасць з цэлым светам, колам сваёй праблематыкі, з суцэльным лексіконам свайго каларытнага мясцовага слова.

Літаратурныя кантакты ў нашым сённяшнім разуменні тады, безумоўна, надараліся радзей, з нейкай важнай нагоды, але тым болей значнымі і змястоўнымі былі іх праявы. То была кожны раз падзея, перш за ўсё духоўнае, глыбока творчае суразмоўе і яднанне нацыянальных пасіянарыяў, якое ўжо губляе сілу пры звыклай паўсядзённасці гэтых сувязей. Здаецца, нязначная падзея — сустрэчы з паэтам-віцяблянінам Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім падчас яго падарожжа ў 1858 годзе па Беларусі і памятныя запісы ў ягоным знакамітым «Альбоме», а яны ж літаральна ўскалыхнулі ўвесь край у культурным парыве. Асабліва запамінальны ўшанавальны запіс у «Альбоме» В. Каратынскага на гэтай паверцы адраджэнскіх сіл Беларусі. У яго вершаваным вітанні, можа, упершыню гэтак выразна прагучала нацыянальнае самавызначэнне сваёй «тутэйшасці» на роднай зямлі і ўсведамленне «народа як сям'і». У вершы з праграмнай устаноўкай выкладаецца дэмакратычна-свабодалюбівае крэда і сам хрысціянска-духоўны характар адраджэнскай паэзіі, «дуда» якой «Будзе пець мужыком // Аб Язуску святом, // Аб Матульцы святой, // Аб зямліцы роднай, // Аб сардэчных палёх, [...] // Аб свабодзе людзей». Пасеў песні на роднай мове будзе садзейнічаць збіранню («роўна мухі на мёд») народа, нацыянальнае абуджэнне паэту бачыцца ў палымяным этнічным уздыме («Разагрэецца грудзь, // Як на весну напар»), а А. Вярыга-Дарэўскі ўяўляецца волатам у сваёй адраджэнскай місіі («Прыблудзіў ты сюды — // Як агню ўхапіў»).

У вытокавы перыяд літаратуры мы назіраем разнастайныя праявы грамадскай, літаратурна-крытычнай і эстэтычнай думкі, хоць і асаблівай ва ўмовах яшчэ не разгорнутага літаратурнага працэсу. Літаратурная крытыка ў строгім сэнсе яшчэ не выдзялялася з мастацкіх жанраў і эпісталярыя, была справай саміх пачынальнікаў і ў такім сваім выглядзе ў пару падрыхтоўкі агульнакультнай глебы мела неацэннае, нярэдка праграмнае значэнне.

Пра атмасферу творчых шуканняў, калі ў непасрэдным сэнсе вынаходзіліся эстэтычны ідэал і культура творчасці аднаўленай літаратурнай традыцыі, свед-

чаць мастацкія маніфесты пачынальнікаў, што скразным лейтматывам праходзяць праз творчасць У. Сыракомлі («Лірнік вясковы», «Не я пяю, народ Божы», «Над калыскай»), В. Каратынскага (прысвячэнне А. Вярыгу-Дарэўскаму, «Уладзіславу Сыракомлі», «Каментарыі» да паэмы «Таміла»), В. Дуніна-Марцінкевіча (паэма «Літаратурныя клопаты»), Ф. Багушэвіча (прадмовы да зборнікаў «Мая дудка», «Смык беларускі»), Я. Лучыны («З гісторыі жыцця і песні», «Лірнік вясковы») і інш. Так Беларускі Дудар узнаўляе цэласную панараму адроджанага мастацтва ў вялікай вершаванай імправізацыі «Літаратурныя клопаты», дзе не абыдзены ўвагай многія, сёння ўжо напаўзабытыя імёны тагачаснага культурнага руху:

Нашы сённяшнія творы дышаць сілай новай,
Бо змянілася эпоха і другія людзі,
Паміж дзеяннем і словам прорвы больш не будзе.
У салоны зазірнулі, да сялян у хаты,
Стаўся пераломным годам год пяцідзесяты.
Здабыла літаратура добрую пашану,
Адчуваецца ў творах праўда, усхваляванасць.
Узмацнела ўжо нямала галасоў натхнёных.
А з бунтарскіх думак, ведаў, з упадку, з хаосу
Новае ў літаратуры жыццё пачалося.
Хто заслугі мае ў гэтым, чыю славіць працу,
Справа гэтая не сёння будзе высвятляцца —

пісаў Ян Чачот.

Па сутнасці, у першым па тым часе шырокаахопным аглядзе літаратурная панарама яшчэ разглядаецца ў межах «краёвай» польскамоўнай літаратуры, што пярэсціць сёння ўжо малавядомымі імёнамі, якім так і не пашчасціла выбіцца ў пісьменніцкую эліту. Адсюль і мнагазначная рэмарка аўтара агляду, што вартасны набытак гэтай літаратуры «не сёння будзе высвятляцца». Не менш паказальнае ў «Літаратурных клопатах» — іх прысвячэнне Уладзіславу Сыракомлі, што сваімі зусім прафесійнымі этнаграфічнымі росшукамі, вынік якіх склаў палову яго велізарнай творчай спадчыны, ужо свядома падводзіў трывалыя падваліны пад уласна нацыянальнае мастацтва. І невыпадкова ён змяшчае ў польскім друку серыю артыкулаў пра Беларускага Дудара, які бачыцца яму адзінаборцам-«гладыятарам» на нацыянальнай ніве: «Наша выцвілая шляхецкая літаратура мае досыць працаўнікоў — у народнай ён адзін».

…Вытокавы перыяд новай беларускай літаратуры з-за напаўлегальных умоў нацыянальнага адраджэння і аб'ектыўна эмерджэнтна-скрытнага характару пачатковага літаратурнага працэсу тоіць у сабе і па сёння шмат не да канца выяўленых і належным чынам не вытлумачаных з'яў, чаму па-ранейшаму ў гэтым сэнсе фенаменальнае XIX стагоддзе айчыннай культуры не перастае прыцягваць гэткую ўвагу рознагаліновых даследчыкаў, перад якімі паўстае задача (на аснове нярэдка паўторнага, так званага тэарэтычнага здабывання фактаў) скразнога аналітычнага асэнсавання станаўлення мастацкай традыцыі ў яе родава-жанравым дыферэнцыяваным упарадкаванні.

З аднаго боку, руплівасцю некалькіх пакаленняў літаратурных гісторыкаў (С. Александровіч, І. Бас, А. Мальдзіс, Г. Кісялёў, Г. Каханоўскі, Л. Малаш, У. Мархель, Я. Янушкевіч, У. Содаль, І. Саламевіч і інш.), а з другога — узбуйненым метадалагічным поглядам тэарэтыкаў літаратуры, агульная панарама родапачынальнага перыяду абноўлена настолькі к нашаму часу, што патрабуе зусім заканамерных у літаратуразнаўчай гаспадарцы ўдакладнення ацэнак, пэўнай перастаноўкі акцэнтаў, пераразмеркавання літаратурных сіл і значэння культурных цэнтраў, нарэшце, удзячнага ўзбагачэння кола літаратурных пачынальнікаў, раней зведзенага ўсяго да некалькіх імёнаў, новымі раўназначнымі постацямі паводле іх важнейшага ўнёску ў справу нацыянальна-культурнага адраджэння.

Маргарыта ЯФІМАВА

# «ДЗІЦЯЧЫМ ПІСЬМЕННІКАМ ТРЭБА НАРАДЗІЦЦА...»

Янка Маўр (Іван Міхайлавіч Фёдараў) быў пісьменнікам-першапраходцам, адкрывальнікам. Ён асвоіў не вядомыя раней нашай дзіцячай літаратуры тэмы і жанры, спрыяў яе інтэлектуальнаму ўзвышэнню і мастацкай дасканаласці. У сваёй творчасці арыентаваўся на ўзроставыя асаблівасці юных чытачоў, умеў задаволіць іх цікаўнасць, узбагаціць іх веды, актывізаваць фантазію, станоўча ўплываць на фарміраванне характару. Пісьменнік быў упэўнены, што дзіцячая кніга павінна быць толькі добрай, цікавай і карыснай. І ён падарыў юным чытачам такія творы, якія і сёння ў актыве нашай дзіцячай літаратуры. «Рамантычныя ветразі творчасці Маўра, — зазначыў лаўрэат прэміі Янкі Маўра пісьменнік У. Ягоўдзік, — вытрымалі выпрабаванне ветрамі і штормамі часу. Ён па-ранейшаму нязменны капітан на караблі нашай беларускай дзіцячай літаратуры» (з гутаркі аўтара артыкула з пісьменнікам У. Ягоўдзікам напярэдадні 120-гадовага юбілею Янкі Маўра).

Згодна «Працоўнага спісу» Янкі Маўра, які захоўваецца ў аўтара гэтага артыкула, Іван Міхайлавіч Фёдараў нарадзіўся 11 мая 1883 года, па старым стылі — 28 красавіка (метрычнае пасведчанне Рыжскай духоўнай кансісторыі ад 30 кастрычніка 1908 года № 8221) у г. Лібава (Лиепая, Латвія). Сюды яго бацька, беззямельны беларус, прыехаў у пошуках шчасця.

Івану Фёдараву ішоў пяты год, калі памёр бацька, маці з сынам пераехалі ў яе родную вёску Лебянішкі, што знаходзілася на мяжы Беларусі і Латвіі. Маці Я. Маўра, удава-падзёншчыца, якой даводзілася часам нават жабраваць, вельмі хацела бачыць сына «вучоным», матэрыяльна забяспечаным чалавекам. Шмат у чым дзякуючы менавіта ёй, Янка выбіўся з цемры невуцтва (пра ўсё гэта пісьменнік хвалююча, уражліва расказаў у аўтабіяграфічнай аповесці «Шлях з цемры» (1948—1958). У 1892 годзе І. Фёдараў стаў вучнем пачатковай школы, паспяхова скончыўшы яе, у 1895 годзе паступіў у Ковенскае рамеснае вучылішча. Тут яму адкрыўся дзівосны свет літаратуры. Асабліва ўсхвалявалі, уразілі І. Фёдарава кнігі замежных майстроў прыгодніцкага жанру: Д. Дэфо, Ж. Верна, М. Рыда, Ф. Купера, Дж. Лондана і інш. Іх творы глыбока запалі ў сэрца падлетка на ўсё жыццё.

Пасля заканчэння рамеснага вучылішча ён атрымаў званне падмайстра па слясарнай справе. Аднак сталай працы па спецыяльнасці не знайшоў, ды і вельмі хацела маці, каб сын прадоўжыў вучобу. Яна даведалася, што яе Янка як сірата можа паступіць у настаўніцкую семінарыю на казённы кошт. Пасля некалькіх прашэнняў, якія маці даслала ў розныя інстанцыі, І. Фёдараў у 1899 годзе стаў студэнтам Панявежскай настаўніцкай семінарыі. Сярод студэнтаў вылучаўся начытанасцю, самастойнасцю і сталасцю думак, агульнай эрудыцыяй. Ён адкрыта выказваў свае сумненні наконт існавання Бога, несправядлівасцей тагачасных сацыяльных парадкаў. За бунтарскія настроі студэнт выпускнога курса І. Фёдараў быў выключаны з семінарыі, аднак вучобы не кінуў: даваў прыватныя ўрокі,

падрыхтаваўся і ў 1903 годзе экстэрнам здаў экзамены за курс семінарыі, атрымаўшы званне настаўніка.

Настаўнічаў Фёдараў спачатку пад Паняважам, потым у Бытчанскім народным вучылішчы на Барысаўшчыне (цяпер там знаходзіцца школа, якая носіць імя Янкі Маўра; дарэчы, пры ёй шмат гадоў працуе музей Янкі Маўра).


*Янка Маўр.*

У 1906 годзе І. М. Фёдараў прыняў удзел у нелегальным з'ездзе настаўнікаў, што адбыўся на радзіме Я. Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына, на ім пазнаёміліся і пасябравалі на ўсё жыццё Я. Маўр і Я. Колас. Той з'езд быў выкрыты паліцыяй, і шэсць найбольш актыўных яго ўдзельнікаў, у тым ліку Я. Маўр і Я. Колас, былі звольнены з настаўніцкіх пасад, ім забаранілі выкладаць у дзяржаўнай школе. Аж пяць гадоў настаўнік Фёдараў не мог знайсці сталай працы па сваёй прафесіі, і толькі ў 1911 годзе яму ўдалося ўладкавацца выкладчыкам геаграфіі ў прыватную Мінскую гандлёвую школу, аднак у спісе настаўнікаў гэтай установы у мэтах канспірацыі ён значыўся пад іншым прозвішчам.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі І. М. Фёдараў стаў актыўным дзеячам народнай асветы: працаваў у Рэспубліканскім саюзе работнікаў асветы, потым выкладаў гісторыю і геаграфію ў 25-й чыгуначнай школе-дзесяцігодцы горада Мінска.

Творчасць Я. Маўра звязана з яго педагагічнай дзейнасцю, ён стаў пісьменнікам, маючы больш як дваццацігадовы стаж працы ў школе.

І. Фёдараў быў заўсёды тактоўны, не павышаў на вучняў голасу, не ператвараў адзнаку ў «бізун», выклікаў цікавасць да сваіх прадметаў уключэннем новага матэрыялу, выкарыстаннем на ўроках элементаў гульні. Захапляла вучняў эмацыянальнасць, зрокавая выразнасць таго, пра што апавядаў настаўнік.

Спецыяльна для вучняў Іван Міхайлавіч напісаў навукова-фантастычныя нататкі пра эвалюцыю і жыццё першабытнага чалавека, у аснову іх паклаў матэрыялістычную гіпотэзу. Ён выкарыстаў навуковыя звесткі аб клімаце, раслінным і жывёльным свеце той далёкай эпохі, узбагаціў, акрыліў гэты матэрыял сваёй шчодрай фантазіяй, уключыў у яго запамінальныя прыгоды, вострыя сюжэтныя калізіі, элементы загадкавасці, казачнасці.

Тымі нататкамі настаўніка Фёдарава вельмі зацікавіўся А. Якімовіч, які ў той час быў рэдактарам часопіса «Беларускі піянер» і шукаў тых, хто можа пісаць для дзяцей. Ён выказаў жаданне пазнаёміцца з гэтым матэрыялам, а калі пазнаёміўся — пераканаўся, што перад ім таленавітая аповесць. Дапрацаваўшы рукапіс з улікам парад больш вопытнага ў той час у літаратурнай справе А. Якімовіча, Фёдараў прынёс яго ў рэдакцыю. З канца 1926 года гэты твор пад прыгожай і шматзначнай назвай «Чалавек ідзе» пачаў з працягам друкавацца ў часопісе «Беларускі піянер». А. Якімовічу падабалася і назва аповесці «Чалавек ідзе», і псеўданім, які выбраў настаўнік, — Янка Маўр. Спачатку аўтар меркаваў падпісаць гэты твор сваім прозвішчам — Фёдараў, аднак не зрабіў гэтага, каб не дубліраваць імя і прозвішча вядомага рускага першадрукара І. Фёдарава.

У 1927 годзе аповесць «Чалавек ідзе» выйшла асобным выданнем і мела вялікі поспех. У тым жа годзе Я. Маўру прапанавалі падпісаць дамову на новую кнігу. Дырэктар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва Ц. Гартны зазначыў, што ў Беларусі не шмат прыгодніцкіх кніг беларускіх аўтараў, а дзецям яны патрэбны; ён падказаў таксама, што гэта магла б быць кніга падарожжаў.



*Янка Маўр і Якуб Колас на адпачынку ў Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах, 1950 г.*

У 1928 годзе ў свет выйшла першая прыгодніцкая аповесць Я. Маўра «У краіне райскай птушкі», у тым жа годзе ўбачыла свет аповесць «Сын вады», а ў 1929 годзе — раман з загадкавай назвай «Амок». Адначасова друкаваліся апавяданні Маўра аб далёкіх краінах: «Слёзы Тубі», «Лацароні», «Незвычайная прынада», «Звяры на караблі» (цяперашняя назва «Бунт звяроў») і інш. Так з'явіўся цыкл шырокавядомых таленавітых твораў Я. Маўра пра далёкія краіны. Яны назаўсёды замацавалі за ім славу выдатнага майстра прыгодніцкага жанру. З павагай называем мы яго нашым беларускім Жулем Вернам.

Матэрыялу па тэме жыцця ў іншых краінах у пісьменніка было дастаткова, бо заўсёды цікавіла яго тое, што адбывалася не толькі ў Беларусі, а і ва ўсім свеце. Невыпадкова яшчэ ў 1903 годзе ён дасканала авалодаў штучнай міжнароднай мовай эсперанта. На яго імя ў 20—30-я гады, а потым і пазней, прыходзіла карэспандэнцыя ледзь не з паўсвету: з Новай Зеландыі, Інданезіі, Амерыкі, Румыніі, Галандыі, Італіі, Новай Гвінеі, Явы і інш. Сам Я. Маўр выпісваў перыёдыку і іншую літаратуру на мове эсперанта. Гэты матэрыял, а таксама энцыклапедычная, навуковая, мастацкая літаратура з асабістай бібліятэкі (да Вялікай Айчыннай вайны Я. Маўр меў адну з самых багатых у Мінску хатніх бібліятэк) далі яму магчымасць шырэй убачыць свет, даведацца шмат новага пра іншыя краіны, што вельмі спатрэбілася Івану Міхайлавічу як настаўніку, а потым і пісьменніку.

Ужо ў аповесці «У краіне райскай птушкі» выразна намецілася праблема маральнай перавагі так званых дзікуноў над тымі, хто лічыў сябе прадстаўнікамі вышэйшай расы. Яна стала асноўнай і ў аповесці «Сын вады», якая адзначана асабліва высокім узлётам фантазіі і вобразнага мыслення аўтара.

Псіхалагічна пераканаўчыя вобразы папуаса Саку, героя аповесці «У краіне райскай птушкі», і фуіджынца Манга, галоўнага героя аповесці «Сын вады», з'явіліся не толькі для дзіцячай, а і для ўсёй беларускай літаратуры сапраўдным адкрыццём. Гэтыя творы і зараз садзейнічаюць выхаванню ў юных чытачоў дабрыні, спагады, павагі да іншых народаў.

Я. Маўр з'яўляецца аўтарам і першага беларускага рамана для юных чытачоў «Амок» (1929). У аснову яго сюжэта пакладзены сапраўдныя падзеі, якія адбываліся ў 1926 годзе на востраве Ява. Гэты востраў уваходзіў тады ў склад Інданезіі, якая была ў той час англійскай калоніяй. У 1926 годзе яванцы ўзняліся на паўстанне супраць каланізатараў, тыя падзеі набылі такую сілу і пагрозу, што каланіяльны ўрад вымушаны быў нават кінуць супраць паўстанцаў авіяцыю і танкі.

Увесь свет цікавіўся тады рэвалюцыйнымі падзеямі на Яве, з хваляваннем сачыў за імі і Я. Маўр. Мова эсперанта дала яму магчымасць атрымліваць свежыя звесткі пра паўстанне. Ва ўступе да першага выдання рамана «Амок» пісьменнік падкрэсліў, што ў гэтым творы сабрана сапраўдных фактаў (нават у дробязях) болей, чым можа ўявіць чытач. І факты гэтыя звязаны не толькі з падзеямі паўстання 1926 года, але і з грунтоўнымі, багатымі звесткамі аб прыродзе, клімаце вострава Ява, асаблівасцях побыту, звычаяў і характару яванцаў.

Неўзабаве пасля выхаду ў свет раман «Амок» быў перакладзены на іншыя мовы, у тым ліку і на англійскую. Я. Маўр атрымаў водгукі з Інданезіі і непасрэдна з вострава Ява, дзе твор гэты, дарэчы, у вялікай пашане. Варта прыгадаць адну з сустрэч, якую з задавальненнем успамінаў і сам Я. Маўр. Адбылася яна ў 1960 годзе. У час сваёй паездкі ў Маскву супрацоўнік замежных спраў Рэспублікі Інданезія Кхо Куатліят спецыяльна прыехаў у Мінск, каб убачыць беларускага пісьменніка, аўтара рамана «Амок». Сустрэча адбылася на кватэры Я. Маўра. Вельмі быў уражаны пасланец Інданезіі, калі даведаўся, што аўтар рамана «Амок» ніколі на Яве не быў. А Кхо Куатліят не сумняваўся, што гэты беларускі пісьменнік не толькі доўга жыў на Яве, а нават быў удзельнікам тых рэвалюцыйных падзей 1926 года. Тут мела значэнне багацейшая фантазія Я. Маўра — бездакорнае веданне ім матэрыялу і ўменне жывапісаць словам.

З канца 1920-х гадоў асноўнай у творчасці Я. Маўра стала тэма роднай Беларусі, жыцця і спраў беларускіх дзяцей. У 1930 годзе выйшла з друку вострасюжэтная прыгодніцкая аповесць Я. Маўра «Палескія рабінзоны». У ёй чытач адпраўляецца ў незабыўнае падарожжа па беларускім Палессі.

У сюжэт аповесці «Палескія рабінзоны» ўключаны элементы дэтэктыва, тут шмат прыгод, шырока выкарыстаны прыёмы загадкавасці, таямнічасці, нечаканага ўскладнення і абрыву дзеяння.

І сёння з цікавасцю чытаецца аповесць Я. Маўра «ТВТ» — Таварыства Ваяўнічых Тэхнікаў (1934 год). У ёй няма незвычайных прыгод, бо напісана яна пра самае будзённае, у якім знайсці што-небудзь рамантычнае няпроста.

Янка Маўр апаэтызаваў справы тэвэтаўцаў, авеяў іх таямнічасцю.

Як лепшы твор беларускай дзіцячай літаратуры аповесць «ТВТ» у 1934 годзе была адзначана першай прэміяй на Усебеларускім конкурсе. На Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў у тым жа 1934 годзе Самуіл Маршак назваў яе лепшым творам усёй савецкай дзіцячай літаратуры.

Яскравым сведчаннем вартасці, папулярнасці гэтага твора з'яўляецца рух тэвэтаўцаў, які ўзнік у Беларусі яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, адразу пасля выхаду кнігі. Шырыўся рух тэвэтаўцаў і ў пасляваенны час, і не толькі ў Беларусі, бо «ТВТ» перакладалася на мовы ўсіх савецкіх рэспублік, таксама на румынскую і кітайскую.

Гаворачы пра рух тэвэтаўцаў, міжволі прыгадваеш цімураўскі рух, які ўзнік у 1940 годзе пад уплывам кнігі А. Гайдара «Цімур і яго каманда». Дарэчы, аповесць «ТВТ» з'явілася ў друку на шэсць гадоў раней за кнігу А. Гайдара, чым Я. Маўр вельмі ганарыўся. Незалежна адзін ад другога гэтыя пісьменнікі стварылі кнігі, вельмі патрэбныя юным чытачам і сёння. Кніга «ТВТ» мела вялікае значэнне ў станаўленні і развіцці беларускай школьнай аповесці. Яе традыцыі адчуваюцца ў прысвечаных школе творах М. Гамолкі, М. Ваданосава, А. Пальчэўскага, Г. Шыловіча, І. Навуменкі, А. Якімовіча і інш.

Дзейсна спрыяў Я. Маўр таксама ўзбагачэнню беларускай аўтабіяграфічнай аповесці. У 1948 годзе выйшла першая кніга яго вядомай аўтабіяграфічнай трылогіі «Шлях з цемры». Усе тры кнігі ўключаны ў чатырохтомны Збор твораў Я. Маўра (1975—1976), планаваў ён напісаць і чацвёртую кнігу, але, на жаль, паспеў закончыць толькі адну старонку.

Я. Маўр і ў іншых сваіх творах пацвердзіў уменне раскрыць таямніцы душы дзяцей розных узростаў — падлеткаў, малодшых школьнікаў, дашкольнікаў («Бярозавы конь», «Падарожжа вакол дома», «На крызе», «Багіра» і інш.).

У час Вялікай Айчыннай вайны пісьменнік жыў у Алма-Аце, потым у Маскве, моцна хварэў. Пасля вызвалення вярнуўся ў зруйнаваны Мінск. З хваляваннем прыняў Янка Маўр прапанову стаць галоўным рэдактарам кнігі пісем-успамінаў дзяцей — удзельнікаў і сведак Вялікай Айчыннай вайны — «Ніколі не забудзем» (1948). Кніга гэтая неаднойчы перавыдавалася. Яна перакладзена на многія мовы свету, таму шырока вядома і за мяжой.

Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны таксама нарысы Я. Маўра («Нашы дзеці», «Невядомы герой» і інш.), апавяданні «Завошта?», «Запіска», «Дом пры дарозе», «Максімка» і інш. У іх пісьменнік ішоў ад канкрэтных лёсаў і падзей.

Праз пакуты і трагічны лёс дзяцей Янка Маўр выкрываў антычалавечую сутнасць фашызму.

Я. Маўр не канструяваў сваіх твораў, пісаў іх сэрцам, не было ў іх падкрэсленай тэндэнцыйнасці, сацыялагізатарскай спрошчанасці.

У літаратурнай спадчыне Я. Маўра ёсць і творы, якія пацвярджаюць яго няспынныя наватарскія пошукі. Гэта, напрыклад, «Аповесць будучых дзён», байка «Пекла», «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага», якія не сталі этапнымі ў творчасці пісьменніка, але чытаюцца з цікавасцю: у іх захапляе багацце фантастычных пошукаў аўтара, шчодры і дасціпны гумар, самыя неверагодныя прыгоды, якім Маўр знайшоў месца нават у пекле.

На 1950-я гады прыпаў вельмі цяжкі перыяд жыцця Я. Маўра: ён пачаў траціць зрок, але быў жыццялюбам, аптымістам, таму не здаваўся. Чакаў аперацыі і верыў, што яна верне яму зрок. Пасля аперацыі ён змог самастойна чытаць і пісаць са спецыяльнымі акулярамі. З гадамі хвароб прыбаўлялася, але Я. Маўр не здаваўся, працаваў, казаў: «Інакш не магу». Да канца жыцця пісьменнік не губляў пачуцця гумару, цікавасці да ўсяго, што адбывалася ў роднай Беларусі і ў свеце.

Памёр Я. Маўр 3 жніўня 1971 года на 89-м годзе жыцця. Пахаваны ў Мінску. На магіле пісьменніка пастаўлены арыгінальны помнік (скульптар І. Міські): над цёмнай мармуровай плітой нібы трапеча белы ветразь... Гэтую дэталь успрымаеш як увасабленне рамантычнай захопленасці Я. Маўра жыццём, як сімвал таго, што гэты таленавіты пісьменнік сваёй творчасцю вынес беларускую дзіцячую літаратуру далёка наперад, актыўна садзейнічаў яе паскоранаму развіццю.

За поспехі ў галіне літаратуры і грамадскай дзейнасці Я. Маўр узнагароджаны трыма ордэнамі, медалямі. У 1968 годзе яму было нададзена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры БССР, а ў 1972 годзе Я. Маўр першы з беларускіх дзіцячых пісьменнікаў быў адзначаны (пасмяротна) Дзяржаўнай літаратурнай прэміяй БССР.

Яго імем названы вуліца, бібліятэка ў Мінску, Бытчанская школа на Барысаўшчыне.

Я. Маўр — пісьменнік-класік, ён не толькі ўзбагаціў беларускую дзіцячую літаратуру новымі тэмамі, своеасаблівымі жанрамі, а і пашырыў яе абсягі, далучыў да агульных кантактаў з сусветнай дзіцячай літаратурай. Неардынарнасць асобы гэтага таленавітага мастака выявілася і ў яго загадкава-прывабным псеўданіме, у якім так суладна загучалі блізкае нам душэўна-светлае беларускае імя Янка і далёкае, экзатычнае, заморскае слова Маўр. У самім гэтым псеўданіме нібы запраграмавана адметнасць светаадчування пісьменніка: сыноўняя адданасць Беларусі і трывога за ўсё чалавецтва.

## Галіна ЗЯНЕВІЧ

# ШЧЫРЫ ПАКЛОН

*Будзіўся ўсход залатою разорай,*
*Адплакалі буйныя росы,*
*І сонца, умыўшыся імі, над борам*
*Прычэсвае русыя косы!*

Я ўспамінаю гэтыя радкі з верша Міхася Васілька цёплай ліпеньскай раніцай, стоячы па калені ў сакавітай траве на беразе чыстай-чыстай сцюдзёнай рачулкі Котры. Густа зарослая алешынамі і кустамі, яна яшчэ амаль што ўся ў цяні, і толькі дзе-нідзе калышуцца на яе вадзе ўсмешкі ўзыходзячага сонца.

За спінай у мяне вёска Баброўня. Яе вузенькая вулачка бяжыць спачатку ўздоўж Котры, а потым рэзка зварочвае направа. Схаваная за палямі, за лясамі, аддаленая ад шашы і чыгункі, не ахопленая нават прасёлачнымі аўтобуснымі маршрутамі, вёсачка ўсё ж такі яшчэ жыве. І не толькі летам, калі з'язджаюцца сюды на адпачынак з горада былыя яе жыхары, але і зімою не пустуе тут некалькі дамоў.

Радзіма Міхася Васілька, вядомага заходнебеларускага паэта... Ягонай сядзібы ўжо даўно няма, ёсць толькі хата, у якой жыла сям'я сястры паэта Глафіры. Немалы час прайшоў ад дзяцінства і юнацтва Міхася Васілька да нашых дзён. Ён, вядома ж, змяніў і саму Баброўню, і абшары вакол яе. Нязменным засталося толькі адно: чароўнае хараство прыроды, якое натхняла паэта. Цішыня, чысціня, святло нябёсаў, адлюстраванае ў кветках, дрэвах, у вадзе Котры.

Падыходжу да ўскрайку калгаснага поля. Разгортваю яшчэ зеленаватае недаспелае жыта і зазіраю ў вочы васількам. Успамінаю вершы:

Кветачкі родныя, бачу ізноў вас я
ў сонца святле,
Вы за ўсе іншыя краскі вясновыя
Сэрцу мілей...

Міхась Васілёк... Гэты паэт асабліва блізкі і дарагі мне. Таму што мы з ім землякі, я нарадзілася і вырасла ў вёсцы Бандары, усяго за тры кіламетры ад Баброўні. Таму што мы радня. Мой дзядуля па маме і маці М. Васілька Агата былі братам і сястрой і паходзілі з хутара Крушнікі, што знаходзіўся ў пяці кіламетрах ад Баброўні на беразе той жа рачулкі Котры. Таму што мая мама, Самойла Фаіна Ігнатаўна, стрыечная сястра М. Васілька, таксама пісала вершы ўсё жыццё, пішу іх і я, і мой брат, і яшчэ шмат хто з маіх родных. А значыць, ва ўсіх нас жыве і ў рознай ступені праяўляецца ў кожным адзіны талент, які выпесцілі, збераглі і перадалі нам нашы агульныя далёкія продкі.

Не паэт я — о, не,
Нарадзіла мяне,
Маю песню — пакута, нядоля.
Я ўсяго — васілёк,
Лёс, відаць, незнарок
Мяне кінуў на сумнае поле, —

так сціпла сказаў пра сваё жыццёвае прызначэнне М. Васілёк.

Трымаю ў руках пяшчотную, нябеснага колеру кветачку і думаю аб тым, што васількі ў жыце — гэта сімвал маёй Белай Русі, якая праз «нядолю, няволю» ішла вякамі да «шчасця пары залатой». Такі ж самы, як бярозка пад акном, бусел на страсе, вышытыя ручнікі пад абразамі... Сімвал няпомслівай мужнасці, сціплай прыгажосці, мяккай настойлівасці, апантанай веры ў святло. Ці не таму Міхаіл Восіпавіч Касцевіч назваўся Васільком, што адчуваў сябе шчырым беларусам?

Вяртаюся дадому, у свае Бандары, і адкрываю мамін альбом з фотаздымкамі розных часоў. Знаходжу партрэт Міхася Васілька. Тут яму гадоў 40—45. Нават

нічога не ведаючы пра яго лёс, гледзячы на партрэт, я здагадалася б, што гэты чалавек шмат гора зведаў у жыцці, але не зняверыўся. Пад партрэтам маміна апісанне паэта: «Ільняныя, шаўкавістыя валасы, задумліва-пранікнёныя нябесна-сінія вочы, высокі лоб, правільны авал твару і такі пяшчотны, такі мяккі, такі бясконца цёплы, як і песні яго, голас... Такі чалавек не мог заставацца незаўважаным».

Гартаю альбом. Вось М. Васілёк з сыночкамі — Лёлікам і маленькім Ярыкам на руках. Глядзіць на дзяцей з замілаваннем. І ўспамінаецца напісанае ім:

Ты расці, расці, дзіцё.
Будзь дубком-асілачкам,
Страсянуць каб мог жыццё,
Паказаці сілачку.

Вось ён за сталом у гасцях з жонкай Марынай, вясёлы, нешта расказвае, можа, адзін са сваіх жартаўлівых вершаў. Вось піянерка завязвае яму на шыю чырвоны гальштук, Відаць, адбылася чарговая сустрэча са школьнікамі. Вось М. Васілёк і М. Танк сярод таварышаў, членаў КПЗБ, сур'ёзны, задумлівы...

Разглядваю цудоўныя мясціны над Котрай, дзе вельмі любіў сядзець у адзіноце Міхась Васілёк, думаў, чытаў, складаў вершы:

Хто над Котрай, смут забыўшы,
Пад таемны ўсплеск вады
Успамінаў пра час уплыўшы,
Пра мінулыя гады.

А гэта лясная дарога, па якой часта ездзілі з Баброўні на хутар Крушнікі Восіп Касцевіч, бацька паэта, і сам паэт. На фотаздымку зіма, белыя дрэвы, гурбы снегу, санны след праз іх. Госці прыязджалі часцей за ўсё ўзімку, калі менш працы на гаспадарцы. Можа, пра гэтыя паездкі напісаў паэт так вобразна:

Зорным шляхам па зямлі
Сцелецца мяцеліца.
Моўчкі цені заляглі
Ноччу за аселіцай.

Пільна сочаць коней бег,
А мы едзем весела!
На пуховы белы снег
Ночка крыллі звесіла...

Сваякам заўсёды былі рады. Жылі дружна. Неаднойчы дапамагалі бульбай і збожжам, бо былі больш заможнымі, чым сям'я М. Васілька.

Вось фотаздымкі Сені і Віці, братоў маёй мамы, якіх замучылі фашысты ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Яны сябравалі з Міхасём, удзельнічалі ў драматычным гуртку, створаным паэтам. Рэпетыцыі спектакляў па п'есах беларускіх аўтараў часам праходзілі і на хутары. На смерць брата паэт напісаў верш, які так і называецца «Брату Сені».

У альбоме няма фотаздымкаў дзвюх жанчын, якіх страціў паэт у сваім жыцці: маці і першай жонкі Галіны. Успамінаю маміны расказы аб іх: маці памерла ў бежанстве, на чужыне, там і пахаваная, а Галіна — хутка пасля нараджэння сына, у Баброўні. Абедзве хварэлі на сухоты. Колькі любові ў гэтых радках!

Заплюшчаны светлыя вочы,
Адна ты самотна ляжыш.
Хто прыйдзе к магіле сірочай,
Пад шэры пахілены крыж?

Гэта пра маці... Вершаў, адрасаваных Галіне, я не знаходжу. Але ж ці не смутак па ёй гучыць у радках М. Васілька тых і больш позніх гадоў? У іх, я думаю, туга не толькі па абяздоленай краіне:

Шмат па дарогах
Заснежаных, гразкіх
Згублена сіл маладых,
Мала было толькі
Сонечнай ласкі

Вам,
Маладыя гады...

Гартаю альбом. Чытаю вершы Міхася Васілька, свайго стрыечнага дзядзькі. І разам з ім пражываю яго лёс, год за годам, ад юнацтва да сталасці, ад Баброўні да Гародні, ад сялянскага паэта да літкансультанта ў «Гродзенскай праўдзе», ад гнанага польскай уладай змагара за свабоду да паважанага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі. Іду з ім праз яго ранняе сіроцтва, праз беднасць і нядолю, праз пакутнае і шчаслівае каханне, праз палон і падполле ў вайну... Адчуваю на сабе любоў паміж паэтам і яго роднымі, самымі блізкімі і больш далёкімі. Спасцігаю яго думкі аб лёсе Радзімы і падзяляю яго клопат аб ёй. Яго вершы — гэта яго біяграфія. Штосьці зроблена не зусім правільна, штосьці не зусім дасканала напісана. Але ж так і павінна быць, бо ніводзін чалавек яшчэ не пазбегнуў памылак. Памылкі Бог дарue. Не даруе адсутнасці любові ў душы. А з душы Міхася Васілька яна шчодра льецца ў ягоныя вершы, а з вершаў — у нашы душы, душы чытачоў.

Адзін за другім закрываю зборнікі вершаў паэта, якія я знайшла на паліцы, дзе мама захоўвала самыя дарагія і любыя яе сэрцу кнігі. Першы — «Шум баравы», выдадзены ў 1929 г. пры спрыянні Рыгора Шырмы. На жаль, не паспела распытаць у мамы, якім чынам зберaглі яго на хутары Крушнікі. Там жа неаднаразова былі вобыскі пры польскай уладзе, шмат што знішчыла вайна.

Кніжка ўжо не мае вокладкі, абгорнута белым альбомным лістом, на якім маміным почыркам выведзена назва. Старонкі пажоўклыя, месцамі аж карычневыя, у іх нават пах асаблівы — пах мінуўшчыны. Я ведаю, што ў мамінай сям'і ў Крушніках было не так ужо мала кніг: творы Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Коласа, Купалы, Дуніна-Марцінкевіча, Ажэшкі. Усе яны кудысьці зніклі, а гэтая засталася.

Другі зборнік — «Выбраныя творы», выдадзены ў Мінскуў 1955 г. У ім прадмова А. Вялюгіна, ён жа — рэдактар. На першай старонцы — надпіс, зроблены аўтарам для маёй мамы: «Дaражэнькай сястронцы і маладому майму другу Фанечцы ў знак шчырай прыязні і спадзявання, што ты будзеш са мной, сястронка, спяваць песні аб шчасці нашай Радзімы, нашага беларускага народу — дару гэту кнігу». Углядваюся ў роўны, акуратны почырк паэта. Як дорага ўсё гэта, калі чалавека ўжо няма!

І трэці зборнік — «Зоры над Нёманам», з прадмовай У. Калесніка, ужо пасмяротны. М. Васілёк памёр 3 верасня 1960 г. А 26 верасня таго ж года нарадзілася я.

Перабіраю сшыткі маміных вершаў. Знаходжу ў іх два, прысвечаныя Міхасю Васільку. Адзін з іх Міхасю-падлетку, своеасабліваму хлопчыку. Вось што гаварыў аб ім яго бацька Восіп мамінаму бацьку Ігнату: «Шчаслівы ты чалавек, швагру, старанлівага сына гадуеш сабе. А мой што... Учуе, як на вуліцы бабы сварацца, кіне цэп, дастане з кішэні паперку ды і бяжыць туды, каб лаянку іх падслухаць. Складна запіша. Ды што толку? Хіба з гэтага хлеб есці будзе?»

Босы хлопчык
Па-за садам
Раніцою
Поле грады.

У задуме
Шэпчуць вусны...
Рукі моркву рвуць,
Капусту.

Страпянуўся,
Сказаў ціха:
— Будзе перцу,
Будзе ліха.

Босы хлопчык
Б'е на току
З бацькам зерняў
Пазалоту.

Чуе сварку —
Цэп кідае
Ды з гуменца
Уцякае.

Затаіўся,
Дрыжыць сэрца.
Штосьці піша
На паперцы...

Некалькі разоў перачытваю мамін верш і вострa адчуваю, як моцна я люблю гэтага босага хлопчыка, як шкада мне яго за непадобнасць да іншых і як ганаруся я гэтай непадобнасцю. Я ганаруся тым, што ў маім родзе быў такі незвычайны чалавек з палаючай душою, якая хацела і ўмела спяваць для людзей.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# ЧАЛАВЕК І ЧАС У ТВОРЧАСЦІ АНАТОЛЯ КАЗЛОВА

Анатоль Казлоў ідзе ў беларускай літаратуры адметнай сцяжынкай. У роздуме аб жыцці ён шырока звяртаецца да фальклорна-міфалагічных элементаў, шукаючы новыя формы ў мастацтве, якія б лепш падыходзілі для яго аповеду пра сучаснасць. Яго творы сведчаць аб прадуктыўнасці пошукаў, якія абраў пісьменнік. Ён — аўтар чатырох празаічных кніжак: «Міражы ценяў», «І тады я памёр...», «Незламаная свечка». Апошняя кніжка («Юргон») складаецца з двух раманаў — «Юргон» і «Мінск і воран, Парыж і здань», двух аповесцей «Я і Прарок Уродка», «Раздарожаны саракоўнік» і апавяданняў. У анатацыі на кнігу гаворыцца: «Як і ў ранейшых творах пісьменнік па драбніцах аналізуе ў сваёй прозе сучаснасць, у розных ракурсах разглядае партрэт «героя нашага часу». Мэтанакіравана вывучае прычынна-выніковыя сувязі, якія фарміруюць асобу, уплываюць на яе светапогляд, кіруюць дзеяннямі. Усім творам пісьменніка характэрна містыфікацыя ў спалучэнні з сённяшнім жыццём. Падзеі раманаў бяруць пачатак у старажытнасці, а іх далейшае развіццё адбываецца ў сучаснасці». Сапраўды, варта згадзіцца з такой сціслай характарыстыкай гэтай кнігі. Каб адказаць на многія пытанні сучаснасці, канешне ж, неабходны экскурс у мінулае. І аўтар робіць такія часавыя вандроўкі.

Кніжка «Юргон» запрашае ўсур'ёз задумацца пра мінулае і будучае беларуса, пра тое, у што і як ён верыў і верыць. Неабходна адзначыць, што першыя гады новага тысячагоддзя характарызуюцца вялікай цікавасцю да магічнага, да чарадзейства, да містыкі — «свету патаемнага». Гэта цікавасць назіраецца не толькі ў беларускай літаратуры, але і ў многіх літаратурах свету. Раман Анатоля Казлова пачынаецца з эмацыянальнага паведамлення: «Юргона сурочылі!

Ужо два тыдні мінула, а ў яго анічагусенькі не варухнулася ніжэй пупка і вышэй калена. Поўны штыль. Тут нават славуты дамкрат — пустое слова, гайка на віноўніку і магніт на шыі — мыльная бурбалка. І так ужо два тыдні! Чатырнаццаць дзён — цішыня. Ау-у-у! Патухлі вочы на ўчарнелым і адначасова выцягнутым твары. Сціх пажадлівы аркестр у сэрцы Юргона-самца. І, здавалася б, з-за чаго? О не! Гэта як каму. Так, ну не пячонка і не спінны мозг енты орган — жыць можна. Але... Юргону толькі сёння споўнілася дваццаць пяць гадкоў. <...>

Цэлы сусвет ператварыўся для Юргона ў малюсенькае донца талеркі з дзіцячага набору для гульняў.

Навошта жыць, калі вісіць?!»

Такая бяда спасцігла галоўнага героя рамана. Ён прыгадвае шматлікія ложкавыя баталіі з рознымі дзяўчатамі, якія пасля блізкасці імгненна рабіліся непатрэбнымі. І вось герой толькі «з-за непрацаздольнасці апарату, які да нядаўняга часу з'яўляўся гонарам» яго, задумаўся: «Юргон... куды? За чым ці за кім? Юрлівы гон да якога моманту, якой гадзіны, часу?» Імя «Юргон», канешне ж, выбрана невыпадкова. Гэта метафара-азначэнне галоўнай сутнасці маладога і здаровага хлопца-самца. Расшыфроўку імя дае адна з многіх пакінутых ім каханак, што адпомсціла яму праз маскоўскую вядзьмарку, пазбавіўшы мужчынскай сілы: «Дастаткова зірнуць на твар Юргона, і без пытанняў усё зразумела: выпарыўся юр, застапарыўся гон».

Варта адзначыць, што сённяшняя мастацкая літаратура становіцца ўсё больш цялеснай. Вельмі многа месца ў ёй адводзіцца паказу фізічнай блізкасці мужчыны і жанчыны. Беларуская проза ў параўнанні з іншымі, напрыклад, з французскай, у гэтых адносінах выглядае куды больш цнатлівай, хоць партрэт беларускага «героя нашага часу» вельмі падобны многімі сваімі рысамі на французскага. На іх тварах адбіліся падобныя страсці і заганы. Героі гэтыя кіруюцца ў жыцці аднолькавым прынцыпам «эстэтыка без этыкі». Іх адрознівае (скажам словамі французскага пісьменніка Ф. Бегбедзера) «хранічная безадказнасць», «расізм у адносінах да непрыгожых», інфантыльнасць, імкненне вызваліцца ад абмежаванняў, забарон і традыцый, нарцысізм, крайні эгацэнтрызм, абыякавасць да сваіх каранёў, гісторыі свайго народа. Герой рамана «Юргон» А. Казлова, як і героі раманаў Ф. Бегбедзера, М. Уэльбэка і іншых французскіх пісьменнікаў, ацэньвае жанчын не па непаўторнасці характару, а па індывідуальным паху цела. Вось разважанні Юргона на гэты конт: «Кожная з ягоных каханак мела толькі свой, адметны, ні на чый не падобны пах. Юргон мог забыць абрысы твару, аб'ём бёдраў упадабанай дзяўчыны, нават велічыню грудзей той, што скарыстана-пакахана ім, але толькі не ейны водар. Не важна, што прамінуў год ці болей, толькі ж і на сённяшнюю хвіліну завяжы хлопцу вочы і пастаў у радок або групаю красунь, няхай дзесятак, няхай два, а сярод іх уткні тую, з якой правёў Юргон пару-тройку начэй, і пусці яго прайсціся блізютка каля іхніх целаў, на дзевяноста адсоткаў сярод усіх ён усляпую знойдзе сваю...

Чаму кожная жанчына мае толькі сваю духмянасць, свой водар»?

Пытанне, як бачым, пастаўлена не знаўцам жаночых душ, а знаўцам жаночых целаў. Герой не абцяжарвае сябе нават падлікам, колькі іх было «скарыстаных-пакаханых», аднак помніць іх водар, іх пах. Так, мусіць, помніць жывёльны самец пах самак. Аб індывідуальным паху кожнай жанчыны (наогул кожнага чалавека) заўважана правільна, але калі гаворка ідзе аб вялікім спісе красунь, то гэта назіранне набывае ўжо іншае адценне.

Анатоль Казлоў у сваім рамане «Юргон» выкарыстоўвае своеасаблівую «машыну часу»: мастак перакідваецца з сучаснасці ў мінулае і назад з мінулага ў сучаснасць.

Ёсць у творы і «вечны» персанаж — Вісун. Хто ён? Мяркуючы па ўсім, — дэман блуду, які курыруе дзейнасць людзей, заражае іх ідэямі свабоднага і бяспечнага сексу, а сам жывіцца той энергіяй, якую губляюць людзі, здзяйсняючы грэх, калі ад іх адыходзіць Божая благадаць і яны аддаюць сябе ва ўладу д'яблам. Што гэта так, можна меркаваць па аптымістычным поглядзе Вісуна на новы час: «Ага, не ўсё яшчэ страчана. Дарэмна хваляваўся. Жывуць пакуль сярод людзей тыя, хто памятае поклічнае слова, ёсць каму мяне карміць, а гэта значыць — бессмяротны я, Дух бяссілля. Адчуваю, што шмат будзе работы ў бліжэйшае стагоддзе, пакуль людзі загразаюць у распусце. Дзе заганы, там і я...»

Аўтар кнігі «Юргон» добра ўсведамляе, што сёння як ніколі востра вядзецца барацьба не за тленнае цела чалавека, а за яго галоўную сутнасць — бессмяротную душу. Разумее ён і тое, што кожны чалавек пастаўлены перад страшным выбарам: Бог або сатана, іншага выбару ў яго няма. На жаль, у рамане «Юргон» адсутнічае персанаж, які б аддаваў перавагу вечнай душы, клапаціўся аб ёй больш, чым аб целе. Юргон, сёстры Фрэня і Шызя, усе астатнія палюбоўніцы Юргона, маскоўская вядзьмарка, нават «стары — каларытны дзядок», «не раўнуючы купалаўскі гусляр», як прадстаўляе свайго бацьку Юргонава суседка, а таксама героі з мінулага — Чорны Гардзей, Віцька, які ідзе да ведзьмака вылечыцца ад смярдзючасці ў роце, і іншыя персанажы — усе яны ў большай ці меншай ступені аддаюць перавагу часовым, зямным радасцям і пазбаўляюць сябе тым самым вечных, нябесных, цешаць сваё цела і ігнаруюць клопат аб душы. Нават д'ябал Вісун, назіраючы, як бессардэчныя юрліўцы пагразаюць ва ўсё новых і

новых формах распусты, дзівіцца, да чаго дайшоў сучасны чалавек. Ён адчувае нават сваю непатрэбнасць у гэтым жыцці, калі людзі сталі «горш за д'ябла», апантаны блудам і злосцю, помстаю і нянавісцю, адзіноцтвам і адчаем, нявер'ем і бязрадаснасцю.

Навукова-тэхнічны прагрэс зрабіў унёсак у чалавечыя адносіны, у адносіны чалавека з Богам. Страшнае нявер'е паразіла чалавечую душу. Стала няёмка гаварыць пра Бога і д'ябла, бо палічаць «цёмным».

Былая каханка Юргона Фрэня, едучы да маскоўскай вядзьмаркі, каб адпомсціць Юргону, называе тую сурочлівіцай: «(Не люблю слова «вядзьмарка», ад яго патыхае мінулымі стагоддзямі і нафталінавымі забабонамі, у якія не верыш. А я хачу верыць у сілу і моц расійскай Сівілы)». Знікла вера, але не знікла заігрыванне з д'ябальшчынай. Не знік зварот да вядзьмарак і варажбітак, экстрасенсаў і іншых служак д'ябла.

Чым кіруецца Анатоль Казлоў, расказваючы нам аб тых, хто займаецца чорнымі справамі — вядзьмарствам, магіяй і г. д., хто свядома служыць д'ябальшчыне? Ці дае ён адмоўную ацэнку гэтым страшным з'явам? Якія нормы маралі прапагандуе аўтар «Юргона»? Дзеля чаго ім часта прыводзяцца язычніцкія замовы, якія адкрываюць дзверы душы для д'ябла? Пытанні вельмі і вельмі актуальныя, бо пра творы Анатоля Казлова не скажаш, што «аўтар у іх памёр».

У моўную тканіну рамана пісьменнік шырока ўводзіць унутраны маналог-разважанне Вісуна аб новым часе, людзях гэтага часу. Тое, што аўтар дае слова д'яблу, мае свае плюсы і мінусы. Цікава, напрыклад, пачуць думку д'ябла Вісуна аб тым, што яму «аніколі не зразумець людской сутнасці, хоць і пабываў ён ужо ў целах многіх і многіх. Чалавек для Вісуна — бясконцая загадка, бо людзі цяпер перараджаюцца ў монстраў». Так, д'яблу цяжка зразумець чалавека, бо паводзіны яго часта бываюць непрадказальнымі. Але ў наш час д'яблу не даводзіцца асабліва напружвацца, каб штурхаць чалавека на зло. Яму застаецца толькі «боўтаць нагамі», бо няма чаго рабіць, чалавек усё больш і больш удасканальваецца ў зле. Тут аўтар не адступае ад думкі святых айцоў аб людзях апошніх часоў перад прыходам Антыхрыста. А вось прыпісванне д'яблу думак аб шкадаванні чалавека, якія знаходзім у творы, — гэта ўжо «з іншай оперы». Колькі ўжо ведае сусветная літаратура прыкладаў, калі пісьменнікі хацелі пашкадаваць сатану, выставіць яго няшчасным, паспачуваць яму, а таксама намаляваць яго бяскрыўдным і нават смешным, разумным і нават добрым. Так, у розуме яму не адмовіш, але шукаць у ім дабрыню і спачуванне — марная справа. Яго сутнасць — зло, нянавісць да чалавека, зайздрасць да яго, невераемная пыхлівасць.

Д'ябал і яго ўнутраны свет — гэта праблема здаецца нам ужо занадта вялікай смеласцю пісьменніка. Нельга зразумець дэманаў, якія ў адрозненне ад чалавека жывуць не семдзесят-дзевяноста гадоў, а вечна, назапасіўшы вялікі вопыт спакушэння чалавека, веданне яго слабасцей, уменне падбухторваць на нядобрыя ўчынкі, а ў выніку і прадбачыць некаторыя падзеі будучага. У Казлова ж дух бяссілля праяўляе наіўнасць і сумненні, калі разважае на тэму сучаснасці: «Няўжо прыйшлі часы, калі муж і жонка, палюбоўніца і каханак абвіты вяроўчынай вернасці, нібы дзіця пупавінай ва ўлонні маці? — мройныя здагадкі праблісквають у калматай галаве Духа бяссілля. — Раней жа карысталіся маёй помаччу не толькі пакрыўджанае жаночае племя, але і мужчынская зайздрасць не цуралася мяне, Вісуна. То раней было, усё ў мінулым... Што робіцца з зямлёю і ейнай жыўнасцю? Чалавек, птушка, звер і кузурка — перанарадзіліся? Счахлі пацыху дамавікі, пярэваратні, духі лясоў і лугоў. Знахаркі, варажбіткі, не ўзгарэўшыся, расталі свечкамі ў пякельна-палкай штодзённасці? Ну хто цяпер у мяне паверыць? Труціць лекамі сваё нутро няшчаснае чалавецтва, забыўшыся, што ўсяму асновай з'яўляецца Слова і тая сіла, якая заключаецца ў ім».

Мастацкі твор, як вядома, можна разглядаць з розных бакоў — сацыяльнага, пазнавальнага, выхаваўчага, эстэтычнага, рэлігійна-маральнага, эмацыянальнага, палітычнага і г. д. Прыгадаем выказванне Энгельса аб тым, што ён з раманаў Бальзака «...нават у сэнсе эканамічных дэталей даведаўся больш (напрыклад, пераразмеркаванне рэальнай і асабістай уласнасці пасля рэвалюцыі), чым з кніг усіх спецыялістаў — гісторыкаў, эканамістаў, статыстыкаў гэтага перыяду разам узятых». Такім чынам, творы Анатоля Казлова мы маем права аналізаваць збоку рэлігійна-духоўнага, тым больш, што пісьменнік глядзіць на свет шмат у чым з хрысціянскіх пазіцый, мае досыць добрае ўяўленне пра сённяшняе веравызнанне беларусаў. Трохі адхілюся ўбок ад гаворкі пра раман «Юргон» і спынюся на апавяданні пісьменніка «Ейны боль» пра старую Акуліну, якая часта надвячоркам ходзіць на могілкі «пагаманіць з сынам», які раптоўна загінуў (зламалася рулявое кіраванне ў машыне і ён шугануў у глыбокі кювет). Вядома ж, бабулька мае пэўную веру ў замагільнае жыццё, інакш бы не хадзіла і не гаварыла з сынам. Аднак цікава іншае — як яна ставіцца да таго, што адбылося аднойчы каля магілы сына. А адбылося наступнае. У час адной з такіх размоў «каля магілкі сына хлёстка, нібы пярун, нешта ляснула». Спачатку старая не вельмі напалохалася. Але «тут зноў нябачны пярун ляснуў... Акуліна ад нечаканасці схамянулася. Нешта пахаладзела ў грудзях». Яна не спяшалася адыходзіць, пакуль зноў «нябачны пярун з адцяжкаю стрэліў, здавалася, над самай галавой Акуліны, аж заклакала ў вушах». Старая ўспрымае гэту страшную з'яву як знак, што сын гоніць яе ад сябе, што яна надакучыла яму, не дае спакойна ляжаць. Трактоўка гэта, як бачым, вельмі неправаслаўная, нехрысціянская, язычніцкая. І бабуля паводзіць сябе каля магілы не па-хрысціянску. На могілках веруючы чалавек моліцца за сваіх блізкіх, за тых, хто на іх ляжыць целам. Бабуля гэтага не робіць. Яна верыць у прымхі, забабоны накшталт таго, што сын з таго свету можа ляснуць, як пярун, адагнаць маці (якая ж патрэбна непавага роднага сына да маці, каб так зрабіць!). Аднак згодна з хрысціянскай вераю цела памерлага ўжо не можа зрабіць нічога, яно ўваскрэсне толькі ў час другога прышэсця Хрыста, а душа адышла ў невядомы свет — у рай ці ў пекла, і ўжо не можа вярнуцца на зямлю. Хто ж аўтар такой з'явы? Вядома ж, той, хто пранізаны атрутай нянавісці да роду чалавечага, да самых звычайных для нармальнага чалавека пачуццяў любові і пяшчоты, жалю і шкадавання — д'ябал. Пісьменнік не дае сваіх каментарыяў да гэтай з'явы, але яго чуйнасць да таго, якія скажоныя ўяўленні аб свеце, прыродзе чалавека, яго прызначэнні ў гэтым свеце ў большасці беларусаў, не можа не кінуцца ў вочы. Няправільная вера, як бы сцвярджае Анатоль Казлоў сваімі творамі, нараджае і няправільную этыку. Юргон, пазбаўлены магчымасці грашыць «з-за непрацаздольнасці апарату», успамінае Бога, наведвае царкву, але зусім не з мэтай пакаяння ў ранейшых грахах, а для таго, каб Бог вылечыў яго ад хваробы, каб зноў працягваць грахоўнае блуднае жыццё. Ён нават палівае дзетародны орган святой вадою ў надзеі на цуд. Духоўна бязграматны чалавек, якім з'яўляецца Юргон, нават не падазрае, як гэта кашчунна ў адносінах да Бога, бо ён па сутнасці просіць: дай мне, Божа, сілы, каб я мог распінаць цябе.

Зусім не падазрае аб пагібельнасці кроку, які яна робіць, былая каханка Юргона Фрэня, калі звязваецца з маскоўскай вядзьмаркай. Яна здзяйсняе помсту, ахвяруючы душу д'яблу.

І ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі не знікае, як паказвае ў сваіх творах А. Казлоў, патрэба ў вядзьмарстве і магіі. У аповесці «Раздарожаны саракоўнік» галоўны герой твора становіцца сведкаю чорных спраў, якія робіць маладая жанчына каля дома яго сястры. Мы чуем язычніцкую замову — кліканне дэманаў, каб муж узненавідзеў жонку, каб знік лад у сям'і, каб чужы муж дастаўся ёй.

Аўтар кніжкі «Юргон» усім ідэйна-вобразным строем твораў справядліва гаворыць аб згубным уплыве на дзяцей, сённяшнюю моладзь грахоў іх бацькоў

і прадзедаў. Першыя расплачваюцца яшчэ і за адступленні ад Бога і беззаконныя ўчынкі апошніх «нават да трэцяга і чацвёртага роду». Зямля, дзе жылі людзі, свядомыя служкі д'ябла, як бы апаганьваецца, забруджваецца іх нячыстым, чорным жыццём. У рамане «Юргон» гэта падкрэсліваецца канстатацыяй факту, што сённяшні дзевятнаццаціпавярховы гмах — будынак, у якім жыве Юргон, стаіць на месцы хаты і ўсіх гаспадарчых пабудоў вялікага ведзьмака Чорнага Гардзея, «чорнымі» паслугамі якога карысталіся многія і многія людзі. Усведамляе Казлоў і тое, як няпроста будзе зжываць гэтыя д'ябальскія традыцыі на Радзіме, дзе шырока рассеяна семя такіх, як Чорны Гардзей: «А Чорны Гардзей аблашчваў чалавечы род з блізкіх і далёкіх вёсак і мястэчак, вялікіх і маленькіх гарадоў. Рассейваў сваё семя па зямлі спрадвечнай і любай. Таму хоць не меў ён каля сябе, у сваёй хаце, нашчадкаў, але ведаў, што па ўсёй Беларусі пад блакітным небам жывуць у зямным шчасці сотні дачок і сыноў, якіх пусціў у белы свет Чорны Гардзей. Адсюль вынікае, што не хутка скончыцца ягоны род, не звядзецца праз стагоддзе, ні праз два. Разросся радавод ведзьмака, як дзічка-яблынька сяродляснога гушчару». Такое сумнае аўтарскае заключэнне адносна будучыні нашай краіны, бо ад вядзьмарскага семя мусяць нарадзіцца і дзеці з вядзьмарскімі здольнасцямі. І тыя, хто звяртаецца да іх дапамогі, таксама дапаўняюць гэту кагорту людзей. Аўтарская канцэпцыя становіцца яшчэ больш выразнай у фінале, калі Юргона лечыць ад суроку не хто іншы, як вясковы дзядок, «купалаўскі гусляр». Але якой сілай выганяе ён Вісуна з цела Юргона? Вядома ж, не малітваю, не пастом, не бездакорным святым жыццём... А значыць, кажучы словамі Евангелля, «сілаю Вельзевула», д'ябальскаю сілаю. Таму заканамерна, што наш герой-жэўжык адразу ж пачынае жыць, як і раней.

Творчасць Анатоля Казлова цікавая добрасумленным даследаваннем самых галоўных пытанняў, звязаных з душою чалавека, — яе схільнасцю да дабра і зла, грахоўных памкненняў, выбарам, які яна робіць кожны момант. Цяжка назваць у сённяшняй беларускай літаратуры пісьменніка, які б з такой пільнай увагай адносіўся да разнастайных праяўленняў народнага светабачання, народных звычаяў, прыкмет, павер'яў, забабонаў. У 1920-я гады такою адметнасцю адрозніваліся творы Лукаша Калюгі. Яшчэ раней — напісаны па-польску, але беларускі па настроі, характары, псіхалогіі «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага, у кожным слове якога, як ужо было заўважана, «чуцен беларус». Аповесці і раманы Анатоля Казлова навейваюць асацыяцыі з рускім класікам Мікалаем Гогалем, які нярэдка ў выкарыстанні фальклору захапляўся яго рэлігійна-містычнымі матывамі. Не будзе перабольшаннем сказаць пра Казлова, што ў яго свой уласны характар фантастыкі. Калі Лукаш Калюга пасмейваўся са сваіх забабонных герояў, з «бабчыных казал», у якія яны вераць, што адпавядала духу часу, дык Анатоль Казлоў адносіцца да гэтых праяў па-гогалеўску сур'ёзна. Канешне, у беларускага пісьменніка свой фантастычны каларыт. Шчодрай глебай для фантастыкі ў яго з'яўляецца звычайная беларуская калгасная вёска.

У цэнтры аповесці Анатоля Казлова «Незламаная свечка» — гісторыя двух родаў — Смалякоў і Барташэвічаў, якія жывуць у вёсцы Шышкаўцы. Яны звязаны паміж сабой даўнім варагаваннем. Іх асцярожна абыходзяць аднавяскоўцы, ведаючы, што з імі «жартаваць, што з агнём у сене гуляць». Аб фантастычнасці падзей у гэтых сем'ях гаворыць старая Матруна: «Яшчэ ж ні разу так не сталася, каб пасля смерці ў Смалякоў у нас хто-небудзь ды не знябожыўся. А калі ў нас хаўтуры, то і яны чакаюць таго ж. І ўсё з сухавеем прыходзіць, з вадой ды агнём». Аднак і адны і другія радуюцца бядзе сваіх ворагаў, клянуць іх. Такая з'ява мае сваю таямнічую перадгісторыю, якую інтэрпрэтуе не аўтар-апавядальнік, а адзін з удзельнікаў варагуючага боку, Сяргей Смаляк, чарговая ахвяра варагавання. Прапрадзед Смаляка і прапрадзед Барташэвічаў калісьці былі сябрамі. Пакуль не закахаліся ў адну красуню, адкуль і ўзнікла нянавісць паміж імі. Родзіч Смаляка

сыпануў у вочы Барташэвічу прыгаршчы замоўленай зямлі, ад якой той «згарэў, хутчэй чым сухая саломіна жыта». І Барташэвічы знайшлі чалавека, які напусціў на род Смалякоў порчу-прakляцце. З таго часу ўсё слабеюць колькасна абодва роды, чаргуюцца смерці ў тым і тым родзе. А. Казлоў, канешне ж, па-майстэрску скарыстоўвае ў аповесці распрацаваную папярэднікамі тэхніку фантастычнага, у якую ўваходзяць чуткі і меркаванні, загадкавая перадгісторыя, ракавы збег абставін, пацвярджэнне прадказанняў самімі падзеямі. У адрозненне ад многіх папярэднікаў, у якіх ён вучыўся выкарыстанню міфалогіі, прыёму завуаляванай або няяўнай фантастыкі, А. Казлоў пазбаўляе свайго чытача магчымасці дваякай інтэрпрэтацыі падзей — «з аднаго боку, як дзеянні ірэальных сіл, а з другога — як выніка непаразумення або дзіўнасці, што выцякала з рэальнага збегу абставін». Ад асобы аўтара расказваецца ў аповесці пра «чорныя» справы Надзькі Барташэвічыхі, а пасля Смалякоў, якіх помста прымушае звязвацца з нячыстай сілай, што падбухторвае іх расправіцца з чужым родам. Ніхто з варагуючых бакоў не захацеў спыніць зло, пасеянае прапрадзедамі, не спыніў гульню ў смерць. У фінале — яшчэ адна смерць, яшчэ адна ахвяра людской нянавісці.

Смела ставячы пытанні, якія абмінаюць многія пісьменнікі, баючыся паказацца «цёмнымі», Казлоў падводзіць і да вырашэння іх. Відавочна, што ён не з тых празаікаў, якія кіруюцца банальнаю мэтаю «штосьці сказаць пра жыццё». Ён з тых, хто імкнецца даследаваць жыццё, актыўна ўмешвацца ў яго, змяняць яго ў лепшы бок, даводзячы да высновы (вядома ж, неназойліва, незаўважна мастацкімі вобразамі) аб неабходнасці ўнутранага перавароту ў кожным чалавеку. Сваёй творчасцю ён рашуча выступае супраць таго, што псуе духоўную прыгажосць чалавека — злосці, помслівасці, зайдрасці, п'янства, блуду і г. д. У аповесці «Перакуліся, перакуленае» аўтар паказвае, як згубна ўплывае на душу і лёс чалавека зайдрасць, якую святыя айцы вызначылі як смутак аб дабрабыце бліжняга. Абагульненне прымаўкай або прыказкай характараў-персанажаў, мастацкай сітуацыі аповесцей і раманаў, творчае выкарыстанне заключанага ў іх зместу адбываецца тут і там у пісьменніка. У якасці эпіграфа да названай аповесці ён бярэ словы з фальклору: «Чараўнік прапанаваў селяніну любую ўзнагароду, але з умовай, што сусед атрымае ўдвая больш. «Выкалі мне вока», — адказаў селянін».

Адметнасць твораў Анатоля Казлова не толькі ў шырокім выкарыстанні элементаў міфалогіі, але і ў іх філасафічнасці.

У рамане «Мінск і воран, Парыж і здань» фантастычная сітуацыя грунтуецца на язычніцкім вераванні аб тым, што, калі нябожчык не быў адпеты ў царкве, дык душа яго застаецца на зямлі прывідам (праваслаўе гэтага не прызнае). У гэтым творы аўтар прасочвае тое, як няпроста адгукаецца ў вечнасці той ці іншы ўчынак чалавека. Пачынаецца раман з падзей сівой даўніны на Магілёўшчыне. Шчаслівая нявеста Кацярына, дачка князя, якая выходзіць замуж за маладога прыгожага княжыча Усевалада, робіцца на ўласным вяселлі ахвяраю вядзьмарства былой каханкі жаніха Марфачкі. Пададзенае ёю д'ябальскае піцво з атрутаю загнала Кацярыну ў гнілую багну балота, дзе і засталося ляжаць яе маладое цела. А прывід Кацярыны, згубіўшы навек спакой, азлобіўшыся на ўвесь род людскі, застаўся жыць на доўгія стагоддзі ў падзямеллі, прагнучы помсты ўсім нашчадкам Усевалада і Марфачкі. Тры дні і тры ночы жыцця ў целе дарыць ёй Поўня, і ў гэты час яна здзяйсняе стагоддзямі вынашаны план помсты. Згубнасць, атрутнасць зла паказвае пісьменнік, даводзячы, што зло, якім кідаюць нават у сумленных невінаватых людзей (Кацярына была добрай, цнатлівай нявестай), можа загнаць іх у сваю пастку, адрэзаўшы дарогу да выратавання.

Аповесць-фантасмагорыя «Я і Прарок Уродка», як і многія іншыя творы пісьменніка, уяўляе сабой роздум не толькі пра маральнае аблічча сучасніка, але і пра чалавека ўвогуле. Час і чалавек, абставіны і характары, ідэя і яе рэалізацыя — гэтыя і іншыя праблемы знаходзяцца ў полі зроку таленавітага аўтара, прычым

займальны, інтрыгуючы сюжэт твора не перашкаджае раскрыццю псіхалогіі героя, а герой гэты своеасаблівы, бо ў целе яго жыве падсяленец — дэман Прарок — Уродка, які прымушае Андрэя (галоўнага героя аповесці) глядзець на свет ягонымі вачыма, адбірае ў яго здольнасць любіць і даравацъ, пазбаўляе яго свабоды распараджацца ўласнымі ўчынкамі.

У творах Анатоля Казлова гучыць матыў адзіноты чалавечай душы ў сённяшнім складаным апакаліптычным свеце, адгароджанасці чалавека ад чалавека, недахопу любові і цеплыні між імі. Яго мастацкая проза сведчыць, што грамадства і яго індывідуумы моцна хворыя, падводзіць да думкі, што грамадства пайшло не тым шляхам, забыўшыся Бога. Што парушэнне Божых запаветаў, чым бы ні апраўдваў сябе чалавек, цягне за сабой дакор сумлення, унутраную трывогу: «Жывеш і нават не заўважаеш, — думае Антон, галоўны герой аповесці «Раздарожаны саракоўнік», — як сэрца дзень за днём усё чарсцвее і грубее, перастае балець і паколваць з-за іншых. І ўсяму знаходзіш тлумачэнне, без усялякай напругі думкі, трапятання. Маўляў, такое цяпер жыццё... А хто яго зрабіў такім? Усё вельмі проста — мы самі. Паасобку. І ўсе разам».

Цікавай атрымалася ў Казлова яго містычная аповесць «Дзеці ночы», прысвечаная папулярнай у хрысціянскіх колах тэме Антыхрыста. Гэта тэма даўно прыцягвала ўвагу пісьменнікаў Захаду, а таксама рускіх класікаў — Мікалая Гогаля (аповесць «Партрэт»), Мікалая Ляскова, Фёдара Дастаеўскага, Аляксея Талстога. У беларускай літаратуры яна амаль не закранілася, хоць цікавасць да біблейскіх прадказанняў аб канцы свету і Апакаліпсісе і назіраецца ў некаторых сучасных пісьменнікаў.

Аповесць Анатоля Казлова «Дзеці ночы» ці не ўпершыню адкрыта дае слова прамым служкам зла, прыхільнікам культу Сатаны. Уражвае тое, як па-майстэрску ўмясціў аўтар сваіх персанажаў у створаны ім містычны (ці містычны?) свет — так усё ў ім выглядае рэальна і праўдзіва, верыцца, што тут, у гэтых абставінах, у гэтым акружэнні жывуць, робяць свае справы, ірвуцца да ўлады над целамі і душамі людзей чорныя сілы цемры. Тут яны патаемна ад звычайных людзей вядуць размовы, недасяжныя для слыху простых смяротных, будуюць планы, рыхтуюцца да новых дзеянняў. Твор папярэджвае аб небяспецы, заклікае сучаснікаў быць пільнымі, каб рашуча адказаць адмоваю на «запрашэнне ў пекла».

У кнігах Анатоля Казлова знойдзем вельмі важнае, дзеля чаго, магчыма, і павінен пісацца твор, — хрысціянскае спачуванне чалавеку, шкадаванне яго, хворага душою, стомленага, нярэдка растаптанага жыццём.

Вельмі жывыя ў пісьменніка дыялогі. Можна па-добраму пазайдросціць яго майстэрству будаваць дыялог. Прачытайце першыя старонкі аповесці «Распяцце, альбо Ці ж баліць галава ў вароны...» — і праз гутарку тых, у каго «ўсе морды на адно ліцо», апухлых алкаголікаў, адкрыюцца нам дзверы ў іх душы, уразяць сумныя гісторыі іх падзення, пачуецца маўклівы, блізкі да безнадзейнасці кліч аб дапамозе...

Можна многа гаварыць аб мове пісьменніка, аб яго таленце жывапісца, уменні яркімі фантастычна-рамантычнымі фарбамі стварыць незвычайнасць абставін, казачнасць атмасферы, як, скажам у рамане «Мінск і воран, Парыж і здань», дзе, напрыклад, проста заварожвае апісанне Топкага балота, дзе жывуць чалавечымі клопатамі мудры Воран-крумкач і пугач, дзе працуе і адпачывае вецер, робіць свае справы ноч.

Анатоль Казлоў не з тых пісьменнікаў, хто прапаведуе духоўны плюралізм, новую мараль, новыя фальшывыя каштоўнасці, бо ведае цану даўно праверанаму, апрабаванаму. Хочацца пажадаць пісьменніку новых адкрыццяў у галіне чалавеказнаўства, новых творчых поспехаў.

**Эмануіл ІОФЕ**

# ШТО ТОІЦЦА ПАД НАЗВАЙ «ВКЛ»?

*Вялікае княства Літоўскае.* **Энцыклапедыя. У 2-х тамах.** Беларуская Энцыклапедыя, 2005—2006 гг.

Больш як палову другога тысячагоддзя беларускі народ знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага — з XIII па XVIII стагоддзе.

Гэта былі цяжкія часы для нашых продкаў. У XIII стагоддзі адбывалася барацьба галіцка-валынскіх князёў з князем Міндоўгам за валоданне Верхнім Панямоннем, дзе ўзніклі Гарадзенскае, Наваградскае, Ваўкавыскае, Слонімскае ўдзельныя княствы. У летапісе названа яшчэ Свіслацкае княства.

Менавіта з сярэдзіны XIII стагоддзя ўсё больш узвышалася Наваградскае княства, якое дасягнула параўнаўча высокага эканамічнага і культурнага ўзроўню. У 1253 годзе са згоды Папы рымскага ў сваёй рэзідэнцыі ў Наваградку каранаваўся і прыняў тытул караля князь Міндоўт. Яму ўдалося стварыць адносна адзіную беларуска-літоўскую дзяржаву, якая стала асновай Вялікага княства Літоўскага.

Калі коратка адказаць на пытанне: «Што тоіцца пад назвай «ВКЛ»?, то можна адзначыць, што Вялікае княства Літоўскае, Беларуска-Літоўская дзяржава (гаспадарства), афіцыйная назва Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, якая займала тэрыторыю Беларусі і Літвы (XIII—XVIII стагоддзі), Жэмайціі (з 1400-х гадоў), часткі «ўкраінных» (ускраінных) зямель (Кіеўская, Чарнігаўская землі і Валынь з 1360-х гадоў), часткі вялікарасійскіх зямель (у XIV— пачатку XVI стагоддзя). Ядром гэтай дзяржавы пры яе ўтварэнні былі беларускія землі Верхняга і Сярэдняга Панямоння, так званая Чорная Русь, ці гістарычная Літва, і землі па верхнім цячэнні ракі Віліі са сталіцай у горадзе Наваградку.

У ВКЛ была прынята славянская сістэма дзяржаўнай арганізацыі. Славянская частка Вялікага княства Літоўскага значна пераважала балцкую і была больш развітая ў сацыяльна-эканамічным і культурным плане. Балты ў той час яшчэ былі язычнікамі, не мелі ні гарадоў, ні мураванага дойлідства, ні нават свайго пісьменства. Старабеларуская мова славянскага насельніцтва стала дзяржаўнай мовай ВКЛ. Славянская перавага была канчаткова замацавана пасля ўваходжання ў ВКЛ у 1307 годзе Полацкага княства.




Стварэнне ВКЛ мела лёсаноснае значэнне ў гісторыі беларускай нацыі. Каб не гэтая магутная дзяржава, каб не еднасць і адвага яе народа, каб не ахвярная адданасць нашых продкаў роднай Бацькаўшчыне, яны не вытрымалі б двухсотгадовай крыжацкай экспансіі і смяротна небяспечнай мангола-татарскай навалы, як не выстаялі перад ёю нашы суседзі, якія на два з паловай стагоддзі трапілі ў няволю.

Стварэнне канфедэрацыі ВКЛ і Польшчы спрыяла ўмацаванню абараназдольнасці абедзвюх краін.

Статут ВКЛ 1588 года па праве лічыцца ў свеце класічным узорам заканадаўства эпохі сярэднявечча. Ён замацоўваў суверэнітэт княства, грамадскі і дзяржаўны лад, правы і абавязкі жыхароў, прынцыпы судовага ладу. Статут заканадаўча сцвярджаў ідэю рэлігійнай талерантнасці і бараніў правы людзей незалежна ад веравызнання. І яшчэ. Статут 1588 года стаў ці не першым у Еўропе кодэксам, які рашуча абараняў прыроду.

Для Беларусі ВКЛ мае выключнае значэнне, бо менавіта ў складзе гэтай дзяржавы канчаткова сфарміраваўся беларускі народ.

Усе гэтыя абставіны абумовілі той выключны інтарэс шырокага кола чытачоў нашай краіны да двухтомнай энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае», якая выдадзена ў Мінску ў 2005—2006 гадах выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя».

Дасведчаны чытач можа задаць пытанне. Праблемы гісторыі і культуры ВКЛ знайшлі сваё адлюстраванне ў 6 тамах (7 кнігах) «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (ЭГБ) і 18 тамах «Беларускай Энцыклапедыі» (БЭ), якія выйшлі ў 1993—2004 гадах. Чым жа адрозніваецца ад іх рэцэнзуемае выданне?

Па-першае, гэта абагульняючае выданне ў такім вялікім маштабе выходзіць у Беларусі ўпершыню. Падумаць толькі! 4000 артыкулаў аб ВКЛ! На старонках энцыклапедыі змешчаны звесткі пра ўсіх вялікіх князёў літоўскіх, якія адначасова былі і польскімі каралямі. Вельмі грунтоўна прадстаўлены ўсе магнацкія роды, асабліва Радзівілы, Сангушкі, Сапегі. Тут знайшлі асвятленне жыццё і дзейнасць славутых мастакоў, пісьменнікаў, вучоных, педагогаў і іншых дзеячаў беларускай культуры.

Па-другое, у калектыўнай працы «Вялікае княства Літоўкае» прынялі ўдзел каля 200 навукоўцаў, прычым не толькі вядучых вучоных Беларусі — спецыялістаў па гісторыі ВКЛ, яе дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным ладзе і культуры, а таксама навукоўцаў з Літвы, Украіны, Польшчы, Расіі і нават са Швецыі...

Разам са сталымі навукоўцамі — А. Грыцкевічам, Г. Галенчанкам, А. Мальдзісам, нябожчыкамі Я. Юхо, С. Падокшыным у стварэнні энцыклапедыі «ВКЛ» прынялі актыўны ўдзел маладыя даследчыкі В. Пазнякоў, А. Янушкевіч, Н. Скеп'ян, А. Доўнар, М. Макараў.

Па-трэцяе, глыбінёй раскрыцця асноўных праблем і пытанняў па разглядаемых тэмах. Гэта перш за ўсё датычыцца аглядных артыкулаў па гісторыі, дзяржаўным і палітычным ладзе, эканамічным развіцці дзяржавы, яе сацыяльнай структуры, культуры, па гісторыі даследавання ВКЛ.

Па-чацвёртае, у новым ракурсе раскрыты некаторыя падзеі, якія раней абыходзіла айчынная гісторыя. Напрыклад, падзеі Сямігадовай вайны, якая вялася ў Цэнтральнай Еўропе з удзелам Расійскай імперыі. Хоць Рэч Паспалітая афіцыйна не ўдзельнічала ў ваенных дзеяннях, войскі, якія накіроўваліся ў Прусію, праходзілі праз землі ВКЛ. У той жа час Сямігадовая вайна (1756—1763 гг.) аказала моцны ўплыў на ўнутрыпалітычнае становішча Рэчы Паспалітай, асабліва на барацьбу магнацкіх груповак на тэрыторыі Беларусі.

Па-пятае, складальнікі энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» імкнуліся як мага падрабязней асвятліць культурнае жыццё ВКЛ. Гэтым тлумачыцца наяўнасць мноства артыкулаў, прысвечаных помнікам архітэктуры, — замкам, палацам, цэрквам, манастырам, найбольш значным тэатрам, друкарням, рукапісным і друкаваным кнігам, перыядычным выданням. Адзначым толькі, што ў гэтай энцыклапедыі ўпершыню сабраны каштоўныя дадзеныя пра ўсе праваслаўныя, рымска-каталіцкія і уніяцкія епархіі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (акрамя Чарнігаўскай).

Па-шостае, у рэцэнзуемай энцыклапедыі змешчаны больш поўныя біяграфіі навукоўцаў XIX—XXI стагоддзяў, якія зрабілі найбольш важкі ўклад у даследаванне гісторыі і культуры ВКЛ.

Па-сёмае, нават у параўнанні з ілюстраванымі «Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі» і «Беларускай Энцыклапедыяй», «Вялікае княства Літоўскае» значна

больш багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі і планамі.

Калі ў матэрыяле «Вялікае княства Літоўскае» (ЭГБ) ёсць падраздзел «Культура і асвета», то ў першым томе «ВКЛ» маюцца асобныя матэрыялы: «Асвета», «Літаратура», «Мастацтва».

У энцыклапедыі «ВКЛ» большая ўвага нададзена раскрыццю пытання «Асвета». Калі ў «ЭГБ» гэтаму пытанню прысвечана каля адной старонкі, то ў «Вялікім княстве Літоўскім» (артыкул Мікалая Рыбко) — амаль чатыры старонкі.

У прыватнасці, уведзены матэрыял аб заснаванні з 1720-х гадоў платных і бясплатных школ ордэна піяраў. М. Рыбко слушна адзначае, што важнейшай асаблівасцю піярскага падыходу да арганізацыі навучальнага працэсу было творчае асэнсаванне заканамернасцей яго развіцця з улікам канкрэтна-гістарычных рэалій.

Чытачу, які цікавіцца гісторыяй асветы на беларускіх землях, будзе карысна азнаеміцца з такімі фактычнымі дадзенымі:

«Адсутнасць у ВКЛ (да 1579) вышэйшых навучальных устаноў падштурхоўвала моладзь да вучобы ў замежных універсітэтах — Кракаўскім, Падуанскім, Пражскім, Балонскім, пазней — Вітэнбергскім, Лейпцыгскім, Каралявецкім і інш. Так, у Кракаве з 1510 па 1560 год навучаліся 84 студэнты з 30 гарадоў Літвы і Жамойціі. Падуанскі універсітэт да XIV стагоддзя рыхтаваў для ВКЛ пераважна лекараў і юрыстаў, потым гісторыкаў, філолагаў і філосафаў. У XVII стагоддзі для Рэчы Паспалітай ім падрыхтаваны 163 дактары медыцыны. У 1545 годзе герцаг Прускага княства Альбрэхт выдзеліў спецыяльныя стыпендыі для беларуска-літоўскай моладзі ў Каралявецкім універсітэце».

Адным з самых цікавых матэрыялаў энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае», безумоўна, з'яўляецца артыкул Алеся Бразгунова і Вячаслава Чамярыцкага «Літаратура».

Абмежаваны ліміт тэксту (менш адной старонкі) не даў магчымасці раскрыць гэту тэму ў «ЭГБ». Іншая справа ў першым томе «ВКЛ». Адзначаючы, што ў эпоху позняга сярэднявечча ў ВКЛ працягвалася станаўленне ўласна беларускай літаратуры, якое адбывалася даволі марудна, аўтары артыкула акцэнтуюць увагу чытача на тым, што відным прадстаўніком царкоўнага красамоўства быў Грыгорый Цамблак, абраны ў 1415 годзе ў Навагрудку кіеўскім мітрапалітам. Яго ўрачыстыя словы-пропаведзі, напісаныя вобразнай мовай, былі значнай з'явай у царкоўнай аратарскай прозе таго часу. Новыя якасці набыла паломніцкая проза, асобныя творы якой нагадвалі дзённікі падарожжаў. Нельга не згадзіцца з А. Бразгуновым і В. Чамярыцкім, што значным крокам у развіцці гэтага жанру было «Хаджэнне ў Царград» Ігнація Смаляніна (канец XIV стагоддзя), напісанае назіральным аўтарам. У XV — пачатку XVI стагоддзя ўзнік панегірычны жанр пахвал, што прысвячаліся асобным дзяржаўным дзеячам Вялікага княства Літоўскага («Пахвала Вітаўту», «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму» і інш.).

Прыхільнікам гісторыі беларускай літаратуры будзе карысна ведаць, што на раннім этапе гісторыі Вялікага княства Літоўскага найбольшага росквіту дасягнула летапісанне, якое адчула ўплыў старажытнарускага летапісання і адыграла выдатную ролю ў станаўленні беларускай і літоўскай гістарычнай прозы. На змену мясцовым летапісам з'явіліся агульнадзяржаўныя беларуска-літоўскія, у якіх адлюстравана багатае мінулае беларускага і літоўскага народаў. З агульнадзяржаўных пазіцый асвятляліся падзеі ў «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх» (першая трэць XV стагоддзя) і Беларуска-літоўскім летапісе 1446 года. У іх выявіліся погляды грамадскіх колаў Беларусі і Літвы, што падтрымлівалі вялікакняжацкую ўладу ў яе барацьбе з феадальнай раздробленасцю за палітычнае адзінства і магутнасць сваёй краіны. Заўважаючы, што істотна змянілася і жанравая прырода беларуска-літоўскіх летапісаў, асаблівасцю якой стала спалучэнне традыцыйнай пагадовай формы выкладу з прагматычным апавяданнем пра мінулае, аўтары артыкула прыходзяць да высновы, што быў выпрацаваны своеасаблівы летапісны стыль, лаканічны, выразны, блізкі да стылю дзелавога пісьменства.

Зразумела, што рэдкалегія энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» не магла абмінуць постаці Ф. Скарыны, яго ўклад ў развіццё культуры ВКЛ і Беларусі. А. Бразгуноў і В. Чамярыцкі справядліва падкрэсліваюць, што «этапнае значэнне ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры ВКЛ мела дзейнасць беларускага гуманіста-асветніка, заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання, пісьменніка і перакладчыка Ф. Скарыны», якога яны лічаць «пачынальнікам беларускага вершаскладання і гімнаграфіі». На іх думку, ён давёў да высокай дасканаласці жанр прадмоў — зародкаў беларускага літаратуразнаўства і крытыкі, беларускай філалогіі.

Нельга не згадзіцца з А. Бразгуновым і В. Чамярыцкім, што новай з'явай у літаратуры XVI — першай палавіны XVII стагоддзя была кніжная паэзія, пачатак якой паклалі яшчэ Скарына і Мажвідас. Яна вызначалася ідэйна-тэматычнай і жанрава-стылявой разнастайнасцю. Цікава, што ў той час карыстаўся папулярнасцю жанр эпіграм — рытарычных пахвал, пададзеных у форме вершаваных надпісаў да гербаў мецэнатаў. Існавалі таксама дэкламацыі, элегіі, сатырычныя і духоўныя вершы, грамадзянская лірыка, найлепшы ўзор якой у даўняй беларускай паэзіі — верш Я. К. Пашкевіча «Польска квітне лаціною...»

Аналізуючы развіццё літаратуры ў Вялікім княстве Літоўскім, аўтары артыкула звяртаюць увагу на тое, што глыбокую трансфармацыю перажывала гісторыка-дакументальная проза. Замест агульнадзяржаўных летапісаў і хронік узніклі новыя літаратурныя жанры: мемуары (дыярыушы), мясцовыя летапісы і хранографы. У пачатку XVII стагоддзя навагародскі шляхціц Ф. Еўлашэўскі стварыў адзін з першых беларускіх дыярыушаў, у якім малюнкі жыцця і побыту беларускай шляхты пададзены ў сувязі з біяграфіяй аўтара. Багатыя і цікавыя зместам, напісаныя на польскай мове дыярыушы С. І. Маскевіча і Б. К. Маскевіча, у якіх занатаваны бурныя падзеі вайны з Расіяй у пачатку XVII стагоддзя. Шырокую вядомасць набыла сухая, аднак надзвычай працяглы час папулярная лацінская «Гісторыя Літвы» (1650—1669) А. Каяловіча. Святаром з Магілёўшчыны складзены Баркулабаўскі летапіс, у якім апісаны важныя гістарычныя падзеі канца XVI — пачатку XVII стагоддзя, праўдзіва пададзены запамінальныя малюнкі цяжкага жыцця беларускай вёскі таго часу. У якасці яскравага прыкладу жанру хранографа А. Бразгуноў і В. Чамярыцкі прыводзяць «Вялікую хроніку», складзеную ў XVII стагоддзі на падставе перакладзеных на беларускую мову польскіх хронік М. Бельскага, М. Стрыйкоўскага, сярэднявечных гістарычных аповесцей і іншых крыніц.

Адной з вартасцей энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» з'яўляецца разгляд перакладчыцкай дзейнасці таго часу, што сведчыла «пра павелічэнне чытацкага попыту і ўзмацненне культурных узаемасувязей народаў ВКЛ з іншымі народамі свету». Адзначаючы, што сярод перакладаў на беларускую мову пачалі пераважаць творы свецкага характару, белетрыстычныя творы, аўтары матэрыялу ў якасці прыкладаў справядліва прыводзяць зборнікі дыдактычных навел («Вялікае зярцала», «Зорка прасветлая», «Рымскія дзеянні»), воінскія аповесці («Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Скандэрбега»), рыцарскія раманы («Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву»), прыгодніцкую літаратуру («Гісторыя пра Апалона Цірскага»).

Канстатуючы той факт, што ніводны з беларускіх перакладаў не быў надрукаваны, А. Бразгуноў і В. Чамярыцкі, на жаль, не прыводзяць свайго тлумачэння або меркавання аб гэтым факце.

У той жа час, на іх думку, адметнай рысай літаратуры ВКЛ XVI—XVII стагоддзяў было павелічэнне польскамоўных перакладаў з заходнееўрапейскіх літаратур. Пераважна гэта былі гістарыяграфічныя і біяграфічныя крыніцы па антычнай і сярэднявечнай гісторыі.

Аўтары артыкула прыходзяць да слушнай высновы, што ідэі Асветніцтва садзейнічалі пераасэнсаванню і перадоленню ў другой палове XVIII стагоддзя старых літаратурных традыцый, узмацненню новых эстэтычных тэндэнцый, з'яўленню якасна новых мастацкіх твораў, якія паклалі пачатак фарміраванню нацыянальных беларускай і літоўскай літаратур на народных мовах. Найбольш яркімі і выдатнымі

літаратурнымі помнікамі той эпохі на землях ВКЛ яны лічаць паэму К. Данелайціса «Поры года» і «Камедыю» К. Марашэўскага.

Асвятленне праблем развіцця мастацтва ВКЛ у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» займае трохі больш чым тры старонкі. Матэрыял Т. Габрусь, А. Ярашэвіча, А. Хадыкі, В. Бажэнавай, А. Пікулік, Я. Сахуты, В. Дадзіёмавай, В. Арэшкі «Мастацтва» ў рэцэнзуемай энцыклапедыі змяшчае 22 старонкі. Ён уяўляе дэтальны, даволі глыбокі разгляд архітэктуры, іканапісу і алтарнага жывапісу, партрэта, манументальнага жывапісу, гравюры, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, музычнага мастацтва, тэатра.

У прыватнасці, вядомая даследчыца музычнага мастацтва Вольга Дадзіёмава адзначае: «Музычнае мастацтва ВКЛ было часткай еўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу з усімі характэрнымі для яго стылёвымі этапамі — ад рэнесансу да барока і класіцызму. Аднак яно мела і унікальныя рысы, абумоўленыя этнаканфесіянальнай шматвектарнасцю: суіснаваннем музычных традыцый усіх хрысціянскіх (праваслаўя, каталіцызму, уніяцтва, пратэстантызму) і буйнейшых нехрысціянскіх (іудаізм і іслам) канфесій, спалучэннем розных этнічных плыней... Выдатны ўзор эпохі сярэдневякоўя гімн «Багародзіца», які выконваўся пераважна вернікамі заходнехрысціянскай канфесіі. Свецкая музычная плынь была адзначана развіццём сольнага і ансамблевага музіцыравання, пашыранага ў гарадскім асяроддзі і пры дварах знаці».

У энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» шмат каштоўнага і цікавага змяшчаюць агляднresponse артыкулы «Гісторыя», «Тэрыторыя, адміністрацыйны падзел», «Дзяржаўны і палітычны лад», «Дзяржаўная і зямельная сімволіка», «Дэмаграфія, заселенасць», «Народы і мовы», «Саслоўная структура», «Сельская гаспадарка», «Рамяство», «Транспарт і шляхі зносін», «Матэрыяльныя ўмовы жыцця», «Грашовае абарачэнне», «Войска», «Царква», «Крыніцы гісторыі», «Гістарыяграфія».

А цяпер паспрабуем прааналізаваць асобныя артыкулы рэцэнзуемай энцыклапедыі. Перш за ўсё звернем увагу на новыя артыкулы, гэта значыць на тыя, якіх няма ў «ЭГБ» і «БЭ».

Напрыклад, артыкул З. Яцкевіча «Аблегат». Чытач даведаецца, што гэты тэрмін мае два сэнсы: 1) папскі легат; 2) пасол з правам дарадчага голасу. Найчасцей у ВКЛ аблегатамі называлі гарадскіх паслоў, якія ехалі да караля, на соймы і соймікі, на пасяджэнні Трыбунала ВКЛ, задворнага асэсарскага, каптуровага, гродскага, земскага і іншых судоў.

Матэрыял Я. Скрабоцкага «Авізы Гродзеньске» («Гарадзенскія весці») апавядае аб першым інфармацыйным бюлетэні ў ВКЛ і на Беларусі, які пачаў выдавацца з 1678 года ў час пасяджэнняў у Гародні соймаў Рэчы Паспалітай і выходзіў на польскай мове.

Адной з самых каштоўных крыніц па гісторыі ВКЛ з'яўляюцца «Акты Аляксандра, караля польскага, вялікага князя Літоўскага» (1501—1506). Артыкул Георгія Галенчанкі пад такой назвай знаёміць чытача са зборам актаў Аляксандра, выдадзеным у Кракаве ў 1927 годзе. Дакументы гэтых актаў асвятляюць узаемаадносіны Польшчы з ВКЛ, Маскоўскай Руссю, Нямецкім ордэнам, Рымам, Валахіяй.

Што абазначае тэрмін «Альба»?

У першым томе «ЭГБ» няма адказу на гэта пытанне. Што датычыцца першага тома «БЭ», то тут змешчаны два невялікія артыкулы: 1) Альба — вёска ў Беларусі, у Квасевіцкім сельсавеце Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці; 2) Альба Альварэс дэ Таледа Фернанда — герцаг, іспанскі палкаводзец і палітычны дзеяч.

Прачытаўшы першы том «ВКЛ», чытач даведаецца, што «Альба» — гэта прыгарадны фальварак Нясвіжа, месца размяшчэння палацава-паркавага ансамбля князёў Радзівілаў. У XVI—XVII стагоддзях тут існаваў загарадны дом Радзівілаў, а ў першай палове XVIII стагоддзя ў Альбе быў закладзены вялікі парк са шматлікімі пабудовамі плошчай больш за 200 гектараў.

Артыкул А. Грыцкевіча «Берасцейская Біблія, Радзівілаўская Біблія» прысвечаны помніку польскамоўнага кнігадрукавання ў ВКЛ. Яна была выдадзена ў Бярэсці

на сродкі М. Радзівіла Чорнага, старасты берасцейскага, аднаго з кіраўнікоў кальвіністаў у ВКЛ. На той час Берасцейская Біблія была адным з лепшых выданняў у ВКЛ і Польшчы. Тым чытачам, хто захоча асабіста пазнаеміцца з гэтым выданнем, пагартаць яго старонкі, аўтар артыкула паведамляе, што экземпляры Берасцейскай Бібліі зберагаюцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве, Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Пецярбургу, Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, у Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве і іншых бібліятэках замежных краін. Няпоўны экземпляр гэтага выдання маецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У той жа час двухтомная энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае», на вялікі жаль, не пазбаўлена шэрага недахопаў.

У першым раздзеле «Гісторыя» даволі павярхоўна раскрыты працэс уваходжання беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага. Чытачу гэтага раздзела цяжка зразумець, што да Люблінскай уніі Вялікае княства Літоўскае было дзяржавай чатырох народаў — беларускага, літоўскага, украінскага і рускага, а пасля заключэння гэтай уніі — фактычна пераўтварылася ў Беларуска-Літоўскую або Літоўска-Беларускую дзяржаву. Гэта прынцыпова важна, таму што ў выданнях «100 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі» і «150 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі» Вялікае княства Літоўскае разглядаецца толькі як Беларуская дзяржава.

Шкада, што ў раздзеле «Дзяржаўны і палітычны лад» не раскрыта эвалюцыя вялікакняжацкай улады ў структуры органаў дзяржаўнага кіравання ВКЛ у канцы XIV — пачатку XVI стагоддзя. Між іншым, гэтай праблеме была прысвечана кандыдацкая дысертацыя маладога беларускага даследчыка Віктара Цішчанкі, якая была паспяхова абаронена ў студзені 2007 года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Цікавыя пытанні разглядаюцца ў раздзеле «Народы і мовы». Разам з тым яўрэям, якія ўнеслі значны ўклад у эканамічнае і культурнае развіццё Вялікага княства Літоўскага, прысвечаны толькі адзін невялікі абзац.

Незразумела, чаму ў падраздзеле «Шляхта» раздзела «Саслоўная структура» такая мізэрная, крайне недастатковая ўвага ўдзелена буйным феадаламмагнатам.

Большай навуковай аб'ектыўнасці патрабуе разгляд асноўных пытанняў у раздзелах «Рамяство» і «Гандаль». Прачытаўшы гэтыя раздзелы, чытач не знойдзе адказу на сваё пытанне аб этнічным складзе рамеснікаў і гандляроў Вялікага княства Літоўскага.

Шмат каштоўнага змяшчае ў сабе раздзел «Гістарыяграфія», у які ўваходзяць падраздзелы аб абагульняючых працах па гісторыі ВКЛ, палітычнай, сацыяльнаэканамічнай гісторыі ВКЛ, царкоўных і этнаканфесіянальных адносінах у ВКЛ, культуры ВКЛ у XIII—XVI і XVII—XVIII стагоддзях. На вялікі жаль, па-за ўвагай аўтараў гэтага раздзела Ю. Бохана і Г. Галенчанкі аказалася творчая спадчына аднаго з заснавальнікаў і класікаў беларускай гістарычнай навукі Уладзіміра Іванавіча Пічэты, які значную частку сваіх даследаванняў, у тым ліку і абагульняючых прац, прысвяціў гісторыі і культуры Вялікага княства Літоўскага. Гэта прозвішча (толькі ўпамінанне) можна сустрэць на старонках 174, 178, 179, 183, 190.

У раздзеле «Гістарыяграфія» нават не ўпамінаюцца працы ўкраінскага гісторыка М. Чубатага, прысвечаныя прававому становішчу ўкраінскіх зямель ВКЛ у канцы XIV стагоддзя, польскіх гісторыкаў Ф. Паппе, Л. Фінкеля, манаграфія Л. Корчак аб палітычнай гісторыі ВКЛ у XV стагоддзі, абагульняючая праца сучаснага польскага даследчыка Г. Блашчыка, прысвечаная гісторыі Літвы ў 1492—1569 гадах, даследаванне літоўскага гісторыка С. Роуэла «Мядзведзі і здраднікі, ці Палітычныя трэнні ў Вялікім княстве (1440—1481)»; 1997), даследаванні беларускіх навукоўцаў А. Французава «Казімір Андрэй Ягайлавіч» (2001), Ю. А. Зайца «Вялікі князь літоўскі Вітаўт як палітык, ваенны і дзяржаўны дзеяч» (2003), А. Любага па палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

Прынцыповы недахоп уласцівы многім артыкулам аб беларускіх, літоўскіх, польскіх, расійскіх навукоўцах, якія займаліся і займаюцца даследаваннем гісто-

рыі і культуры Вялікага княства Літоўскага. Трэба даваць не проста біяграфічныя звесткі, а галоўнае — што канкрэтна зрабіў той ці іншы вучоны ў даследаванні гісторыі і культуры ВКЛ.

Гаворка ідзе аб артыкулах, аб гісторыках Л. Казлове, З. Капыскім, Я. Карпачове, Г. КахаНоўскім, А. Сапунове, А. Ясінскім, мастацтвазнаўцах М. Кацары, Л. Касцюкавец, А. Лявонавай, У. Неўдаху, літаратуразнаўцах І. Клімаве, С. Майхровічу, гісторыках архітэктуры А. Лакотку, І. Слюньковай, У. і Ю. Чантурыя, археолагах А. Мяцельскім і В. Шаблюку, этнолагу М. Піліпенку, філосафе і юрысце С. Сокале, геабатаніку А. Федаруку.

Нават там, дзе ўпамінаецца аб канкрэтным укладзе таго ці іншага вучонага, то гэта зроблена павярхоўна, неглыбока. Так, даследчык У. Вернігораў у артыкуле «Пічэта Уладзімір Іванавіч» (Т.2, стар.441—442) галоўную заслугу вучонага бачыць у тым, што ў 1920-я гады ён адмовіўся ад тэрміна «Літоўска-Руская дзяржава» і замяніў яго на «Літоўска-Беларуская дзяржава», а ў апошнія гады свайго жыцця карыстаўся назвай «Вялікае княства Літоўскае».

Між іншым, у пераліку навуковых даследаванняў некаторых вучоных прыводзяцца працы, якія не адносяцца да разглядаемай праблемы, гэта значыць гісторыі і культуры Вялікага княства Літоўскага.

Так, спіс навуковых прац беларускага архітэктара, гісторыка архітэктуры і этнографа А. Лакоткі пачынаецца з даследаванняў «Общие и региональные особенности народного жилища Белоруссии (середина XIX—XX в.), «Белорусское народное зодчество. Середина XIX—XX в.» і «Беларускае народнае дойлідства (XIX — сярэдзіна XX ст.).

У артыкуле В. Панюціча «Кернажыцкі Канстанцін Іванавіч» спіс літаратуры аб гэтым даследчыку складаюць два артыкулы з газеты «Навіны Беларускай акадэміі навук». З гэтым можна было б згадзіцца, каб не было іншай літаратуры. На самай справе, маюцца каштоўныя артыкулы аб К. І. Кернажыцкім у шэрагу кніг і часопісаў.

На вялікі жаль, у рэцэнзуемай энцыклапедыі адсутнічаюць артыкулы аб такіх даследчыках гісторыі і культуры Вялікага княства Літоўскага, як апантаны навукоўца ў галіне гісторыі і культуры беларускіх татар, аўтар шматлікіх даследаванняў па гэтай праблеме ў перыяд канца XIV—XVIII стагоддзяў, кандыдат гістарычных навук І. Б. Канапацкі, даследчык палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага А. Любы, буйны спецыяліст па гісторыі і гістарыяграфіі Беларусі і Вялікага княства Літоўскага, акадэмік, доктар гістарычных навук, прафесар У. М. Перцаў, доктар гістарычных навук, прафесар А. П. П'янкоў, пяру якога належаць шэраг прац па гісторыі ВКЛ, у тым ліку артыкул «Асноўныя формы феадальнай залежнасці сельскага насельніцтва Русі, Украіны, Беларусі і Літвы ў XIV—XV стагоддзях», аўтар арыгінальных прац па сацыяльна-эканамічнай гісторыі ВКЛ, кандыдат гістарычных навук Я. П. Шлосберг, аўтар кандыдацкай дысертацыі «Гарады Заходняй Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай у першай палове XVII стагоддзя», абароненай у Львове ў 1958 годзе, С. А. Шчарбакоў.

На старонцы 121-й першага тома энцыклапедыі і на іншых старонках ужываецца тэрмін «Кракаўскі універсітэт». Больш дакладна трэба пісаць «Ягелонскі універсітэт у Кракаве», як гэта зроблена на 141-й старонцы гэтага тома.

У другой кнізе шостага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» змешчаны «Імянны паказальнік» да ўсіх тамоў «ЭГБ». Шкада, што такі паказальнік адсутнічае ў энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае».

Нягледзячы на гэтыя недахопы, трэба адзначыць, што калектыў выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» выдаў каштоўную, цікавую і патрэбную працу па гісторыі і культуры не толькі беларускага, але і літоўскага, украінскага, рускага і польскага народаў. Гэта важная падзея ў навуковым і грамадскім жыцці Рэспублікі Беларусь. Між іншым, падобнай энцыклапедыі няма ні ў Літве, ні на Украіне, ні ў Расіі.

Дзмітрый БУГАЁЎ

# ШМАТМЕРНАСЦЬ ПАЭТЫЧНАГА СВЕТУ ЛЮДМІЛЫ РУБЛЕЎСКАЙ

*Людміла Рублеўская.* **Шыпшына для Пані.** Мінск, Мастацкая літаратура, 2007.

Людміла Рублеўская вызначаецца living рознабаковай таленавітасцю. Яна піша добрую прозу, а цяпер выдала чарговую кнігу паэзіі, кнігу яркую, глыбокую, з багатым інтэлектуальным зместам. Паэтэса ўжо ўступіла ў пару жыццёвай сталасці, якая шчасліва спалучаецца са сталасцю творчай.

Нарадзілася Людміла Рублеўская ў 1965 годзе ў Мінску. Для беларускай паэтэсы гарадскія карані — з’ява адметная. Кажу так, бо абсалютную большасць стваральнікаў нашай мастацкай літаратуры выкалыхвала вясковае прыволле. Гарадскі брук у гэтым сэнсе ў нас намнога скупейшы.




Людміла Рублеўская атрымала грунтоўную і рознабаковую адукацыю. Яна скончыла Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і філфак Белдзяржуніверсітэта, вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве, працавала літкансультантам у «Народнай газеце», загадчыкам аддзела крытыкі ў часопісе «Першацвет» і газеце «Літаратура і мастацтва», цяпер з’яўляецца літаратурным аглядальнікам газеты «Советская Белоруссия». Адукацыйна-паслужны спіс прадстаўнічы. І гэтая прадстаўнічасць выразна адгукаецца ў кнізе «Шыпшына для Пані», у прыватнасці добра адчуваецца ў той свабодзе, з якою паэтэса піша пра разнастайныя жыццёвыя з’явы.

Ключавым вобразам у Рублеўскай выступае вобраз саду. Усе дзесяць раздзелаў кнігі ў загалоўку маюць слова «сад»: «Сад камянёў», «Сад скрыжавання», «Сад храма», «Сад агню» і інш. Гэтае слова вынесена і ў запеўку да зборніка, названую проста «Сад».

Любоў да саду, калі ён у квецені, можна лічыць праявай жаноцкасці, бо жаночая душа ў любасці да кветак звычайна раскрываецца хораша і шчодра.

У Людмілы Рублеўскай з усяго кветкавага багацця на першы план вылучана шыпшына. Мне гэта ўяўляецца знакавай прыкметай. Знакавай у тым сэнсе, што сам вобраз паэтэсы, як ён адлюстраваўся ў кнізе, нечым нагадвае шыпшыну, кветку прыемную, прывабную, здольную лекаваць чалавечыя хваробы, але калючую. Калючасці, рэзкасці меркаванняў, супярэчлівасці настрояў шмат і ў кнізе «Шыпшына для Пані». Гэта, канечне ж, не загана кнігі, а яе адметнасць, адлюстраванне супярэчлівасці, гуманістычнай неўладкаванасці сучаснага свету, які ставіць перад чалавекам усё новыя і новыя, раз за разам больш балючыя праблемы і выпрабаванні. Людміла Рублеўская піша пра іх без спрошчанасці і самых малых збояў на павярхоўнае сюсюканне, вельмі частае ў так званай жаночай паэзіі.

Моцна гучаць у кнізе матывы самаахвярнай любові да Беларусі, хараша ўзнаўляюцца многія старонкі нашай гісторыі, яе паваротныя часіны, зорныя ці гранічна трагічныя моманты, малююцца вобразы мужных барацьбітоў за свабоду, адданых патрыётаў.

Часта гэта ўдзельнікі паўстання Кастуся Каліноўскага. Водгаласы таго паўстання, трагічнага і па-свойму велічнага лёсу яго змагароў прачытваюцца ў вершах «Непераможаныя» (падзагаловак «Інсургенцкая песня»), «Лірнік», «1864» і іншых.

Што мадзець ды бегаць нам ад служакаў царскіх?
Мы — аскепкі вольнасці, нездабытай, наскай.
Што нам, белым русічам, у чужыне — слава?
Пушча будзе — бацька нам, маці і дзяржава.
Хай гайдае віселька галавой пустою.
Едзем мы да Месяца ды па першастою.
Не загіне гонар наш, край ніхто не зганіць,
Покуль волі вастравы ёсць — а за імі памяць, —

піша Рублеўская, славячы непераможаных інсургентаў, піша размашыста, уздымаючы сваіх нескароных герояў ажно да неба («Едзем мы да Месяца»).

У вершы «Лірнік», пазначаным эпіграфам з К. Каліноўскага «І не трэба дваіх — каб пачаць», акрэсліваецца вобраз адданага Беларусі лірніка, які сваім граннем абуджае ў людзей памяць пра мяцежны дух паўстанцаў:

Дарога мая — ад цяпла да цяпла —
Праз белае сэрца зімы працякла.
Далёкія бомы і блізкі агмень,
І хлеба кавалак, і шчасця прамень.
І продкавы цені, і чысты абрус,
І слаўная песня твая, Беларусь!

Асабістыя нягоды для гэтага лірніка не маюць істотнага значэння, бо ён шчаслівы ўжо ад усведамлення, што недарэмна жыве на свеце, пакуль змагаецца за працяг традыцый К. Каліноўскага.

Верш «1864» — гэта крык болю ад таго, што самаахвярным барацьбітам не паверылі тыя, дзеля лепшай долі якіх уздымалася паўстанне.

Заклапочаная захаваннем гістарычнай памяці беларусаў, Людміла Рублеўская стварыла цэлы шэраг вершаў пра нашы славутыя мясціны і выдатных дзеячаў культуры. Гэта вершы «Навагрудскі замак», «Вечар у засценку», «Скарына ў Празе», «Ян Баршчэўскі», «Шляхціц Завальня», «Апанас Філіповіч», «Валянцін Таўлай», «Паланез Агінскага», «Ля бюста Пашкевічанкі», «Вінцэсь Каратынскі», «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч», «Максім Багдановіч», «Зоська Верас», «Палуян» і іншыя.

Многія з іх напісаны выключна моцна. Так, у вершы пра Дуніна-Марцінкевіча магутна гучыць маналог аўтара несмяротнай камедыі «Пінская шляхта» з нагоды афіцыйнай забароны царскімі ўладамі вучыць беларускіх дзяцей на роднай мове. Гэтая забарона не можа стрымаць сапраўдных патрыётаў — сцвярджаецца ў маналогу:

Не я навучу — дык навучаць іх
Вось гэты сівец і верас,
І зоры гэтыя, і агонь,
Што паліць пастух на лузе,
І казкі матчыны, і далонь
Ляснога возера, бусел,
Які не кідае свайго жытла
І верны сваёй сяброўцы,
Любіць радзіму да скону, так
Як любяць расліны — сонца.

Рэальная падстава для такога ўзнёслага маналога — уся шматгранная творчая і грамадская дзейнасць Дуніна-Марцінкевіча, сагрэтая вялікай любасцю да роднага краю.

У вершы «Ля бюста Пашкевічанкі» гаворка ідзе пра Элаізу Пашкевіч, палымяную рэвалюцыянерку і паэтэсу, якая ўвайшла ў гісторыю літаратуры пад псеўданімам «Цётка». Яна пэўны час працавала фельчаркай, фактычна і міласэрнай сястрой, была замужам, але дзяцей не мела. Гэтая акалічнасць і стала лейтматывам верша, у якім вылучана трагічнае ў лёсе шырока ўшанаванай жанчыны. Яно, тое трагічнае, — у адсутнасці мацярынства, без якога жаночае жыццё траціць вельмі многа:

Каханні прыйдуць яшчэ не раз.
Ды вуснаў не спаліць страсцю,
І часта клічуць цябе:
«Сястра»,
І клікаць не будуць:
«Маці».

У вершах пра славутыя мясціны асабліва шмат трагедыйнасці. Бо многія з тых мясцін цяпер у заняпадзе, а то і зусім страчаны беларусамі, як Вільня, у якой усё беларускае прыспана, аддаецца нябыту. Пра гэта верш «Могілкі Роса»:

Каменная Вільня... Сляпыя дажджы...
На могілках Роса — раса і смаўжы
На помніках, што не вартуюць магіл,
На плітах — адбітак абсечаных крыл.
Запозна прыйшлі мы сюды на паклон.
Заместа магіл — толькі рэха імён...
Разбіліся нашы легенды на друз...
У кожным каменьчыку — ёсць Беларусь,
Ды імі пасыпаны сцежкі даўно
Да помнікаў іншых, гісторый і сноў.
Каменная сцэна... Кулісы — дамы,
Дзе ролі герояў пісалі не мы,
Дзе нашых герояў іначай завуць,
Дзе ў кожным каменьчыку спіць Беларусь...

Зрэшты, трагічная спадчына ў нас не мае належнай пашаны. Вядома, у нас ёсць вартыя самай высокай павагі дзеячы, пісьменнікі. Некалькі разоў згадваецца, напрыклад, Уладзімір Караткевіч, усплываюць і іншыя імёны. Але агульны погляд паэтэсы на гэты конт даволі змрочны:

Мы ходзім штодня па дарогах абранай краіны.
Мы ходзім, нібыта балотны агеньчык слізгае.
І падае ў нашы далоні ліст вузкі асіны,
І чорная поўня, як вока чужое, міргае.

Матыў бяспамяцтва, як вялікай небяспекі для Беларусі, гучыць і ў вершы «Першым беларускім вандроўным тэатрам»:

Белая Русь,
ты празрыстая, чыстая,
Ты перад ворагам здолела выстаяць,
Перад сваёй жа пакорлівай сціпласцю,
Саманяўвагай — ці выстаіш ты?

Гэты твор мае аптымістычную канцоўку, якая ідзе ад вялікага энтузіязму вандроўных артыстаў, носьбітаў беларускага патрыятызму. Але ж і трывожнае пытанне пра саманяўвагу ставілася не так сабе. Рэальнае жыццё давала (дае і сёння) падстаў для яго больш чым дастаткова. Адсюль вялікі трагізм наступнага верша:

Ніводнай зоркі... Толькі снег
Каля мяне — зусім чырвоны.
Сплывае кроў. Сплывае век.
І дзеляць спадчыну вароны.

Колькі іх, хіжых, прагных варон, тапталася і топчацца па нашых гістарычных шляхах, вынішчаючы на іх беларускіх дух!

Не меншая пачуццёвая згушчанасць і ў вершы «26 красавіка 1986 года». Гэта дата страшэннай тэхналагічнай катастрофы, што адбылася з-за людской нядбаласці ў Чарнобылі. Яна прынесла асабліва вялікія беды Беларусі. Рублеўская піша пра Чарнобыльскую трагедыю з глыбокай скрухай:

Беларусь! Душы маёй калыска!
Возера лілейнага святла!
Да сваёй загубы гэтак блізка
Ты яшчэ ніколі не была.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Шлях растаў — і велічныя цені
Па-за нашым позіркам плывуць.
Дождж пайшоў.
Ці смерць, ці благаславенне
Кроплі срэбнавокія нясуць?

Пытанне, над якім сёння нам даводзіцца думаць няспынна, хоць залішне бадзёрыя аптымісты ўжо сцвярджаюць, што велізарная доза радыяцыі, выплеснутая чарнобыльскім выбухам, нібыта ўжо зусім нястрашная. А той жа злавесны выбух незалежныя крыніцы лічаць па сумарнай сіле роўным пяцістам такіх ядзерных бомбаў, што была скінутая на Хірасіму.

Шырыня тэматычна выяўленага дыяпазону ў кнізе Рублеўскай бачыцца і ў тым, што паэтэса звяртаецца не толькі да беларускай гісторыі, нашых знакамітых людзей, але і да гісторыі слынных асоб іншых народаў. У яе ёсць творы «Леся Украінка», «Тарас Шаўчэнка», «Кракаўскія вершы», паэтычны цыкл, напісаны па матывах біяграфіі польскага пісьменніка, мастака і скульптара Цыпрыяна Норвіда. Ладная нізка ўзнаўляе біблейскія матывы («Балада пра драўлянага Хрыста», «***Ён ішоў па вадзе...», «Варава», «Пальмавая нядзеля», «Выйсце з пусткі», «Грэшнік», «***У час, калі крылом сваім душа...» і інш.). Сюды ж прымыкае і цыкл «Стары Запавет» (вершы «Цудоўны Іосіф», «Нараджэнне Майсея», «Сыход з Егіпта»). Так ці іначай рэлігійную тэматыку закранаюць балада аб жаночай долі «Ефрасіння», творы «Кляштар», «Вечаровая малітва», «Храм Уладзіслава Чарняўскага», «У царкве» і інш.

Тэма раю і пекла ўзнікае ў вершах «Шлях да Эдэма», «Шукальнікі раю», «Старасвецкія прарокі не пабачылі Месіі», «Пілігрымы», «Выгнаннікі».

Розныя маральна-этычныя праблемы ўзнімае паэтэса ў такіх творах з драматычным сюжэтам, як «Балада пра недаступную прыгажосць», «Паляванне каралевы Боны», «***Састарэлы кароль...», «Балада пра чорны шоўк і белыя карункі». Гэтыя творы, як і шэраг іншых сюжэтных вершаў, уражваюць майстэрскім разгортваннем апавядальнай плыні і глыбінёй праблематыкі, яе філасофскай насычанасцю. Так, «Паляванне каралевы Боны» вылучае ўладалюбства гераіні, якое становіцца яе галоўнай страсцю, сэнсам жыцця.

У вершы «***Састарэлы кароль...» звяртаецца ўвага на несправядлівасць у інтэрпрэтацыі гісторыі, прыпісванне ўладарам заслуг, якія належаць народу, аплочаны крывёю яго самаахвярных сыноў:

На ахвярнік вайны
самых лепшых прыносіць краіна.
І святлее прастор,
і сціхае мячоў навальніца.
Пераможцам і збаўцам
завуць каралеўскага сына.

Безыменныя воі
ляжаць на збуцвелай ігліцы.

«Балада пра недаступную прыгажосць» цікавая арыгінальным паказам трагедыі старасці. Тут паўстае ганарыстая каралева, якая ў маладосці вызначалася сваёй жаночай красою і разам з тым — бяздушнасцю. Закаханыя ў яе юнакі гатовы былі ахвяраваць багаццем, годнасцю, самім жыццём, каб толькі наблізіцца да прыгажуні, вельмі прывабнай без дыяментаў і перлаў ды расшытых золатам строяў. Састарэўшы, каралева ўпрыгожвае сябе як толькі можа, і ганарыстасць страціла. Але... «Ніхто пад акном не спявае // Дзёрзкіх песень, спароджаных страсцю душы маладой», бо старасць зрабіла сваю справу, прыгажосць забрала. І назад ужо нічога не вернеш... Мірыцца з гэтым нялёгка. Нездарма ж мудры Міхась Лынькоў у свой час казаў: «Старасць горш за ўсякую хваробу — яна невылечная».

У «Баладзе пра чорны шоўк і белыя карункі» вельмі своеасабліва паказваецца сіла сапраўднага кахання. Герой балады Ян Равіч закаханы ў дабрадзейную і цудоўную з твару жанчыну. Але яе цела, скрытае пад чорным шоўкам, паразіла страшная хвароба. Жанчына адкрывае маладому ды вясёламу рыцару Яну сваю таямніцу. Убачыўшы «хваробы страшной сляды», ён свайго кахання не страціў, а зрабіўся манахам, стаў славутым лекарам. І прыйшоў ратаваць каханую. Ды яна к таму часу пакінула ўжо белы свет. Аднак Равіча не спалохала і гэта. Ён суцяшае сябе тым, што сустрэне сваю адзіную каханую ў іншым, замагільным свеце. І там з'яднаецца з ёю навечна.

Паварот яўна рамантызаваны. Ды ў Рублеўскай рамантызацыя часта вызначае структуру твораў, іх паэтыку. Яна і сама залічвае сябе да рамантыкаў, якія, не зважаючы на ўсе цяжкасці, упарта працуюць, каб Беларусь жыла.

Шмат разважае Рублеўская пра ролю і месца паэзіі ў грамадстве, пра сваю ўласную творчасць. Але ў гэтым тэматычным коле багата супярэчлівасці, часам адны творы спрачаюцца з другімі.

Напрыклад, у вершы «Пясняр» славіцца творца, які гатовы выконваць сваю высокую місію служэння народу пры любых абставінах, незалежна ад таго, як паставяцца да вольнай песні зямныя ўладары — «ці кінуць за спевы мядзяк на траву, ці зноў бізунамі заплацяць».

Песімістычная нота гучыць у вершы «***Сумніцельнае шчасце ўзяў паэт...». Тут яго грамадская роля ацэньваецца ўжо зусім скептычна: «у грамадстве ён нішто, і меней». Не больш аптымізму і ў вершы «***Быць выключным — якая спакусная роля...»:

Ты сябе ашукаў. Ты не здолеў нічога.
Жоўкнуць кнігі, што ты напісаў у юнацтве,
Быццам кветкі — у храме паганскага бога.
І зямля не адтала, і неба пустое,
Як ні бíся, ні радуйся славе халоднай.
І прызнацца няможна і перад сабою,
Што не дадзена сэрцу іскрынкі ніводнай.

А без таленту, хоць іскрынкі яго, які можа быць плён ад пісання?

Такому песімістычнаму настрою фактычна супрацьстаяць вершы, у якіх сцвярджаецца, што праўдзівы, бескарыслівы паэт, няхай ён звычайна і жыве жабраком, аднак здольны даць творы вялікай значнасці: «Але, калі загіне горды Рым, // Па нашых творах Рым пазнаюць людзі», — з гонарам заяўляе творца («***Што тут паэт? У гэтым сквапным свеце...»). А ў вершы «Да пытання аб чыстай красе» хораша сказана пра тую красу:

Жыць без яе — самазабойства.
Жыць — і не бачыць, як яна
Цвіце валошкамі Айчыны...
І век сплывае, бы труна,
За той красою немагчымай.

Гэта ўжо багдановічаўскі патрыятычны матыў. У Багдановіча («На чужыне») «наш родны, забыты ў цяні васілёк», ківаючы «сіняй галоўкай», нагадваў яму «аб беднай, далёкай сваёй старане», гэта значыць выступаў як сімвал Радзімы. У Рублеўскай валошкі (другая назва васількоў) таксама становяцца сімвалам Беларусі. Мабыць, і труна ў яе вершы («век сплывае, бы труна») паявілася як аддалены водгук хваробы Багдановіча, якая звяла яго ў магілу.

Аптымістычна, як сцвярджэнне сілы сапраўднай паэзіі, гучыць канцоўка ўвогуле далёка не бадзёрага верша «***І нас забудуць непапраўна рана...». І яшчэ ў тым жа ключы: «Я кнігу, як дзіця, бяру на рукі, // Каб новаму жыццю яе падкінуць» (верш «***Звіваецца арнамент геральдычны...»).

Паэтэса цвёрда наважылася заставацца непахіснай, рабіць сваю справу і тады, калі ў яе не будзе паслядоўнікаў. «Не — дык не... Мая сцяжынка мне адной належыць», — сцвярджаецца пра непахіснасць выбранага шляху ў вершы «***Праходжу праз калючыя кусты...».

Дыяметральна супрацьлеглы настрой у творы «Адысея»: «быццам кішэня абрабаваная — душа». Гэта ўжо ледзь не роспач. І яшчэ: «Я — вецер бяскрылы, // Па памылцы замкнёны ў вавёрчыным коле» («На Каляды»).

Супярэчлівасць часамі заўважаецца і ў межах аднаго верша: «Што — вершы? // Словы, словы, словы... // Прыступкі ў Вечнасць. // І не больш» («***Цыганкай злой гуляе замець...»). Дык хіба гэта мала? Дай Бог кожнаму паэту зрабіць хоць некалькі сваіх прыступак у Вечнасць!

Людміла Рублеўская слушна сцвярджае: застанецца толькі тое, што сагрэта вялікім патрыятычным пачуццём, клопатам пра лёс Радзімы, любасцю да роднага слова: «...Усё, што напісана, знікне на золку пахмурным, // Калі да Радзімы ні мовай, ні сном не прыкута», — чытаем у вершы «Пакаранне паэта», дзе эпіграфам пастаўлены шматзначныя словы афарыстычнага кшталту: «...І калі не спяваць аб Радзіме, // Дык навошта наогул спяваць?»

Сама яна адчувае сябе прыкутай да радзімы моцна, надзейна, назаўсёды: «Не адарваць ад любай радзімы. // Усімі цвікамі мне ў душу ўвайшла» («***Ці абуджаюся — ці паміраю...»).

Кніга Людмілы Рублеўскай «Шыпшына для Пані» робіць моцнае ўражанне не толькі супрацьстаўленнем героікі мінулага і прозы сучаснага быцця, адлюстраванымі паэтэсай трагічнымі праявамі і парадоксамі рэчаіснасці, словам, багаццем і глыбінёю зместу, але і самой вобразнасцю пісьма, забяспечанага ёмістым падтэкстам, увогуле вобразнасцю яркай, арыгінальнай, эмацыянальнай згушчанасцю строф і радкоў, а нярэдка іх размашыстасцю, часам сатырычнай з'едлівасцю.

«А званы на мясцовай званіцы цяжкія, як лёс», — сказана ў вершы «Шляхта». Раз'яднанасць нашай шляхты з асноўнай масай народа стала адной з галоўных прычын пакутнага кроку беларускай гісторыі, многіх яе трагічных паваротаў. Параўнанне «званы цяжкія, як лёс» і адлюстроўвае нашу трагічнасць.

Яшчэ некалькі прыкладаў яркасці тропаў у паэтыцы Людмілы Рублеўскай, іх выяўленчай сілы і арыгінальнасці: «Слязінкамі капаюць зоры з нябёс». «Плыве маладзік, бы турэцкая шабля, крывы». «Свечка на акне варушыць сваю маленькую далонь». «Свечка плача гарачым воскам». «І золата лістоў не памірае ў брудзе, // а сонцу аддае свой колер залаты». «Між берагамі — быццам на крыжы». «Цень, як мярцвяк, кладзецца на зямлю». «Верас прытушана ззяе — як боль у грудзях». «І чорнае сонца ўпаўзае у кроў». «На далонях вуліц нашы будні, як снег, знікаюць». «Колы грукочуць, нібыта рагочуць рэхам натоўпу ў мястэчках глухіх». «На асфальце, быццам стома, шэрым». «Жыву на вастрыі ляза». «Зацíхла пад белым, як жах, дыванам». «Выбіты пляц да адчаю, да цвёрдасці смерці». «Яблыкі лавіла чорнымі далонямі зямля». «Верш такі недарэчны, як мнішка у танным бардэлі», «...і ад свечак каштанаў ляжыць як нябожчык мой горад». Апошні прыклад з верша «Апанас Філіповіч», пададзенага без вялікіх літар там, дзе яны патрэбныя, і без знакаў прыпынку. Як выключэнне, застаўся ў творы толькі адзін працяжнік. Так зроблена, вядома, для арыгінальнасці, тут яўна знарочыстай.

Ды прадоўжым прыклады: «Кожны крок — па дроце, кожны ўздых — на вецер. Хоць да шчасця блізка, ды бліжэй — да смерці». Гэта ўжо філасофія, змрочна-песімістычная. Але яна з цягам часу змяніцца аптымістычнай філасофіяй з верша «Вечар у сямейным коле»: «Гадуюцца дзеці ў любові — ратуецца вечнасць».

Шмат філасофіі і ў празаічных эсэ, якімі адкрываецца кожны з дзесяці раздзелаў кнігі. Тут асабліва наглядна выяўляецца эрудзіраванасць Рублеўскай, трагедыйная абвостранасць ва ўспрыманні нашай гісторыі, раскаванасць гаворкі з чытачом, уменне натуральна ўключыць у плынь разважанняў згадкі пра канкрэтныя жыццёвыя здарэнні і інш.

У эсэ, якім адкрываецца першы раздзел — «Сад камянёў», успамінаецца беларуская легенда, што «людзі ўтварыліся ад камянёў. Водгулле антычнага міфа пра Сусветны патоп, які Зеўс учыніў пасля дзёрзкай кражы Праметэя. Ацалелыя мужчына і жанчына скарыліся Зеўсу і прыніжана малілі аб выратаванні чалавецтва. Зеўс злітаваўся. Каменне, што кідала праз плячо жанчына, ператварылася ў жанчын, кінутае мужчынам — у мужчын. Відаць, такіх жа пакорлівых, як ацалелая пара».

Гэтыя разважанні змяняюцца гаворкай пра тое, як шануюць камяні ў Японіі, а потым ідзе ўспамін пра ўласнае стаўленне да камянёў, звычку прывозіць іх адусюль: «Дзе бываю — стараюся прывезці адтуль каменьчык ці кавалачак цагліны. Раскладзеныя на стале, яны нібыта палоннікі з розных краін, сагнаныя на скрыжаванне. Кавалак Берлінскай сцяны, куплены ў Берліне ў турка, ляжыць ля паўкруглага аскалёпка ад маскоўскага Васіля Блажэннага. А побач — кавалачак Мірскага замка. Аскалёпак каменя дарогі, па якой пятае стагоддзе басанож паломнікі ўздымаюцца да манастыра Святога Васіля Астрожскага ў гарах Чарнагорыі. Каменьчык з вежы Гедыміна... Каменьчык з Вавеля... З Калізея... Як пасля Армагедона... Ёсць і кавалак сёмага цуду свету — храма Артэміды Эфескай, таго самага, што спаліў, прагнучы славы, Герастрат». Інфарматыўнасць такіх згадак вельмі высокая. Яна паказвае, што значная інтэлектуальная насычанасць паэзіі Людмілы Рублеўскай мае пад сабой трывалы грунт.

У празаічных эсэ паэтэса закранае самыя разнастайныя тэмы. Але ў кожным з іх ёсць сваё ядро, найчасцей філасофскае, так ці іначай звязанае і з нашай гісторыяй. «Камяні руін — наша гісторыя. Яны распаўзаюцца з парэшткаў замкаў — Навагрудскага, Гальшанскага, Крэўскага... Надмагільныя камяні на Кальварыйскіх могілках быццам чаўны, што разбіліся аб бераг бяспамяцтва... Камяні менскіх брукаванак — пад асфальтам...» Так завяршаецца эсэ да раздзела «Сад камянёў».

У эсэ з раздзела «Сад скрыжавання» дамінуе вобраз вакзала, які асэнсоўваецца як «сучасная метафара сутнасці чалавечага быцця».

У эсэ з раздзела «Сад храма» скрушліва гаворыцца пра Храм беларускі: «У беларускага Храма заўсёды намагаліся забраць імя, як і ў беларусаў».

Эсэ «Сад агню» зноў падкрэслівае трагедыйнасць нашай гісторыі: «Вогненныя вёскі, Вечны агонь, купальскае вогнішча, зніч, агонь чарнобыльскага рэактара... У крыві маёй радзімы дастаткова агню...» Маецца на ўвазе пераважна агонь разбуральны. Але не забыта і яго святочнае ззянне, характэрнае для Купалля.

У эсэ «Сад раллі» — зноў чытаем пра шматлікасць нашых трагедый: «Крывавыя разоры — сімвал Беларусі больш, чым балота ці лес. На полі, засеяным трупамі, для адных вырастае воля, для другіх — рабства. Поле заўсёды падзяляе людзей — на прыгонных і прыганятых». Самае апошняе сцвярджэнне, можа, і небясспрэчнае. Але ў Беларусі прыганятых, са сваіх і чужынцаў, было яўна загуста.

Вельмі цікавая філасофія ў эсэ «Сад снегу». Ён, снег, разглядаецца як сімвал чысціні, але не знойдзенай, бо людзі не ўмеюць яе берагчы. Чысты снег яны хутка ператвараюць «у брудную кашу». І сам ён ненадзейны: «Снег — двойчы здраднік.

Калі ён захоўвае сляды для пагоні.

І калі замятае сляды, па якіх мусіш вяртацца».

Вось такая неадназначнасць. Але Рублеўская да адназначнасці і не імкнецца. Ёй важна ўхапіць і асэнсаваць шматаблічнасць жыцця, багацце яго праяў. І з гэтай задачай паэтэса, безумоўна, справілася. Яе яркая, шматколерная кніга належыць да тых твораў, якія ўздымаюць інтэлектуальны ўзровень нашай літаратуры.

Жанна КАПУСТА

# ДВОЙЧЫ НАРОДЖАНЫ

*Алена Кобец-Філімонава.* **Калі ўцякала сонца: творчасць Рыгора Кобеца, яго жыццё і пакуты.** Кнігазбор, 2006.

Часта гаворка пра новую кнігу распачынаецца словамі: «Яна заварожвае чытача ўжо сваёй назвай». Пра кнігу ж Алены Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца: творчасць Рыгора Кобеца, яго жыццё і пакуты» хочацца сказаць, што назвай яна насцярожвае — бо чытач, не прачытаўшы яшчэ ніводнай старонкі, разумее, што маецца на ўвазе: ад яе бацькі, драматурга і кінасцэнарыста Рыгора Якаўлевіча Кобеца, сонца ўцякло незваротна. Сонца надзеі і веры ў людзей.




Назву аўтарцы падказалі словы самога Рыгора Кобеца. Расказваючы пра гісторыю стварэння кінадрамы «Двойчы народжаны» ў адным з артыкулаў 1932 года, ён пісаў: *«А тым часам надвор'е змянялася. Сонца ўцякала.*

*Пачалася зіма. А карціна была разлічана на веснавую натуру».*

Пісьменнік ужыў гэта выслоўе як метафару заканчэння вясны, але ў інтэрпрэтацыі Алены Кобец-Філімонавай яно набыло куды больш глыбокі сімвалічны сэнс. А разам з тым — і трагічны.

Постаць Рыгора Кобеца (1900—1990, сапраўднае імя Міхаіл Драч) адметная для беларускай літаратуры, тэатра і кінамастацтва найперш тым, што менавіта ён аўтар п'есы «Гута», якая прынесла вялікі поспех БДТ-1 на Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе ў Маскве ў 1930 годзе і неаднаразова ставілася трупамі шматлікіх савецкіх тэатраў. Ён жа напісаў сцэнарый першага гукавога фільма на беларускай мове «Двойчы народжаны» (1933). Акрамя гэтага, яго аповесць «Ноеў каўчэг», надрукаваная ў трэцім нумары часопіса «Нёман» за 1989 год, з'яўляецца першым творам беларускай літаратуры, прысвечаным тэме ГУЛАГа. Прынцыповым момантам падаецца і тое, што, знаходзячыся на пасадзе загадчыка сцэнарнага аддзела кінастудыі «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе, Рыгор Кобец свядома імкнуўся прыцягваць да працы як мага больш менавіта беларускіх спецыялістаў, якіх па тым часе было не так і шмат. Можна меркаваць, што, калі б падзеі развіваліся іншым чынам, дзейнасць першага беларускага прафесійнага сцэнарыста магла б стацца пачаткам нацыянальнай кінамастацкай школы.

Пра такія кнігі, як «Калі ўцякала сонца», вельмі цяжка пісаць, тым больш цяжка ацэньваць: за знешне спакойнымі аповедамі пра няпростыя шляхі твораў драматурга і кінасцэнарыста да сучаснага чытача і гледача пастаянна адчуваецца боль аўтаркі, які ёй даводзілася штораз пераадольваць, пішучы кнігу. Менавіта

таму можна з разуменнем паставіцца да тых старонак, дзе гэта не зусім атрымлівалася. Само сабой, пішучы пра блізкага чалавека, якому давялося перажыць шмат пакут і несправядлівасці, наўрад ці магчыма паслядоўна і непахісна захоўваць аб'ектыўнасць і ўраўнаважанасць стылю. А ўсё ж тут ёсць і свае плюсы: асабістая спрычыненасць да лёсу героя кнігі дазваляе як найшчыльней наблізіцца да разгадкі яго таленту, зазірнуць у яго ўнутраны свет, у яго думкі, пачуцці, рабіць высновы, якія не змог бы зрабіць староннi чалавек, прымушае задумвацца над кожнай нібыта нязначнай на першы погляд дэталлю, якая б мела ў будучым вызначальны характар і якую можа заўважыць толькі той, хто меў магчымасць знаходзіцца побач.

Ствараецца ўражанне, што натхненнем якраз і служыў боль — боль не толькі за бацьку, але і за ўсё пакаленне яго сучаснікаў. «Жыццё і пакуты» Рыгора Кобеца наколькі унікальныя, як лёс кожнага незвычайнага чалавека, настолькі і паказальныя для характарыстыкі першай трацiны XX стагоддзя — часу, які выгадаваў цэлую плеяду таленавітых пісьменнікаў, навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў, выгадаваў для таго, каб неўзабаве знішчыць ці скалечыць. Алена Кобец-Філімонава закранае ў сваёй кнізе шэраг надзвычай актуальных праблем, звязаных з вывучэннем і інтэпрэтацыяй твораў рэпрэсаваных пісьменнікаў, дае адказы на пытанні, чаму пераасэнсаванне было немагчымым нават пасля рэабілітацыі, нават у канцы 1980—1990 гадоў, калі адбываўся шпаркі працэс вяртання занядбанай культурнай спадчыны.

Кніга складаецца з трох вялікіх раздзелаў, біяграфіі Рыгора Кобеца і кароткай бібліяграфіі. Першы раздзел «Гута»: Тэатральнае дазнанне» прысвечаны гісторыі напісання і пастаноўкі названай п'есы. Алена Кобец-Філімонава не толькі сабрала каласальны архіўны матэрыял, сведчанні сучаснікаў, ацэнкі навукоўцаў, але і распавяла пра *«цярністы шлях «Гуты»* да гледача і даследчыка пасля арышту пісьменніка і пра не больш зайздросны яе шлях пасля яго рэабілітацыі і вяртання на радзіму.

У другім раздзеле з арыгінальнай назвай «Беларускія шванкі» (ад ням. жарт, фарс) у пяці частках вядзецца гаворка, адпаведна, пра пяць кінасцэнарыяў, аўтарам альбо сааўтарам якіх быў Рыгор Кобец: «Двойчы народжаны» (1933), «Шукальнікі шчасця» (1936, з І. Зэльцэрам), «Дняпро ў агні» (1937, з І. Барашкам), «Паўстанне гневу» (з А. Вольным, сцэнарый быў прыняты да пастаноўкі ў 1936 годзе, але праца спынілася ў сувязі з арыштам А. Вольнага ў лістападзе таго ж года), «Героі Балтыкі» (у 1939 годзе выйшла асобнай кнігай як кінааповесць). Пісаўся гэты раздзел, па азначэнні аўтаркі, *«з мэтай абудзіць нацыянальную свядомасць і сумленне даследчыкаў, каб паважалі сваю спадчыну і не ўводзілі ў зман грамадства»*. У сувязі з гэтым асноўная ўвага скіравана на выпраўленне шматлікіх памылак у дачыненні да кінасцэнарыяў Рыгора Кобеца і знятых паводле іх фільмаў, якія сустракаюцца на старонках як ранейшых, так і сучасных энцыклапедый і даведнікаў.

У трэцім раздзеле «З жыцця Рыгора Кобеца» змешчаны артыкулы Алены Кобец-Філімонавай пра жыццё і творчасць бацькі, надрукаваныя колькі гадоў таму ў беларускім перыядычным друку.

Каштоўная кніга і сямейнымі фотаздымкамі, а таксама шматлікімі фотаархіўнымі ілюстрацыямі рэкламных афіш і асобных сцэн з тэатральных і кінапастановак, водгукаў у перыядычным друку 1930-х гадоў. Безумоўна, гэта значна ўзбагачае выданне, дазваляе ўяўляць апісаныя падзеі не толькі дзякуючы ўласнай фантазіі.

Праблематыка кнігі не абмяжоўваецца аднаўленнем справядлівасці ў дачыненні да бацькі, Рыгора Кобеца. Гэта напружаны аповед пра няпростыя ўзаемаадносіны літаратурнага і грамадскага жыцця ўвогуле, пра той перыяд у гісторыі беларускага мастацтва, у які былі закладзены асноўныя тэндэнцыі развіцця

мастацкіх канцэпцый і падыходаў да чалавека і свету з той, праўда, асаблівасцю, што імёны іх стваральнікаў ужо праз колькі гадоў нельга было вымаўляць уголас. Менавіта таму часта атрымлівалася так, што маладзейшыя творцы ў пэўным сэнсе слова мусілі запазычваць ідэі ў старэйшага пакалення пісьменнікаў, не маючы магчымасці адкрыта спасылацца на сваіх настаўнікаў.

Прываблівае ў кнізе і тое, што аўтарка вельмі шчодра карыстаецца не толькі беларускім матэрыялам, але і агульнасавецкім. Гэта стварае панарамнае бачанне і дазваляе ацаніць заканамернае падабенства тагачасных культурна-грамадскіх працэсаў. Так, апісваючы гісторыю перамогі БДТ-1 на Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе ў Маскве ў 1930 годзе, Алена Рыгораўна шмат увагі аддае і грузінскаму тэатру, лёсу яго акцёраў і рэжысёраў, што зноў жа падкрэслівае прадвызначанасць будучых трагічных падзей.

Акрамя таго, прынцыповае значэнне надае Алена Кобец-Філімонава пастаноўкам беларускіх п'ес на сцэнах замежных тэатраў (Чэхія, Польшча, Румынія, Аўстрыя, Венгрыя). Варта нагадаць, што беларускія даследчыкі пачатак уваходу нашай літаратуры і культуры ў сусветны кантэкст вельмі часта звязваюць з другой паловай XX стагоддзя. І хаця, думаецца, тыя пастаноўкі былі з'явай больш стыхійнай, чым заканамернай, і вырашальнай ролі ў знаёмстве замежнага гледача з нашай краінай не мелі, усё ж такія звесткі вельмі карысныя для гісторыі беларускага тэатра.

Чытаючы некаторыя водгукі тагачаснай савецкай перыёдыкі на ашаламляльны поспех п'есы «Гута» ў Маскве, якія шырока цытуюцца ў кнізе *(«Цытаты як сведкі»)*, нельга не звярнуць увагі на перабольшаную ўрачыстасць пафасу, наўмыснае нагрувашчанне самых узнёслых эпітэтаў і метафар пры адсутнасці канкрэтнага аналізу тых якасцей твора, што абумовілі яго поспех, а часта і простае іх ігнараванне на карысць ідэйнага зместу. Нічога дзіўнага тут няма — канкрэтны аналіз і не патрабаваўся ад аўтараў рэцэнзій 1930-х гадоў: галоўнай задачай было стварэнне ўражання ў чытача надзвычайных поспехаў беларускага літаратурнага і тэатральнага жыцця ўвогуле. Інакш кажучы, «Гуту» ў пэўным сэнсе выкарыстоўвалі для дэманстрацыі росквіту культуры, каб адцягнуць увагу грамадскасці ад трывожных вестак пра новыя арышты, якія распачаліся на Беларусі менавіта ў 30-х гадах; таму не да ўсіх ухвальных водгукаў варта ставіцца адэкватна. Напрыклад, наўмысна скажонай падаецца і супрацьпастаўленне творчасці БДТ-1 ад пачатку заснавання да канца 1920-х і 1930-х гадоў, што таксама было абумоўлена задачай скампраметаваць арыштаваных дзеячаў тэатра. Увагі заслугоўвае тое, што аўтарка і сама пра гэта піша, зазначаючы, што *«тагачасныя крытыкі не забываліся пра галоўнае — ператвараць мастацтва ў зброю для барацьбы за сусветную рэвалюцыю»,* што *«Гута» «трактавалася з яўнай выгадай для бальшавікоў».*

Як ужо адзначалася вышэй, тут закранаецца праблема пераасэнсавання творчасці пісьменнікаў 1920—1930 гадоў, якая атрымлівала адназначна негатыўныя ацэнкі пасля арышту творцы (незалежна ад таго, што пра яго пісалася раней і якое б важнае месца ў савецкай культурнай прасторы ён ні займаў), але не дачакалася адэкватнага прачытання і ў канцы XX стагоддзя з-за тых станоўчых водгукаў, якімі характарызавалася да арышту. Па сутнасці, і ў першым, і ў другім выпадках вызначальным абвяшчаўся ідэалагічны крытэрый, мастацкія ацэнкі былі адназначна ад яго залежнымі, а значыць, абсалютна абыякавымі ў дачыненні да таленту, майстэрства пісьменніка, яго запатрабаванасці, пісьменнік увогуле пазбаўляўся магчымасці заняць адпаведнае месца ў літаратурна-мастацкім кантэксце. Так адбылося і з творчасцю Рыгора Кобеца, які ўжо напрыканцы 1980-х гадоў аказаўся «вінаватым» у поспехах сваіх п'ес і фільмаў у пачатку 1930-х. Хочацца, праўда, зрабіць наступную заўвагу: магчыма, пэўная прадузятасць даследчыкаў да асобы і творчасці Рыгора Кобеца не заўсёды была мэтаскіраванай

і звязанай з асабістай непрыяззю. Думаецца, часта даследчыкі карысталіся замацаванымі ў літаратуразнаўчых працах негатыўнымі ацэнкамі, па інерцыі давяраючы даволі доўгай традыцыі падыходзіць да ацэнкі твора з ідэалагічнай меркай, а скажэнні пэўных фактаў і дат хутчэй тлумачацца недасведчанасцю альбо нават неахайнасцю, чым наўмысным жаданнем прынізіць годнасць пісьменніка. Тая надзвычай вялікая праца, якую зрабіла Алена Рыгораўна па выяўленні памылак у энцыклапедыях і даведніках, вядома, павінна была быць зробленая даследчыкамі гісторыі і культуры беларускага тэатра і кіно, але, з другога боку, асабліва маладыя навукоўцы, для якіх першыя тры дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя ўжо далёкая гісторыя, наўрад ці бачылі падставы не давяраць сваім папярэднікам. Гэта толькі сведчыць пра тое, што распачатая ў 1930-х гадах гісторыя яшчэ не перажытая, няскончаная ў свядомасці таго пакалення, якое ў той час нараджалася і выхоўвалася. Менавіта таму хочацца папрасіць у шаноўнай аўтаркі хаця б крыху літасці, каб не быць такой бескампраміснай у ацэнках, як некалі апаненты яе бацькі. Часам расповеды пра наўмысную ці ненаўмысную дэзінфармацыю ў дачыненні да твораў і фактаў біяграфіі Рыгора Кобеца падаюцца залішне падрабязнымі. І хаця жаданне аднавіць справядлівасць цалкам зразумелае, усё-ткі часам пераказ некаторых дэталяў прыватных размоў і канфліктаў бачыцца немэтазгодным.

«Калі ўцякала сонца» — кніга шматпланавая і шматпраблемная. Абумоўлена гэта тым, што яна прысвечана самаму складанаму і неадназначнаму перыяду беларускай гісторыі XX стагоддзя. Кніга пра «творчасць, жыццё і пакуты» Рыгора Кобеца сталася кнігай не толькі пра час і пакаленне, але і кнігай аб праблемах аднаўлення адэкватнай гісторыі нацыянальнай літаратуры і культуры, у чым, мабыць, і заключаецца яе галоўная вартасць. Замоўчванне многіх фактаў айчыннай гісторыі цягам доўгіх дзесяцігоддзяў, ігнараванне іх значнасці, этапнасці яшчэ і да нашага часу перашкаджае разглядаць у поўным аб'ёме пераемнасць традыцыі, абумоўленасць асаблівасцямі папярэдняга развіцця шэрага мастацкіх праблем. Алена Кобец-Філімонава закранае надзвычай важнае і актуальнае на сённяшні дзень пытанне стварэння канцэпцыі цэласнасці і непадзельнасці культурна-грамадскага развіцця ў XX стагоддзі на аснове сцвярджэння нацыянальных і агульначалавечых прыярытэтаў у літаратуры і мастацтве, якія маюць абсалютнае значэнне ў параўнанні з адноснай трываласцю любых ідэалагічных установак. Гэта вельмі паказальна ілюструецца на прыкладзе жыццёвага шляху Рыгора Кобеца, творчасць якога неаднойчы рабілася ахвярай пэўнай палітычнай сістэмы. Якраз таму аўтарка вельмі шмат увагі аддавала творчай гісторыі кінасцэнарыяў і п'ес свайго бацькі, спрабуючы вызначыць, чым адметныя яны для беларускага грамадства, нягледзячы на аб'ектыўную неабходнасць звяртацца да ацэнкі грамадска-палітычных працэсаў.

Алена Кобец-Філімонава неаднаразова адзначала ў сваёй працы, што для яе вельмі важна *«замест фальсіфікаванай гісторыі мастацтва аднавіць, адкрыць вочы нашчадкам, каб яны ведалі, як было на самай справе»*. Гэта неабходна для таго пакалення, якое можа меркаваць пра падзеі 1920—1930-х гадоў толькі з мастацкіх і навуковых прац, успамінаў сучаснікаў і артыкулаў у энцыклапедыях. Таму вельмі важна пакінуць як мага больш інфармацыі аб гэтым часе, аб'ектыўнай і суб'ектыўнай, каб маладыя даследчыкі атрымалі магчымасць скласці паўнавартаснае ўражанне і не рабіць тых памылак, што рабілі іх папярэднікі. Акрамя таго, дзякуючы шырокаму ахопу падзей, аўтарцы ўдалося стварыць надзвычай поўную карціну тагачаснага культурнага жыцця, супаставіць развіццё кінамастацтва Беларусі з літаратурным развіццём. Кніга Алены Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» — не навуковая манаграфія, хаця і набліжаецца да яе багаццем фактаграфічнага матэрыялу. Хацелася б верыць, што ён будзе ўдзячна выкарыстаны даследчыкамі тэатральнага і кінамастацтва Беларусі.

Іван ЗЯНЬКОВІЧ

# ВАНДРОЎКА Ў МІНУЛАЕ З... АТРАКЦЫЯЙ

Шаноўны чытач-суразмоўца! Калі ты збіраешся ў чарговае падарожжа і канчаткова не вызначыўся куды паехаць, дазволь, калі ласка, тады запытацца: а ці не хочацца табе пазнаёміцца з хвалюючым мінулым аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі, лёс якога неаднойчы перапляўтаўся з лёсам тваёй Айчыны, нарэшце, зазірнуць у дзень яго сённяшні, а заадно паўдзельнічаць у надзвычай атракцыйнай экскурсіі?

Улічваючы, што практычна ўсе госці — вандроўнікі, турысты як з-за мяжы, так і з нашай краіны, звычайна прыбываюць у наш горад Кобрын праз Брэст, маршрут падарожжа выглядае наступным чынам: горад Брэст — вёскі Малыя і Вялікія Сяхновічы — вёска Чыжэўшчына — горад Кобрын — хутар Божы Дар (вёска Лескава) — горад Кобрын — горад Брэст. Усяго каля 150 кіламетраў.

Ад’ехаўшы ад абласнога цэнтра ўсяго 20 кіламетраў, трэба з аўтастрады Брэст—Масква ў вёсцы Федзькавічы звярнуць ў накірунку Жабінка—Камянец і літаральна праз хвілін 10—15 добрая дарога прывядзе ў вёску Малыя Сяхновічы, вёску з даўняй і цікавай гісторыяй. Паселішча тут узнікла ў сярэдзіне XV стагоддзя і знаходзілася ў валоданні многіх гаспадароў, у тым ліку і вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. Сваёй жа вядомасці М. Сяхновічы абавязаны старадаўняму беларускаму шляхецкаму роду Касцюшкаў і, перад усім, — слыннай асобе Тадэвуша Касцюшкі. Менавіта тут таленавіты вайсковы і палітычны дзеяч, кіраўнік вызваленчага паўстання 1794 года, якое сапраўды стала яго зорным часам, герой двух кантынентаў правёў каля дзесяці гадоў свайго дзяцінства і сюды ён вяртаўся пасля падарожжа ў далёкую Амерыку.

Вядома дакладная дата набыцця Касцюшкамі ва ўладанне Сяхновіцкага маёнтка: апошнім у адпаведнасці з прывілеем 1509 года караля Жыгімонта І Старога быў узнагароджаны за адданую службу пры каралеўскім двары далёкі продак героя нязнатны ліцвін Канстанцін Фёдаравіч (пры двары яго называлі ласкальна-памяншальным Касцюшка). З гэтага моманту Сяхновічы становяцца родавай сядзібай і наследуюцца з пакалення ў пакаленне, нашчадкі ж Канстанціна па тагачасным прыкладзе шляхетных родаў прынялі прозвішча ад імя свайго пачынальніка. У далейшым прадстаўнікі роду Касцюшкаў будуць называць сябе Касцюшкамі-Сяхновіцкімі. Сам жа Тадэвуш Касцюшка звычайна карыстаўся толькі першаю часткаю прозвішча. Праўда, калі справа тычылася сямейных валоданняў, ужываў поўную форму прозвішча.

Сёння з сямейнай спадчыны Касцюшкаў у Сяхновічах засталося няшмат — часткова захаваўся родавы парк, які быў закладзены бацькам Тадэвуша і дзе ён сам уласнаручна пасадзіў не адно дрэва. На вясковых могілках — сямейная капліца-пахавальня, аднэўленая ў 2002 годзе. Побач, у Вялікіх Сяхновічах, цудоўна захавалася праваслаўная царква св. Мікалая, пабудаваная на сродкі берасцейскага пісара Паўла Касцюшкі ў 1727 годзе і перабудаваная ў 60-х гадах XX стагоддзя. Месца сядзібы невядомае, у бліжэйшы час плануюцца археалагічныя пошукі яе падмурка. У мясцовай школе ў лютым 2003 года адкрыўся музей-пакой славутасці. Шмат папрацавалі над яго стварэннем вядомы берасцейскі краязнаўца-касцюшкавед Леанід Несцярчук, мясцовыя гісторыкі Анатоль Бензярук і Святла-

на Каменева, былая дырэктарка школы Зоя Пасюк. Іх натхнёны аповед аб Тадэвушу Касцюшку захапляе, хвалюе да глыбіні душы. Жыхары ж вёскі, сяхноўцы, цвёрда ўпэўнены, што гэты чалавек з сусветнай славай нарадзіўся менавіта тут. Ёсць у іх аднадумцы і сярод даследчыкаў. Спасылацца на звесткі з манаграфіі біёграфа Касцюшкі Тадэвуша Корзана і дакумент аб хрышчэнні, што сцвярджаюць месцам з'яўлення Тадэвуша на свет вёску Мерачоўшчына паблізу мястэчка Косава (цяпер Івацэвіцкі раён — у 95 кіламетрах ад Кобрына), не мае сэнсу: гонар за знакамітага земляка бярэ верх. Між іншым, адноўленая па ініцыятыве таго ж Леаніда Несцярчука пры фінансавай падтрымцы амбасады ЗША і аблвыканкама сядзіба ў Мерачоўшчыне пераўтварылася ў музейны комплекс, дырэктар якога Ірына Анціпенка і захавальніца фондаў Ніна Ашуркевіч настойліва расшукваюць і папаўняюць яго новымі дакументамі, экспанатамі.

Некалькі слоў пра гісторыю помніка Тадэвушу Касцюшку, што стаіць перад Сяхновіцкай школай між старых ліпаў і клёнаў. А гісторыя гэтая не зусім звычайная. З 15 ліпеня 1812 года бярэ яна свой пачатак — у Кобрыне ў той дзень была атрымана першая ў межах Расіі перамога над войскамі Напалеона. Руская армія на чале з генералам Аляксандрам Пятровічам Тармасавым ушчэнт разграміла саксонскія палкі генерала Кленгеля, а сам ён трапіў у палон. Дарэчы, ратны лёс гэтага рускага палкаводца некалі звёў яго з Касцюшкам. 4 красавіка 1794 года, на дванаццаты дзень паўстання, яго кіраўнік асабіста вёў свае войска з Кракава на дапамогу жыхарам Варшавы. Тармасаў, як і Касцюшка, ужо тады быў у чыне генерала, атрымаў заданне спыніць і разбіць паўстанцаў. Аднак у ходзе жорсткай бітвы ён дапусціў тактычную памылку, якую тут жа ўмела выкарыстаў Касцюшка і нанёс непрыяцелю паражэнне... У 1912 годзе ў гонар 100-годдзя перамогі над французамі ў цэнтры Кобрына на правым беразе Мухаўца на месцы пахавання рускіх воінаў на высокім гранітным пастаменце быў устаноўлены бронзавы двухгаловы арол — сімвал славы рускай зброі ў гэтай бітве. У 1915 годзе горад акупаваны германскімі войскамі Вільгельма, помнік апаганены, арол з пастамента быў адпраўлены на пераплаўку. З 1921 года Кобрын — цэнтр павета ў складзе Палескага ваяводства Польшчы. У 1932 годзе мясцовыя ўлады на гэтым пустым пастаменце размясцілі бюст Тадэвуша Касцюшкі работы кобрынскай скульптаркі А. Свіціч-Відацкай (гарадскія старажылы яе памятаюць), які, нягледзячы на ваеннае ліхалецце 1939, 1941—1944 гадоў, уцалеў. І вось у 1951 годзе мясцовыя савецкія ўлады бюст Касцюшкі здымаюць і на свабодны пастамент узносяць... зноў арла, але ўжо з адной галавой. Зняты ж бюст Касцюшкі спачатку паклалі ў падсобнае памяшканне дома-музея А. Суворава (ці не іронія лёсу — такім дзіўным чынам перасякліся ў Кобрыне імёны славутых постацей), дзе ён праляжаў да 1987 года. У сувязі са зносам прыбудовы бюст трапляе ў сховішча Брэсцкага абласнога музея. Ужо адтуль знайшоў ён, дзякуй Богу, дарогу ў сваё роднае сяхновіцкае гняздо. Такая вось сумная адысея...

Развітваемся з Сяхновічамі і накіроўваемся ў напрамку Кобрына. Праз 17 кіламетраў збочваем з аўтастрады направа і ўязджаем у вёску Чыжэўшчына. За ёй — Крупчыцкае поле. Менавіта тут 17 верасня 1794 года адбылася самая вялікая бітва касцюшкаўскіх паўстанцаў з царскімі войскамі, якая ў многім прадвызначыла лёс вызваленчага руху. На чале інсургентаў стаяў генерал Караль Серакоўскі. Т. Касцюшка паслаў яму ў дапамогу свайго ад'ютанта генерала Караля Князевіча з атрадам у 1074 чалавекі. Адзін з самых буйных атрадаў Серакоўскага быў сфарміраваны з жыхароў Кобрына і яго ваколіц, пераважна з непадрыхтаваных сялян-касінераў. Паўстанцам супрацьстаяла адборнае царскае войска генерала А. Суворава, якое перад гэтым захапіла Дзівін, Кобрын. Жорсткі бой працягваўся амаль цэлы дзень. Як даносіў Сувораў імператрыцы Кацярыне II, «палякі бараніліся з вялікай храбрасцю». І нават калі царскаму войску ўдалося праз балоты абысці паўстанцаў, Серакоўскі, як прызнаваўся

пазней Свувораў, забяспечыў пад прыкрыццём артылерыі граматны адыход сваіх сіл у бок лесу, а затым пад Брэст. Некаторыя паўстанцы-касінеры спрабавалі схавацца за сценамі Крупчыцкага кармеліцкага манастыра, але дарэмна, яны былі дагнаныя казакамі і пасечаныя.



*Помнік апошняму з роду Касцюшкаў.*

У канцы верасня 2004 года ў памяць 210-й гадавіны бітвы адбылося адкрыццё мемарыяльнай каплічкі, пабудаванай на месцы пахавання некалькіх дзесяткаў паўстанцаў. Унутры яе — фрэскі са сцэнамі баявых дзеянняў, унізе — піраміда, на якой выбіты назвы палкоў — удзельнікаў тае жудаснае бітвы. З аднаго боку — касцюшкаўцаў, з другога — сувораўцаў. Каплічка — спроба прымірыць тых, хто загінуў на полі бою. Гэта спроба прымірыць і нас, жывых, са сваёй гістарычнай памяццю... І ўсё ж мы, нашчадкі, заўсёды будзем памятаць пра паўстанне 1794 года, якое яркай старонкай увайшло ў гісторыю барацьбы польскага і беларускага народаў за вольнасць. Як і памятаць пра тое, што першыя свае крокі ў неўміручасць яго кіраўнік Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка зрабіў на беларускай зямлі.

Але хочацца пайсці далей. Сёння імя Тадэвуша Касцюшкі належыць усяму цывілізаванаму свету. На зямлі налічваецца шмат мясцін, дзе яго ўвекавечылі належным чынам: помнікі ў многіх краінах, у гонар яго назвалі горад у ЗША, адну з самых высокіх горных вяршынь у Аўстраліі, зорку. Амерыканцы і французы сцвярджаюць, што першымі адкрылі яго талент і надалі яму адпаведна яшчэ пры жыцці званні нацыянальнага героя і ганаровага грамадзяніна. Пра адносіны да асобы Т. Касцюшкі нашых суседзяў-палякаў гаварыць не трэба. А між тым сам Найвышэйшы Начальнік — так называлі Т. Касцюшку падчас збройнага чыну 1794 года — заўсёды ўсведамляў сябе ліцвінам (так тады называліся беларусы), грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага. Сведчанні гэтаму знаходзім у ягоных лістах і адозвах. Бо як жа інакш — па паходжанні ён сапраўды ліцвін, яго продкі спрадвечна жылі на Беларусі, у Вялікім княстве Літоўскім, яго маці Тэкля — шляхцянка з-пад Оршы, усё жыццё хадзіла ва уніяцкі храм, траіх сваіх старэйшых дзяцей ахрысціла па уніяцкім абрадзе. Ёсць сведчанні, што гэты храм яна наведвала разам з сынам Тадэвушам. Цікавы і такі момант. У 1785 годзе Т. Касцюшка вяртаецца з Амерыкі на радзіму, наведвае сваю сястру Ганну ў в. Даўгаліскі Берасцейскага ваяводства, у якой дажывала свой век іх маці (памерла ў 1768 годзе), і ахвяруе ордэн Цынцыната (гэтую ўзнагароду ён атрымаў з рук самога Д. Вашынгтона) мясцоваму уніяцкаму храму, павесіўшы яго на ікону Божай маці. Ці не ёсць гэта сведчанне павагі да веравызнання маці? Калі ж вярнуцца да падзей 1794 года, у якіх на тэрыторыі Беларусі прынялі ўдзел звыш 30 тысяч чалавек мясцовага насельніцтва (вельмі многія з ліку шляхты і сялян з'яўляліся праваслаўнымі вернікамі), дык нельга не ўспомніць пра спробу аднаўлення Т. Касцюшкам у Рэчы Паспалітай незалежнай ад Пецярбургскага Сінода праваслаўнай царквы, пацясніўшы такім чынам прывілеі каталіцкага касцёла. Яшчэ адзін агульнавядомы факт: у Брэсце і Кобрыне паўстанцамі былі сфарміраваны два буйныя атрады павятовай міліцыі, большасць у якіх складалі менавіта людзі праваслаўныя. Больш таго, праваслаўны святар Грыгароўскі быў абраны старшынёй Берасцейскай паўстанцкай арганізацыі.



*Сабор Аляксандра Неўскага. 1864—1868 гг.*
*Пабудаваны ў гонар адмены прыгоннага права.*

А каго можа пакінуць абыякавым тастамент генерала Касцюшкі, у якім ён палічыў патрэбным афіцыйна заявіць, што сяляне яго маёнтка Сяхновічы — вольныя, што ён не лічыў і не лічыць іх прыгоннымі. Перад самай смерцю Касцюшка піша ў адным са сваіх лістоў: «...Адзін толькі неспакой засмучвае душу маю. Нарадзіўся я ліцвінам, і няшмат ужо гадоў жыцця мне застаецца, а ўсё яшчэ заслона будучыні прыкрывае прызначэнне маёй роднай зямлі...»

Можна доўжыць прыклады-сведчанні высакароднасці гэтага чалавека, які ніколі і нідзе не забываўся пра свае карані, пра народ, для якога марыў здабыць волю і роўнасць — «за адну толькі шляхту біцца не буду», — і які, па сутнасці, першым у нашым краі паклаў пачатак паходні за волю, незалежнасць і грамадзянскую справядлівасць. Можна ўсцешыцца, што нарэшце пра паўстанне 1794 года ўсё часцей і часцей гавораць як пра з'яву не толькі выключна «польскую». Дзякуй Богу, першыя крокі па вяртанні героя-земляка на Радзіму зроблены. Ды гістарычная праўда, грамадзянскі наш доўг патрабуюць, каб гэты шлях не задоўжыўся надта, каб належная павага да асобы Касцюшкі знайшла месца ў сэрцах яго суайчыннікаў.

Таленавітыя, неардынарныя асобы і непрымірымыя ворагі Тадэвуш Касцюшка і Аляксандр Сувораў перадусім былі ваеннымі людзьмі — кожны з іх служыў айчыне, выконваў свой воінскі і патрыятычны абавязак. У сваёй апошняй бітве пад Мацяёвіцамі каля Варшавы 10 кастрычніка 1794 года паўстанцы церпяць паражэнне, а цяжкапаранены Касцюшка трапляе ў палон, становіцца вязнем Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбургу. Пераможца ж Сувораў за ваенныя заслугі быў уганараваны ў 1795 годзе імператрыцай Кацярынай II жэзлам фельдмаршала і маёнткам Кобрынскі Ключ (па сутнасці горадам Кобрынам у тагачасных межах з немалымі навакольнымі землямі). Жыў ён тут наездамі ў 1797 і 1800 гадах. Пасля швейцарскага пераходу даслужыўся да генералісімуса, у Кобрын вярнуўся моцна хворым і падобна Касцюшку, які апошнія гады жыцця вымушаны быў правесці на чужыне, сваё жыццё па сутнасці скончыў у царскай няміласці. Ужо пазней слава да яго вярнулася. Між іншым, у Кобрыне яму пастаўлены помнік і два бюсты, яго імя носяць вуліца, парк, музей, новы атэль, магазін, адзін з гатункаў хлеба. Была нават спроба ў гонар Суворава ўзвесці праваслаўна храм...

А цяпер наведаем Кобрын (ад Крупчыцкага поля да яго ўсяго 11 кіламетраў). Сёння ён — горад абласнога падпарадкавання і адміністрацыйны цэнтр Кобрынскага раёна. Размешчаны на маляўнічых берагах ракі Мухавец за 45 кіламетраў на ўсход ад абласнога Брэста. Праз горад праходзяць чыгунка Брэст—Пінск—Гомель—Масква, старая аўтадарога Варшава—Масква, побач з горадам аўтамагістралі Брэст—Масква і Брэст—Гомель, аўтадарогі на Пружаны, Маларыту, Ковель.

Кобрын — адзін з найбольш старажытных гарадоў Беларусі. Паходжанне назвы горада дакладна невядома. Адны даследчыкі звязваюць яе з кельцкім імем Кобрунус, іншыя — са старажытнаславянскім імем Кобр, якое нібыта насіў

галава паселішча. Магла яна пайсці і ад рачулкі Кобрынкі, а можа, наадварот, яна займела сваё імя дзякуючы гораду.

Першыя пасяленцы, а гэта было славянскае племя дулебаў, з'явілася ў глыбіні стагоддзяў. Першая пісьмовая згадка пра Кобрын датуецца 1287 годам (Іпацьеўскі летапіс). У канцы X стагоддзя гэтая тэрыторыя ў складзе старажытнарускай дзяржавы, пазней — ва Уладзіміра-Валынскім княстве. З дамовы 1366 года паміж Каралеўствам Польшча і ВКЛ вядома, што на той час яго ўладаром быў вялікі літоўскі князь Альгерд. Пры ім у горадзе былі ўзведзены Ніжні і Верхні замкі (цяпер на іх месцы — Замкавая плошча). Старажытны земляны роў (фрагмент), які агінаў замак, захаваўся. Увогуле, гісторыка-архітэктурная спадчына Кобрына сёння прадстаўлена корпусам былога Спаскага манастыра (канец XV стагоддзя, па іншых звестках 2-я палова XVIII ст.), каналам Боны Сфорцы (пачатак XVI стагоддзя), драўлянай Нікольскай царквой (1750 г., сярэдзіна XVIII стагоддзя), каталіцкім касцёлам Спачыну Найсв. Панны Марыі (1843 год), праваслаўным саборам А. Неўскага (1868 год), домам-музеем А. В. Суворава (канец XVIII стагоддзя, перабудаваны ў 1948 г.), гандлёвымі радамі і каскадам жылых дамоў на пл. Свабоды і вул. Леніна (канец XVIII—XIX ст.), старым суворава-міцкевічаўскім паркам (канец XVIII—XIX ст.), мемарыяльным помнікам у гонар перамогі ў вайне 1812 года. Уся гэта гістарычная спадчына размешчана кампактна ў цэнтральнай частцы горада, што вельмі зручна для турыстаў.

Да 1519 года Кобрын з'яўляўся цэнтрам Кобрынскага княства. У 1520—1566 гадах Кобрынскі павет уваходзіў у склад Падляшскага, з 1566 года — Брэсцкага ваяводстваў ВКЛ. З 1532 года цэлае стагоддзе горадам паслядоўна ўдала кіравалі польскія каралевы Бона Сфорца, Ганна Ягелонка і Канстанцыя Аўстрыйская. Пра кіпучую дзейнасць Боны сёння напамінае асушальны канал, які і носіць яе імя. У 1589 годзе дзякуючы настойлівасці Ганны Ягелонкі горад з яе рук атрымлівае магдэбургскае права і герб (апошні вернуты ў 2004 годзе) і будуе ратушу.

Войны сярэдзіны XVII — пачатку XIX стагоддзя, страшэнная эпідэмія 1711 года зусім аслабілі горад, эканамічна ён заняпаў. І, як вынік, у 1766 годзе загадам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Кобрына адабрана магдэбургскае права і ён зведзены да ролі цэнтра эканамічнай адзінкі — Кобрынскі Ключ.

1794 год — Кобрын адзін з эпіцэнтраў вызваленчага руху.

1812 год — вайна з напалеонаўскай Францыяй, пасля якой у горадзе з 630 пабудоў ацалела толькі 79.

1839 год — пачалася рэканструкцыя Каралеўскага (у 1775 г. сам Панятоўскі прыняў рашэнне аб злучэнні праз Мухавец Віслы з Дняпром) канала, пасля чаго ён стаў называцца Днепра-Бугскім.

1846 год — праз Кобрын пракладзена шаша Масква—Варшава, а ў 1882 г. — Палеская чыгунка...

Асабліва слаўная старонка ў гісторыі кобрынскага краю — студзеньскае паўстанне 1863—1864 гадоў. Наш зямляк, дваранін з мясцовага маёнтка Астроўе (сядзібу падчас паўстання спалілі царскія жаўнеры, на



*Гарадская забудова XIX — пачатку XX стагоддзя.*

яе месцы ўстаноўлены памятны знак), былы падпалкоўнік царскай арміі, удзельнік Крымскай вайны Рамуальд Траўгут прайшоў шлях ад кіраўніка кобрынскага атрада паўстанцаў да Дыктатара ўсяго паўстання. Шмат прыйшлося перажыць гэтаму цудоўнаму чалавеку. На жаль, лёс не быў да яго ласкавым. У 1859 годзе паміраюць двое малодшых дзяцей, жонка, двое блізкіх родзічаў. Неміласэрна лёс абышоўся і з яго дочкамі Ганнай і Элізай — генерал Рамуальд Траўгут, як і яго паплечнік кіраўнік паўстання на Беларусі і Літве Кастусь Каліноўскі, жыццё сваё скончыў на эшафоце — патрыётам цудам удалося ўратаваць дзяўчынак ад царскіх уладаў і тайна вывезці ў Варшаву, дзе яны раслі і выхоўваліся пад чужымі прозвішчамі.

У Кобрыне і яго ваколіцах захавалася нямала мясцін, звязаных з імем Р. Траўгута. Адсюль яго бабуля і маці. З Астроўя ён пайшоў змагацца за волю (тут у траўні 1933 года шырока святкавалі 70-годдзе падзеі з удзелам мясцовага насельніцтва, школьнікаў, сваякоў паўстанцаў, двух яе былых удзельнікаў, аркестра 8-га палка дывізіі імя Траўгута з адкрыццём памятнага знака з надпісам «Рамуальду Траўгуту — вялікаму сыну Палесся»). Памятае Траўгута і «сувораўская» вуліца — у 1860 годзе ён пэўны час жыў на пастаялым двары, калі займаўся афармленнем сваіх спадчынных спраў (у 1921—1939 гадах былая Губернская вуліца, на якой стаяў уласна гэты дом, будзе насіць яго імя, сёння — вуліца імя А. Суворава). Недзе ў гэты час у Кобрыне ён знаёміцца з унучатай пляменніцай Тадэвуша Касцюшкі Антанінай Касцюшка і ўступае з ёй у шлюб. Праз 8 гадоў удава Траўгута звяжа свой лёс з сынам Аляксандра Міцкевіча (роднага брата Адама Міцкевіча), Францішкам, і паселіцца ў цэнтральнай сядзібе былога сувораўскага маёнтка, што знаходзіўся на гэтай самай вуліцы ў парку (дом гэты разабраны ў 1894 годзе, на яго месцы ў савецкі час устаноўлены бюст А. Суворава). Тут трэба заўважыць, што пасля смерці А. Суворава яго сын Аркадзь распрадае Кобрынскі Ключ па частках. Напрыклад, сядзібу Грушава (25 кіламетраў ад Кобрына) з навакольнымі землямі набыў Севярын Радзевіч. З 1887 па 1939 гады ёю валодала вядомая польская пісьменніца Марыя Радзевіч. Тут яна напісала ўсе свае славутыя творы. Сярод іншых новых уладальнікаў Кобрынскага Ключа аказаўся прафесар Аляксандр Міцкевіч. Пасля вяртання з Харкава на радзіму ён хацеў адкупіць бацькоўскі дом у Навагрудку або фальварак у Завоссі, але цэны аказаліся высокімі. Так ён стаў уладальнікам часткі былога сувораўскага маёнтка. Ведаў Траўгута, дапамагаў яго атраду порахам, які купляў у царскіх афіцэраў. Пахаваны на могілках побач з Петрапаўлаўскай царквой. У некалькіх кроках ад прыгожага сямейнага помніка Міцкевічам знаходзяцца магілы польскіх жаўнераў, што загінулі 15—17 лістапада 1920 года ў польска-савецкай вайне. Між іншым, на старых могілках захаваліся магілы апошніх з роду Касцюшкаў. Тут знайшла свой супакой і Антаніна Касцюшка.

Заслугоўвае ўвагі і наступны факт. Кобрынскім атрадам паўстанцаў сур'ёзна апекавалася Эліза Ажэшка, будучая вядомая пісьменніца. Гэта яна са сваім мужам Пятром, уладальнікам маёнткаў Людвінава і Заказель Кобрынскага ўезда, не толькі ўратавала Траўгуту жыццё, але і дапамагла дабрацца да паўстанцкага цэнтра ў Варшаве. Праўда, Пятру Ажэшку гэта каштавала маёнтка і высылкі ў Пермскую губерню.

Усяго нейкіх дзесяць кіламетраў дарогі аддзяляюць Кобрын ад гістарычнай мясціны — хутара Божы Дар, дзе ў далёкім траўні 1863 года ў маёнтку Мітрашэўскіх Р. Траўгут прыняў прапанову лекара Паўлоўскага і двараніна Элерта ўключыцца ў вызваленчы рух і прысягнуў на барацьбу ў якасці кіраўніка кобрынскага паўстанцкага атрада. У 2003 годзе з удзелам Генконсульства Польскай Рэспублікі на гэтым памятным месцы была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На ўрачыстасці быў запрошаны і прысутнічаў адзіны на сёння нашчадак Р. Траўгута падпалкоўнік у адстаўцы Войска Польскага Анджэй Юшкевіч.


*Канал Боны Сфорцы. Сучасны выгляд.*

Яшчэ адно сведчанне сувязі імені Траўгута з Кобрынам — старажылы горада добра памятаюць верасень 1939 года, калі пяхотная дывізія імя Р. Траўгута (дыслацыравалася ў Кобрыне) мужна ўступіла ў апошні бой на Крэсах у раёне канала Боны з пераўзыходзячымі нямецкімі сіламі.

У Кобрыне варта таксама азнаёміцца з незвычайнымі экспанатамі і матэрыяламі ваенна-гістарычнага музея. Упэўнены, шкадаваць не будзеце. Тут вы, апрача гістарычных фактаў і падзей, даведаецеся ад супрацоўнікаў музея нямала цікавага пра знакамітых людзей, якія ў розныя часы так ці інакш былі звязаны з Кобрыншчынай: працавалі, служылі ці проста яе наведалі — А. Тызенгаўза, Ю. Нямцэвіча, П. І. Баграціёна, Ф. М. Глінку, А. С. Грыбаедава, К. С. Каліноўскага, Ю. Крашэўскага, П. М. Шпілеўскага, Дз. Н. Фалькоўскага (Ляўчука), П. А. Крэчэўскага, К. Г. Паустоўскага, А. Т. Твардоўскага, Б. Л. Гарбатава, В. І. Чуйкова, К. К. Ракасоўскага, П. М. Машэрава, М. Танка, А. М. Мартынава — стваральніка і першага дырэктара музея і іншых.

Азнаёмяць вас і з сучасным жыццём горада і раёна, якія пасля іх аб'яднання ў 2002 годзе ў адну тэрытарыяльна-адміністрацыйную адзінку з'яўляюцца адным з буйнейшых рэгіёнаў не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы. Абавязкова тут звернуць вашу ўвагу на шматлікія культурныя і эканамічныя кантакты, партнёрскія і пабрацімскія сувязі раёна з гарадамі Ліўны і Ціхарэцк Расійскай Федэрацыі, гарадамі Канеў і Ковель Украіны, Кагулскім раёнам Рэспублікі Малдова, з польскім горадам Мендзыжэц-Падляскі, балгарскім горадам Враца. Узгадаюць вам і пра шчырую гуманітарную дапамогу нашаму гораду і раёну з боку жыхароў швейцарскага горада Гларуса і горада Ульцэна з Германіі. Напрыклад, з дапамогай швейцарскіх інвестараў у Кобрыне з'явіўся новы атэль «Сувораў» (аналагаў яму няма ў Брэсцкім рэгіёне), а нямецкі бізнесмен і вялікі аматар авіяцыі Дзітэр Хох дапамог гарадской службе «хуткай дапамогі» абнавіць свой аўтапарк спецыяльнымі аўтамабілямі з сучасным медыцынскім абсталяваннем...

Але ўжо час вярнуцца да запрапанаванага на пачатку нашага аповеду пытання. Дык што ж, збірайся, паважаны дружа, на гасцінную зямлю Кобрынскую. І папаўняй сваю гістарычную скарбонку новымі залатымі зліткамі нашай нацыянальнай спадчыны.

***Фотаздымкі***
***Зміцера Зяньковіча і Аляксея Чэрнікава.***



## Мікола ТОНКІ

### ДАЖДЖЫ, ДАЖДЖЫ...

А ён, як пыл на маладой траве,
Датуль жыве, пакуль няма дажджоў.

І пройдзе дождж, нібыта пройдзе век...

І будзе, нібы дождж, любоў.

І, як малітва, будзе шум дажджу...

*Віктар Шніп*

Без дожджыку зямля не пражыве...
Дый хто б збіў пыл на маладой траве?
Але ж калі дажджоў тых перабор, —
Тады патоп, не сунеш нос на двор.
Хоць не наклікаць бы мне тут бяды:
Маленькі верш — а гэтулькі вады!

## Тадора ШПІЛЬКА

### ЗАПОЗНЕНАЕ ШКАДАВАННЕ

Мне так шкада, што я цябе любіла, —
А мусіла любіць адну сябе...
За гэта да зямлі мяне прыбіла,
Як быццам градам — поле на сяўбе.

*Святлана Явар*

Раман калісьці я з табой круціла.
Дурніца! Моцна так цябе любіла!
Не ацаніў майго кахання ты,
Бо толькі сам сябе любіў заўжды.

Цяпер са злосці б я сябе прыбіла
За тое, што я не сябе любіла.
Ды неяк стала мне шкада сябе.
Без шкадавання лепш прыб’ю цябе!





# МЕТРЫКА
*літаратурная*

## МАЙ

3

— **90** гадоў таму ў вёсцы Прыганка Крухцінскага раёна Алтайскага краю нарадзіўся **Папоў** Георгій Лявонцьевіч, беларускі празаік.

У 1938 годзе скончыў Анжэра-Суджанскую фельчарскую школу (Кемераўская вобласць). Працаваў загадчыкам медпункта. Узначальваў аддзел культуры і быту газеты «Борьба за уголь». У 1940—1941 гадах завочна вучыўся ў Новасібірскім педагагічным інстытуце. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў ваенным медыкам. З 1946 года — ваенны журналіст. Працаваў у газеце беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины», у рэспубліканскай газеце «Калгасная праўда», у часопісе «Нёман».

Першае апавяданне ў беларускім друку з'явілася ў 1952 годзе. Пісаў на рускай мове. Выдаў кнігі прозы «В родном полку», «Половодье», «Клок сена», «Гуси-лебеди», «Первое лето» і іншыя. Займаўся перакладамі на рускую мову твораў Я. Коласа, З. Бядулі, Я. Брыля, М. Багдановіча і іншых.

Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Памёр у 1995 годзе.

3

— **50** гадоў таму ў горадзе Жодзіна Мінскай вобласці нарадзіўся **Сіўчыкаў** Уладзімір Мікалаевіч, беларускі празаік, паэт, перакладчык.

Пасля заканчэння педагагічнага аддзялення Мінскага мастацкага вучылішча імя А. Глебава працаваў настаўнікам малявання і чарчэння ў Траянаўскай сярэдняй школе Барысаўскага раёна. Служыў у войску. Працаваў мастаком-афарміцелем у Мінскім палацы культуры і спорту чыгуначнікаў. У 1986 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Падчас вучобы праходзіў стажыроўку ў Тбіліскім дзяржаўным універсітэце, дзе вывучаў грузінскую мову і літаратуру. Працаваў у часопісе «Бярозка». З 1990 года — прэзідэнт Беларускай асацыяцыі дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана.

Друкуецца з 1982 года. Выдаў паэтычны зборнік «Адліга» (калектыўны зборнік «Лагодны прамень раніцы», 1988).

Пераклаў з грузінскай мовы раман Н. Думбадзе «Закон вечнасці», іншыя творы грузінскіх пісьменнікаў.

5

— **75** гадоў таму ў вёсцы Наватроіцкае Цярноўскага раёна Варонежскай вобласці нарадзіўся **Яфімаў** Фёдар Архіпавіч, беларускі паэт, крытык, перакладчык.

У 1951 годзе скончыў Варонежскае суvораўскае, у 1953 — Чарапавецкае пяхотнае вучылішча. Камандаваў узводам. Вучыўся на цэнтральных курсах

палітсаставу. З 1959 года — у Мінску. Працаваў у часопісе «Нёман». Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага.

Першая публікацыя — у 1951 годзе. Піша на рускай мове. Выдаў паэтычныя зборнікі «Армия», «Утренний автобус», «Дням настоящим», «Светлые зимние ночи». Пераклаў на рускую мову творы А. Русака, А. Лойкі, Г. Чарказяна і інш.

6

— **85** гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Рубцоў** Аляксей Барысавіч, беларускі літаратуразнавец.

У 1949 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Выкладаў у Бабруйскім настаўніцкім інстытуце, у Брэсцкім педагагічным інтытуце.

Друкаваўся з 1949 года. Даследаваў рускую драматургію канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Аўтар прац па творасці У. Неміровіча-Данчанкі, М. Гарына-Міхайлоўскага, А. Блока, Л. Андрэева, А. Купрына і іншых. Выдаў кнігі «Из истории русской драматургии конца XIX — начала XX в. Ч. 1-2», «Драматургия Алекса́ндра Блока» і іншыя.

Памёр у 1963 годзе.

6

— **75** гадоў таму ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся **Свірка** Юрась (Юрый Мікалаевіч), беларускі паэт і перакладчык.

Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў у часопісе «Коммунист Белоруссии», у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё, загадваў аддзелам прозы і паэзіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Друкаваўся з 1953 года. Аўтар паэтычных зборнікаў «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна», «Крэўнасць», «Аўтограф», «Люблю і веру», «Паўшар'е блакіту» і іншых. Перакладаў на беларускую мову творы А. Пушкіна, А. Фета, Ф.Цютчава, Б. Пастарнака, А. Твардоўскага, Я. Смелякова, М. Луконіна, М. Дудзіна, А. Жыгуліна, вершы паэтаў народаў СССР.

Памёр у 2004 годзе.

8

— **125** гадоў таму ў вёсцы Данілаўка на Гомельшчыне нарадзіўся **Некрашэвіч** Сцяпан Міхайлавіч, беларускі мовазнавец.

Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, працаваў загадчыкам беларускай секцыі пры губернскім аддзеле народнай асветы Адэсы. З 1920 года — загадчык літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы БССР, старшыня навукова-тэрміналагічнай камісіі, намеснік старшыні Галоўпрафасветы пры Наркамасветы БССР, старшыня аддзела гуманітарных навук Інбелкульта, з канца 1928 года — віцэ-прэзідэнт АН БССР, старшыня Галоўнавукі пры Наркамасвеце БССР, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. Акадэмік АН Беларусі. У 1930 годзе быў арыштаваны, высланы ва Удмурцію. Паўторна арыштаваны і расстраляны ў 1937 годзе.

Даследаваў лексікаграфію, правапіс, дыялекталогію і гісторыю беларускай мовы. Разам з М. Я. Байковым выдаў «Беларуска-расійскі слоўнік» і «Расійска-беларускі слоўнік». Аўтар шматлікіх навуковых артыкулаў.

9

— **95** гадоў таму ў вёсцы Ляхавічы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Івашын** Васіль Уладзіміравіч, беларускі літаратуразнавец, педагог.

Пасля заканчэння ў 1933 годзе Мінскага транспартна-эканамічнага тэхнікума працаваў у Белкаапрамсавеце. У 1938 годзе скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў выкладчыкам у Віцебскім педвучылішчы. Удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Пасля Перамогі выкладаў у Рэспубліканскай партыйнай школе пры ЦК КПБ. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР, працаваў там навуковым супрацоўнікам, загадваў сектарам беларускай савецкай літаратуры. Быў дырэктарам навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР.

Акадэмік, доктар філалагічных навук, прафесар. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Выступае ў друку з літаратурна-крытычнымі артыкуламі з 1949 года. Аўтар шматлікіх манаграфій, сярод якіх — «Да вышынь рэалізму», «Выверанае жыццём» і іншых. Аўтар брашур «Янка Купала — вялікі народны паэт», «Рэвалюцыя 1905—1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры». Сааўтар падручнікаў па беларускай літаратуры, шматлікіх прац па метадалогіі і методыцы выкладання літаратуры ў школе.

**10**

— **85** гадоў таму ў сяле Гуменцы Камянец-Падольскага раёна Хмяльніцкай вобласці (Украіна) нарадзіўся **Трыхманенка** Віктар Фёдаравіч, беларускі празаік.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў прызваны ў Чырвоную Армію. Скончыўшы ў 1944 годзе ваенна-авіяцыйнае вучылішча, удзельнічаў у баях як лётчык-знішчальнік. Пасля вайны працаваў у БелТА, зноў служыў ва Узброеных сілах. Скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна. Працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Красная звезда» па Беларускай ваеннай акрузе, у газеце «Во славу Родины», сакратаром праўлення Саюза журналістаў, дырэктарам Дома літаратара.

Друкуецца з 1956 года. Аўтар кніг прозы «Сложный вариант», «Звуковой барьер», «Человек расправляет крылья», «Знакомый почерк», «Небом крещенные» і іншых.

Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

**10**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Кукавічы на Капыльшчыне нарадзіўся **Кананові**ч Іван Іванавіч, беларускі празаік.

Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў слесарам, інжынерам, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Друкуецца з 1975 года. Аўтар кніг прозы «Заводскія світанні», «Белы чыгун», «Цёплы камень» і іншых.

**11**

— **125** гадоў таму ў горадзе Лібава (цяпер горад Ліепая, Латвія) нарадзіўся **Маўр** Янка (Фёдараў Іван Міхайлавіч), беларускі пісьменнік, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

Пасля заканчэння пачатковага і рамеснага вучылішчаў у Коўне (Каўнасе), паступіў у Панявежскую настаўніцкую семінарыю, з якой быў выключаны за ўдзел у рэвалюцыйным гуртку. У 1903 годзе, пасля здачы экстэрнам экзамена, атрымаў званне настаўніка пачатковай школы. Настаўнічаў у Новым Месцы ў Літве, у вёсцы Бытча на Барысаўшчыне. Пасля ўдзелу ў знакамітым нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне разам з Якубам Коласам і іншымі настаўнікамі быў аддадзены пад суд, пазбаўлены права выкладаць, узяты пад

нагляд паліцыі. З 1911 года зноў працаваў выкладчыкам геаграфіі і гісторыі ў Мінскай прыватнай гандлёвай школе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі таксама настаўнічаў, працаваў у Наркамаце асветы, у выдавецтве, займаўся творчай працай.

Друкаваўся з 1923 года. Першае апавяданне надрукаваў у часопісе «Беларускі піянер» у 1926 годзе. Выходзілі кнігі аповесцей, апавяданняў «Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Сын вады», «Палескія рабінзоны», «ТВТ», раман «Амок» і іншыя. Пісаў таксама драматургію, займаўся перакладамі на беларускую мову твораў Х. К. Андэрсена, А. Чэхава, Р. Кіплінга, М. Твэна, Ж. Верна, В. Гюго.

Заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

Памёр у 1971 годзе.

**13**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Белы Калодзеж Багучарскага раёна Варонежскай вобласці нарадзіўся **Кішчанка** Аляксандр Міхайлавіч, беларускі мастак.

Пасля заканчэння Львоўскага інстытута прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва працаваў выкладчыкам у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Займаўся манументальным і станковым жывапісам, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам. Аўтар габелена «Чарнобыль» для будынка ААН у Нью-Йорку, «Габелена стагоддзя» і іншых вядомых твораў.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, народны мастак Беларусі.

Памёр у 1997 годзе.

**14**

— **100** гадоў таму ў горадзе Вендэні (цяпер горад Цэціс, Латвія) нарадзілася **Ватацы** Ніна Барысаўна, беларускі бібліёграф, літаратуразнаўца.

Пасля заканчэння ў 1930 годзе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працавала бібліятэкарам, галоўным бібліёграфам Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. У перадваенныя гады і падчас вайны працавала ў розных бібліятэчных установах, мастаком у Архангельску, ва Ульянаўску, у Кіраве, выкладала бібліяграфію ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага.

Выступала ў друку з бібліяграфічнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі. Склала бібліяграфіі «Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі», «Беларускае савецкае літаратуразнаўства і крытыка. 1945—1963» і іншыя. Напісала бібліяграфічныя даведнікі і памяткі пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, П. Панчанкі, М. Багдановіча і іншых. Аўтар кніг «Песня Максіма», «Шляхі».

Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Узнагароджана медалямі.

Памерла ў 1997 годзе.

**18**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Казінец** Міхаіл Антонавіч, беларускі дырыжор, педагог.

Скончыў беларускую кансерваторыю (цяпер Беларуская акадэмія музыкі). З 1966 года выкладаў у гэтай установе, з'яўляўся яе рэктарам. З 1972 года — дырыжор, з 1975 — мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

Міхаіл Казінец — першы інтэрпрэтатар многіх твораў беларускай музыкі — такіх, як кантата для хору, салістаў і народнага аркестра «Родныя песні» Ю. Семянякі, 2-га канцэрта для цымбалаў і аркестра і Рапсодыі для 2 цымба-

лаў і аркестра Дз. Смольскага, апрацовак народных мелодый «Бульба», «Крыжачок», «Саўка ды Грышка» і іншых.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і прэміі «За духоўнае адраджэнне», заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі.

**20**

— **85** гадоў таму на станцыі Узлавая Тульскай вобласці нарадзіўся **Кузьмічоў** Анатоль Пятровіч, беларускі празаік, драматург.

Працаваў рабочым, супрацоўнікам рэдакцыі чыгуначнай газеты, служыў у арміі, падчас Вялікай Айчыннай вайны удзельнічаў у баях, служыў у карпусной газеце «В бой за Родину!» Быў супрацоўнікам газеты Закаўказскай ваеннай акругі «Ленинское знамя», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Литературная Грузия». Вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

Друкуецца з 1940 года. Піша на рускай мове. Аўтар п'ес «В нашем полку», «Возвращение», «Орлиный перевал», аповесцей «По свежему следу», «Смена караулов», «Первые советские гвардейцы», раманаў «Так наступает весна», «Юго-Запад», «Дети становятся взрослыми», «Поле боя», дакументальных аповесцей.

Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

**21**

— **105** гадоў таму ў вёсцы Нявязцы на Случчыне нарадзіўся **Атава** (сапраўднае прозвішча — Кананові́ч) Апанас Майсеевіч, беларускі паэт.

Спачатку працаваў па гаспадарцы, а з 1926 года настаўнічаў у Любанскім, Слуцкім, Лунінецкім раёнах. У 1939 годзе скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут.

Друкаваўся з 1925 года. Быў сябрам Слуцкай філіі «Маладняка», уваходзіў у згуртаванне «Літаратурна-мастацкая камуна».

Памёр у 1962 годзе.

**21**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Канчаны Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся **Козел** Іван Васільевіч, беларускі драматург.

Пасля заканчэння сярэдняй школы настаўнічаў на Маладзечаншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, рэдактарам Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, старшым рэдактарам Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

Як драматург выступаў з 1957 года. Ягонаму пяру належаць п'есы «Папараць-кветка», «Над хвалямі Серабранкі».

Памёр у 1970 годзе.

**24**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Тарапаева Прачысценскага раёна Смаленскай вобласці нарадзіўся **Панчанка** Іван Трафімавіч, беларускі празаік, нарысіст.

З 14 гадоў працаваў машыністам паравой машыны на льнозаводзе, на дрэваапрацоўчым камбінаце. Служыў у Савецкай Арміі. Быў літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия». У 1957 годзе ў ліку трыццацітысячнікаў паехаў у вёску, з'яўляўся старшынёй калгасаў Стаўбцоўскага і Юрацішкаўскага (цяпер Іўеўскага) раёнаў. Працаваў у гарадах Смалявічы, Жодзіна — карэспандэнтам Мінскага абласнога радыё, радыёарганізатарам вузла сувязі, супрацоў-

нікам шматтыражкі. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

З публіцыстычнымі і празаічнымі творамі выступае з 1955 года. Піша на рускай мове. Выдаў кнігі нарысаў «Жодинские богатыри», «Люди высокого долга», «Жодинская хроника», зборнікі апавяданняў «Порванные струны», «Уйдут метели зимние», «Новые знакомые».

**25**

— **75** гадоў таму адкрыўся **Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь**.

Першым балетам, пастаўленым трупай тэатра, быў «Чырвоны мак» на музыку Р. Гліэра (харэограф Л. Крамарэўскі). За некалькі гадоў трупа значна вырасла і папоўнілася высокапрафесійнымі салістамі, сярод якіх вылучаліся зоркі першага пакалення А. Мікалаева і З. Васільева. Пры тэатры пачала працаваць балетная студыя, дзе займаліся найбольш адораныя дзеці і ўдзельнікі самадзейных гурткоў з усёй рэспублікі.

Першым спектаклем, паказаным у 1939 годзе на сцэне новага будынка тэатра, стала «Лебядзінае возера» ў пастаноўцы К. Мулера. Пасляваенныя гады ў гісторыі тэатра характарызуюцца назапашваннем нацыянальнага рэпертуару.

З 19 чэрвеня 1996 года існуюць самастойна Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь. Сучасны перыяд іх дзейнасці характарызуецца бесперапынным узбагачэннем рэпертуара шэдэўрамі класікі, далейшым засваеннем лексікі сучаснай харэаграфіі. У першую чаргу гэта звязана з дзейнасцю харэографа У. Елізар’ева, чые пастаноўкі сталі «візітнай карткай» краіны за мяжой.

**25**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Закружка Мінскага раёна нарадзіўся **Карызна** Уладзімір Іванавіч, беларускі паэт.

У 1961 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Выкладаў беларускую і рускую мову і літаратуру на Браслаўшчыне. Працаваў рэдактарам, старшым рэдактарам, загадчыкам аддзела беларускай музыкі Рэспубліканскага радыё, рэдактарам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя», старшым рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва».

Друкуецца з 1956 года. Аўтар паэтычных зборнікаў «Край мой сінявокі», «Жураўліны досвітак», «Святло ліўня», «Цеплыня», «Цішыня баразны», «Душы разгуканай мелодыя» і іншых. Піша вершы для дзяцей, выдаў кнігі «На сяле ў бабулі», «Мір і сонейка для ўсіх», «Чароўнае вочка». Займаецца таксама паэтычнымі перакладамі.

Больш за сотню вершаў паэта пакладзена на музыку. Уладзімір Карызна — аўтар тэксту Дзяржаўнага Гімна Рэспублікі Беларусь (з М. Клімковічам). Як паэт-песеннік выдаў зборнікі «Клубныя вечары», «Люблю цябе, Белая Русь», «Салавей спявае».

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**25**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Недайка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці нарадзіўся **Стрыгалёў** Міхась (Міхаіл Лаўрэнцьевіч), беларускі паэт, перакладчык.

Скончыў энергетычны факультэт Беларускага політэхічнага інстытута. Працаваў старшым інжынерам-электрамеханікам вайсковай часці Уральскай ваеннай акругі, інжынерам трэста «Уралмантажаўтаматыка», старшым інжынерам лабараторыі трэста «Пермгаррамбуд» у Пярмі. Скончыў Літаратурны інстытут

імя М. Горкага ў Маскве. Быў літкансультантам Пермскай абласной пісьменніцкай арганізацыі, рэдагаваў шматтыражную газету. Жыў у Барысаве, кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Бярэзіна» пры раённай газеце.

Друкаваўся з 1956 года. Пісаў па-руску, затым перайшоў на беларускую мову. Аўтар паэтычных зборнікаў «Хмель», «Цвет времени», «Белая Русь», «Ростань», «Чырвоныя казармы», «Дзевяты кардон» і іншых.

Памёр у 2006 годзе.

**29**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Кабылянка Беластоцкага ваяводства (Польшча) нарадзіўся **Гайдук** Мікола (Мікалай Раманавіч), беларускі празаік, паэт, публіцыст, перакладчык, краязнавец, фалькларыст.

Пасля заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя працаваў у гміннай управе. Вучыўся ва універсітэтах Растова-на-Доне, Ленінграда, Мінска. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў настаўнікам беларускай і лацінскай моў, дырэктарам ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б.Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Быў супрацоўнікам, намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Ніва» (Беласток). Уваходзіў у Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа».

Друкаваўся з 1957 года. Аўтар зборніка беларускамоўных вершаў «Ціш». На польскай мове выдаў зборнік апавяданняў «Белавежскія паданні». Займаўся публіцыстыкай, літаратуразнаўствам, перакладамі з польскай на беларускую мову. Збіраў і публікаваў беларускія народныя песні, казкі, легенды і паданні.

Заслужаны дзеяч культуры Польшчы.

Памёр у 1998 годзе.

**31**

— **60** гадоў таму ў горадзе Івана-Франкоўску (Украіна) нарадзілася **Алексіевіч** Святлана Аляксандраўна, беларускі празаік-дакументаліст, драматург, нарысіст.

Пасля заканчэння сярэдняй школы была выхавацелькай школы-інтэрната, настаўніцай гісторыі і нямецкай мовы, супрацоўнічала з нараўлянскай раённай газетай. Пасля заканчэння ў 1972 годзе аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта працавала ў Бярозаўскай раённай газеце, у рэспубліканскай «Сельскай газеце», загадчыкам аддзела нарыса і публіцыстыкі часопіса «Нёман».

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з 1975 года. Піша на рускай і беларускай мовах. Аўтар дакументальных кніг «У войны — не женское лицо», «Апошнія сведкі», «Цинковые мальчики», «Зачарованные смертью», «Чарнобыльская малітва», шматлікіх сцэнарыяў дакументальных фільмаў, п'ес.

Лаўрэат літаратурных прэмій СССР імя М. Астроўскага, імя К. Федзіна, прэміі Ленінскага камсамола, шматлікіх міжнародных прэмій.

*Аўтар рубрыкі*
***Янка ЛАЙКОЎ.***



## *ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!*

**Адкрыта падпіска на II паўгоддзе 2008 года.**

**індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**

**на 1 месяц — 4800 руб.**
**на 3 месяцы — 14 400 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 74985)**

**на 1 месяц — 6930 руб.**
**на 3 месяцы — 20 790 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**

**на 1 месяц — 9240 руб.**
**на 3 месяцы — 27 720 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**

**на 1 месяц — 7560 руб.**
**на 3 месяцы — 22 680 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***


*e-mail: polymya@bk.ru*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-91.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 02.05.08 г. Фармат 70 ×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 18,72. Тыраж 3652 экз. Зак. 1242.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Алег Салтук**
**Яўген Міклашэўскі**
**Таццяна Мушынская**
**Алесь Лісіцкі**
**Уладзімір Сасюра (пераклад з украінскай)**
Вершы

**Навум Цыпіс**
**Мілая мая... Міленькі ты мой...**
Аповесць-эсэ

**Легенды XX стагоддзя**
**Віктар Тураў**

**Тамара Кручэнка**
**Крутымі вёрстамі вайны**
Нарыс

**Пётр Нікіценка**
**Наасферныя структурныя пераўтварэнні ў эканоміцы Беларусі — імператыў новай якасці эканамічнага росту**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130-8068




